# БЕЛАРУСКІ АРНАМЕНТ

ТКАЦТВА
ВЫШЫЎКА



ББК 85.12(4Беи)
К30
УДК 745/746(-826)

Галоўная рэдакцыя «Беларускай Энцыклапедыі»:
*Г.П.Пашкоў, С.П.Самуэль,*
*Б.І.Сачанка, І.П.Хаўратовіч*

Пераклад з рускай мовы, літаратурная апрацоўка
і навуковая рэдакцыя кандыдата мастацтвазнаўства
*Я.М.Сахуты*

Арыгінал-макет і
мастацкае афармленне
*Н.В.Барай*

**Кацар М.С.** Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка/
К30 Навук. рэд. Я.М.Сахута. ---- Мн.: БелЭн, 1996 ---- 208 с.

ISBN 985-11-0066-8.

Імя доктара мастацтвазнаўства, прафесара Міхаіла Сяргеевіча Кацара (1906—95) трывала ўвайшло ў беларускую культуру. У яго пасмяротнай кнізе сабраны даваенныя запісы, замалёўкі і фотаздымкі — каштоўны матэрыял для даследчыкаў духоўнай культуры беларускага народа, паколькі такіх запісаў ужо ніхто ніколі не зробіць. Кніга змяшчае унікальны матэрыял (у т.л. каля 600 каляровых і чорна-белых ілюстрацый), які раскрывае паэтычную душу беларускага народа, яго бачанне прыроды і яе ўзаемасувязі з чалавекам і яго жыццём.

Разлічана на гісторыкаў, этнографаў, мастацтвазнаўцаў, фалькларыстаў і ўсіх, хто цікавіцца культурай беларусаў.

К $\frac{7450000000 — 032}{М\ 318\ (03) — 96}$ 11—96 ББК 85.12(4Беи)

© Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996

© Аўтар М.С.Кацар, 1996

© Арыгінал-макет і мастацкае афармленне Н.В.Барай, 1996

ISBN 985-11-0066-8

**Гэтая праца —**
**гімн адвечнаму імкненню**
**нашых продкаў**
**да прыгожага, няўтольнай**
**празе праз**
**тканы і вышыты ўзор**
**выказаць сваё**
**разуменне жыцця, свету,**
**космасу,**
**хваласпеў умелым рукам,**
**светлай,**
**добрай, паэтычнай душы**
**нашай сялянкі.**



# ПРАДМОВА



Імя доктара мастацтвазнаўства, прафесара Міхаіла Сяргеевіча Кацара (1906—1995) трывала ўвайшло ў беларускую культуру. Вучоны, педагог, грамадскі дзеяч шмат зрабіў для таго, каб узараць цаліну беларускага мастацтвазнаўства. На яго кнігах «Беларускае дойлідства», «Скульптура Савецкай Беларусі», «Выяўленчае мастацтва Беларусі дакастрычніцкага перыяду», «Народна-прыкладное мастацтва Беларусі» выхоўваліся многія сучасныя даследчыкі-мастацтвазнаўцы.

На фоне сучасных дасягненняў мастацтвазнаўчай думкі, калі мы маем дзесяткі грунтоўных манаграфій па самых розных відах выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі, калі ў нас ёсць 6-томная «Гісторыя беларускага мастацтва» і 5-томная «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», працы М.Кацара могуць падацца сціплымі і зместам, і формаю. Ды не трэба забываць, што на той час (50—60-я гады) гэта былі фактычна першыя выданні пра беларускае мастацтва, калі не ўлічваць практычна недаступныя шырокай грамадскасці «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» М.Шчакаціхіна 1928 года выдання. Працы М.Кацара многім адкрылі вочы на тое, што мастацтва Беларусі, аказваецца, бярэ пачатак не з 1917 года, што ў яго старажытныя карані, еўрапейскі ўзровень і самабытныя нацыянальныя адметнасці. Такая шырокамаштабная гістарычная карціна беларускага дойлідства, жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, несумненна, дала штуршок сучасным даследчыкам для больш грунтоўных пошукаў.

Як першапраходзец, вучоны найперш звяртаў увагу на «высокія» віды мастацтва, праблема вывучэння якіх, як кажуць, даўно наспела. Але не грэбаваў і мастацкай творчасцю простага люду. Яе высокі ўзровень і каштоўнасць для нацыянальнай культуры ён падсвядома адчуваў душою селяніна-падлетка, пазней гэтае адчуванне выразна акрэслівалася ў час вучобы ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры, дзе пашчасціла слухаць лекцыі І.Грабара, А.Някрасава, А.Шчусева, А.Сідарава, В.Лазарава. І вось кожнае лета юнак прыязджае на радзіму, дбайна запісвае расказы вяскоўцаў, замалёўвае і фатаграфуе ўзоры іх мастацкай творчасці. На пэўны час вучобу і вандроўкі па Беларусі перапыніла вайна, адкуль Міхаіл Сяргеевіч вярнуўся хоць і цяжка паранены, але, на шчасце, жывы і поўны жадання прадоўжыць любімую справу. Тэмай кандыдацкай і доктарскай дысертацый даследчык абраў беларускае дойлідства. Нельга было адкладваць і падрыхтоўку выданняў па жывапісе, графіцы, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, хоць не забываўся ён і пра народную творчасць.

Некалькі дзесяцігоддзяў даваенныя запісы чакалі свайго часу. З выхадам на пенсію, перадаўшы даследчыцкую эстафету маладзейшым, М.Кацар прапанаваў свае колішнія запісы, замалёўкі і фотаздымкі да выдання. Адразу было відаць, які гэта каштоўны матэрыял для даследчыкаў духоўнай культуры беларускага народа, паколькі такіх за-



пісаў ужо ніхто ніколі не зробіць. Вядома, пры сённяшнім узроўні навуковай думкі многія разважанні аўтара здадуцца досыць спрэчнымі, добра вядомымі ці недастаткова абгрунтаванымі. Ды работа і не прэтэндуе на глыбокую аналітычнасць ці навуковае першаадкрыццё. Гэта хутчэй разважанні аўтара, яго ўражанні і думкі на аснове колішніх запісаў, і кожны мае на гэта права. Галоўнае ж тут — унікальны матэрыял, які вобразна і рознабакова раскрывае паэтычную душу народа, яго бачанне прыроды і яе ўзаемасувязі з чалавекам і яго жыццём. А ўжо справа кожнага гісторыка, этнографа, мастацтвазнаўца, фальклярыста скарыстаць, асэнсаваць, інтэрпрэтаваць гэты матэрыял.

Я.М.Сахута, кандыдат мастацтвазнаўства.

# УВОДЗІНЫ

## З НАРОДНЫХ КРЫНІЦ

У 1925 г. ў нашай хаце ў в. Клімавічы Сенненскага раёна пэўны час жыў пісьменнік Максім Гарэцкі. Цікавіла яго ўсё: мова, фальклор, народнае мастацтва. З вялікай увагай і захапленнем разглядаў ён посцілкі і ручнікі, слухаў песні маёй маці Фядоссі Аляксандраўны і маіх сясцёр. Мы і самі не ведалі, што ўсё гэта, аказваецца, вялікая духоўная каштоўнасць, сведчанне народнага таленту і майстэрства, і былі шчыра ўдзячныя Гарэцкаму за такую высокую ацэнку нашай культуры.

Цікавасць да народнай творчасці, якую абудзіў у маёй душы вядомы пісьменнік, набыла сваё падмацаванне ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры, куды я паступіў у 1934 г. Мае настаўнікі — вядомыя вучоныя І.Грабар, А.Някрасаў, У.Бонч-Бруевіч — неаднойчы казалі мне, якой самабытнасцю вызначаецца народнае мастацтва Беларусі, колькі рэшткаў славянскай язычніцкай культуры яно захоўвае. І вось кожнае лета я — на сваёй радзіме, дзе ўсур'ёз заняўся вывучэннем народнай мастацкай вышыўкі і ткацтва, як найбольш багатай крыніцы старажытных вобразаў і матываў. Маімі субяседнікамі звычайна былі бабулькі 70—80 гадоў, часам шчасціла і на стогадовых. Гэта былі захавальніцы традыцый яшчэ XIX стагоддзя — пэўна, апошнія. Усё, што я чуў і бачыў, дбайна запісвалася, замалёўвалася, фатаграфавалася. Такім чынам, з 1934 да 1941 г. адбылося 9 паездак, у выніку якіх — сустрэчы з сотнямі ткачых, вышывальшчыц, каруначніц, дзесяткі сшыткаў і сотні аркушаў з запісамі, замалёўкамі і здымкі. У пасляваенныя часы — зноў экспедыцыі, камандзіроўкі, збіранне матэрыялаў.

На аснове гэтага і напісана кніга «Беларускі арнамент», прысвечаная сімволіцы арнаменту пераважна ў беларускім народным мастацкім ткацтве. На самым пачатку хачу выказаць асноўную думку, якая вынікае з гэтай работы: посцілкі, ручнікі, абрусы і іншыя тканыя і вышываныя рэчы — своеасаблівая аповесць пра жыццё народа і яго працу, шчасце і нястачы, мары і спадзяванні. Гэта і багатая скарбонка славянскай язычніцкай культуры.

Зрэшты, такой крыніцай з'яўляюцца і іншыя віды народнай творчасці. Нашы продкі былі людзі ўмелыя, практычна ўсё для свайго карыстання рабілі сваімі рукамі. Вось як піша пра гэта Барыс Сачанка ў сваёй кнізе «Вечны кругазварот»: «Кожная вёска — гэта своеасаблівая дзяржава, з усім сваім — моваю, звычаямі, норавамі і побытам. Ды дзе вёска — кожны гаспадар, кожная гаспадыня імкнуліся быць ва ўсім незалежнымі, самастойнымі, абыходзіцца без чыёй бы і якой бы там ні было дапамогі. Трэба былі саха, барана, плуг, серп, калёсы, сані, сякера, граблі, піла, каса, лыжка, міска, гаршчок, вядро, дзежка, бочка — рабілі; трэба былі хамут, церассядзёлак, боты, світка, кажух, шапка, сарочка, штаны, рукавіцы — шылі; трэба былі вяроўка, атосы, лейцы, аборы — вілі; палатно, абрус, ручнік, коўдра, посцілка — ткалі... Самі, кожны сабе, будавалі хаты, хлявы, гумны, ёўні, лазні, самі лячыліся, калі каму-небудзь нядобрылася, нядужылася, навальвалася напасць — хвароба. На Палессі надта ж развіты былі рознага роду саматужніцтва, промыслы, рамёствы — цяслярства, ганчарства, бондарства, кавальства, ткацтва, рымарства... Арыгінальна, па-свойму пракладваліся дарогі, грэблі, масты, кладкі. Па-свойму, залежна ад умоў, развіваліся і паляводства, жывёлагадоўля, агародніцтва, садаводства... Лясы і балоты, што акружалі палешука з усіх бакоў з маленства да старасці, пакідалі свой адбітак на ўсім. Тут больш, чым дзе, немалое месца ў жыцці чалавека займалі рыбалоўства, паляванне, бортніцтва». Застаецца дадаць, што сказанае пісьменнікам можна аднесці не толькі да Палесся, а і да ўсёй Беларусі.

Аднак няўмольны час робіць сваё. Большасць традыцыйных самаробных прылад працы, прадметаў побыту, рэчаў хатняга ўжытку адышлі ў нябыт, саступілі месца прамысловым вырабам. Ды нельга дапусціць, каб разам з імі адышлі ў нябыт узоры народнай мастацкай творчасці. Гэта наш нацыянальны здабытак, аснова для развіцця сучаснай культуры. Трэба рабіць усё, каб выявіць, сабраць, зберагчы тыя ўзоры народнай мастацкай творчасці, якія яшчэ захоўваюцца ў традыцыйным побыце.



## ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ УЗОРЫ

Народнае мастацкае ткацтва — адзін з найбольш папулярных і пашыраных відаў народнага мастацтва. Між тым яно яшчэ слаба вывучана. Мы звыкла ацэньваем тканыя рэчы з пазіцыі прыгажосці, адмысловасці арнаментыкі, гармоніі каларыту. Але народнае ткацтва — яшчэ і бяздонная крыніца культурна-гістарычных звестак. Што ні ўзор — то сімвал. Сімвалы ўраджаю: Спарыш, Рай, Багач. Яны вучаць любіць Маці-Зямлю, працу, дабівацца добрага ўраджаю. Сімвалы святаў: Купала, Каляда, Масленіца, Вялікдзень. Тут — радасць, весялосць, гонар за вынікі сялянскай працы. Сімвалы памяці: Дзяды, Радаўніца, любоў і павага да продкаў. Усё, што захавана ў народным ткацтве, не пералічыць, але кожны ўзор сімвалізуе дабро, праўду, прыгажосць, любоў, гонар за чалавека і яго працу, кожны ўзор мае сваё прызначэнне і сваю назву.

Вельмі вобразна сказала пра гэта сялянка А.Міклушова з Сянна:

Трэба многа знаць,
каб узор прачытаць.
Ці светлым сонцам,
ці хатнім аконцам,
ці вешчай кукушкай,
ці мяккай падушкай,
ці яркаю зоркай,
ці ўдавою горкай,
ці спорым святам,
ці родным братам,
ці роднай сястрыцай,
ці светлай крыніцай,
ці зарой-зараніцай,
ці добрай маладзіцай,
ці краснай дзявіцай,
ці свежай вадзіцай.

Узоры тканых і вышываных вырабаў — зашыфраваны аповяд пра жыццё народа, прыроду, людзей. «Я няграматная, — казала М.Хведаровіч з Верхнядзвінска, — не ўмею ні чытаць, ні пісаць. Уся мая навука, мая граматнасць — ва ўзорах маіх посцілак ды ручнікоў. Там, як у добрай кніжцы, як у якім-небудзь кіно можна дазнацца пра жыццё і людзей, і жывёлы, пра сонейка і зоркі, пра хваробу і пра здароўе, пра дзявочую долю і нядолю, пра ўсё, што ёсць у жыцці».



1. Узор Сонца.



2. Узор зямлі.



3. Узор абуджэння прыроды вясною.

## СЯЛЯНСКАЯ МУДРАСЦЬ

Часам можа ўзнікнуць пытанне: што разумнае можа сказаць цёмная, непісьменная сялянка? І ўсё ж, не ў крыўду сучасным адукаваным жанчынам, колішнія непісьменныя сялянкі ў духоўных адносінах ім не саступалі. А што да еднасці з прыродай, тонкасці адчування навакольнага расліннага і жывёльнага свету, то нам да іх далёка.

Вось як жанчына-сялянка тлумачыла таямнічасць і цудадзейнасць абуджэння прыроды пасля зімовага сну. Яна стварыла ўзор сонца ў выглядзе ромба з адросткамі-прамянямі (іл. 1). Зямлю яна зашыфравала гэткім жа ромбам, але з прамянямі ўнутр (іл. 2). Укампанаваўшы сімвал сонца ў сімвал зямлі, майстрыха вобразна паказала, як спалучэнне жыццёвых сіл сонца і зямлі абудзіла прыроду, наступіла вясна (іл. 3).

А вось іншы прыклад. Як вядома, у народзе голуб і галубка лічацца сімвалам кахання. Паглядзім, як гэта адлюстроўваецца ў арнаменце ручнікоў, на якіх часта сустракаюцца гэтыя матывы.

Голуб ідзе за галубкай (іл. 4). Першае знаёмства хлопца з дзяўчынай. Каханне толькі пачынаецца.

Дзве птушкі павернуты галоўкамі адна да адной, часам — букет паміж імі (іл. 5). Каханне ў самым росквіце.

Калі ж вышываныя ці вытканыя птушкі павернуты ў розныя бакі — каханне скончылася (іл. 6). Гэта — паэма пра трагічнае каханне, каханне без узаемнасці.

Падобныя прыклады можна множыць, што мы і ўбачым далей.




4. Каханне пачынаецца.



5. Каханне ў росквіце.



6. Каханне без узаемнасці.





## ПОДЫХ ЯЗЫЧНІЦТВА

Старажытная язычніцкая культура ў многім таямнічая і незразумелая для нас. Амаль усё забылася, сёння сэнс многіх з'яў і сімвалаў нам невядомы. Але яны захаваліся ў нашым жыцці: у абрадах, звычаях, сімвалах, матывах; мы і самі часам не падазраваем пра гэта. Захаваліся прозвішчы старажытнаславянскага язычніцкага паходжання: Жыцень, Трызна, Купала, Жаўрук, Заранка, Сяўрук, Журба, Зязюля, Каляда. Захаваліся назвы і паняцці: Жур, Буй, Яр, Ярыла, Волат, Курган, Пярун, Русалка, Масленіца, Дзяды. Славянская язычніцкая міфалогія жывіла творчасць В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, К.Буйло і інш.

Сёння мы ведаем, што культура славянскіх плямёнаў, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, была досыць высокай. Нашы далёкія продкі стварылі багатую міфалогію, якая адлюстроўвае іх светапогляд і па сваім узроўні можа быць супастаўлена з міфалогіяй старажытнейшых зямных цывілізацый, напрыклад, грэчаскай. Вось некалькі параўнанняў: Зеўс-грамавержац, бог сонца Геліос, багіня-маці зямлі Гея, багіня кахання і прыгажосці Афрадыта, бог агню і рамёстваў Гефест, німфы — у грэчаскай; адпаведна Пярун, Сварог, Вялікая Багіня Маці-Зямля, Лада, Жыжаль, русалкі — у славянскай. Такія параўнанні можна множыць.

З прыняццем хрысціянства афіцыйная рэлігія ўсімі сіламі змагалася з язычніцтвам. Знішчаліся капішчы і скульптуры язычніцкіх багоў, з народнай памяці выкараняліся старажытныя звычаі і абрады. Але, пераканаўшыся ў неўміручасці язычніцтва, царква праявіла дальнабачнасць: спалучыла язычніцтва з хрысціянствам. Так і дайшлі да нашых дзён Каляды, спалучаныя з Раством Хрыстовым, Вялікдзень (веснавое свята ў гонар Ярылы) — з Уваскрэсеннем Хрыстовым (Пасхаю) і г.д.



7. Пятроўская. Абрус з сімваламі ўраджаю. Расонскі р-н Віцебскай вобл.

Своеасаблiва такое спалучэнне праявілася ў народнай мастацкай творчасці. Думаецца, нездарма ў ткацтве мы часта бачым па два сімвалы. Адзін — у выглядзе разеткі ці ромба яўна язычніцкага паходжання, другі — жаночая фігурка, пэўна, звязаная з хрысціянскай іканаграфіяй.

Язычніцтва нясе ў сабе ідэю цеснай сувязі з прыродай, пакланення яе сілам, Бацьку Сонцу і Маці Зямлі. Гэта ідэя, сэнс якой мы закладваем сёння ў паняцце экалогія, ідэя, якая процістаіць жорсткасці, насіллю, знішчэнню. Такім чынам, праз тысячагоддзі да нас дайшлі вобразы і сімвалы любові да прыроды, працы, чалавека. Што і казаць пра іх надзённасць! Давайце ж актыўней абапірацца ў нашым жыцці на добрыя ідэі, звычаі і абрады — тое, што выпрацавалі нашы далёкія продкі-язычнікі і адлюстравалі ў тканых вырабах.

Мы часам і не ўсведамляем, што свядома ці несвядома абапіраемся на духоўныя каштоўнасці, створаныя яшчэ ў язычніцкія часы. Да нашых дзён захавалася традыцыя адзначаць святы яшчэ язычніцкага паходжання. Гэта радасныя, светлыя святы, яны праслаўляюць жыццядайныя сілы прыроды. У іх шмат вясёлых песень, музыкі, танцаў, а такая жыццярадаснасць і аптымізм вельмі дарэчы ў наш цяжкі час. Дык варта адраджаць такія святы.

Нашы продкі многія святы прысвячалі ўраджаю. Праслаўляючы плён сваёй працы, яны стварылі шмат песень пра ўраджай, увасобілі яго ў многіх вобразах: Жыцень, Спарыш, Рай, Багач, Жытняя Баба. Узоры ў народным ткацтве, кажучы сучаснай мовай, — гэта агітацыя і прапаганда за ўраджай, праслаўленне працы і ўмелых рук селяніна. Успомнім гэтыя язычніцкія святы, угледзімся ў арнаментыку тканых вырабаў. Можа, багацейшым стане наш стол на хлеб і сала (іл. 7).

Славяне-язычнікі пакланяліся маці-прыродзе, Богу Сонца, Багіні Маці-Зямлі, Богу ветру Стрыбогу, духу вады Вадзяніку, духу лесу Лесавіку, духу нівы Палевіку, духу сядзібы Дамавіку. А мы адвярнуліся ад прыроды, высеклі лясы, запаскудзілі рэкі, зямлю, паветра. Рана ці позна знішчым самі сябе. Дык, можа, зноў паклонімся прыродзе?

## ЯК «ЧЫТАЦЬ» УЗОРЫ

У народным мастацкім ткацтве вельмі шмат узораў падобных па характары і малюнку, таму іх часта блытаюць. Вось, напрыклад, узор «зорка». Яна пакладзена ў аснову вобраза маці, чалавека, сімвала

ўраджаю. Тым не менш ёсць між імі пэўная розніца. Вобраз маці — гэта зорка, аблямаваная пышным вянком і гірляндай з кветак, прычым аблямоўка можа быць квадратнай ці васьмівугольнай (гл. іл. 130). Вобраз чалавека — таксама зорка, але яе чатырохвугольная аблямоўка значна прасцейшая, ланцужковая (іл. 8). Сімвал ураджаю Спарыш — гэта ўжо не зорка, а разетка, скампанаваная з чатырох жытнёвых каласкоў, размешчаных пад прамым вуглом, адзін да аднаго. Можа быць і аблямоўка, але не абавязкова (гл. іл. 28).

Часам побач з асноўным узорам змяшчаюць іншыя, дадатковыя. Напрыклад, майстрыха В.Секацэвіч на ўзоры «жаночая доля» змясціла сімвалы кахання — голуба і галубку, узор зямлі-карміцелькі і зорку — сімвал чалавека. А сэнс такі: ткачыха адлюстравала на посцілцы сваё шчасце, свой лёс, які яна звязвае з гэтымі сімваламі.



**8.** П.Буйко. Посцілка з услаўпеннем чалавека-працаўніка. Грамашы Полацкага р-на Віцебскай вобл.

На тканых вырабах сустракаюцца ўзоры, у якіх зашыфраваны загадкі. У Беластоцкай вобласці ў 1939 г. давялося бачыць посцілку, на якой можна было «прачытаць» загадку:

Што гарыць без полымя?
Што расце без кораня?
Што бяжыць без повада?
Што бела, нябелена?
Што цвіце апоўначы?

Некаторыя з гэтых узораў былі добра вядомыя ў народным ткацтве. Так, агонь-Жыжаль меў выгляд разеткі. Вада таксама адлюстроўвалася характэрным узорам у выглядзе разеткі з маленькіх і вялікіх квадрацікаў. Узор папараці, якая цвіце ў поўнач, нагадваў разетку з яе галінак. Падобныя творы вызначаюцца і пазнавальнасцю, і займальнасцю.

Узоры, прыведзеныя ў гэтай кнізе, пераважна чорна-белыя, а на тканых і вышываных вырабах — living рознакаляровыя, яркія і звонкія. Вядома, што па сваім эмацыянальным уздзеянні ўзоры ў кнізе прайграюць у параўнанні з арыгіналамі.

Большасць узораў народнай тэкстыльнай арнаментыкі беларусаў характэрна ў цэлым для славян. Калі б работа па вывучэнні арнаменту была наладжана ва ўсіх славянскіх народаў, можна было б зрабіць неабходныя параўнанні, выразней выявіць агульнасць славянскай гісторыі і культуры, іх месца ў еўрапейскім кантэксце. Гэта садзейнічала б збліжэнню славянскіх народаў, узмацніла б узаемадзеянні славянскіх культур.





Многія майстрыхі ўпэўнены, што тканыя вырабы і ўзоры на іх вылечваюць людзей. Магчыма, і так, бо і песні, і ўзоры нараджаюцца ад зеляніны лугу, квецені саду, ляснога шуму, абуджаюць надзею, любоў і шчасце. Данесці гэта да чытача — асноўная задача кнігі.

## УЗОРЫ ЖЫЦЦЯ

«Вышываюць гэты ўзор тады, калі трэба прасіць Бога, каб ачуняў чалавек, — тлумачыла майстрыха Е.Бергавінава (Абольцы Талачынскага р-на) характэрны арнамент на сваім вырабе (іл. 9). — А яшчэ — калі ў бабы няма дзяцей». Скампанаваны гэты ўзор з дзвюх частак: ромб з адросткамі-прамянямі — Сонца (іл. 10), такі ж ромб, але прамяні накіраваны ўнутр, — Зямля (іл. 11). Каб выказаць ідэю росквіту прыроды, жыцця, сімвал Сонца змяшчаецца ў сімвал Зямлі (іл. 12).

Ф.Выдра (Выдрыцы Крупскага р-на) вышыла на ручніку такія ўзоры яшчэ да 1861 г. У тыя часы галоўнымі багамі лічыліся Бог Сонца і Багіня Маці-Зямля. Ад іх залежала ўсё жыццё на зямлі. Яны кахалі адзін аднаго, жылі як муж і жонка, мелі дзяцей — Вясну і Ярылу. Ад Ярылы і пайшло ўсё дабро: жыта, ячмень.

Е.Сыч падобны ўзор на сваім вырабе тлумачыла так: «Галоўнае ў жыцці і ў прыродзе — сонца і зямля. Зямля нас нарадзіла, а памрэм — яна нас прыме. Зямля і сонца — нашы бацькі. У іх ёсць дзеці — Ярыла, Вясна, Купалінка, Каляда, Радуніца. Вялікая тайна — жыццё. Скажу табе, дарагі вучоны масквіч Міхасёк: любі сонца, любі зямлю, любі прыроду. І пастарайся, каб і яны палюбілі цябе. І тады ты станеш моцным, як дуб, мудрым, як сава, шчаслівым, як птушка».

Узор, які спалучае сімвалы зямлі і сонца, шырока вядомы ў беларускім ткацтве. Калісьці яго можна было бачыць у кожнай сялянскай хаце, паколькі ён лічыўся цудадзейным. Называюць яго па-рознаму: Жыццё, Вясна, Ярыла. Гэта адзін з найстаражытных сімвалаў, у якім зашыфравана вялікая таямніца жыцця.

У свеце шмат таямніц. Некаторыя з іх разгадваюцца, расшыфроўваюцца. Раскрыта таямніца іерогліфаў Егіпта, пісьмёнаў старажытных Асірыі, Вавілона, Кітая, Індыі. Гэткая ж таямніца — і ў арнаментыцы тканых і вышываных вырабаў беларускіх сялянак. Яны ж і дапамаглі ў расшыфроўцы некаторых узораў.

**9.** Узор жыцця.



**10.** Сонца.



**11.** Зямля.



## «МОВА» АРНАМЕНТУ

«Я пражыла доўгае жыццё, мне 85 гадоў, — расказвала А.Лукашэвіч. — Выткала шмат прыгожых посцілак і ручнікоў. Усё, што я бачыла ў жыцці, што рабіла, як мучылася, весялілася, любіла хлопцаў, выходзіла замуж, як мы будавалі дом, кахалі адзін аднаго — усё гэта я расказала ў сваіх работах. У іх я ўклала ўсё сваё сэрца, усю сваю любоў. У посцілках і ручніках можна гэтак жа праўдзіва расказаць пра сваё жыццё, як і ў кнігах».

А вось Е.Мазуркевіч (Калінкавічы) выткала посцілкі, узоры на якіх можна «чытаць» як загадкі і адгадкі:

Што за ўсё тлусцейшае? Зямля.
Што за ўсё цяплейшае? Сонца.
Што за ўсё чысцейшае? Вада.
Што за ўсё хутчэйшае? Вецер.
Хто за ўсіх дабрэйшы? Маці.
Што за ўсё мілейшае? Яда.
Што за ўсё смачнейшае? Хлеб.
Што за ўсё мацнейшае? Смерць.
Хто за ўсіх багацейшы? Каза.
Хто самы працалюбівы? Пчала.
Хто самы гаротны? Жанчына.
Што самае прыгожае? Кветка.
Што без канца і пачатку? Дарога.
Хто ўсіх корміць? Зямля.

Гэта толькі два найбольш характэрных прыклады «мовы» арнаменту, які, як бачым, адлюстроўвае думкі і пачуцці народа, яго этычныя і эстэтычныя погляды. Несумненна, далейшая расшыфроўка арнаментальных узораў раскрые шмат якія жыццёвыя таямніцы, духоўны свет беларуса. Але гэта — справа маладых даследчыкаў.





## ПАЭТЫКА ЖАНОЧАЙ ДУШЫ

Пра свае вырабы майстрыхі могуць расказваць цэлыя паэмы. Паслухаем васьмідзесяцігадовую Н.Гаравую: «Усё, што я бачыла і перажыла, я выткала і вышыла на посцілках і ручніках. Калі мне было 17 гадоў, я закахалася ў Паўліка. Белагаловы, з сінімі вачыма, ён быў дужа добры. Мне параілі бабулі, і я вышыла ручнік з голубам і галубкай (іл. 14). Калі Паўлік пачуў пра гэта, прыслаў да мяне сватоў, і мы пажаніліся. Вось якое дабро зрабілі гэтыя галубкі. Ды здарылася няшчасце. У мяне забалеў жывот, не нараджаліся дзеці. Стала я пытацца ў бабак, яны і параілі мне вышыць Маці-Радзіцельніцу і Святое Дрэва (іл. 15). Пасля гэтага перастаў балець жывот, пайшлі дзеці. Я была шчаслівая і давольная.

А вось яшчэ што было. Доктар сказаў мне: жывот баліць і няма дзяцей таму, што калодзеж выкапаны побач з хлявом. Калі выкапалі новы калодзеж, перастаў балець жывот, пайшлі дзеці. Былі нават вострыя спрэчкі: хто ж дапамог — медыцына ці бабкі?»

Е.Краўцова вышыла ручнік у некалькі радоў. У першым — 5 постацей Лады, у другім — 4 ружы, у трэцім — 4 галубы і галубка. У свае 18 гадоў яна хацела, каб яе кахаў Міхась. А другі ручнік, як ёй параіла настаўніца, яна выткала ў падарунак мужу. На ім — Лада, па баках — ружы (іл. 16). Гэта — прыгажосць і каханне. Тут жа і подпіс: «Люблю цябе, любі мяне». «Я веру ў ручнік. Ён мае вялікую сілу», — сказала жанчына.



12. Сімвал росквіту прыроды, жыцця.



13. Матыў Жыцценя на тканых вырабах.



14. Голуб і галубка — сімвал кахання.



15. Маці-Радзіцельніца і Святое Дрэва.



16. Лада ў ружах — сімвал прыгажосці і кахання.

## ЯК РОБІЦЦА «ЗАПІС»

Калі жанчына садзіцца за работу, яна, як і пісьменнік, кампазітар ці мастак, выбірае тэму твора, абдумвае яго план, кампазіцыю, каларыт, вызначае галоўныя і дадатковыя вобразы. Возьмем для прыкладу посцілку М.Вараб'ёвай, якая назвала яе «Жаночая доля» (іл. 17), хоць дакладней трэба было б сказаць «Мары жанчыны пра лепшую долю».

Галоўнае месца ў арнаментыцы посцілкі займае матыў у выглядзе вазона. Гэта — сама майстрыха. Вышэй — васьміканцовая зорка, сімвал чалавека, у гэтым выпадку — мужа. Унізе — голуб і галубка, сімвал кахання. Так майстрыха выказала мару мець добрага, любімага мужа, гаспадара ў сям'і, бацьку дзяцей. Тут жа бачым і ромб з маленькіх ромбікаў — сімвал Маці Зямлі-Карміцелькі.





На вязаным абрусе Т.Васілеўскай (Мігулкі Сенненскага р-на) вобраз ураджаю, яго сімвалы Спарыш і Раёк, а таксама галоўная даравальніца ўраджаю — Маці Зямля-Карміцелька.

Узор на посцілцы П.Буйко (Грамашы Полацкага р-на, гл. іл. 8) тлумачыцца так. Аснову яго складае васьміканцовая зорка — сімвал чалавека, тут — гаспадара сям'і. У вольных прамежках укампанаваны маленькія ромбікі. Гэта Зямля-Карміцелька. Зялёная рамбічная сетка-гірлянда вакол зорак абазначае: слава гаспадару сям'і, працаўніку на Зямлі-Карміцельцы.

Падобная кампазіцыя і на іншай посцілцы (іл. 18). Тут зоркі — сімвал чалавека — чаргуюцца з васьміканцовымі разеткамі — сімвалам ураджаю Жыценем. Трэба чытаць, што тут славіцца ўраджай і селянін-хлебароб.

## ДЫВАН-РАДАВОД

На Гродзеншчыне сустракаюцца складана вытканыя так званыя падвойныя дываны, якія вызначаюцца багата распрацаванай кампазіцыяй дэкору, нярэдка вельмі старажытнай і загадкавай. Адзін такі дыван з Гродна, вытканы ў 1936 г. (іл. 19) мне дапамаглі расшыфраваць



**17.** А.Вараб'ёва. Посцілка з адлюстраваннем жаночай долі. Гомельская вобл.





ткачыхі з Гродна, Ліды, Навагрудка ў 1939 годзе. На іх думку, гэта запаветны дыван, які сімвалізуе вечнасць роду, здароўе і моц сям'і.

Кампазіцыя дывана складаная, але дакладна распрацаваная, з улікам традыцыйных звычаяў, абрадаў і вераванняў, звязаных з сям'ёю і родам. У цэнтры — магутны ствол, што абазначае род, ад яго сіметрычна адыходзяць па 8 галін, на кожнай з іх — па 2 маленькія дрэвы жыцця. Адно сімвалізуе бацькоўскую, другое — мацярынскую лінію роду. На кожным дрэўцы — па 6 бутонаў, кожны складаецца з 4 матываў — сімвалаў сям'і. Пучкі роўных ліній, што коса адыходзяць ад галін уніз — гэта малітва, просьба, якую выказваюць на Дзяды і на Радаўніцу духам памерлых продкаў, каб ім на тым свеце было вечнае шчасце. Птушкі накшталт пеўнікаў ці галубкоў абазначаюць ахвяраванне, якое прыносяць як памяць пра памерлых. Дзе-нідзе да галін падвешаны маленькія разеткі рознай формы і памеру — просьба маці пра вечнае шчасце памерлым дзецям.

Як бачым, тут цэлая жыццёвая паэма пра вечнасць і неўміручасць роду і сям'і. Ці не таму і выжылі беларусы, нягледзячы на войны, смерці, голад і хваробы? Гэты дыван — яшчэ і напамін усім нам: будзем берагчы род і сям'ю — будзем неўміручыя.



**18.** Фрагмент посцілкі з матывам Жыценя. Жлобінскі р-н Гомельскай вобл.



**19.** Дыван з адлюстраваннем сямейнага радаводу. Гродзеншчына.



Галоўнай крыніцай існавання людзей на зямлі былі жывёлагадоўля і земляробства. Таму сімваламі багацця ў многіх народаў звычайна з'яўляюцца адлюстраванні свойскай жывёлы і сельскагаспадарчых раслін, пераважна зерневых. Так, у старажытнай Фінікіі, якая займала тэрыторыю сучаснага Лівана, багіня ўрадлівасці мела выгляд пышнацелай жанчыны з каласамі ў руках і коньмі побач. Культ урадлівасці быў характэрны для старажытных Урарту, Вавілона, Асірыі, Егіпта і інш.

Беларусь заўсёды была краінай класічнага земляробства. Тут здаўна радзілі жыта, ячмень, авёс. Як пісаў вядомы беларускі асветнік Сімяон Полацкі, земляробства — самае неабходнае рамяство, а хлеб даражэйшы за золата і серабро. Нездарма так шмат беларускіх народных песень услаўляюць ураджай, хлебароба, адвечную сялянскую працу. Шмат сімвалаў ураджаю знойдзем мы і ў дэкор тканых і вышываных вырабаў.

## ЯРЫЛА-ЮРАЙ

У славянскіх плямёнаў часоў язычніцтва Ярыла лічыўся Богам урадлівасці і жыццёвых сіл прыроды. З прыняццем хрысціянства яго месца заняў хрысціянскі святы Юрый-Пераможац — Юрай, Юр'я, Ягорый. Ярыла стаў забывацца і захаваўся хіба што ў фальклоры з яго старажытнымі каранямі.

Вось дзве песні. У адной згадваецца Ярыла, у другой — Юрый. Змест іх амаль тоесны, і несумненна, што абедзве прысвечаны аднаму і таму ж герою — Ярыле:

Прышоў празнік святога Яра.
Яго лічыка бялюсенька.
Узяў ключы вясновыя,
не простыя — залатыя.
Адамкнуў зямліцу, пусціў расіцу,
пусціў расіцу на ўсю зямліцу —
на траўку-мураўку, на пастаці яравыя.

(Мінская вобл.)

А вось іншы варыянт:

Настаў празнік — святы Юр'я.
Святы Юр'я ўперад пайшоў,
асядлаў каня варанога,
паехаў прама да Бога.
Узяў ключы залатыя,
адамкнуў маці-зямліцу,
пусціў расу на ўсю зямліцу,
на ўсю зямлю вясеннюю.

(Маладзечанскі р-н)

Толькі і розніцы, што Ярыла хадзіў пехатою, а Юрый ездзіў на кані. «Перасадзілі» на каня і Ярылу.

Е.Пузік зПолацка вышыла на ручніку конніка. Пытаю: хто гэта? «Святы Ярыла, — адказвае. — А вышыла яго таму, што ён прыносіць добры ўраджай».

Чым глыбей разбіраешся з арнаментацыяй ткацтва, тым больш пераконваешся, што вобраз Ярылы мае нейкае асаблівае, усеахопнае значэнне. Гэта сімвал жыццёвай сілы, вытворчых магчымасцей прыроды. Гэта нібы вобраз маці для ўсіх людзей. Вобраз Ярылы абуджае ў нашай душы нешта першароднае, старажытнае — тое, што калісьці давала сілу чалавеку, дапамагала яму выстаяць у барацьбе за жыццё.

Вышывальшчыца А.Красічкава (Мінск) расказвала пра тыя часы, калі была дзяўчынкай і ездзіла да бабулі ў вёску. Вясною там адзначалі свята Ярылы-Юр'я. Раным-рана выганялі на луг, на расу статак. Бабка гучна звярталася да Ярылы з просьбаю ахоўваць жывёлу ад драпежнікаў, даць ёй здароўе і плоднасць. Казала яна і пра тое, што ў Ярылы ёсць жонка Жытняя Баба і дзеці — Жыцень, Спарыш, Рай і Багач.

Па ўспамінах М.Васілеўскай (1848 г.н., Мігуліна Сенненскага р-на), вясной на Юр'я выганялі статак на маладую свежую веснавую траўку, запальвалі грамнічную свечку, абыходзілі з ёю жывёлу, клалі асвячонае яйка і праганялі па ім кароў і авечак. Сталая паважаная жанчына запявала, а ўсе



*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*

хорам падхоплівалі песню-просьбу да Ярылы-Юр'я даць добры ўраджай, абараніць жывёлу ад хвароб, забяспечыць яе плоднасць:

Ярыла, устань рана,
Ярыла, умыйся бела,
Ярыла, прычашыся гладка,
Ярыла, глянь у ваконца,
Ярыла, паглядзі на сонца,
Ярыла, вазьмі ключы ў сонца,
Ярыла, адамкні маці-зямліцу,
Ярыла, прагані злую зіміцу,
Ярыла, напаі зямлю вадзіцай,
Ярыла, пусці расіцу
на зялёную травіцу,
Ярыла, выгані з хлява жывёлу,
хай жывёла-гавяда пасецца,
хай курачка нясецца,
хай свіння сыцее,
хай кароўкі тлусцеюць,
хай даюць малачка дзеткам.

Далей Марыя Фёдараўна прадоўжыла:

Ярыла, садзіся на каня варанога,
Ярыла, едзь на нівы-постаці,
Ярыла, расці жыта ўрадлівае:
коранем каранітае,
сцяблом сцяблістае,
коласам каласістае.
На ніве капамі,
у полі снапамі,
на таку ўмалотам,
у дзяжы падходам,
у печы прыпёкам,
у хаце спорам,
на стале сыццю.

Вобраз Ярылы ў народным уяўленні ўвасабляў абуджэнне прыроды пасля зімовага сну, змену зімовага холаду на веснавую квецень. Ярыла — сімвал адвечнага росквіту вытворчых, жыццёвых сіл прыроды. Ярыла — відаць, ад слова яр, ярына, яравы, г.зн. веснавы, як яравыя пшаніца ці жыта.

Вобраз Ярылы шматаблічны, як шматаблічная вясна — то халодная, то цёплая, то дажджлівая, то сухая. Таму і ў народным ткацтве вобраз Ярылы ўвасоблены многімі ўзорамі. Адзін з іх паказвае Ярылу на кані. «Успаміны пра Ярылу, — пісаў рускі фалькларыст А.Афанасьеў, — добра захаваліся на Беларусі, дзе яго ўяўляюць маладым, прыгожым... на белым кані, у белай мантыі. На галаве ў яго вянок з веснавых палявых кветак. У левай руцэ трымае ён жменю жытніх каласоў» (Афанасьев А. Поэтические воззрения славян на природу. М., 1865. Т. 1. С.4). Гэтаму апісанню Ярылы дакладна адпавядае яго стылізаваная выява ў вышыўцы (іл. 20).

З прыняццем хрысціянства многія язычніцкія багі былі хрысціянізаваны. Ярыла стаў Юрыем-Пераможцам, Юр'ем на кані, тым больш, што і назвы іх падобныя: Яр-Юры, Ярыла-Юрыла, Яры-Юрай. Так у народнай свядомасці хрысціянскі святы Юрый-Пераможац стаў сялянскім заступнікам, апекуном поля, ніваў, ураджаю.

Хрысціянскі Юрый-Пераможац, які працінае кап'ём змея і выратоўвае царскую дачку ад пагібелі, увогуле



20. Ярыла на кані. Матыў традыцыйнай вышыўкі. Мінская вобл.



21. А.Коўтун. Фрагмент вышыўкі з матывам Ярылы. Краснае Смаленскай вобл.





царскую дачку ад пагібелі, увогуле імпануе сваім геройствам, але селяніну-беларусу ўсё ж бліжэй вобраз Ярылы. Беларус-працаўнік, які любіць зямлю, прыроду, воіна на кані свядома ці несвядома ператворыць у аратага. Так і зліліся два вобразы ў адзін — абаронца сям'і і абаронца ўраджаю. Дзеці Ярылы Жыцень, Спарыш і Багач, таксама клапоцяцца пра ўраджай на ніве. Таму селянін заўсёды вітаў іх, клікаў у госці, добра частаваў. Так ён спадзяваўся на добры ўраджай. Як бачым, узоры народнага ткацтва адлюстроўваюць мірны характар беларуса, нясуць антываенную ідэю.

Стары кульгавы жабрак-музыка Харытон (Сенненскі р-н) казаў: «Разам са мною (хоць яго і не відаць) ходзіць добры святы Ярыла-Юрша. Ён любіць, калі мяне добра кормяць, прымаюць, даюць міласціну».

Ярыла на кані вышыты на ручніку У.Галубковай (Клімавічы Сенненскага р-на, іл. 22). Яна верыла: калі Ярылу задобрыць, то ён дасць багаты ўраджай. «Ярыла любіць, калі яго вышываюць на ручніку і вешаюць у царкве на абраз». На ручніку У.Галубковай Ярыла трымае ў руках жытнія каласы, на яго галаве — вянок з каласоў, імі прарасла фігура каня, вялікія каласы раскіданы і па ўсім ручніку.

Часцей сустракаюцца больш умоўныя сімвалы Ярылы, звычайна ў выглядзе арнаментальных разетак з прамянямі, якія адыходзяць убок, прычым гарызантальныя адросткі-прамяні крыху большыя (іл. 23). Як бачым, матыў падобны на ўжо вядомы нам сімвал Сонца, і гэта невыпадкова. Некаторыя ткачыхі гаварылі, што Ярыла — сын Сонца.

Н.Гарошка (1877 г.н., Беліца Гомельскай вобл.) пасцілку з падобнымі ўзорамі выткала да першага выгану статку ў поле, да першай баразны на ніве, што прымяркоўвалася да Юр'я. «Прыходзіць бацюшка і асвячае статак. Тады рассцілаецца гэтая пасцілка і па ёй праганяецца статак» (іл. 24).

Падобны на зорку і матыў з шасцівасьмі ліній, якія перасякаюцца пад прамым вуглом. Нагадвае ён узор Нівы (Маці-Карміцелькі). Тут, відаць, адлюстравана сувязь з народнымі павер'ямі, паводле якіх Ярыла — гаспадар нівы, ён клапоціцца пра ўраджай. На свята Ярылы-Юр'я сяляне просяць: «Каб колас на ніве быў тоўстым і гнуўся да зямлі, каб уся ніва была ўкрыта густа снапамі». Каб забяспечыць такі ўраджай, на ніве закопвалі асвячонае на Вялікдзень курынае яйка (крашанку, пісанку), вышывалі ручнік з адпаведным узорам.

22. Узор Ярылы на кані.





23. Н.Гарошка. Матыў Ярылы ў дэкоры пасцілкі. Беліца Гомельскай вобл.



24. Д.Манькова. Фрагмент вышыўкі з матывамі Ярылы. Абідавічы Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*

## ВОБРАЗЫ ЎРАДЖАЮ

А.Гарнак з Сянна на посцілцы адлюстравала цэлае «сямейства» (іл. 28). Васьміпялёсткавая разетка — Спарыш, сімвал добрага ўраджаю. Ромб з маленькіх квадрацікаў — Зямля-Карміцелька, Маці ўраджаю. Чатырохканцовыя матывы, нібыта складзеныя з жытніх каласоў — Рай, Раёк. Вобраз гэты не зусім зразумелы. Відаць, таксама язычніцкі бог ураджаю.

Галоўным матывам на посцілцы Е.Дудзінай (Абухава Сенненскага р-на) з'яўляецца вобраз Жыценя, скампанаваны са стылізаваных жытніх каласоў накшталт дажынкавага вянка. Жыцень — гэта найбольш поўнае ўвасабленне сімвала ўраджаю, пэўна, прамы нашчадак Ярылы.

Дажынкавы вянок пакладзены ў аснову ўзору Багача (іл. 29), які сімвалізуе зерне, багацце як аснову сялянскай гаспадаркі.

Г.Бабіч (1845 г.н., Шаркоўшчына) тлумачыла ўзор на сваім ручніку: «Верхні рад — гэта Жытняя Баба, гаспадыня ўраджаю. Другі рад — Багач ці дажыначны сноп. Трэці — пажаданне дабра, просьба да Бога пра дапамогу. Чацвёрты, на карунках — Маці Зямля-Карміцелька». Усе гэтыя ўзоры — своеасаблівая малітва да Бога, замова на добры ўраджай. Ручнік аздобіў абраз у мясцовай царкве (іл. 30).

М.Яленец (1850 г.н., Хойнікі) расказвала, як у маладосці яны святкавалі дажынкі. «Калі канчаецца жніво на апошняй ніве, мы пакідалі лапік жыта, завецца ён дзедавай барадой. Тады клічам свайго ці суседскага дзеда. Дажынаем гэту дзедаву бараду, вяжам дажынкавы сноп Жыцень, перавязваем яго чырвонай стужкай. Дзеўкі ці бабы вяжуць вянок з каласкоў, пры гэтым кожная загадвае што-небудзь, варожыць: дзеўкі — на добрых жаніхоў, бабы — на дзяцей, каб не хварэлі, ці яшчэ на што-небудзь. Тады кладуць на галаву дзеду вянок з каласкоў, даюць дзеду ў рукі дажынкавы сноп. Бярэмся за рукі і з рогатам ды смехам ходзім вакол дзеда карагодам і спяваем.

Прыдзі, прыдзі да нас,
ураджай Жыцень,
Прынясі нам ураджай, Багач:
жыта на ніве, бабкі капамі,
на гумне снапы стагамі,
у клеці зярняты гарамі,
на стале булкі — вазамі.

Потым вянок-Жыцень кладзем на галаву дзяўчыне, якая збіраецца замуж, а другая дзяўчына ці баба бярэ да-

**25.** Фрагмент вышыўкі з матывам Ярылы. Віцебская вобл.



**26.** Фрагмент вышыўкі з матывам Ярылы. Віцебская вобл.





**27.** Посцілка з сімваламі ўраджаю. Абухава Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**28.** Ярыла на кані. Фрагмент вышыўкі. Віцебская вобл.





жыначны сноп-Багач. Там мы ідзем па вуліцы, спяваем і скачам. Было гэта ў часы прыгону, мне было дзесяць гадоў. Ішлі мы да пана ў двор, ён нас паіў, частаваў, ну, а мы скакалі, спявалі, хвалілі пана з паняю ды іх дзетак. А калі прыгон скончыўся, мы збіралі складчыну: хто нёс самагонку, хто — сала, хто — яйкі. Так і гулялі. Спявалі песні пра ўраджай, славілі Ярылу, Жыценя, Багача. Прасілі іх, каб яны не забывалі нас ды давалі добры ўраджай».

«Пры царызме мой татка быў бедны, — казала К.Філатава (1892 г.н., Шклоў). — У нас было тры дзесяціны зямлі. Саветы далі нам дзесяць дзесяцін. Мы разаралі ляда, у нас быў добры ўраджай. Вось тады я, яшчэ дзяўчынаю, выткала посцілку. Гэта мая радасць, мой ураджай».

Пра сваю посцілку М.Крукоўская (Мсціслаў) казала, што «гэта песня пра ўраджай. Калі жалі, мы спявалі звонкія, на ўсю акругу, ды задушэўныя песні. Колькі нажнеш снапоў, столькі песень праспяваеш. Вечарамі ці ў святы гэтыя песні вышывалі на ручніку ці вязалі ў карунках. Мы былі маладыя, вясёлыя, любілі ўсё прыгожае. Працавалі да поту, але любілі пагуляць, паспяваць, вышывалі і вязалі».

Посцілкі з узорам ураджаю бываюць, як правіла, вельмі дэкаратыўныя. Яркія сакавітыя фарбы радуюць, ствараюць настрой аптымізму і надзеі. Як сказала М.Яленец, «у гэтай посцілцы я выказала сваю радасць пра ўраджай». Хачу дадаць, што добра вытканая арнаментаваная посцілка — такі ж твор мастацтва, як карціна ці скульптура, песня ці нават опера. На жаль, не ўсе гэта бачаць.

## ЖЫЦЕНЬ

Найбольш папулярны сімвал ураджаю — Жыцень — мае выгляд разеткі ў выглядзе ромба, ад вуглоў якога адыходзяць па два стылізаваныя жытнія каласы (іл. 33). Як ужо адзначалася, ён нагадвае дажынкавы вянок, які сімвалізаваў паспяховае заканчэнне жніва. Як сімвал ураджаю,

**30.** Г.Бабіч. Ручнік з сімваламі ўраджаю. Шаркоўшчына.



**29.** Узор Багача.





**31.** Посцілка. Любанскі р-н Мінскай вобл.



*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*



**32.** М.Яленец. Фрагмент посцілкі. Хойнікі Гомельскай вобл.

**33.** Посцілка з матывам Жыценя. Гомельская вобл.



**34.** Посцілка з сімваламі ўраджаю. Пальніца Гродзенскай вобл.

вянок разам з дажынкавым снапом ставілі пад абразы на покуці.

А вось як услаўляецца Жыцень у народнай песні:

Дай жа, Божа,
на полі снапамі,
на гумне стагамі,
на таку ўмалотам,
у клеці — спорам.
У млыне прымолам,
у дзяжы — падходам,
у печы — з падростам,
на стале з прыбыткам,
з добрым ужыткам.

(Сенненскі р-н)





**35.** К.Русаковіч. Фрагмент посцілкі. Рухава Старадарожскага р-на Мінскай вобл.

Сімвал Жыценя на тканых вырабах нярэдка спалучаецца з іншымі: Зямлі-





Карміцелькі, Спарыша, жаночай долі. Як відаць, у народнай свядомасці вобраз Жыценя звязваўся з усімі бакамі сялянскага жыцця.

На посцілцы Т.Трубчык (Калінаўка Любанскага р-на) узор Жыценя спалучаецца з іншымі сімваламі ўраджаю: Спарышом, Багачом. А ўнізе — матыў жаночай долі. Трэба думаць, што майстрыха звязвала сваю долю з добрым ураджаем.

Жыцень вельмі шанаваўся ў народзе, да яго звярталіся па дапамогу. Вось

**36.** Н.Церашкова. Фрагмент посцілкі з матывамі ўраджаю. Зялёны Краж Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.





**38.** К.Шацілава. Фрагмент посцілкі з матывамі Жыценя. Астрагляды Брагінскага р-на Гомельскай вобл.



**39.** Е.Дудзіна. Фрагмент посцілкі з матывамі Жыценя. Абухава Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

**41.** Е.Догель. Фрагмент посцілкі. Барсукі Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**37.** М.Дабравольская. Фрагмент вышыўкі з матывам Жыценя. Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл.







прыклад звароту-замовы да Жыценя, запісаны ад Г.Ульяновіч (1902 г.н., Круляўшчызна Ваўкавыскага р-на):

Жыцень, сей жыта на ніве.
Жыцень, малаці снапы на таку,
Жыцень, пячы хлеб у печы,
Жыцень, кладзі на стол булку,
Жыцень, памажы, Божа, на лета
мець усё гэта.
Амін, слава Богу на небе і на зямлі.

Як відаць, язычніцкія святыя лічыліся ў народзе вельмі «дэмакратычнымі», да іх папросту, як да сваіх, можна было звярнуцца з просьбаю. Напрыклад, вось з такою:

Радзі, сонца, жыта і пшаніцу,
радзі ярыну копамі,
Радзі, сонца, жыта і пшаніцу,
поўны гумны снапамі.
Радзі, сонца, жыта і пшаніцу,
поўны гумны снапамі.
Радзі, сонца, жыта і пшаніцу,
поўны клеці карабамі.
Радзі, сонца, жыта і пшаніцу,
поўны печы пірагамі.

(Жніўныя песні. Мн., 1974. С. 63.)

Гэтыя просьбы-звароты можна «прачытаць» і на многіх посцілках (іл. 35—49). Характэрна, што некаторыя ткачыхі ўжо вядомы нам узор называлі не Жыцень, а Жнівень. Відаць, у народнай свядомасці гэта было адно і тое ж.



42. В.Рудая. Фрагмент посцілкі. Семічы Слуцкага р-на Мінскай вобл

43. Е.Дудзіна. Матыў Жыценя ў тканым дэкоры. Абухава Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



44. А.Шылько. Фрагмент дэкору посцілкі. Пярэспа Сенненскага р-на Віцебскай вобл.





45. Дэкор дарожкі з матывам Жыценя. Хільчыцы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.





## СПАРЫШ

Спарыш — чаканы і жаданы госць у сялянскай сям'і. Ён прыносіць вялікі ўраджай, поўныя засекі збожжа, дабрабыт у гаспадарцы. Недарэмна Спарыш часта згадваецца ў песнях:

Прыспары мне, Спарыш,
і ў доме, і ў полі,
і ў гумне, і ў двары,
і ў клеці, і ў печы,
і ў клеці карабом,
і ў печы пірагом.

Н.Каралькова (Слабада Рэчыцкага р-на), якая выткала посцілку з узорам Спарыша, зрабіла гэта для таго, «каб Спарыш не забываў нас, каб даваў спор у жыце, у ячмені і ў грэчцы, на ніве, на таку і ў клеці».

Узор мае выгляд разеткі з чатырох моцна стылізаваных каласкоў, вельмі падобны на зорку — сімвал чалавека, таму іх няцяжка зблытаць. Розніца між імі ўсё ж ёсць: у Спарыша лісты-каласы крышку аддалены ад цэнтральнай разеткі, а ў зоркі — цесна змыкаюцца ў цэнтры.

Звычайна ўзор Спарыша спалучаюць з іншымі матывамі. Так, на посцілках К.Ількавец (Каладзеевічы Жабінкаўскага р-на, гл. іл. 56) і К.Дудзінай (Абухава Сенненскага р-на, гл. іл. 43) Спарыш змешчаны побач з узорам Маці Зямлі-Карміцелькі.

Нярэдка побач з узорам Спарыша мы



**46.** Фрагмент дэкору посцілкі з сімваламі Жыценя, Спарыша і Багача.



**47.** Фрагмент дэкору посцілкі з сімваламі Жыценя, Спарыша і Зямлі-Карміцелькі. Гомельская вобл.



**48.** Г.Ступіна. Абрус. Мінск.



**49.** Фрагмент посцілкі з матывам Жыценя. Семічы Слуцкага р-на.





бачым крыжык (гл. іл. 56). А значыць ён вось што. Калі селянін сее, ён са словамі «памажы, Божа» хрысціцца сам і хрысціць зерне. Крыжык абазначае, што Спарыш ахрышчаны і ніякая злая сіла яму не пашкодзіць.



**50.** В.Шашко. Посцілка з матывам Спарыша. Дубнае Старадарожскага р-на Мінскай вобл.

**51.** Дыван. Паставічы Старадарожскага р-на Мінскай вобл.



**52.** Н.Каралькова. Узор Спарыша у дэкоры посцілкі. Слабада Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.



**53.** Ручнік з узорам Спарыша. Гомельская вобл.



**55.** Г.Ступіна. Фрагмент дэкору абруса. Мінск.

Спарыш — значыць здвоены, спорны. Каб выказаць яму сваю павагу, сімвал змяшчалі ў аблямоўку-гірлянду з кветак. Яна абвівае Спарыша, гэта яго вянок.

На многіх тканых і вышываных вырабах Спарыш суправаджаюць і іншыя сімвалы ўраджаю — Рай і Зямля-Карміцелька (гл. іл. 43, 56). З гэтай нагоды У.Харошка (Клімавічы Сенненскага р-на) сказала: «Калі селянін варажыў, каб атрымаць добры ўраджай, ён добра ведаў, што адна варажба без працы, без клопатаў нічым не дапаможа. Спраўны гаспадар добра працуе, тады дапамагае варажба і малітва Богу ў царкве. Бог то Бог, але і сам не будзь плох. А вось галадранец ці п'яніца ні да работы, ні да варажбы, ні да царквы не годны. Ні богу свечка, ні чорту качарга».

А.Кудравец (Шклоў), якая на ручніку змясціла Спарыш у акружэнні сімвалаў Зямлі-Карміцелькі, казала: «Раней у вёсцы зямлю цанілі больш за ўсё на свеце. Ёсць зямля — чалавек жыве багата. Няма зямлі — чалавек бедны, голы і босы. Людзі ўсё жыццё збіралі грошы, каб купіць зямлю». А сёння нават бясплатна зямлі не хочуць.

**54.** У.Капшуль. Абрус. Беразвечча Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.





**56.** К.Ількавец. Фрагмент дэкору посцілкі з матывамі Спарыша і Зямлі-Карміцелькі. Каладзеевічы Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл.



*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*

**58.** С.Сількоўская. Ручнік. Гаткавічы Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.

**57.** Дыван з матывамі Спарыша. Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл.



**61.** В.Рагозіна. Фрагмент дэкору абруса. Віцебская вобл.

**59.** Фрагмент дэкору абруса з матывам Спарыша.





**62.** Г.Паляшчук. Фрагмент посцілкі. Макраны Капыльскага р-на Мінскай вобл.

**60.** Н.Захарэвіч. Фрагмент дэкору абруса. Ліда Гродзенскай вобл.



















**63.** Посцілка. Мінская вобл.

**64.** Т.Шашолка. Посцілка. Глінная Слабада Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл.

**65.** Ручнік, аздоблены карункамі з матывам Спарыша. Віцебская вобл.

**66.** М.Брагінец. Ручнік. Любанскі р-н Мінскай вобл.

**67.** Фрагмент дэкору посцілкі. Слуцкі р-н Мінскай вобл.

## РАЙ

Гэты загадкавы вобраз некаторыя вучоныя лічаць адным з славянскіх багоў ураджаю. Рай згадваецца ў многіх беларускіх песнях, пры гэтым заўсёды звязваецца з багаццем, заможнасцю, дабрабытам:



*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*

Зайшоў Раёк у Якаў дварок,
яго дворы высокія,
а ваконцы маляваныя,
у яго сталы цясовыя,
абрусы бялёвыя,
а напіткі мядовыя,
усе страўкі сахарныя.

(Жніўныя песні. Мн., 1979. С. 463.)

Узор, што абазначае Рай, мае выгляд разеткі з чатырох каласоў, якія перасякаюцца пад прамым вуглом (іл. 75). Як ужо згадвалася, Рай часта спалучаецца з іншымі сімваламі ўраджаю. Так, на посцілцы С.Пратасевіч (Слуцкі р-н) —

**68.** Ручнік з сімваламі ўраджаю. Пінскі р-н Брэсцкай вобл.



**69.** В.Шашко. Фрагмент дэкору посцілкі. Дубнае Старадарожскага раёна Мінскай вобл.



**70.** Н.Цішко. Фрагмент дэкору посцілкі. Любанскі р-н Мінскай вобл.





**71.** Фрагмент дэкору посцілкі з матывам Спарыша. Мінская вобл.









74. Г.Чабрыцкая. Матыў Рая ў дэкоры посцілкі. Арпа Вілейскага р-на Мінскай вобл.



75. С.Пратасевіч. Фрагмент дэкору посцілкі з матывамі Спарыша, Рая і Маці Зямлі-Карміцелькі. Слуцкі р-н Мінскай вобл.



72. Сурвэтка з матывам Спарыша. Мінск.

73. Э.Кавалеўская. Фрагмент дэкору абруса. Заполле Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.



76. Т.Гаспадарык. Посцілка з сімваламі добрага ўраджаю. Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.

з сімваламі Маці Зямлі-Карміцелькі і Спарыша (гл. іл. 75); А.Радашкевіч (Чарэя Сенненскага р-на) — з сімвалам хлеба; Дудзінай (Абухава Сенненскага р-на) — з сімваламі Спарыша і Маці Зямлі-Карміцелькі (гл. іл. 43); Залескай (Радашковічы Маладзечанскага р-на) — з сімваламі хлеба і Спарыша і інш. Такое спалучэнне адлюстроўвае складаную сістэму поглядаў сялянкі-ткачыхі на праблему атрымання добрага ўраджаю.

Уся разнастайнасць такіх поглядаў адлюстравана на посцілцы Т.Гаспарадык (Нясвіжскі р-н, іл. 76). Пакроўская (Старое Сяло Віцебскага р-на) і Васілеўская (Мігуліна Сенненскага р-на) расшыфравалі сімволіку гэтай посцілкі

*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*

так. Галоўную надзею сялянкі на ўраджай выяўляюць Спарыш (васьміканцовая зорка) і Рай (чатырохпрамянёвы сімвал з каласоў). Яны і займаюць галоўнае месца на посцілцы. Ромбы з маленькіх квадрацікаў абазначаюць дождж, ад якога таксама залежыць ураджай. Падобны матыў, але меншы — Маці Зямля-Карміцелька. Нарэшце, пастаўленыя парамі, досыць натуралістычна адлюстраваныя індыкі сімвалізуюць сямейны дабрабыт. Але тут трэба дадаць, што гэта яўна познія матывы.

«Узор Рай, — тлумачыла дэкор на сваёй посцілцы Д.Ванькович з Беласточчыны (гл. іл. 78), — я выткала таму, што мне вельмі хацелася добрага ўраджаю. Мы разарыліся ў вайну. Рай абазначае таксама багацце і дастатак».



77. Н.Петухова. Фрагмент дэкору абруса. Верхнядзвінск Віцебскай вобл.



78. Д.Ваньковіч. Фрагмент дэкору абруса. Беласточчына.



79. П.Зубовіч. Посцілка з сімваламі ўраджаю. Чарневічы Барысаўскага р-на Мінскай вобл.



*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*

## ЖЫТНЯЯ БАБА

Да калектывізацыі сялянскія нівы пасля жніва былі ўстаўлены бабкамі снапоў. Так дасушвалі зжатае жыта. У маладосці і мне неаднойчы даводзілася ставіць прыгажуні-бабкі. Яны і з'явіліся асновай для ўзнікнення яшчэ



**80.** Жытняя Баба.

**81.** Ручнік з матывам Жытняй Бабы. Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл.

аднаго сімвалу ўраджаю — Жытняй Бабы.

Акадэмік М.Нікольскі лічыў, што Жытняя Баба ў старажытных славян была багіняй урадлівасці (Никольский Н. Дохристианские верования и культы днепровских славян. М., 1929. С.34). Ён параўноўваў Жытнюю Бабу з антычнай грэчаскай багіняй урадлівасці Дэметрай.

Жытнюю Бабу рабілі з вялікага дажынкавага снапа, перавязвалі яго ручніком, палівалі грамнічнай вадою і ставілі пад абразы на покуці. Прыкладна такі выгляд мае адлюстраванне Жытняй Бабы на ручніку, які вышыла Грамавік (1885 г.н., Жыткавічы, іл. 80). Па яе словах, гэты матыў яна пераняла ў бабкі Іваніхі, якая памятала французаў. Тая лічыла, што Жытняя Баба вылечвае ад жаночых хвароб, дапамагае пры родах. Хто шануе Жытнюю Бабу, той заўсёды мае добры ўраджай на ніве.

На ручніку Арлюковіч (Рэчкі Шаркоўшчынскага р-на) стылізаваныя сімвалы Жытняй Бабы утвараюць верхні рад (іл. 81). Ніжэй ідзе некалькі радоў з узорам Багача, таксама сімвала ўраджаю. У самым нізе — радок з сімваламі ўраджаю Ярылы. Паміж радамі раскіданы сімвалы зерня. Як бачым, ручнік уяўляе сабой своеасаблівы гімн ураджаю.

## БАГАЧ — ДАЖЫНКАВЫ СНОП

Дажынкі — вялікае свята ў беларускай вёсцы. Успамінаю, як у маёй маладосці іх адзначалі. Калі жніво жыта падыходзіла да канца, пакідалі нязжатай яго жменю — дзедаву, ці божую, бараду. Потым гэты



**82.** А.Федаровіч. Фрагмент дывана. Мінск.



**83.** Л.Сянько. Фрагмент дывана з узорам Багача. Папачаны Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.



*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*

кусцік зжыналі, перавязвалі стужкай, гаварылі замову, урачыста, з песнямі і жартамі, неслі дадому і ставілі пад абразы на покуці. Цяпер яго называлі Багачом. Бацька звяртаўся да яго з замоваю:

Багач, Багач!
Не забывай нашай нівы!
Дай ніве спор у снапах,
стагамі ў гумне,
зярном у клеці.

(Дзяржынскі р-н)

Потым наладжвалі ўрачыстую вячэру. Пачастунак ставілі і каля Багача.

Мой дзед, Маркіян Кацар, ссыпаючы зерне ў засекі, хрысціўся і звяртаўся да Багача: «Багач, Багач, хадзі да нас у клецы!»

На жаль, гэтыя прыгожыя паэтычныя дзействы, звязаныя з дажын-



84. Т.Дзеранок. Дэкор ручніка з узорам Багача. Неглюбка Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.



85. З.Цвірка. Абрус. Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл.

86. Д.Янушкевіч. Фрагмент дэкору посцілкі. Валожынскі р-н Мінскай вобл.



88. Н.Праль-Гуль. Матыў Багача ў дэкоры посцілкі. Затур'я Нясвіжскага р-на Мінскай вобл.



87. М.Радашкевіч. Матыў Багача ў дэкоры посцілкі. Канстанцінава Сенненскага р-на Віцебскай вобл.







камі, ужо забыліся. Сышоў з нашай нівы Багач. Але захаваўся яго сімвал у народным мастацтве. Ён мае выгляд разеткі з чатырох моцна стылізаваных каласоў, размешчаных крыжападобна (іл. 83—88). Варыянтаў яго шмат, але ў большасці выпадкаў узор кампануецца з цэнтральнай разеткі і стылізаваных каласоў, што адыходзяць ад яе. Звычайна Багач спалучаецца з іншымі сімваламі ўраджаю — Раем, Спарышом, часам бываюць сімвалы Зямлі-Карміцелькі. хлеба.

### ПАЛЯВІК

Вобраз Палевіка як апекуна хлебароба ўзнік, відаць, у тыя часы, калі наш далёкі продак суком узрыхліў зямлю і кінуў у яе зярняты. Палявік у сялянскім уяўленні нагадваў працаўніка-хлебароба: сівы стары ў доўгай свіце, у лапцях, з кіем у руках. У траве ён ростам з траву, у жыцце — з жыта. Калі жыта ўрадзіла, то Палявік добры і вясёлы, калі не — злосны, незадаволены.

Здаўна поле карміла хлебароба. Беларус называе жыта дабром. Жыта — гэта хлеб, які даражэйшы за золата. А Палявік забяспечвае ўраджай.

Вось якая легенда пра Палевіка бытуе ў народзе. Ідуць два падарожнікі. Галодныя, халодныя, стомленыя. На ніве спелага жыта стаіць русавалосы, статны Палявік. «Дай нам хлеба», — просяць падарожнікі. «Пакажы свае рукі, — кажа Палявік першаму. — Э, не, на тваіх руках няма мазалёў. Не дам табе хлеба. Пакажы ты свае рукі, — кажа



90. Н.Казакевіч. Фрагмент дэкору посцілкі з матывам Палевіка. Поразава Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл.



89. М.Чэкун. Дэкор посцілкі з матывам Палевіка. Пярэспа Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



91. Е.Марозава. Фрагмент дэкору посцілкі. Пухавіцкі р-н Мінскай вобл.



92. А.Варабей. Посцілка. Закапьныя Любанскага р-на Мінскай вобл.





другому. — О, у цябе мазалі на руках. Бяры хлеба, колькі панясеш».

Як бачым, у народзе Палевіка ўяўлялі таксама маладым, моцным, статным, блакітнавокім хлопцам, абавязкова русавалосым, што, відаць, асацыіравалася з золатам спелай нівы. Ён — яе гаспадар. Махне правай рукой — расце і таўсцее сцябло. Махне левай — выліваецца колас. Страсяне галавой — уся ніва ўсцілаецца залатымі снапамі.

Узор Палевіка за многія стагоддзі трансфармаваўся ў геаметрычны арнамент з квадратаў, прамавугольнікаў, васьмівугольнікаў і ромбаў (іл. 89, 91—93). Так, на посцілцы Н.Казакевіч (Поразава Свіслацкага р-на) Палявік паказаны ў выглядзе геаметрычных фігур самай рознай канфігурацыі (іл. 90).

## КРОПЛЯ (ДАЖДЖЫНКА)

Будзе дождж ісці — будзе хлеб расці. У гэтай народнай прымаўцы ёміста выяўлена значэнне дажджу для прыроды ў цэлым і ўраджаю ў прыватнасці. А вось замова на дождж:

Дожджык, дожджык, дзергані,  
прыязджай к нам на кані.  
Дай свежую вадзіцу,  
Дай нам цёплую расіцу.  
Хай траўка расце, хай жыта цвіце,  
хай гавяда сыцееь,  
хай парсюк таўсцееь.

(Барысаўскі р-н)



95. Узор дажджу (дажджынкі).



96. Узор дажджу.



93. Я.Глаздоўская. Посцілка. Бурбіна Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



94. Е.Падамацька. Посцілка з матывам кроплі. Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.



97. Эскіз афармлення рэстараннага меню з матывам дажджавой кроплі.

Не дзіва, што на тканых і вышываных вырабах побач з ужо разгледжанымі сімваламі ўраджаю сустракаецца і матыў, які называюць кропляю ці дажджынкаю. Ён мае выгляд пастаўленага на вугал квадрата, скампанаванага з чатырох трохвугольнікаў (іл. 94, 97). Некаторыя асаблівасці ў яго форме тлумачацца тым, што ў народзе адрознівалі дождж (Дажджбог) і дажджынку (кроплю). Праўда, высветліць розніцу не ўдалося.

Хоць узор дажджу (дажджынкі) складаецца з аднолькавых элементаў, але ўсе яны маюць сваё прызначэнне. Адзін з іх павінен забяспечваць ураджай жыта на ніве, другі — сена на лузе, трэці — паўнаводнасць рэк, чацвёрты — добрую драўніну ў лесе.





Х.Камлюк (Нароўля) узор дажджу (дажджынкі) вышыла на ручніку (іл. 95). На маё пытанне, што такое Дажджбог, яна адказала: «Гэта калі жанчыны просяць у Бога дажджу ў засуху. Тады ў нас збіралі ход, малілі Бога, запрашалі бацюшку на ніву памаліцца і асвяціць яе. ды яшчэ варажылі з жытам. Ну, а некаторыя вышывалі ўзоры дажджу ці Дажджбога. Вось і я вышыла. А што гэта — ці дождж, ці дажджынка, ці Дажджбог, мяркуйце самі. Вам лепш відаць. А мне ўсё роўна».

Узор дажджу давялося бачыць і нга ручніку Е.Чапко (Нароўля). Яна бачыла яго на работах старой бабулі, якая была эканомкаю ў памешчыка яшчэ да вайны 1812 г. На мае роспыты майстрыха патлумачыла, што адны жанчыны называюць яго дажджом, другія — Дажджбогам, але розніцы ў гэтых назвах не бачаць. Галоўнае, што такі ўзор часцей за ўсё аздабляе вырабы, якімі заклікаюць дождж у засуху.

## ВЯЛІКАЕ СОНЦА

У непасрэднай сувязі з узорам дажджу знаходзіцца і ўзор Вялікага (Складанага) Сонца, які раскрывае ўзаемаадносіны паміж Сонцам, Перуном і дажджом. Так яно і ёсць у прыродзе. Сонца награвае паветра, у ім канцэнтруецца вадзяная пара, кандэнсуецца электрычнасць, б'е пярун, грыміць гром, нарэшце, льецца дождж. Зразумела, што ў народнай свядомасці ўсё гэта звязвалася ў адзін працэс, і гэта атрымала адлюстраванне ў дэкоры вырабаў.

Здымкі з узорам Сонца (іл. 98—101) я паказваў многім ткачыхам, пытаючыся, што ён абазначае. Яны казалі, што гэта нейкі старажытны ўзор, нешта ведаць пра яго могуць хіба вельмі старыя бабулі. І толькі А.Баброва (1885 г.н., Магілёўская вобл.) сказала, што гэтым узорам ткачыхі звяртаюцца да сонца, каб яно дало дождж і не паліла так моцна зямлю.



**98.** Т.Маркава. Матыў Вялікага Сонца. Фрагмент дэкору посцілкі. Запруддзе Віцебскай вобл.



**99.** Х.Вугалева. Дэкор посцілкі з матывам Вялікага Сонца. Лукі Віцебскай вобл.



**100.** А.Баброва. Фрагмент дэкору посцілкі з матывам Вялікага Сонца. Запруддзе Віцебскай вобл.





А.Маркава (1892 г.н., Магілёўская вобл.) сказала: «Каб зразумець узор Складанага Сонца, трэба ведаць замовы варажбітак-шаптух аб ураджаі, супраць хваробы гавяды і людзей. У вышыўках узораў Складанага Сонца і ў замовах — адны і тыя ж думкі і клопаты».




**101.** Прасніца з узорам сонца. Камянецкі р-н Брэсцкай вобл.



**102.** Рай з Зямлёй-Карміцелькай.



**103.** Бог дажджу (Дажджбог).

## РАЙ, МАЦІ ЗЯМЛЯ-КАРМІЦЕЛЬКА І ДОЖДЖ

Мы ўжо ведаем, якую ролю адводзілі Раю ў народным побыце, у павышэнні ўраджайнасці нівы. Асабліва падкрэслівалася сувязь Райка з Зямлёй-Карміцелькай. Нярэдка Рай нібы пяшчотна ахоплівае сімвал Маці Зямлі-Карміцелькі (іл. 102).

А вось на посцілцы Т.Гаспадарык (Нясвіжскі р-н, гл. іл. 76) гэтыя ўзоры спалучаюцца з сімвалам дажджу. Пакроўская (Старое Сяло Віцебскага р-на), якой я паказваў здымак посцілкі, без цяжкасці патлумачыла такое суседства, паколькі ўраджай залежыць ад дажджу. Таму і суседнічаюць сімвал ураджаю і сімвал дажджу. «Я бачыла посцілкі, дзе Раёк і дождж паказаны разам. Прычым галінкі Райка нібы абдымаюць узор дажджу. А называлі гэты ўзор то цёплым дожджыкам, то Дажджбогам. Дождж — гэта Бог, Дажджбог».

Васілеўская (Мігуліна Сенненскага р-на) цэнтральны матыў на сваёй посцілцы (іл. 103) назвала Богам дажджу, Дажджбогам. Паводле павер'яў старых жанчын, Дажджбог даваў дождж. Але для гэтага трэба было прынесці яму ахвяру ці паваражыць. Варажылі так: сыпалі ў калодзеж мак; залезшы на дрэва, сыпалі ў раку жыта і казалі замову:

Дожджык, дожджык, дзіргані,  
я паеду на кані,  
Богу маліцца,  
нізка кланіцца.

А каб дождж перастаў, замаўлялі:

Дожджык, дожджык, перастань,  
я паеду на Ярдань,  
Богу маліцца,  
нізка кланіцца.

## ДОЖДЖ І СОНЦА ЯК ЗАРУКА ЎРАДЖАЮ

Былая партызанка Н.Гарбук, якая больш за два гады ваявала з фашыстамі, была паранена, пасля вайны, жывучы ў Маскве, у вольны час стала вышываць ручнікі, на якіх адлюстроўвала свае мары і думкі. «Абрыдзела ваяваць, жыць у зямлянцы, хадзіць у разведку, узрываць дарогі, забіваць. Хочацца ў сваю родную вёску, жаць жыта, касіць траву, араць ніву. Надакучыла тут жыць, хоць тут добра і кормяць няблага. Вось я і вышыла гэты ўзор. Тут і цёплае сонейка, тут і цёпленькі дожджык, хоць я ў Бога і не веру. Ды хочацца хутчэй убачыць сваю ніву з ка-





**104.** Узор дажджу.

**105.** Узор дажджу.



**106.** «Дай Бог дождж. Дай Бог ураджай жыта».



ласістым жытам. Як называюцца ўзоры? Бабка Аксіння казала, што гэта сонца і дождж. Яны даюць ураджай».

Матывы з чатырох пялёсткаў, размешчаныя ў цэнтры і па перыметры (іл. 104), майстрыха назвала ўзорам дажджу («гэта дождждык»). Вялікі крыжападобны ўзор з чатырох сегментных пялёсткаў называюць то дожджыкам, то Даждждбогам. Гэты ўзор — зварот да светлага сонейка і цёплага дожджыку, каб яны паспрыялі добраму ўраджаю.

Е.Копач (Свіслач Гродзенскай вобл., іл. 105) падобны ўзор на ручніку тлумачыла так: «Была ў нас гарачыня, смаліла сонца. Выгаралі на ніве жыта, авёс ды ячмень. Старыя людзі падказалі, і я вышыла гэты ўзор, каб даў Бог дождж».

Тут мы бачым, як узор сонца ў выглядзе вялікага ромба з адросткамі звонку аблямоўвае ўзор дажджу — крыжападобную фігуру. У свядомасці селяніна спалучэнне сонца і дажджу — зарука добрага ўраджаю. Гэта знайшло ўвасабленне і ў надпісе-звароце, які Е.Копач вышыла на ручніку: «Божанька Сонейка, Божанька Дожджык, памажы, дай ураджай жыта».

Такі ж узор з надпісам па баках «Дай Бог дождж. Дай Бог ураджай жыта» вышыла на ручніку П.Свірыдава (іл. 106) і ахвяравала яго ў мясцовую царкву.



**107.** А.Чудакова. Кашуля з узорам зерня. Кузьмінічы Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

*Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці*

Падобныя ўзоры сустракаюцца і ў іншых відах народнай мастацкай творчасці, выконваліся ў розных тэхніках і матэрыялах. Так, каля в. Стайкі Лагойскага раёна ёсць камень з адлюстраваннем сімвала дажджу ці Дажджбога. Навакольнае насельніцтва лічыць яго святым, прыносіць яму ахвяры, гаворыць замовы.

Узаемасувязь дажджу, сонца і Маці Зямлі-Карміцелькі выразна адлюстравалася ў дэкоры разблёных драўляных прасніц з Камянецкага раёна (гл. іл. 101). Усе яны маюць аднолькавы характар разьбы і блізкую кампазіцыю, сэнс якой мне растлумачыў А.Кралевіч з Камянца, аўтар адной з такіх прасніц. Даўно, калі быў малады, ён выразаў прасніцу ў падарунак Марусі, якую кахаў і затым з ёю ажаніўся. Па яго словах, тут выразаны зварот-замова да Бога і святых Сонца, Зямлі і Дажджу, просьба, каб яны далі добры ўраджай. Авось як гучыць замова: «Госпадзі Божа, памажы, светлае Сонейка, Маці Зямля сырая карміцелька, цёплы дожджык і ўсе святыя. Памажыце рабу божаму (імя), дайце яму ўраджай жыта на ніве, сытны статак у хляве. У імя Айца, сына і святога духа. Амін».

Па словах А.Кралевіча, галоўны ўзор на прасніцы — дождж. Ён мае выгляд разеткі з шасці пялёсткаў, вакол яе — кругі з трохвугольнічкаў.

Магчыма, падобная арнаментальная кампазіцыя сумяшчае тры сімвалы — сонца, зямлі і дажджу. Пра гэта сведчаць і замовы, з якімі нашы продкі звярталіся да тых, ад каго залежаў ураджай.



**108.** А.Падапінская. Ручнік з сімваламі зерня. Сенненскі р-н Віцебскай вобл.



**110.** С.Харытонцава. Фрагмент дэкору посцілкі. Уюн Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

## ЗЕРНЕ

Мы вельмі палітызавалі свае думкі, жыццё, справы, нярэдка ўслаўляем далёка не галоўнае. Так, мы часам забываем пра самае галоўнае і дарагое — хлеб, зерне. А вось у народнай свядомасці павага да зерня жыве заўсёды. А.Чудакова (Кузьмінічы Чавускага р-на) казала: «Зерне святое. Хто любіць зерне — будзе багаты і шчаслівы. Зерне мае вялікую сілу. У нас раней перад будаўніцтвам хаты асвячалі гэтае месца зернем, а потым ужо запрашалі святара. Калі маладыя ехалі вянчацца, бацька благаслаўляў іх зернем. У старыя часы зерне называлі дабром, золатам».

Мой бацька строга патрабаваў павагі да зерня, хлеба. Калі ў час абеду крошка хлеба ўпадзе пад стол — атрымаеш лыжкай па лбе. Добрая прачуханка будзе, калі не падымеш зерне, што ўпала на зямлю.



**109.** Д.Арэхва. Матыў хлеба ў дэкоры посцілкі. Баруны Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл.





**111.** Фрагмент дэкору посцілкі. Слуцкі р-н Мінскай вобл.



колькі дзён — сядзіць мужык на лаўцы і песні спявае, а цыган мёртвы на грудзе золата ляжыць.

Легенду пра хлеб расказала С.Харытонава (Уюн Быхаўскага р-на). Жыў у вёсцы стары, было ў яго тры сыны. Паклікаў ён іх і кажа: ідзіце ў людзі, павучыцеся там, як жыць, што берагчы і цаніць. Прасіце, што вам трэба на дарогу. Малодшы папрасіў золата, сярэдні — серабра, старэйшы — хлеба. І пайшлі яны ў свет. А там якраз здарыўся голад. Хочуць сыны купіць хлеба за золата ды серабро, а людзі кажуць: няма хлеба, ешце самі сваё золата. Пачаставаў іх старэйшы сваім хлебам. Вярнуліся дадому. Кажуць бацьку: мы цяпер ведаем, што даражэй за ўсё — хлеб.

«Вось я табе, дарагі масквіч, загадку



**112.** Дэкор мужчынскай кашулі з матывам хлеба. Чавускі р-н Магілёўскай вобл.

Сімвал зерня ў народнай мастацкай творчасці мае выгляд крыжыка, які амаль заўсёды дапаўняецца рознымі элементамі. На ручніку Падалінскай (Сенненскі р-н, іл. 108) кожны матыў зерня акцэнтаваны яшчэ чатырма крыжыкамі і змешчаны ў дэкаратыўную аблямоўку — стылізаваную раслінную гірлянду.

## ХЛЕБ

Я.Глаздоўская (Бурбін Сенненскага р-на) расказала такую казку. Паклікаў да сябе Бог мужыка і цыгана і папытаў, што самае дарагое на свеце. Мужык сказаў — хлеб, таму што здабываюць яго потам, без яго ніхто не можа пражыць. Цыган сказаў, што даражэй за ўсё золата, бо за яго можна купіць усё. Вось і вырашыў Бог праверыць, хто кажа праўду. Ён замкнуў селяніна і цыгана ў хатах, даў аднаму шмат хлеба, другому — золата. Паглядзеў праз

загадаю, — звярнулася да мяне М.Сярмяжка (1898 г. н., Марысіна Бярэзінскага р-на). — Што на свеце даражэй за ўсё? Што ўсяму галава? Не ведаеш? Ну дык слухай. Арэ селянін ніву, вее жыта. Паспее — сажне, змалоціць, змеле, рашчыніць цеста, а тады і хлеб атрымае. Нашто збудаваны трактарныя заводы? Каб хлеб здабываць. А робіць гэта селянін. Ёсць у вёсцы спраўны селянін — будзе хлеб, людзі накормленыя. А вось знішчылі ў нас добрага селяніна — знік і хлеб, сядзім мы паўгалодныя».

Можна было б прыводзіць нямала прыкладаў пашанотных адносін чалавека да хлеба. Не дзіва, што гэтая пашана адлюстравана і ў арнаменце. Матыў хлеба набыў выгляд шматграннікаў-кругоў ці ромбаў, устаўленых адзін у адзін. Гэты матыў вельмі пашыраны ў ткацтве, вышыўцы, аздабленні бытавых вырабаў, народнага адзення і інш. (іл. 109—118).





М.Ставер (1891 г.н., Бацэвічы Клічаўскага р-на) матыў хлеба на ручніку скампанавала з пяці ромбаў адзін у адным. У сваю чаргу кожны ромб складаецца з маленькіх ромбікаў. Майстрыха растлумачыла, што ромбікі — гэта зярняткі жыта, аснова хлеба.

## ВЕЛІЧ І ТРАГЕДЫЯ СЕЛЯНІНА-БЕЛАРУСА

Тысячагоддзі жыў, працаваў на нашай зямлі селянін-хлебароб. Ён карміў, паіў, адзяваў сябе, сваю сям'ю, дапамагаў суседзям. Ён стварыў дасканалую сістэму гаспадарання, аптымальна прыстасаваную для земляробства і жывёлагадоўлі. Пабудаваў вёскі і мястэчкі для жыцця, працы і адпачынку. Узвёў дзівосныя храмы, аздобіў іх мастацкімі творамі.

Селянін стварыў прыгожы, мудры, паэтычны фальклор, песні, музыку, святы, абрады, прымаўкі, казкі. У іх апяваецца прырода, праца, каханне, яны гранічна спалучаюцца з жыццём, звычаямі і характарам чалавека.

Селянін шанаваў сям'ю як аснову стваральнай працы, падмурак нацыі. Ён выпрацаваў рацыянальныя адносіны паміж мужам і жонкай, бацькамі і дзецьмі. З самага маленства дзеці



**113.** Я.Глаздоўская. Фрагмент дэкору посцілкі. Бурбін Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**114.** Фрагмент дэкору ручніка з узорам хлеба. Аршанскі р-н Віцебскай вобл.



**115.** Г.Ступіна. Ручнік з матывам хлеба. Мінск.





вучыліся шанаваць працу, бацькоў, старэйшых. З жыццём і працай гарманічна спалучалася сістэма святаў, прымеркаваных да пэўнага працоўнага працэсу ці пары года: Вялікдзень, Купалле, Дажынкі, Дзяды, Каляды. Абрады і святы ўзвялічвалі селяніна, упрыгожвалі яго жыццё і побыт.

Вырабляючы патрэбныя для паўсядзённага ўжытку рэчы, селянін надаваў ім і пэўныя мастацкія якасці, нярэдка пераўтвараючы ў сапраўдныя творы мастацтва. Ён аздобіў тканыя, вышываныя і іншыя вырабы арнаментальнымі ўзорамі, у якіх услаўляецца дабро, справядлівасць, прыгажосць, міласэрнасць.

Селянін любіў сваю радзіму. Калі было трэба, ён браў у рукі зброю і ішоў бараніць яе ад няпрошаных прышэльцаў.

Сялянскае асяроддзе — трывалы падмурак для ўсяго грамадства. У нетрах вёскі нараджаліся і фарміраваліся грамадскія класы: рамеснікі і воіны, рабочыя і інтэлігенцыя. З сялянства выйшлі многія дзеячы навукі, культуры, мастацтва.

Ды вось настала XIX стагоддзе. У краінах Заходняй Еўропы ўзнік марксізм — вучэнне пра дыктатуру пралетарыяту і бязлітасную класавую барацьбу. Марксізм прыжыўся ў Расіі, нарадзіўшы бальшавізм, а ў выніку — Кастрычніцкую рэвалюцыю і чырвоны тэрор. Занялалі эканоміка, культура, змяніліся маральныя каштоўнасці. У выніку не стала селяніна-працаўніка, не стала вёскі, забылася прыгожая, паэтычная сістэма поглядаў на прыроду, працу, жыццё чалавека.

**116.** Б.Буйніцкая. Дэкор посцілкі з матывам хлеба. Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл.



**118.** Ф.Баранок. Посцілка. Сеннескі р-н Віцебскай вобл.





**117.** В.Бобрык. Фрагмент дэкору посцілкі. Валожынскі р-н Мінскай вобл.

Ад першабытных часоў захаваліся досыць натуралістычныя каменныя і касцяныя жаночыя фігуркі, што звяртаюць на сябе ўвагу гіпертрафіраванымі формамі. Як відаць, тагачасныя мастакі свядома падкрэслівалі асаблівасці жанчыны-маці, вылучалі яе прызначэнне на зямлі як прадаўжальніцы жыцця.

Сустракаюцца і ўмоўныя, сімвалічныя выявы жанчыны-маці. У музеі валуноў у Мінску ёсць каменны крыж, перавезены з-пад в. Даўгінава Вілейскага раёна. Амаль двухметровай вышыні, ён вырашаны ў выглядзе груба апрацаванай жаночай фігуры, у якой на ўзроўні жывата адлюстравана такая ж умоўная крыжападобная фігура дзіцяці (іл. 120). Добры знаўца камянёў, аўтар кнігі «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны» Э.Ляўкоў лічыць, што гэта язычніцкая скульптура жанчыны-маці.

З прыняццем хрысціянства падобным чынам сталі вырашаць вобраз Аранты, якую таксама паказваюць з дзіцем на грудзях.

Вобраз маці з дзіцем характэрны, відаць, для мастацтва ўсяго свету, але ў беларусаў карыстаецца асаблівай любоўю. Магчыма, таму, што працавіты, міралюбівы беларускі народ, які ніколі ні на каго не нападаў, сам не раз цярпеў ад варожых нашэсцяў, якія неслі на беларускую зямлю спусташэнні і смерць. Ратавала народ ад канчатковай пагібелі толькі здольнасць жанчыны нараджаць. Таму і ўслаўлялі нашы продкі жанчыну-маці, упрыгожваючы яе стылізаваным сімвалам многія свае вырабы.

У тканым і вышываным арнаментах вобраз Маці сустракаецца ў трох варыянтах: у выглядзе жаночай фігуры (іл. 121), аблямаванай гірляндаю зорак (іл. 122) і схематычна вырашанага дрэва (дрэва жыцця, іл. 123). Нярэдка вобраз суправаджаецца сімваламі сонца, месяца, агню, ветру. Гэтым майстрыхі падкрэслівалі раўназначнасць вобразаў.

Такое спалучэнне мы бачым на ручніку А.Панушкінай (Клімавічы Сенненскага р-на, гл. іл. 121), які яна вышыла нібыта па парадзе вядомага археолага і этнографа К.Анікіевіча, аўтара кнігі пра Сенненскі павет. Верхні радок дэкору ўтвараюць велічныя фігуры маці, ніжэй размяшчаюцца сімвалы багацця, агню, продка, ветру і грому. Падобная кампазіцыя (толькі мацней стылізавана фігура маці ды іначай размешчаны сімвалы) і на ручніку А.Бялькевіч з Мар'інай Горкі (іл. 124).

П.Трызна (Сенненскі р-н) побач з сімвалам маці змясціла сонечны знак у выглядзе ромба з адросткамі (іл. 125). Маці, як і сонца, дае жыццё — такая думка майстрыхі. «Гэты ўзор маці, — казала П.Трызна, — я вышыла, калі ўзялі мужа на турэцкую вайну. Каб Бог вярнуў яго жывым і здаровым». Такое ж сімвалічнае адлюстраванне маці давялося бачыць і на ручніку В.Свентахоўскай з Смалянаў (іл. 126).

Складаная карціна ўзаемаадносін вобраза маці і прыродных сіл адлюстравана на ручніку А.Баравік з Шаркоўшчынскага раёна (іл. 127). Кожны радок арнаменту змяшчае па 4 фігуры-сімвалы: верхні — маці, ніжэй у кожным радку змешчаны папарна сімвалы месяца і продкаў, Перуна і Стрыбога, Сонца і агню, продкаў і месяца, нарэшце, ніжні радок — сімвал Бога ветру Стрыбога.

Ручнік з падобнымі ўзорамі бабуля Ефрасіння з Шаркоўшчыны выкарыстоўвала для варажбы. Ноччу яна выходзіла ў сад, рассцілала на стале ручнік і, параўноўваючы размяшчэнне зорак на небе і ўзораў на ручніку,



**119.** Каменная выява маці з дзіцем. Кобрын. Старыя



**120.** Каменны крыж з-пад Даўгінава. Выява жанчыны-маці з дзіцем.





вызначала лёс чалавека ці лячыла хворых.

На ручніку варажыла і Н.Куневіч з Нароўлі. Кожны радок узору на ім змяшчаў па пяць сімвалаў Багіні-Маці, Сонца, Зоркі і Месяца (іл. 128). Паводле сцвярджэння майстрыхі, «гэты ручнік мае вялікую, тайную сілу. Ён дапамагае даведацца пра лёс чалавека, лечыць ад хваробы, адводзіць намовы, праганяе сурокі і пошасць. А робіцца так. Бяру ў дзяўчыны валасы, спальваю іх, попел сыплю на ручнік, разасланы ноччу ў садзе. Гляджу на зоркі ў небе і на ручнік, якія лініі і зігзагі на ім утварыліся. Па іх і вызначаю, ці трэба дзеўцы замуж выходзіць. А калі хлопец яе пакахаў, трэба попелам ад валасоў пасыпаць узоры на ручніку, сабраць попел і даць яго выпіць з вадой хлопцу. Любоў будзе моцная і вечная».

**121.** А.Панушкіна. Ручнік. Клімавічы Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

**123.** Вобраз Маці ў выглядзе дрэва жыцця.











**125.** Сімвал Маці са знакам Сонца.





**124.** А.Бялькевіч. Ручнік. Мар'іна Горка Мінскай вобл.

**122.** Фрагмент дэкору посцілкі з сімвалам Маці.







**127.** А.Баравік. Ручнік. Запруддзе Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.



**129.** Фрагмент посцілкі з сімваламі Маці. Жабінкаўскі р-н Брэсцкай вобл.



**128.** Сімвалы Багіні-Маці, сонца, зоркі і месяца на ручніку Н.Куневіч з Нароўлі.



**126.** Сімвал Маці на ручніку В.Свентахоўскай з Смалянаў.



**131.** Г.Палішчук. Фрагмент дэкору посцілкі. Макраны Капыльскага р-на Мінскай вобл.



**130.** Фрагмент дэкору посцілкі з матывам маці. Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл.







132. А.Аляксейчык. Фрагмент дэкору посцілкі. Чавускі р-н Магілёўскай вобл.

## МАЦІ-ЗОРКА

Вобраз Маці як сімвал любові і міласэрнасці ў дэкоры тканых і вышываных вырабаў вельмі часты. У яго аснове — васьміканцовая зорка, што абазначае чалавека, асобу. Абламоўвае яе гірлянда з кветак, што падкрэслівае веліч маці, яе асаблівую ролю ва ўзнаўленні і прадаўжэнні жыцця (іл. 132). Звычайна зорка суправаджаецца чатырма крыжыкамі — пажаданнямі дабра і шчасця. Гэта як словы «добры дзень», «будзь здаровы» і інш.

На пытанне, навошта зорка абламоўваецца вянком, Т.Аляксейчык (Магілёўская вобл.) сказала: «Вянок — гэта слава маці, любоў і павага да яе. Маці — самы дарагі і любімы чалавек. А галубы ўнізе абазначаюць любоў людзей да маці».

К.Смірнова (Горкі) і А.Стук (Сенненскі р-н) вобраз маці вырашылі ў выглядзе дрэва (іл. 133). Зоркі па канцах галін абазначаюць жывых дзяцей, свечкі — памерлых. Майстрыхі нібы просяць Бога даць здароўе і шчасце іх дзецям, а тым, каго ўжо няма, — вечны спакой.

Я.Хвораст (Гомельская вобл.), якой стары настаўнік сказаў, што маці, якая цябе нарадзіла вышэй за Маці Божую, вышыла на ручніку яе сімвал у выглядзе дрэва жыцця (іл. 134). Мясцовы ксёндз, пачуўшы пра гэта, дакараў майстрыху, угаворваў яе спаліць ручнік, маўляў, самая вялікая святая — Маці Божая. Але майстрыха захавала ручнік. Па яе словах, у цэнтры вышыта Маці-Радзіцельніца, а па баках — дрэва жыцця, хоць яны і мала адрозніваюцца між сабою.

Як відаць, у народзе нейкім чынам звязваюць між сабою вобраз маці і адлюстраванне дрэва жыцця. Магчыма, тут ёсць нейкая сувязь прамаці Евы з дрэвам пазнання дабра і зла.

134. Я.Хвораст. Ручнік з узорам Маці.

133. Узор Маці ў выглядзе дрэва жыцця.





## МАЦІ-АРАНТА

Арыгінальнае спалучэнне язычніцкіх вераванняў і хрысціянскай сімволікі давялося бачыць на вышываным абразку «Маці-Радзіцельніца» ў магілёўскім манастыры Уваскрэсення Хрыста. Вышыла яго манашка Наста паводле заказу жонкі прадвадзіцеля дваранства Гартынскага. Тая замольвала вялікі грэх: сілаю прымусіла сваю дачку пайсці замуж за нялюбага. З гора дачка ўтапілася, стала русалкаю, а няшчасная маці ахвяравала ў манастыр дарагі абраз, на якім адлюстравана маці ў выглядзе Аранты з узнятымі рукамі, на ўзроўні жывата — дзіця.

Вобраз Аранты — Маці-Багіні з узнятымі рукамі — добра вядомы ў хрысціянскім мастацтве. У тканых і вышываных вырабах народных майстрых ён досыць умоўны, схематызаваны, але таксама па-свойму ўрачысты



135. І.Кляновіч. Ручнік з матывам Аранты. Паставы Віцебскай вобл.

і манументальны (іл. 135). Часам побач з ім — выявы, у якіх угадваюцца алтары, свечкі і іншыя атрыбуты ахвярапрынашэння (іл. 136). Можна меркаваць, што доўгі час хрысціянская Маці-Аранта «наведвала» і язычніцкія капішчы.

## ДАЙ, БОЖА, ЗДАРОЎЯ І ШЧАСЦЯ

Дабрабыт, шчасце, моцная гаспадарка, добрая сям'я, здаровыя дзеці — адвечныя мары і клопаты беларуса-хлебароба. Ды не заўсёды гэтыя спадзяванні збываліся: то войны, то варожыя нашэсці, то эпідэміі, то рэвалюцыі, то неўраджаі. Але селянін не даходзіў да адчаю, зноў і зноў засяваў ніву, ствараў сям'ю, гадаваў дзяцей. А каб спорылася праца, каб не брала ніякае ліха, звяртаўся з просьбаю да багоў — і хрысціянскіх, і язычніцкіх. Досыць пашыраная форма такога звароту — ахвярны ручнік, вытканы ці вышыты за адзін дзень і навязаны на крыж ці падораны ў царкву. Пра адну такую ахвяру і пойдзе гаворка.

У 20-я гады, пасля войнаў, рэвалюцый, разбурэнняў, паслухаўшыся парады старой бабкі, паўсотні жанчын і дзяўчат Калінкавічаў сабраліся і за адзін дзень вышылі ручнік, у дэкоры якога ў вобразнай форме зашыфраваны зварот да багоў-заступнікаў з просьбаю абараніць ад голаду, холаду, хваробаў і пошасці. Кожная з майстрых звярталася са сваёю просьбаю, але ў цэлым атрымалася прадуманая, адмысловая кампазіцыя, сапраўдная паэма пра мары і спадзяванні народа.

У 1935 годзе, калі мне давялося пачуць гісторыю пра ручнік-ахвяру, удалося адшукаць толькі адну непасрэдную ўдзельніцу яго стварэння — А.Пранько. Яна і ўзнавіла па памяці кампазіцыю твора (іл. 139).



**137.** А.Сцяпко. Ручнік. Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл.

**136.** А.Міхайлава. Ручнік з сімвалам Аранты. Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл.





**138.** Ручнік. Віцебшчына.

У першым (верхнім) радзе — Маці-Багіня, Маці ўсіх людзей у выглядзе велічных фігур з узнятымі рукамі. На ўзроўні грудзей — ромб з крыжыкам, сімвал дзіцяці. Фігуры стаяць паабапал дрэва жыцця, тут жа і чатыры васьмі-канцовыя матывы, сімвалічнае абазначэнне дзяцей.

У другім радзе падобныя жаночыя фігуры абазначаюць святую Каляду. Два ромбы па цэнтры — узор калядак, сімвал багацця і дабрабыту. Чатыры рамбічныя фігуры, падзеленыя кожная на чатыры часткі, — сімвал сям'і, аснова ўсяго народнага жыцця.

У трэцім радзе жаночыя фігуркі вылучаюцца зграбнасцю і стройнасцю. Аказваецца, гэта сімвалы Купалінкі. Вышывалі іх маладыя дзяўчаты, якія прасілі ў Купалінкі добрага суджанага, шчасця ў шлюбе. Дрэўца ў цэнтры — кветка-папараць, адвечны сімвал шчасця, па баках — купальскія вянкі.

Ніжні рад завяршае ўзор-просьба пра сям'ю, шчасце, здароўе. Чатыры жаночыя фігуркі, што сімвалізуюць абаронцу шлюбу і сям'і, чаргуюцца з сімваламі дзяцей. Над імі нейкія нязвыклыя знакі, што нагадваюць карону. Аказваецца, гэта і ёсць карона, пад якою вянчаюцца ў храме. Яна — сімвал моцнай, шчаслівай сям'і. А добрая сям'я — аснова дабрабыту і шчаслівага жыцця. Усё гэта ў паэтычнай форме і паспрабавалі перадаць вышывальшчыцы на ручніку-ахвяры.



**139.** Узоры на ручніку-ахвяры з Калінкавічаў.



**140.** Г.Ульяновіч. Ручнік. Круляўшчызна Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл.

## ПАРАСКЕВА-ПЯТНІЦА

Г.Ульяновіч (1902 г.н., Круляўшчызна Ваўкавыскага р-на) расказвала: «Перад самым вяселлем я захварэла. Спужалася: як буду хворай вянчацца? Бабка Аксіння параіла звярнуцца з просьбаю да Параскевы-Пятніцы. Я і вышыла гэты ручнік (іл. 140). Верхні радок вянцоў — гэта блаславенне Параскевы-Пятніцы, другі радок — царкоўныя вянцы, блаславенне святара. А





каб была моцная сям'я, трэба яшчэ блаславенне маці і бацькі. Таму ў ніжнім радзе і вышыта іх блаславенне — каравай ці бохан хлеба».

Тыя ж турботы кіравалі і Н.Паўлавай з Брагіна, калі яна вышывала падобны ручнік. «Я моцна захварэла. Каб вылечыцца, вышыла вобраз Параскевы-Пятніцы на ручніку. Узоры ўзяла ў бабкі Нупрэіхі, ёй было 90 гадоў. Кароны над галавой Параскевы — гэта каб была моцная сям'я, добрыя і здаровыя дзеці».

Як вядома, вобраз Параскевы-Пятніцы здаўна папулярны ў народзе як сімвал моцнай, здаровай, заможнай сям'і. Так, на абодвух ручніках мы



**141.** В.Гурбан. Посцілка. Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.

бачым стылізаваныя сімвалы караваю, якім бацькі благаслаўляюць маладых. На карунках трохпялёсткавыя кветкі, гэта купальская трава, якая лічыцца гаючай, умацоўвае шлюб і сям'ю. Такім чынам, уся кампазіцыя падпарадкавана ідэі ўмацавання сям'і.

У 1927 г. група ткачых арганізавала ў Талачыне ткацка-вышывальную арцель. Традыцыйныя арнаментаваныя вырабы разыходзіліся ў наваколлі, траплялі на выстаўкі. Арцельшчыцы прымалі ўдзел у афармленні беларускага павільёна ВДНГ СССР, шмат вырабаў падрыхтавалі да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 г.

Некаторыя майстрыхі былі знаёмыя з вядомым беларускім этнографам Е.Раманавым. Пад яго ўплывам Свентахоўская, Лугоўская, Бакштаева, Ікрыновіч стваралі посцілкі, ручнікі, абрусы з узорамі паводле матываў славянскай міфалогіі, язычніцкіх багоў: Сонца, Вялікай багіні Маці-Зямлі, Перуна, Параскевы-Пятніцы і інш.

Цікавы ручнік А.Свентахоўскай з узорам Параскевы-Пятніцы (іл. 143). У талачынскай царкве быў абраз з гэтым сюжэтам. Дзяк казаў, што святая дапа-



**142.** І.Дзеранок. Ручнік. Неглюбка Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.

магае жанчынам, мацуе сям'ю і шлюб, таму варта было б ахвяраваць на абраз вышываны ручнік. «Я і вышыла ручнік з Параскевай-Пятніцай. Абавязкова над

яе галавою павінна быць вянчальная карона, а на галаве — вянок з кветак», — гаварыла А.Свентахоўская.

Параскева-Пятніца — адзіная язычніцкая багіня, уключаная ў пантэон праваслаўных святых. У народзе яна карысталася асаблівай любоўю як жаночая заступніца, абаронца сям'і, апякунка жаночага рукадзелля. Пра дабрыню і міласэрнасць Параскевы-Пятніцы бытуе шмат легенд. Вось адна з іх. Ідзе па вуліцы проста адзетая Параскева-Пятніца, а насустрач ёй — бедная старая сялянка. Аддала ёй Параскева сваё адзенне, завяла дадому, дала хлеба на дарогу. А вось яшчэ. Ідзе па полі Параскева-Пятніца, бачыць, жанчына на жніве раджае. Дапамагла ёй Параскева радзіць, узяла дзіця на рукі, завяла жанчыну да сябе, накарміла, паклала спаць. Я.Алфер (1908 г.н., Груздава Пастаўскага р-на) расказвала легенду, згодна з якой Параскева-Пятніца вылечыла працалюбівую, добрую маці і пакарала гультайку, нядбайную да дзяцей.

Не дзіва, што абразы з Параскевай-Пятніцай можна бачыць у многіх беларускіх храмах, прычым нярэдка яны выкананы мясцовымі майстрамі, у тым ліку і вышывальшчыцамі. Адзін такі абраз, шыты рознакаляровымі ніткамі, я бачыў у царкве на вайсковых могілках у Мінску і нават гаварыў з аўтарам, М.Паскрэбкай (1868 г.н.) з в. Жыцькава Барысаўскага раёна. «Параскеву-Пятніцу я вельмі шаную, — казала мне майстрыха. — Яна мне дапамагала, думаю, і яшчэ паможа. А вянчальная карона на абразе для таго, каб Параскева блаславіла мой шлюб».

Фотаздымкі ручнікоў з Параскевай-Пятніцай я паказваў А.Шыдлоўскай



**143.** А.Свентахоўская. Ручнік. Талачын Аршанскага р-на Віцебскай вобл.



**144.** Ручнік. Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл.





(1890 г.н.) з Латыгаля Вілейскага раёна. «У нас некаторыя жанчыны лічаць, што Параскева-Пятніца — самая лепшая памочніца ў здароўі, — казала яна. — Трэба вышыць яе абраз ці паставіць ёй свечку і памаліцца ў царкве. Бачыла я падобныя ручнікі, усе яны аднолькавыя. Што тут вышыта? У цэнтры — сама Параскева, над ёю карона, якой вянчаюць у царкве. Гэта на добрую сям'ю. А зоркі ўнізе абазначаюць нявесту і жаніха, яны просяць у Параскевы шчасця, багацця, добрага жыцця. Некаторыя вераць, што Параскева памагае людзям нават па смерці, пасля яе благаславення чакае рай».

Г.Бялевіч (1882 г.н., Маладзечна) вышыла ручнік у 1914 годзе, калі на вайну ўзялі яе мужа Сцяпана. «Я давала ў царкву грошы на малебен за здароўе мужа, ставіла свечку, хадзіла да варажбітак, — успамінала яна. — А



147. В.Караткевіч. Фрагмент посцілкі. Клецкі р-н Мінскай вобл.

146. А.Харошка. Дэкор ручніка з сімвалам Параскевы-Пятніцы. Віцебская вобл.



145. Посцілка з сімвалам Параскевы-Пятніцы. Нямойта Сенненскага р-на Віцебскай вобл.





148. А.Паўлоўская. Дэкор мужчынскай кашулі. Лужкі Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.

яшчэ вышыла ручнік у царкву. Усё, што тут вышыта, для таго, каб Параскева-Пятніца адвяла смерць ад майго мужа. Кажуць, што Параскева — дачка Сонца і Маці-Зямлі. Таму яна мае вялікую сілу ў лячэнні».

Акрамя даволі рэалістычных, як на абразах, ці моцна стылізаваных, як на ўжо адзначаных ручніках, у народным ткацтве сустракаецца і вельмі ўмоўны сімвал Параскевы-Пятніцы — у выглядзе зоркі, аблямаванай гірляндай з кветак, у цэнтры — крыжык (іл. 144, 146—148). Звычайна ён дапаўняецца сімваламі сям'і, хлеба, пажаданнямі багацця і шчасця.

А.Няфёд (Нямойта Сенненскага р-на) мела такую посцілку, атрыманую як падарунак на сваім вяселлі. Посцілка





была для яе нібыта абярэг: Параскева-Пятніца ў выглядзе зорак апекавалася шчаслівым замужжам, моцнай сям'ёю, стылізаваныя рогі абяцалі дабрабыт (іл. 145). Шкада, што гэтыя спадзяванні не збыліся.

І.Анціпава з Дуброўны расказала, як аднойчы заспрачаліся жанчыны, што лепш — паставіць у царкве перад абразом Параскевы-Пятніцы свечку ці вышыць ручнік з яе сімвалам. За суддзю ўзялі святара. Паставілі свечкі перад абразом, вышылі ручнік. Перамоканых не аказалася, святой усё прыйшлося па душы.

Удалае спалучэнне язычніцкай і хрысціянскай дабрадзейнасці тлумачыць тую папулярнасць, якой карыстаўся вобраз Параскевы-Пятніцы ў народзе.

## МАЦІ І ДЗІЦЯ

Найвышэйшае ўвасабленне любові, дабрыні і прыгажосці — маці і дзіця, якія натхнялі майстроў і мастакоў усіх часоў і народаў. Не маглі не звярнуцца да гэтых вобразаў і беларускія ткачыхі і вышывальшчыцы.

Паэму пра мацярынства мы бачым на посцілцы К.Пятровіч (1872 г.н., Бельск-Падляскі, Польшча). Аснову сімвала Маці складае зорка, што абазначае чалавека. Але тут гэты вобраз прыўзняты, узвялічаны, дзякуючы яркаму, пышнаму вянку-гірляндзе вакол зоркі. У сукупнасці ўтвараецца ўзвышаны, светлы вобраз мацярынства. Саквіты, урачысты каларыт узмацняе гэтае адчуванне.

**149.** Сімвал дзіцяці.



Д.Яскевіч (1869 г.н., Ліда) на ручніку вышыла сімвал дзіцяці (іл. 149). «У гэтым ручніку я хацела выказаць сваю любоў, любоў маці да немаўлятка, — тлумачыла яна. — Нямала клопатаў прыносяць дзеці, але ж не менш і радасці, шчасця. Дзеці робяць наша жыццё шчаслівым. Не разумею тых жанчын, якія не любяць і не хочуць мець дзяцей. Няшчасныя яны...»

М.Шыдловіч (1871 г.н., Ваўкавыск) змясціла на ручніку сімвалы Берагіні, дзіцяці і абярэга (іл. 150): «Вышыла я гэты ручнік, каб Маці - берагіня аберагала ад няшчасця майго Колю». Як відаць, у народзе Берагіня асацыіравалася са словам «берагчы», аберагала маці і дзіця ад няшчасцяў.

«У мяне двое старшых дзяцей памерлі, — казала Е.Моркаўка (Влaдава, Польшча). — Баюся, каб не памерла і Соня. Я і вышыла два ручнікі з узорам дзіцяці (іл. 151). Адзін занесла ў царкву і павесіла на абраз Маці Божай, а другі — на магілу дзеда». Яна ж расказала і легенду пра Берагіню. Нібыта ідзе тая полем, бачыць, жанчына жне жыта, побач — дзіця ў калысцы. Берагіня напаіла і накарміла жняю, угаварыла яе адпачыць, а сама ўзяла серп і зжала ўсю ніву. Ідзе Берагіня па вёсцы. Нідзе ні душы, усе ў полі. Толькі ў адной хаце плача дзіця. Берагіня напаіла, накарміла яго малаком, паклала спаць. У другой вёсцы бачыць, як п'яны мужык б'е жонку і раве, як мядзведзь. Берагіня і кажа: «Ты па-звярынаму адносішся да жонкі, дык жа і будзь зверам, жыві ў лесе і раві, як мядзведзь». Вось адкуль і пайшлі злыя мядзведзі. Яны ходзяць зімою і нападаюць на людзей.

«У мяне пакуль няма дзяцей, — казала А.Мялешка (1869 г.н.). — Сумую і гарую, але спадзяюся, што будуць. Быў адзін, ды памёр. Вось і на ручніку маім — Берагіня, ніжэй — маці, потым — дзіця і абярэг (іл. 152). Дзе-

**150.** Сімвал Берагіні, дзіцяці і абярэга.

**151.** Е.Моркаўка. Дэкор ручніка з узорам дзіцяці. Брэсцкая вобл.





**152.** Берагіня, маці, дзіця, абярэг.

ці — мая любоў, мая радасць, надзея на будучае. Дзіўлюся, няўжо ёсць такія жанчыны, што не любяць дзяцей, не хочуць іх мець. Кожная жанчына павінна раджаць, мець дзяцей. Інакш — якая ж гэта жанчына?» На жаль, у наш час далёка не ўсе жанчыны кіруюцца гэтымі мудрымі меркаваннямі.

«У старыя часы, — казала Е.Малько (1850 г.н., Мсціслаў), — жанчыны і мужчыны лічылі, што нараджэнне дзіцяці — дар Бога, выяўленне божай літасці. Калі Бог хоча блаславіць жанчыну, ён пасылае ёй у дар дзіця. Таму ў старыя часы найбольш шанаванай, найбольш паважанай была багіня Маці-Радзіцельніца, Маці-Родапачынальніца. Яна нарадзіла і выхавала ўсіх нас, дала нам самае дарагое — жыццё».

Старая настаўніца, пеўчая на клірасе, прапаведніца слова божага, глыбока смуткавала, гаравала з-за той нянавісці, злосці, што распаўсюджваюцца сярод люду. «Гэта ўсё навука д'ябла, — казала яна. — Ён сее сярод грэшных людзей варожасць. Гэта вядзе да забойстваў, гвалту, разбурэнняў, хваробаў. І калі б Маці-Радзіцельніца не раджала дзяцей, даўно б знік род людскі, усе б людзі вымерлі».

Е.Малько шкадавала тых жанчын, якія не могуць ці не хочуць раджаць: «Яны пазбаўлены боскай любові, боскага дару, не адчуваюць вышэйшага шчасця — даваць жыццё чалавеку. Яны штодзённа адчуваюць уплыў сатаны».

Свае адносіны да Маці-Радзіцельніцы майстрыха выказала ў арнаменце ручніка, асноўнае месца ў якім займае сімвалічнае дрэва. Зоркі па канцах галін — малітва за чалавека, разеткі — памяць пра памерлых, свечкі — ахвяры Богу (іл. 153).

У Н.Поклач (Калінкавічы) услаўленне маці набыло іншую форму. Узор на сваім ручніку яна назвала «Маці сярод зорак» (іл. 154). Вобраз маці яна параўноўвае з нябеснымі свяцiламі.

## МАЦІ-РАДЗІЦЕЛЬНІЦА

Гэты ўзор прыцягваў маю ўвагу даўно. Велічнае дрэва, адмысловая форма галін з дзівоснымі пладамі, свечкамі, птушкамі хавалі нейкую таямніцу (іл. 155). Узор я паказваў знаўцу старажытнарускага мастацтва А.Някрасаву, археолагу А.Гарадцову. Абодва пагаджаліся, што гэта вельмі цікава, ды, на жаль, сімволіку разгадаць немагчыма.

І ўсё ж зрабіць гэта ўдалося. А дапа-



**154.** «Маці сярод зорак».

**153.** Дрэва — сімвал Маці-Радзіцельніцы.





**155.** Ручнік з выявай Маці-Радзіцельніцы. Магілёўская вобл.



**156.** Сімвал парадзіхі — падсвечнік з запаленымі свечкамі.

магла мне І.Младэк з Брагіна. Па яе словах, узор абазначае Маці-Радзіцельніцу.

Майстрыха і сама вышывала падобны матыў. Яна мела 8 унукаў і вельмі баялася за іх здароўе, паколькі суседскія дзеці мерлі адзін за адным. Мясцовая шаптуха і параіла ёй вышыць сімвал парадзіхі ў выглядзе падсвечніка з запаленымі свечкамі — на кожнага ўнука па галіне са свечкамі (іл. 156). Як бачым, гэты падсвечнік больш нагадвае магутнае дрэва. У такім выглядзе ён паказаны і на падвойным дыване Г.Крысько з Беластока: «У мяне 6 дзяцей — 3 хлопцы і 3 дзеўкі. Вельмі ж я хацела, каб яны ўсе былі здаровыя. Па падказцы старых вышыла ручнік з узорам Маці-Радзіцельніцы, міласэрнай маці. На падсвечніку 6 свечак — па адной на дзіця. А яшчэ тут 6 птушак. Гэта таксама, каб дзеці



**157.** Фрагмент дэкору старадаўняга гродзенскага дывана.



**158.** Узор Маці-Радзіцельніцы.

былі здаровыя. Усе свечкі гараць, як зоркі на небе. Мае надзеі спраўдзіліся, усе дзеці здаровыя» (іл. 158).

Вобраз маці — адзін з самых шанаваных і ў хрысціянскім мастацтве. Жанчына з узнятымі рукамі і дзіцём у авале на ўзроўні жывата — гэта і ёсць хрысціянізаваны вобраз Маці-Радзіцельніцы, распрацоўка ўжо вядомых нам выяваў на язычніцкіх камянях з Кобрына і Даўгінава. Вельмі часта ён сустракаецца на вышываных абразах (іл. 159). А.Кавальчук (Канатоп Нараўлянскага р-на) казала, што бачыла шмат такіх абразоў, вышытых манашкамі, а сялянкі куплялі такія абразы, каб хутчэй скончылася вайна, а муж, бацька, брат ці жаніх вярнуліся з яе жывымі і здаровымі.

Вобраз маці, парадзіхі яўна ўзыходзіць да часоў матрыярхату. У тыя неспакойныя часы бясконцых сутычак, варажнечы, рабункаў праблема выжывання роду, племені была ці не галоўнай. Вобраз Маці-Радзіцельніцы,





родапачынальніцы, даваў надзею, што род не загіне.

Гэты вобраз шанаваўся і ў пазнейшыя часы, натхняў на стварэнне вялікай сям'і. Яшчэ не так даўно сям'я з 10—12 чалавек была звычайнай. Бяздзетныя сем'і былі рэдкасцю і лічыліся няшчаснымі, пакаранымі Богам.

Сёння нашы погляды на сям'ю моцна змяніліся. Самы раз успомніць старажытны, шанаваны нашымі мудрымі продкамі вобраз Вялікай багіні Маці-Радзіцельніцы.

## БЕРАГІНЯ

Неадназначныя меркаванні выклікаў у мяне і ўзор на ручніку Р.Міхайлавай з Запруддзя Шаркоўшчынскага раёна (іл. 160). Усё высветлілася пасля таго, як на мае вочы трапіў амаль такі ж ручнік М.Сыраватнікавай (1897 г.н., Плітніца Чэрыкаўскага р-на). Вось яе расказ: «Гэты ўзор я ўзяла ў бабулі-шаптухі, якая помніла прыгон. Дык вось яна сказала, што ўзор завецца Берагіня, што ў Старым Сяле была крыніца, звалі яе крыніцай Берагіні. Вада ў ёй была святой, лекавай, людзі хадзілі да крыніцы лячыцца. Тая ж бабка расказала, што вышыта на ручніку. У верхнім радзе — сама багіня Берагіня. Унізе — вазоны з кветкамі, завуць іх жаночым шчасцем. Гэта просьба да Берагіні, каб яна дала шчасце. А што абазначае вялікі ўзор у цэнтры і ўзоры ў выглядзе жучкоў, я не ведаю, забыла папытаць у бабкі».

Каля в. Нямойта Сенненскага раёна паблізу рэчкі Паланянкі была крыніца.



160. Р.Міхайлава. Ручнік. Запруддзе Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.




159. Шыты золатам абраз XVII стагоддзя.





161. Старадаўні ручнік з выявай Берагіні. Віцебшчына.





Старыя называлі яе крыніцай Берагіні, верылі ў яе гаючую сілу, асабліва ў адносінах жаночых хвароб. Трэба толькі пакупацца ў крыніцы і папіць яе вады.

Мастак Белмастпрамсавета Г.Ступіна казала, што на ручніку адлюстравана язычніцкае капішча ў гонар Берагіні. А маленькія ўзоры накшталт жучкоў называюцца абярэгамі.

Падобны ўзор можна бачыць і на ручніку з Віленскага этнаграфічнага музея (іл. 161). А.Баброва і Н.Шыраева (1895 г.н., Хойнікі), ручнікі якіх мелі амаль такі ж узор, расказалі мне, што гэта Берагіня. Верхні рад займаюць ма-жныя жаночыя фігуры ў пышных андараках, ніжэй — матывы накшталт жучкоў. Гэта своеасаблівыя абярэгі жанчыны ад няшчасцяў, абярэгі Бера-гіні.

В.Кузьмянок (1898 г.н., Стракавічы Светлагорскага р-на) вышыла тры ручнікі з Параскевай-Пятніцай, Берагі-няй і Маці-Радзіцельніцай. «Параскеву-Пятніцу, — казала яна, — я вышыла, каб мая сям'я была моцнай, а муж добрым. Берагіня зберажэ ад хвароб, а Маці-Радзіцельніца — каб былі добрыя дзеці».

Вобраз Берагіні — адзін з най-старажытных у пантэоне славянскіх багоў. Як Параскева-Пятніца і Маці-Радзіцельніца, Берагіня выяўляе даўнія народныя імкненні забяспечыць шчаслівую і здаровую сям'ю, здароўе маці і дзіцяці, адвесці ад іх няшчасці і хваробы. Паводле павер'яў, Берагіня





**165.** Г.Кушнерчык. Фрагмент посцілкі. Бабруйск Магілёўскай вобл.

**164.** М.Каўтунова. Фрагмент дэкору посцілкі. Неглюбка Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.



**162.** Посцілка з узорам роднай Маці. Гомельская вобл.



**163.** Матыў роднай Маці на посцілцы з Пінშчыны.

вясною клапоціцца, каб жанчына-сялянка не галадала, летам — каб не захварэла ад цяжкай працы, восенню памагае ёй пры родах, а зімою абагравае яе і дзетак (Чавускі р-н).

## РОДНАЯ МАЦІ

На тканых вырабах у розных кутках Беларусі і за яе межамі можна бачыць ужо вядомы нам узор зорку, змешчаную ў падобную зорку большага памеру, а потым — у васьмівугольную аблямоўку (іл. 162—165). Ткачыхі называюць гэты матыў сімвалам роднай Маці, што ўвасабляе самую вялікую і бескарыслівую любоў, якая толькі можа быць на свеце.

А.Страявая (Камянецкі р-н) так растлумачыла ўзор: «Зорка ў зорцы — гэта любоў маці да дзяцей, памножаная на любоў дзяцей да маці. Гэта любоў у квадраце».

Вельмі ёмістае вызначэнне. Сапраўды, на гэтай любові трымаецца жыццё на зямлі.

## ВЯЛІКАЯ БАГІНЯ МАЦІ-ЗЯМЛЯ

Акрамя маці-жанчыны ў народным ткацтве пашыраны яшчэ адзін вобраз маці — Вялікай багіні Маці-Зямлі. Яго асноўныя варыянты — багіня Маці-Зямля ў зорках (на небе), багіня Маці-Зямля ў сонцы (з сонцам) і багіня Маці Зямля-Карміцелька (ніва).

Ручнік з кампазіцыяй і малюнкам, як на ручніку А.Міхайлавай (Шаркоўшчынскі р-н, іл. 166), мне ўпершыню давялося бачыць у 1939 г. ў Заходняй Беларусі. Адмысловыя загадкавыя ўзоры на ручніку хавалі нейкую таямніцу. Адны казалі мне, што тут адлюстравана вяселле, другія называлі ручнік астралагічным — гадаць па зорках. Несумненным было толькі тое, што ў аснове ўзору — вобраз маці.

Наблізіцца да разгадкі дапамагла Л.Карташ (1904 г.н., Кажан-Гарадок Лунінецкага р-на), якая вышыла на ручніку Вялікую багіню Маці-Зямлю, нябесныя свяцілы, Перуна і Стрыбога: «Вышыла я гэты ручнік, каб улагодзіць багіню Маці-Зямлю, каб яна вярнула мне здароўе. А зоркі і сонца — каб паказаць яе моц і сілу, што яна тут самая галоўная над усім на свеце».

Вядомая ткачыха, арганізатар і кіраўнік арцеляў вышыўкі і ткацтва ў Віцебску А.Пакроўская, на ручніку якой ужо вядомая нам кампазіцыя, так патлумачыла яе: «Мая работа паўтарае ручнік Міхайлавай. У верхнім радзе — некалькі фігур Вялікай багіні Маці-Зямлі, ніжэй — сонца, зоркі, агонь, сімвалы продкаў, багацця, волата. Гэтая кампазіцыя выяўляе погляды сялянкі на свет. У цэнтры яго стаіць зямля, усе зоркі і сонца круцяцца вакол. Калі я вучылася ў гімназіі, нам казалі, што раней думалі, быццам зямля з'яўляецца цэнтрам сусвету. І толькі пасля Каперніка стала вядома, што гэта не так. Вось гэты колішні погляд на зямлю як на цэнтр сусвету і паказваюць узоры на ручніках».

У гэтых узорах, вышытых непісьменнымі сялянкамі, глыбокая народная мудрасць пра законы прыроды, будову свету. Простыя ўзоры перадаюць сапраўды філасофскія думкі.

Здаўна чалавека хвалявала таямніца ператварэння халоднай зімы з яе марамі і снегам у цёплую, сонечную вясну. Рана ці позна людзі сталі звязваць гэта з раз'яднаннем сонца і зямлі зімою і збліжэннем іх вясною. Гэтыя працэсы паэтычна адлюстраваны ў народных песнях. Вось адна з іх, запісаная ад А.Серады (Семежава



**166.** А.Міхайлава. Ручнік. Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл.









168. А.Іванова. Ручнік з вобразам Маці-Зямлі ў зорках. Нароўля Гомельскай вобл.



169. А.Гарнак. Фрагмент дэкору абруса. Сянно Віцебская вобл.

Капыльскага р-на), якая ў сваю чаргу пачула яе ад старца Ануфрыя:

Прачнулася Сонца рана, дзянніцай,
умылася янтарнай расіцай,
клікнула спазаранку красную дзявіцу,
зару-зараніцу:
«Ляці на быстрых крыллях
быстрэй ветра буйнага,
нясі вестачку мацеры-зямліцы:
напаю зямліцу чыстай вадзіцай,
сагрэю цёплым спарэннем,
асвячу яркім праменнем,
асвабаджу маці-зямліцу
ад лютых марозаў.



170. Яднанне сонца і зямлі.

Прачніся, прачніся, маці-зямліца,
хай цячэ вадзіца,
хай адкрываецца крыніца,
хай расце траўка-мураўка,
хай цвітуць сады-прысады,
хай спеюць вішні-вінаграды».
Маці-зямля прачнулася,
яснаму сонцу ўсміхнулася,
нізка светламу пакланілася,
сонцу яснаму павінілася.

Майстрыхі прыдумалі, як проста і даступна выказаць моваю ўзору збліжэнне сонца і зямлі, у выніку чаго абуджаецца і квітнее прырода. Сонца яны адлюстравалі ромбам з прамянямі-адросткамі. Багіня Маці-Зямля паказваецца таксама ромбам, але з адросткамі ўнутр. А каб паказаць яднанне сонца і зямлі, сімвал сонца змяшчаецца ўнутр сімвала зямлі (іл. 168). Яны выконваюцца рознымі колерамі (напрыклад, белым і чырвоным) і сплятаюцца ў вельмі прыгожы, кампазіцыйна і тэхналагічна выверany рамбічны матыў, пашыраны ў народным ткацтве і вышыўцы (іл. 170), які нясе глыбокую сэнсавую нагрузку.

Трэба адзначыць шматграннасць і разнастайнасць асэнсавання гэтага вобраза ў народнай свядомасці. У адных выпадках зямля разглядаецца як нябеснае цела і тады супастаўляецца з сонцам, месяцам, зоркамі. У другіх яна асэнсоўваецца як аснова жыцця прыроды і тады разам з сонцам выступае галоўным суб'ектам гадавога цыкла прыроды, змены пораў года. У трэціх зямля — аснова жыцця чалавека ў прыродзе, ніва, якая яго корміць, Маці-Карміцелька.

А.Сідарэнка (1889 г.н., Чавускі р-н) расказвала, што яе бабуля Хрысціна, якая яшчэ памятала французаў, называла галоўнымі багамі Маці-Зямлю і





171. К.Бачыла. Фрагмент дэкору посцілкі. Багушоўка Гродзенскага р-на.



172. Г.Ступіна. Дарожка з сімвалам багіні Маці-Зямлі. Мінск.



173. Фрагмент дэкору ручніка. Бруёўка Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл.



174. Дэкор ручніка з матывам Маці-Зямлі. Глыбокае Віцебскай вобл.

Бацьку-Сонца. Ад іх пайшло ўсё жыццё — і людзей, і прыроды.

А вось легенда пра тое, як Бацька-Сонца і Маці-Зямля стварылі Вясну, Ярылу і Купалінку. Хадзіў Бог па зямлі ў старых, стаптаных лапцях, дранай свіце і аблезлай аўчыннай аблавушцы. Бачыць ён, як бедна жывецца людзям на зямлі, холадна і галадна ім. І не ведае Бог, чым дапамагчы. Паслаў ён тады на зямлю сваіх прарокаў — Іллю, Пятра, Паўла ды Міколу. І тыя нічым народу не памаглі. Тады Бацька-Сонца і Маці-Зямля стварылі Вясну, Ярылу і Купалінку. Вясну — для цяпла і кветак, Ярылу — для росту жыта на ніве, Купалінку — каб весялей жылося, хацелася спяваць і скакаць. Вось і ўся казка. Вось і мы пяем гэтыя песні і гуляем (запісана ад У.Скітовіч, 1881 г.н., Магілёўская вобл.).

У пачатку XVII ст. ў Вільні выйшла кніга «Тлумачэнне багінь славянскіх» («Wyklad bogin slowienskich») з вельмі характэрнай гравюрай. У яе цэнтры — вялікі круг, сімвал неба. У яго верхняй частцы змешчана сонца з чалавечым абліччам, ніжэй — крылатая жанчына з каронаю на галаве і факеламі ў руках. Па баках адмысловымі хвалямі ўздымаецца паверхня, відаць, сімвал узаранай зямлі, вобраз багіні Маці-Зямлі. У мастацкай форме тут адлюстравана старажытная народная легенда пра збліжэнне сонца і зямлі, у выніку чаго прырода абуджаецца ад зімовага сну. Гэта ж мы бачым і ў народным ткацтве, хоць і ў больш умоўным вырашэнні.

Праўда, аўтар кнігі М.Пашкоўскі тлумачыць гравюру іначай. Ён звязвае яе са з'яўленнем над Кракавам у 1608

г. каметы, што нібыта і адлюстравана на гравюры. Далей ён развівае ідэю пра чатыры залатыя вякі ў гісторыі чалавецтва, піша пра тыя часы, калі ўсе людзі жылі ў міры і згодзе, усюды панавалі любоў і дабрыня. Аўтар асуджае зло, нянавісць, войны, рабаўніцтва, характэрныя для грамадства. Паказальна, што імкненне да шчасця і справядлівасці ён звязвае з язычніцкім міфам пра панаванне ў свеце і прыродзе Бога Сонца і Багіні Зямлі.



**175.** Фрагмент дэкору ручніка. Любанічы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.





**177.** Э.Кавалеўская. Дэкор абруса з матывам Зямлі-Карміцелькі, Рая і Спарыша. Заполле Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

**178.** А.Кладневіч. Дэкор посцілкі з узорам нівы. Азёры Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.



**176.** Узор багіні Маці-Зямлі. Вялікія Чучавічы Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.

## ЗЯМЛЯ-КАРМІЦЕЛЬКА (НІВА)

Мы разгледзелі адзін з варыянтаў увасаблення Вялікай багіні Маці-Зямлі ў выглядзе жаночай фігуры. Але ў народнай свядомасці зямля — гэта яшчэ і проста ніва, што корміць, надзел, пра які заўсёды марыў селянін і з якім звязваў уласны дабрабыт. Усе народы ва ўсе часы ўспрымалі зямлю як аснову жыцця, карміцельку, а што ўжо казаць пра беларуса-земляроба! Народная прымаўка добра адлюстроўвае гэта: зямелька — матка наша, яна корміць, поіць і адзявае нас.

Сімвал Зямлі-Карміцелькі як нівы, зямельнага надзелу ў народным ткац-





**179.** А.Пратасеня. Абрус з матывамі Зямлі-Карміцелькі, Рая і Спарыша. Магілёўская вобл.

**180.** Посцілка з сімваламі Зямлі-Карміцелькі.

**181.** Б.Карміліна. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам Зямлі-Карміцелькі. Магілёўская вобл.







тве набыў выгляд ромба з маленькіх квадрацікаў ці ромбікаў (іл. 178). Гэта нібы зярняткі, роўна засеяныя на полі дбайнай рукою селяніна. Звычайна гэты ўзор спалучаецца з іншымі, ужо вядомымі нам сімваламі ўраджаю (іл. 179).

Так у простых, але вобразных формах народ увасабляў адвечную прагу араць зямлю, сеяць зерне, збіраць ураджай.



**182.** А.Буйніцкая. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам нівы. Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл.



**183.** Пояс з узорам Зямлі-Карміцелькі. Магілёўская вобл.



**184.** Посцілка з матывам Зямлі-Карміцелькі. Мінская вобл.



Шмат перажыла Беларусь за сваю тысячагадовую гісторыю. Нашы міралюбівыя, працавітыя продкі ніколі ні з кім не ваявалі, у міры і дружбе жылі са сваімі суседзямі. Жылі ўласнай працай, не ўзбагачаліся за чужы кошт. А колькі цярпелі самі! І ад нападаў чужынцаў, і ад сталінскіх катаў, і ад апалячвання, і ад русіфікацыі. А калі станавілася невыносна, ад гора і нястачы ўцякалі ў казацтва на Дняпро ці Дон, у Амерыку. І ўсё ж любоў да сваёй роднай Беларусі была вышэй за ўсё, нават у эмігрантаў яна на ўсё жыццё заставалася самым святым пачуццём. Адлюстравалася гэтая любоў і ў народнай мастацкай творчасці:

Бедная мая галовачка,
што чужая старonaчка:
няма брата, ні сястрыцы,
ні з кім стрэцца, гаварыці.
Прыхінулася я к явару,
прыхінулася к зялёнаму.
Яворачка — мой татачка,
яворачка — мой брацейка,
шуміць, гудзіць, не гамоніць,
да зямелькі вецце клоніць.
Бедная мая галовачка,
што чужая старонaчка.

(Жніўныя песні. Мн., 1974. С. 313.)



**185.** Узор роднай Беларусі.



**186.** Н.Шыдлоўская. Посцілка «Родная Беларусь». Латыголава Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

Узор роднай Беларусі ў ткацтве перадаецца ў выглядзе разеткі, аблямаванай гірляндай кветак (гл. іл. 186). Такі матыў у беларускім народным ткацтве вельмі часты. Бачым мы яго і на посцілцы Г.Пяткевіч (1859 г.н.)

з Свіслачы Гродзенскай вобласці (іл. 185). «Калі было паўстанне супраць царскага самадзяржаўя, мне было 5 гадоў, — расказвала яна. — Смутна помню той час. Але ад старых ведала, што Кастусь Каліноўскі вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. Ён і казаў, што родная Беларусь жыве ў горы і галечы, што трэба вызваляцца ад самадзяржаўя. Я выткала посцілку, а мне доктар сказаў, што яна пра родную Беларусь, што ўзор гэты азначае родную Беларусь. Пачуўшы гэта, я парадавалася. Выткала яшчэ адну такую ж і падаравала яе доктару. Аказалася, што ён — сын сасланага ў Сібір паўстанца».

У 30-я гады шмат гаварылася і пісалася пра вызваленне Заходняй Беларусі, далучэнне яе да адзінай сям'і. Агульны патрыятычны настрой падзялялі і жанчыны-ткачыхі, адлюстроўваючы гэта на сваіх посцілках, ручніках і іншых вырабах.

Былі, праўда, і скептыкі. Патрыятычныя посцілкі? Родная Беларусь на посцілках? Ды гэтыя жанчыны толькі і думаюць, што пра багаты ўраджай, сытую жывёлу ды каб добра паесці.

Захацелася самому праверыць, ці так гэта. Пытаюся ў Н. Шыдлоўскай (1861 г.н.) з Латыголава Сенненскага раёна, чаму яна ўзор на сваёй посцілцы (іл. 186) назвала роднай Беларуссю. «А таму, — адказала яна, — што я люблю родную Беларусь, ганаруся ёю. Таму, што ўсе гаворац і пішуць пра родную Беларусь. Вось я і выткала пра гэта посцілку. А ўзор гэты ведаюць многія нашы бабкі».

Вось табе і «добра паесці»...

«Ёсць такія настаўнікі, якія саромеюцца ці баяцца гаварыць, што наша родная Беларусь цудоўная, што наш народ добры, гасцінны і высакародны, — казала мне старая настаўніца Свірыдава з Лёзна. — А я вось заўеёды кажу гэта. Цяпер я ўжо не настаўніца, старая і хворая. Дык вось і рашыла выткаць посцілку з узорам роднай Беларусі». І яна паказала



**187.** С.Тур. Фрагмент посцілкі. Бакшты Валожынскага р-на Мінскай вобл.





**188.** Н.Свірыдава. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам роднай Беларусі. Лезна Віцебскай вобл.

**189.** Г.Арцюхова. Фрагмент дэкору посцілкі. Шылькі Сенненскага р-на Віцебскай вобл.





сваю работу, якая зязла ўсімі колерамі вясёлкі і сапраўды адпавядала нашай прыгожай радзіме (іл. 188). Па сіле сваёй вобразнасці яна не саступала творам станковага мастацтва.

Гэткай жа прыгажосцю і мажорнасцю каларыстыкі вызначаецца і посцілка А.Кацар з Клімавічаў Сенненскага раёна (іл. 190). На маё захапленне майстрыха адказала: «Я ведаю, што такое патрыятызм. Я люблю сваю родную Беларусь, таму і выткала гэтую посцілку: хай людзі любуюцца прыгажосцю і яшчэ больш любяць сваю Беларусь. А любоў гэтую мне прывіў Нікіфар Кацар, мой дваюрадны брат, мой татусь і настаўнік. Быў ён дырэктарам саўгаса на Любаншчыне, у сваіх выступленнях высока адзываўся пра беларускага селяніна як шчырага працаўніка і патрыёта. Не пераэжыў праследаванняў і паклёпаў, павесіўся на гарышчы».

У Клімавічах адшукаў я яшчэ адну такую ж посцілку. Выткала яе А.Харошка. Узор скампанаваны з квадратаў і кругоў і абазначаў, па словах ткачыхі, тое ж — родную Беларусь.

Гэты матыў стаў асноўным і ў дэкоры посцілкі А.Савельевай з Талачына, вытканай спецыяльна да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 годзе (іл. 192). Твор ацанілі вельмі высока, называлі яго каштоўнасцю, сапраўднай жамчужынай выстаўкі. Шкада, здымак фрагмента не дае поўнага ўяўлення пра мастацкія якасці гэтай сапраўды выдатнай работы.

Вядома, далёка не заўсёды простая сялянка-ткачыха можа словамі выказаць свае пачуцці да радзімы, роднага краю. Паказальная размова адбылася ў мяне ў 1939 годзе ў Круляўшчызне пад Ваўкавыскам, дзе я ўбачыў посцілку Г.Ульяновіч (1895 г.н.) з узорам роднай Беларусі (іл. 194). Яе суседка скептычна заўважыла, што тая нават слова «патрыятызм» не ведае і не разумее. Пытаю пра гэта майстрыху — сапраўды не



**190.** А.Кацар. Посцілка з узорам роднай Беларусі. Клімавічы Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**191.** А.Захарэвіч. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам роднай Беларусі. Ціміразева Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**192.** А.Савельева. Фрагмент дэкору посцілкі. Талачын Віцебскай вобл.









**193.** Н.Мурашка. Посцілка. Сянно Віцебскай вобл.

**194.** Г.Ульяновіч. Посцілка з узорам роднай Беларусі. Круляўшчызна Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл.

ведае («мо, з патрыярхам звязана?»). Затое пачуў, што яна ў вайну праявіла гераізм. Як жа так? «А таму, што люблю сваю родную Беларусь, гатова за яе жыццё аддаць». Вось так не на словах, а на справе майстрыха праявіла сапраўдны патрыятызм.

Узор радзімы, роднай Беларусі вышыла на ручніку Ф.Лукашэвіч (Сенненскі р-н, іл. 196). «Кожны чалавек, — казала яна, — любіць сваю радзіму. Паляк — сваю, француз — Францыю. А мы любім сваю родную, прыгожую, працалюбівую Беларусь». Яна ж растлумачыла і матывы сваёй вышыўкі. Прамавугольнік з квадратаў — наша Зямля-Карміцелька. Чатыры квадрацікі паабапал — узор сонца. Кругавы матыў — гэта гір-



**195.** Посцілка. Месткавічы Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

**196.** Узор Радзімы.



**197.** А.Ціханская. Посцілка з узорам Радзімы. Нямойта Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**198.** І.Пярповіч. Посцілка з узорам роднай Беларусі. Ярцава Смаленскай вобл.



лянда з кветак у гонар нашай роднай Беларусі. Падобны ўзор з такім жа тлумачэннем сэнсу матываў давялося пабачыць у васьмідзесяцігадовай А.Ціханскай (Сенненскі р-н, іл. 197).

Успамінаецца, як для экспазіцыі беларускага павільёна Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі былі прапанаваны тры цудоўныя посцілкі з узорам роднай Беларусі. І я, і мастак М.Філіповіч лічылі, што іх абавязкова трэба ўключыць у экспазіцыю, бо яны з'яўляюцца высокамастацкімі творамі, сведчаць пра таленавітасць беларускага народа, яго любоў да роднай Беларусі. Аднак галоўны мастак павільёна П.Гаўрыленка рашуча запярэчыў, быў супраць уключэння посцілак у экспазіцыю. Беларус, маўляў, павінен любіць сваю Беларусь, як і далёкую Камчатку. Калі ж нехта кажа, што любіць Беларусь, значыць, ён не любіць СССР. А гэта ўжо буржуазны нацыяналізм. Гэта ўжо небяспечна...

На шчасце, сёння мы пачынаем пакрысе вызваляцца ад гэтых колішніх стэрэатыпаў. А колькі шкоды яны нарабілі!

## РЭЧКА

Для многіх ткачых любоў да сваёй Бацькаўшчыны звязваецца з любоўю да нечага канкрэтнага, што яны бачаць штодзённа: лесу, рэчкі, поля. Часам гэтыя паняцці абазначаюцца вельмі характэрным матывам, але нярэдка больш звужаны сэнс укладваецца і ва ўжо вядомы нам узор роднай Беларусі. Да першага можна аднесці матыў ракі, да другога — крыніцы.

Наўрад ці трэба казаць, якую ролю адыгрывалі рэкі ў жыцці нашых продкаў. Сяліліся яны пераважна на берагах рэк, карміліся з іх, рэкі былі для іх дарогамі. Матыў ракі часта гучыць у песнях, легендах, казках, сустракаецца і ў народным мастацкім ткацтве, найчасцей на посцілках. Мае ён выгляд папярочных палос, якія нагадваюць рабізну на вадзе (іл. 199). Відаць, значна пазней такі старажытны і просты дэкор дапоўніўся дарожкамі яркага стрэлападобнага арнаменту — як хвалі на вадзе ад свежага ветру (іл. 200).

**199.** А.Ярашэвіч. Посцілка з узорам ракі. Поразава Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл.





**200.** Я.Юшкевіч. Посцілка. Шаўдзіны Лідскага р-на Гродзенскай вобл.







**201.** Г.Пяткевіч. Фрагмент дэкору ручніка з матывам крыніцы. Свіслач Гродзенскай вобл.

## КРЫНІЦА

У старыя часы, калі нашы продкі яшчэ не ўмелі капаць калодзежы, чыстую ваду яны бралі з крыніц. Гэта было святое месца. Нашы продкі-язычнікі каля крыніц рабілі свае капішчы. Сляды іх знаходзяць сёння якраз каля крыніц — ці яшчэ жывых, ці даўно перасохлых.

Крынічная вада лічылася карыснай, гаючай, чароўнай. У крыніцах такая вада, казалі ў народзе, што калі чалавек яе нап'ецца, будзе дужы ды здаровы. У Акцябрскім раёне бытавала такая легенда: жанчына, у якой доўга не было дзяцей, выкупалася ў крыніцы і нарадзіла прыгожанькую дачку.

А вось своеасаблівая паэма пра крыніцу, якую расказала М.Салавей (1840 г.н., Рудабелка Гомельскай вобл.):

Каля рэчкі, на прыгорку,
там цякла крыніца.
Там дубок стаіць дуплісты,
корнем караністы.
Ў той крыніцы, яр-ярыцы,
святая вадзіца.
Ў той крыніцы твар памыла,
стала маладзіцай,
Стала тая маладзіца краснаю дзявіцай.
Яе лічка — жар-зарніца,
вочкі ярчэй зорак.

У вуснапаэтычнай народнай творчасці крыніца — гэта сімвал жыццёвай



**202.** Л.Тарарака. Посцілка. Рэчкі Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.



**204.** А.Шылько. Посцілка з узорам крыніцы. Пярэспа Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**203.** Посцілка. Лідскі р-н Гродзенскай вобл.





сілы, моцы, здароўя. У казках і легендах крынічная вада ажыўляла, вылечвала асілкаў, змагароў за народнае шчасце, давалі ім цудадзейную сілу. Крыніца — гэта і своеасаблівы сімвал духоўнасці, яднання з роднай зямлёю.

Відаць, нездарма ў народным ткацтве матыў крыніцы нярэдка амаль такі ж, як і адзін з варыянтаў сімвалу роднай зямлі, роднай Беларусі. «Узор крыніцы складаецца з трох частак, — казала А.Чубарэвіч з Шклова. — У сярэдзіне крыжык, ён акружаецца кубікамі. Ну а вакол кубікаў — цаглінкі».

Г.Пяткевіч (1859 г.н.), якая свой ручнік аздобіла падобнымі ўзорамі (іл. 201), тлумачыла: «Крыніца — гэта ўсё роўна, што царква ці школа. Гэта святая, божая справа. Вялікі грэх у ваду, у крыніцу пляваць, кідаць што папала.



**205.** А.Шылько. Фрагмент дэкору посцілкі. Пярэспа Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

За гэта Бог карае. Я ўбрала сваю крыніцу кветкамі, барвінкам: хай ведаюць, як я яе шаную. Яна вылечыла маё дзіцятка».

Гэты матыў у народным ткацтве досыць пашыраны і любімы. Найбольш дасканалы яго варыянт уяўляе сабой кампазіцыю з квадрацікаў і прамавугольнічкаў, якія нібы «разбягаюцца» ад цэнтраў, мігацяць і пераліваюцца ў вачах (іл. 202—205). Нездарма такі ўзор як тыпова беларускі часта выкарыстоўваюць для афармлення рознай друкаванай прадукцыі: кніг, плакатаў, адрасоў, запрашальных білетаў, паштовак і інш.

Шкада, што не шануем мы сёння жыватворных крыніц. Запусцілі, запаскудзілі, а то і зусім знішчылі амаль усё, таму і няма ўжо чысціні ў нашых рэках і азёрах. Якія ж мы гаспадары на сваёй зямлі?!

## ВАДА

Шанаваліся не толькі крыніцы, але і наогул вада. З вадою звязваліся многія павер'і і замовы. Вось адна з іх: «Ты ж, царыца-вадзіца, прякрасная дзявіца, божая памочніца, вадзіца-васточніца, усяму свету памочніца» (Романов Е. Белорусский сборник. Віцебск, 1891. Вып. 5. С. 16).

«Узор вады складаецца нібы з кругоў, — каменціравала ўзор на посцілцы Е.Пракаповіч з Асінаўкі Аршанскага раёна. — Кругі гэтыя



**206.** М.Ярмоп. Ручнік. Путнікі Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.



**207.** А.Казакевіч. Посцілка з узорам вады. Поразава Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл.







**208.** Фрагмент дэкору посцілкі. Горкі Магілёўскай вобл.

**209.** Н.Бялова. Посцілка з узорам вады. Калінкавічы Гомельскай вобл.

робяцца з цаглінак і клетак. Усярэдзіне яны большыя, а да берагоў — меншыя. Яны падобныя на тыя кругі, якія бываюць, калі ў ваду кінуць камень».

Вельмі вобразнае вызначэнне. Сапраўды, папулярны ў беларускім ткацтве матыў вельмі нагадвае ўсім вядомую з'яву (іл. 206—209). Як бачым, ён часта абазначаў і крыніцу, і ваду нагул.

## ВАДЗЯНІК

Калі ёсць крыніца, рэчка, возера і ўвогуле вада, значыць, павінен быць і яе гаспадар. У народных павер'ях гэта Вадзянік. Кожны вір мае свайго Вадзяніка, верылі ў народзе. Ён добры, як вада, калі яе шануюць, і злосны,



**210.** Т.Іспянкова. Фрагмент дэкору посцілкі з сімвалам Вадзяніка.



бязлітасны, як тая ж вада, калі яе зневажаюць.

У 1937 годзе ў Хойніках я запісаў такую легенду пра ваду і Вадзяніка. Мужык выкінуў у раку нейкі бруд. Калі ён потым прыйшоў набраць вады, Вадзянік схапіў яго і ўтапіў. Легенда легендай, але шанаваць ваду, як шанавалі нашы продкі, трэба.

Майстар-разьбяр С.Чубарэвіч з в. Расна Сенненскага раёна выразаў скульптуру Вадзяніка ў выглядзе старога, абраслага мохам і цінаю. Ён трымае за руку маладую дзяўчыну-русалку. Відаць, разьбяр увасобіў тут вядомую на Беларусі легенду пра каханне Вадзяніка і русалкі.





Здаўна бытавала павер'е, што чалавек ніколі не ўтопіцца, калі будзе насіць адзенне з узорам Вадзяніка. Можа, таму гэтым узорам часцей за ўсё аздабляліся мужчынскія і жаночыя кашулі. Сам жа ўзор складаецца з геаметрычных Х-падобных матываў (іл. 210).

## ЛЕС, БОР, ДУБРОВА

Жыццё нашых продкаў было цесна звязана з лесам, які і цяпер займае трэць тэрыторыі Беларусі. А раней лясы былі яшчэ больш велічныя і прыгожыя. Лес даваў дрэва на будаўніцтва і розныя вырабы, карміў грыбамі і ягадамі, ачышчаў паветра, насычаў яго кіслародам, нарэшце, аздабляў зямлю. Таму ў народнай творчасці так часта апяваюцца лес ці дрэвы: магутны волат-дуб, пяшчотная дзяўчына-бяроза, гаротная сірата-каліна, прыгожая ўдавіца-рабіна, удалы малойца-клён ці явар.

Лес мы бачым і на многіх тканых вырабах. Звычайна гэта некалькі радоў досыць пазнавальных матываў, якія нагадваюць магутнае дрэва, хутчэй за ўсё дуб (іл. 211—213), з якім звязаны шматлікія народныя павер'і. Такі ўзор



**212.** Посцілка з узорам лесу, бору, дубровы.



**211.** Г.Паляшчук. Посцілка з узорам лесу. Макраны Капыльскага р-на Мінскай вобл.



**213.** П.Міхайлава. Посцілка з узорам лесу, бору, дубровы. Шклоў Магілёўскай вобл.



214. Д.Балабошка. Посцілка з узорам Лесавіка. Бесава Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.



215. Е.Кабачэўская. Узор Лесавіка. Беліца Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

часта так і называюць — дуб, бор, дуброва, лес.

## ЛЕСАВІК

У лесе павінен быць гаспадар, паводле старажытных уяўленняў славян — Лесавік, герой казак, легенд, розных страшных баек. Ён уяўляўся людзям магутным асілкам, якому няцяжка зламаць тоўстае дрэва. Галава яго як крона дрэва. Адзеты ён у звярыныя шкуры. Рукі і ногі тоўстыя, як ствалы дрэў. Ён гучна рагоча, калі вясёлы, воўкам вые, калі сумуе, раве, як мядзведзь, калі злосны (Богданович А. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродна, 1895. С. 78).

Часам на тканых і вышываных вырабах можна бачыць матыў у выглядзе стройнай елкі (іл. 214). Гэта і ёсць Лесавік, як ён бачыўся майстрыхам. Як казала В.Ярашэвіч з Багушэўска, Лесавік моцны, як дуб, высокі, як сасна, махнаты, як елка. Ён любіць елку, гэта яго дом. Не аспрэчваючы гэтага, А.Кучынская з Сянна дадавала, што выгляд Лесавіка можа мяняцца: з мядзведзем ён як мядзведзь, з зайцам — як заяц, з сарокай — як сарока. Такія ўяўленні арыгінальна спалучыліся ў тканых вырабах з Сенненскага раёна. Так, Т.Міклушова з Багданава, А.Кабачэўская з Беліцы ўзор Лесавіка на посцілках выткалі ў выглядзе ваўка, з спіны якога вырастае елка (іл. 215).

216. Ручнік. Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл.







## ПРЫРОДА БЕЛАРУСІ

Цудоўная наша прырода. Гэта і магутныя лясы і дубровы, блакітныя рэкі і азёры, маляўнічыя лугі і сады, прасторныя палі і нівы. Багаты жывёльны і раслінны свет. У гэтым разнастайным і шчодрым свеце прыроды арганічна і натуральна пачуваўся чалавек. Ён шанаваў прыроду, услаўляў яе прыгажосць і шчодрасць у казках, песнях, легендах, звычаях, павер'ях. І прырода плаціла яму ўзаемнасцю. Можна казаць пра даўняе адзінства чалавека і прыроды. Вось як гэта адлюстравана ў народнай песні:

Не сячы, мой татулька,
ля дарожкі бярозку.
Не бяры, мая матулька,
у крыніцы вадзіцы.
Не шчыпі, мая сястрыца,
у садочку цвяточкі.
Не касі, мой братачка,
у лужочку асочку.
Ля дарожкі бярозка —
я сама маладая.
У крыніцы вадзіца —
мае дробныя слёзкі.
У садочку цвяточкі — мае сінія вочкі.
У лужочку асочка — мае русыя косы.

Гэтае адзінства з прыродай, любоў да яе выявілася і ў народным мастацкім ткацтве. На посцілках, ручніках, дарожках і іншых вырабах — і кветкі, і травы, і жывёлы, і птушкі. Асаблівай квяцістасцю вызначаюцца вырабы апошніх дзесяцігоддзяў, калі ў народным мастацтве сталі забывацца сімвалічныя матывы геаметрычнага характару, а на першы план выйшла дэкаратыўнасць, якая часам пераходзіць у натуралізм. Асабліва гэта выяўляецца ў посцілках з расліннымі матывамі. Часам яны цалкам укрыты рознакаляровым дыванам, у якім лёгка пазнаюцца канкрэтныя расліны. Асабліва папулярныя і любімыя ружы (іл. 217).

Вельмі пашыраны раслінныя матывы ў адвольнай вышыўцы гладдзю, якая і сёння карыстаецца папулярнасцю, асабліва на Палессі. Часамі інтэр'ер нагадвае казачны райскі сад: усё ў доме ўкрыта і ўвешана вышыванымі рэчамі з раслціннымі матывамі. Як відаць, родная прырода цешыць вока чалавека і «ў натуры», і ў яго творчасці.

## ПОЛЕ, ЛУГ, СЕНАЖАЦЬ

Нашы палі заўсёды прыгожыя. І калі пераліваюцца разнатраўем, і калі залацяцца спелым жытам. Акружаюць іх лясы і дубровы, праразаюць ручаі і рэчкі. А з полем суседнічаюць і лугі — зялёныя, скошаныя ці квяцістыя, стракатыя. Уся гэтая прыгажосць не магла не натхняць ткачых.

«Усю прыгажосць лугу, — казала П.Шабека з Багушэўска, — з яго зялёнай травой, блакітнымі васількамі, жоўтымі адуванчыкамі, песняй жаваранка, мяккімі промнямі сонца, пахам кветак я за сваё дзявочае жыццё сабрала і змясціла на свае посцілкі».

У Старым Сяле (Чавускі р-н) і яго на-



**217.** М.Кукла. Дыван. Працуцічы Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл.





ваколлі давялося бачыць шмат такіх посцілак. На мае пытанні, чаму такая прыхільнасць да падобных матываў, Н.Астрэйка (1885 г.н.) сказала: «Я люблю родную Беларусь, люблю нашу прыгожую прыроду. Таму і паказваю яе на сваіх посцілках».

Асаблівасці дэкору мне тлумачыла К.Шыліна з Старога Сяла: «Калі на посцілцы шмат кветак ды красак — гэта сад ці луг. А калі зялёныя дрэвы — гэта ўжо лес».



**218.** В.Кулда. Фрагмент дэкору абруса. Жукойні Астравецкага р-на Гродзенскай вобл.



**219.** М.Кавальчык. Фрагмент дэкору посцілкі. Магілёўская вобл.







**220.** С.Жук. Дыван. Слуцкі р-н Мінскай вобл.

**221.** Ф.А.Чуміла. Дыван.

**222.** Фрагмент дэкору посцілкі. Слуцкі р-н Мінскай вобл.









223. Н.Карака. Фрагмент дэкору посцілкі. Омгавічы Слуцкага р-на Мінскай вобл.

224. Г.Смалярчук. Фрагмент дэкору посцілкі. Магілёўская вобл.

## ЗЯЛЁНЫ САД

Мая маці мела цудоўны голас і часта з вялікім пачуццём спявала песню пра закаханых дзяўчыну і хлопца. А прыпеў там быў — «зялёны сад, вішнёвы». Яна ж выткала посцілку, дзе быў гэты зялёны сад з вішнямі ў квецені.

Посцілкі з матывамі зялёнага саду ці не найбольш маляўнічыя, шматфарбныя, мажорныя сярод такіх узораў народнай мастацкай творчасці (іл. 224—225). Яны нібыта зараджаюць бадзёрасцю і энергіяй. Ці не таму такія посцілкі часта ўключаліся ў пасаг маладой, імі часта засцілалі ложкі.

## ЖЫВЁЛЫ

Жывёлы здаўна суправаджалі чалавека. Спачатку дзікія, потым — прыручаныя, свойскія. Жывёлы кармілі і адзявалі чалавека, дапамагалі яму ў працы, ахоўвалі жыллё. Чалавек ведаў звычкі і норавы дзікіх і свойскіх жывёл, выкарыстоўваў гэта ў бытавых і гаспадарчых мэтах. Бытавалі павер'і, што жывёлы ўмеюць гаварыць, і калі

225. Б.Буйніцкая. Фрагмент дэкору посцілкі. Гродзенская вобл.

226. П.Біляк. Посцілка з матывам аленя.







227. Г.Федарэнка. Фрагмент дэкору посцілкі. Крычаў Магілёўскай вобл.



228. А.Кучынская. Фрагмент посцілкі. Сянно Віцебскай вобл.



229. М.Грушэвіч. Посцілка «Алені». Магілёўская вобл.

чалавек зразумее іх мову, ён стане мудрым і багатым.

Кожная жывёліна ў народным уяўленні была ўвасабленнем пэўных якасцей. Воўк — злосны і каварны, ліса — спрытная і хітрая, кот — ласкавы і добры, конь — працалюбівы, мядзведзь — грубы, але справядлівы. Яшчэ і сёння ў народзе бытуюць розныя звязаныя з жывёламі павер'і: кот мыецца — чакай гасцей, заяц ці кот перабеглі дарогу — будзе бяда, крумкач каркае — няшчасце накліча, воўк вые каля жылля — прадказвае смерць, бусел пасяліўся на сядзібе — на шчасце.

Усё гэта — водгукі далёкай старажытнасці, калі жывёлы былі і ворагамі, і сябрамі чалавека. Нашы продкі верылі, што тая ці іншая жывёліна можа не



230. М.Крукоўская. Дэкор ручніка з матывам зайца. Мінская вобл.

толькі наклікаць бяду, але і засцерагчы ад яе, абараніць жыллё ад нячыстай сілы. Часам для гэтага было дастаткова схематызаванага адлюстравання жывёлы ці нават часткі яе. Вось і ўпрыгожвалі нашы продкі вільчакі сваіх хат конскімі галовамі, каровінымі рагамі, сілуэтамі змей, а сальнічку ці чарпак выразалі ў выглядзе качкі.

Не абышлі гэтую тэматыку і ткачыхі. На посцілках, асабліва апошніх дзесяцігоддзяў, мы бачым цэлы звярынец: алені, ільвы, каты, зайцы і інш. На старажытных тканых вырабах з іх пераважна геаметрычнай арнаментыкай матывы жывёл калі і сустракаліся, то моцна стылізаваліся і выконвалі, несумненна, сімвалічную, ахоўную ролю. На сучасных тканых вырабах мы нярэдка бачым амаль натуралістычныя

**231.** Н.Ермакова. Дыван. Магілёўская вобл.

сілуэты розных жывёл, якія арганічна ўключаюцца ў шматфарбную, багата распрацаваную карціну прыроды (іл. 226—230). Ахоўная роля сёння ім, вядома, ужо не прыпісваецца, гэта чыста дэкаратыўныя матывы, якімі ткачыхі ўзбагачаюць сваё бачанне прыроды Беларусі.

## ПТУШКІ

Найбольш поўным выразнікам лірычных і паэтычных настрояў у народнай мастацкай творчасці былі птушкі. Так, голуб і галубка сімвалізавалі каханне, зязюля — жанчынуўдаву, салавей — песняра кахання, сокал — вобраз каханага, арол — героя. Зразумела, што гэтыя вобразы часта сустракаюцца ў тканых і вышываных вырабах, асабліва калі яны маюць досыць канкрэтнае сімвалічнае прызначэнне: падарунак каханаму, ахвяраабярэг франтавіку і інш.



**232.** Ручнік з выявамі птушак.

Прынцыпы стылізацыі арнітаморфных форм вельмі розныя. На старажытных вышываных ручніках бачым моцна стылізаваныя, амаль геаметрызаваныя сілуэты птушак, у якіх нават цяжка вызначыць канкрэтны праўобраз (іл. 231). Несумненна, гэта водгук старажытнай сімволікі сілуэтаў птушак, подых яшчэ язычніцкіх звычаяў ахвярапрынашэння.

Нельга тут не згадаць пеўня — свяшчэнную птушку ў старажытных славян. З пеўнем і яго крыкам звязваўся ўзыход сонца, наступленне новага дня, знікненне нячыстай сілы. Таму так часта можна бачыць сілуэт пеўня на старажытных абрадавых ручніках. То пеўні стаяць парамі паабапал дрэва жыцця, то ўтвараюць бардзюр, арганічна ўплятаючыся ў дэкор. Так, на посцілцы з в. Семічы Слуцкага раёна матыў пеўня спалучаецца з сімвалам ураджаю Жыценем (гл. іл. 42), адлюстроўваючы жаданне майстрыхі мець добры ўраджай.



233. Фрагмент дэкору ручніка. Мінская вобл.



234. Прошва. Магілёўская вобл.

На вырабах нашага стагоддзя (асабліва пасляваенных) мы ўжо бачым яўна дэкаратыўных птушак, сярод якіх сустракаюцца вельмі канкрэтныя, нават натуралістычныя галубы, індыкі, зязюлі і інш. (іл. 232). Сімвалічнае значэнне ім ужо не надаецца, гэта чыста дэкаратыўныя элементы, якія арганічна ўплятаюцца ў шматфарбны свет сучасных тканых і вышываных вырабаў.

І сёння памятаю завучаны ў дзяцінстве верш «ВісЯ, жаваранак звонкі, вісЯ і кружыся над маёй зялёнай нівай». З песняй жаваранка звязваецца надыход вясны, адраджэнне прыроды пасля зімовага сну. Гэта — гімн прыродзе і жыццю. Нездарма ў песні-вяснянцы заклікаюць: «Жаваронанкі, прыляціце, вясну красную прынясіце». А вось яшчэ песня:

> Жаваронак, ранняя птушка,
> чаго так рана з выраю вылецела?
> А там пры даліне — там ляжаць крыгі,
> а там пры дарозе снягі і марозы.
> А я тыя крыгі крыламі разаб'ю,
> а я тыя марозы нагамі растапчу.
>
> (Песні народных свят і абрадаў. Мн., 1974. С. 68)

А.Каралевіч (Беласточчына) расказвала, чаму яна вышыла ўзор жаваранка на кашулі: «Жаваранак спявае пра любоў. Я вельмі хацела, каб мяне любіў Косцік. Вось і вышыла кашулю з узорам жаваранка і падарыла яе Кастусю. З таго часу ён стаў любіць мяне яшчэ больш. І зараз у нас любоў, як песня жаваранка. Мы пажаніліся, ёсць дзеткі. Усё добра. Вось я і раю дзяўчатам вышываць жаваранкаў на кашулях і дарыць іх сваім каханым».



235. В.Духовіч. Фрагмент дэкору посцілкі. Сенненскі р-н Віцебскай вобл.



236. Дэкор дзіцячай кофты з узорам жаўранка.

У гэтых словах — яркае пацвярджэнне спалучэння і старажытнай сімвалічнай, і сучаснай дэкаратыўнай ролі любімых у народнай творчасці вобразаў птушак.



**237.** Ручнік з матывамі птушак. Любанскі р-н Мінскай вобл.

Нашы продкі шмат працавалі, але ўмелі і любілі святкаваць. Пачатак ці заканчэнне новага працоўнага працэсу, змена пары года, значная падзея ў жыцці адзначаліся святамі. Праходзілі яны весела, шумна, суправаджаліся рознымі жартамі, досціпамі, розыгрышамі. Звінелі песні, лілася музыка, дрыжала падлога ад скокаў.

Святы абавязкова суправаджаліся рознымі прыгожымі, паэтычнымі дзеяннямі і абрадамі. Варажылі на снезе і вадзе, на гарышчах і ў лазнях, абсыпаліся зернем жыта ці ячменю. Хадзілі з зоркай, адзяваліся мядзведзем ці казою, насілі пеўня, надзявалі розныя маскі.

Па вёсках хадзілі скамарохі з мядзведзямі, сабакамі ці пеўнямі. Вандроўны лялечны тэатр батлейка паказваў сцэны раства Хрыстова або павучальныя сюжэты пра благую ці добрую жонку.

Позняй восенню пачыналіся вяселлі. Гэта былі цэлыя спектаклі, дзе так шмат было музыкі, песень, жартаў, розыгрышаў, абрадаў.

Па суботах і нядзелях наладжваліся ігрышчы. Сыходзілася моладзь некалькіх вёсак, спявала, танцавала, жартавала, паказвала розныя сцэнкі.

Саюз працы і хараства можна лічыць тым асноўным законам, па якім жылі нашы продкі.

Гадавы цыкл уключаў мноства святаў і прысвяткаў, разгледзець іх усе проста немагчыма. Спынімся толькі на самых асноўных святах, якія атрымалі адлюстраванне ў народнай мастацкай творчасці.

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

Пачатак новага сельскагаспадарчага года нашы продкі звязвалі з вясной, калі абуджалася прырода пасля зімы, а селянін выходзіў у поле. Прыходу вясны чакалі ўсю доўгую халодную і галодную зіму, і многія зімовыя святы ўжо ўключаюць абрады, звязаныя з будучым ураджаем.

Да дзён веснавога раўнадзенства, пачатку сельскагаспадарчых работ прывязвалася самае вялікае і прыгожае свята славян-язычнікаў — Вялікдзень. Розныя звычаі, песні, абрады, магічныя дзеянні ўслаўлялі наступленне чаканай вясны, надыходу «вялікіх дзён» веснавых работ, выказвалі спадзяванні на добры ўраджай, шчаслівую долю ў сям'і.

З прыняццем хрысціянства да язычніцкага свята сустрэчы вясны было прымеркавана ўваскрашэнне Хрыста — Пасха. У гэтым бачыцца глыбокі сэнс: у аснове і язычніцкага, і хрысціянскага святаў ляжыць ідэя жыцця, адраджэння, перамогі над смерцю. З таго часу ў народнай свядомасці гэтыя святы ўяўляюцца як адзінае цэлае — славіць уваскрэслага Хрыста і звяртацца да яго з адвечнымі сялянскімі клопатамі: «Дзякуй табе, Божа, што зіму скончалі, што вясны дажджалі! Памажы нам, Божа, у добры час пачаці вясну выклікаці! Прыдзі, прыдзі, вясна, прыдзі, прыдзі, красна, к нам у таночак! Прынясі нам збожжа, прынясі нам красак, каб звіць нам вяночак! Едзіць вясна, едзіць на залатом кані, у зялёным саяні, на сасе седзючы, сыру зямлю аручы» (Богданович А. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 102).

Гэты своеасаблівы гімн-зварот увесь прасякнуты адной ідэяй — жыццёвасці, плоднасці, дастатку, здароўя.

Такая ж ідэя прасочваецца ў тканых і вышываных вырабах на тэму вясны і веснавога свята Вялікадня. Адзін з такіх узораў — стары вышываны ручнік з Віцебшчыны (іл. 238). Чатыры лепшыя майстрыхі расшыфравалі яго дэкор наступным чынам. У цэнтры — дрэва жыцця, якое абазначае вясну. На яго галінах — зоркі, сімвал чалавека. Справа і злева — сама вясна ў выгля-



дзе дзяўчыны ў андараку і з вянком на галаве. Верхні рад складае сімвал Жытняй Бабы, ад якой залежыць ураджай жыта, ніжні — чатыры пары ахвярных птушак: пара, спарыш — значыць, спорны ўраджай на ніве. На свабоднай плошчы раскіданы матывы ў выглядзе крыжыкаў. Гэта зярняткі, а таксама сімвал велікоднага яйка. Абодва звязаны з вясною, жыццём, адраджэннем жыцця.

Е.Мазуркевіч вышыла ручнік з узорам Вясны-Вяснянкі. Яна ў андараку, на галаве — вянок з кветак, у руках — букеты ружаў. На ручніку яна паўтараецца пяць разоў (іл. 239).

Расказала майстрыха і легенду пра Вясну-Вяснянку і Грома Перуновіча. Сустрэў неяк Гром Перуновіч Вясну-Вяснянку: «Добры дзень, Вяснянка, мая першая каханка! Я цябе даўно шукаў, спакою не знаў». Пакланілася Вяснянка, усміхнулася і паляцела да Сонца. Разззлаваўся Гром Перуновіч, грыміць, маланкай паліць, бліскавіцаю, стрэламі б'е. Спужалася Вясна-Вяснянка, павінілася Грому гучнаму, пакланілася да сырой зямлі, усміхнулася зарой яснаю, зарой яснаю, дзеўкай краснаю. Вось так Гром Перуновіч і Вясна-Вяснянка сталі мужам і жонкаю, з таго часу ў іх згода ды каханне. Усміхнецца Вясна-Вяснянка ясным сонейкам — мацней грыміць Гром Перуновіч громам ды маланкаю. Ад гэтага кахання расквітнелі сады-прысады, лясы зялёныя, лугі квяцістыя.

На ручніку Е.Дучыць (Груздава Маладзечанскага р-на, іл. 240) чатыры рады ўзораў: верхні — узор Сонца, другі — Зямлі, трэці — Вясны, чацвёрты — Ярылы. Узор гэты яна пераняла ад бабулі Аўдоцці, ад яе ж пачула і легенду. У цёплага Сонейка і Маці-Зямлі былі дзеці — Вясна-красна і Яр-Ярыла. Як толькі юная Вясна набралася моцы, прагнала злую Зіму, растапіла снягі, сагрэла зямлю сваім цяплом. Расквітнелі сады і лясы, лугі і палеткі. Следам за Вясною і Ярыла ўзяўся за работу. Засеяў жытам нівы, выгнаў на пашы статак, накарміў малаком старых і дзяцей.

Узор Вясны-Вяснянкі вышыла на ручніку Е.Пятрова (Лукомль, іл. 241).



**238.** Вышыўка з узорам Вясны. Віцебская вобл.



**239.** Узор Вясны-Вяснянкі.



**240.** Сонца, Вясна, Зямля, Ярыла.





У руках Вясна-Вяснянка трымае кветкі з трох бутонаў. Чаму тры? Таму што веснавыя травы прызначаліся для гадання, для лячэння і для вянкоў.

Свой расказ майстрыха дапоўніла песняй:

Вясна-Вяснянка, яркая маланка,
прыроду разбудзіла, траўку ўзрасціла,
каровак накарміла, дзетак малачком
напаіла.
Загрымеў Гром-Грамніца,
пацякла ў рэчках вадзіца.
Людзі вясёлыя і радыя:
дажда́ліся божай нагрworld.
Вясна-Вяснянка, божая выхаванка,
прынесла Сонца, адкрыла ваконца,
выгнала ў поле статак —
хай будзе людзям дастатак.

А вось яшчэ ні то легенда, ні то песня, запісаная ў тых жа мясцінах. Палюбіла светлае Сонца маці сырую Зямліцу, сагрэла Зямліцу цёплымі прамянямі, ачысціла ад злога марозу і снегу. Нарадзіла маці Зямліца вясёлую прыгожую Вясну-Вяснянку. Узяла Вясна ў рукі кветкі і пайшла гуляць на палеткі. Хлопцы, дзеўкі, да мяне ідзіце, сем'і крэпкія завадзіце, дзетак-немаўлятак радзіце, друг друга кахайце, Вясну добрым словам успамінайце!

Адным з асноўных атрыбутаў велікодных святаў было курынае яйка. У старажытных славян і многіх іншых народаў Еўропы яно сімвалізавала будучае жыццё, адраджэнне прыроды пасля зімовага сну, таму і прымяркоўвалася да веснавых святаў. З ім звязваліся розныя магічныя дзеянні і абрады, накіраваныя на паляпшэнне ўраджаю, здароўе жывёлы, шчасце ў сям'і. А каб узмацніць сімвалічную ролю курыных яек, іх фарбавалі, пераважна ў чырвоны колер (крашанкі), ці размалёўвалі рознымі ўзорамі (пісанкі). З прыняццем хрысціянства фарбаваныя курыныя яйкі ўвайшлі ў абрад святкавання ўваскрашэння Хрыста (Пасхі) і сёння ў народзе ўсведамляюцца як атрыбут менавіта гэтага свята, хоць карані яшчэ язычніцкія.

Матыў велікоднага яйка сустракаецца ў тканых і вышываных вырабах. Бачым мы яго і на посцілцы вядомай майстрыхі В.Кулды (Жукойні Астравецкага р-на, іл. 244). Свой твор яна прысвяціла Вялікадню і вызваленню роднага краю ад фашысцкай навалы. У яе свядомасці гэтыя падзеі былі роднасныя, паколькі абазначалі пачатак новага жыцця. А цэнтральны сімвал яго — велікоднае яйка — паказаны ў выглядзе ўзорыстага ромба.

Як відаць, гэтыя матыў падобны на ўзор каравая. Пэўна, гэта невыпадкова. Яйка — сімвал вясны, Вялікадня, ка-



**241.** Вясна-Вяснянка.



**242.** Л.Баразна. Узор для вышыўкі з матывам Вясны. Мінск.







**243.** М.Ціхановіч. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам Вясны. Расходна Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



равай — сімвал вяселля. І той, і другі сімвалізуюць сабой зараджэнне новага жыцця.

## КУПАЛЛЕ

Адно з найстаражытных і любімых у народзе святаў — Купалле. Гэта свята вяршыні лета, росквіту прыроды, выяўлення яе магутных жыццёвых сіл. Гэтая жыццёвасць, жыццярадаснасць, весялосць панавала і ў купальскую ноч з яе вогнішчамі, варажбой, скокамі, музыкай. Як спяваецца ў народнай песні:

> Ой, рана, рана ды на Яна,
> да ўся зямля дрыжала з Купала,
> ды лясы звінелі, як мы пелі,
> сяло разлягалася з музыкі.

У народнай мастацкай творчасці вельмі любімы і пашыраны вобраз Купалінкі, якая ўяўляецца ці маладой вясёлай дзяўчынай, ці жанчынай з дзецьмі. Гэты паэтычны вобраз часта сустракаецца ў народным мастацкім ткацтве і вышыўцы. Так, на ручніку А.Пакроўскай (Старое Сяло Віцебскага р-на) Купалінка паказана ў танцы. Тут жа і вянок, якім дзяўчаты гадаюць на вадзе, а таксама папараць-кветка — сімвал шчасця. А матыў у выглядзе елкі майстрыха растлумачыла так, што

**244.** В.Кулда. Посцілка з узорам велікоднага яйка. Жукойні Астравецкага р-на Гродзенскай вобл.





**245.** А.Анісовіч. Накідка на падушку з матывам велікоднага яйка. Мінск.

**246.** Купальскія матывы.

**247.** С.Мацкевіч. Ручнік з матывамі Купалінкі. Пярэспа Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



Купалле звычайна святкуюць на паляне ці каля лесу, дзе жыве Лесавік (іл. 246).

Падобная кампазіцыя і на ручніку А.Мацкевіч (Пярэспа Сенненскага р-на). Тут Купалінка паказана з характэрнай паставай ног, як у імклівым танцы (іл. 247). Н.Мацко (Беліца Сенненскага р-на), у якой давялося бачыць дакладна такі ж ручнік, растлумачыла, што тут паказана Купалінка ў танцы, з вянком на галаве, пад ёю — галінка папараці, ніжэй — месяц у выглядзе падвойнага ромба. Гэта азначае, што Купалле святкуюць у поўнач. Ручнікоў з падобнымі ўзорамі трапляласе шмат.

У 1935 годзе ў Камарыне мне пашчасціла пагаварыць з чатырма бабулямі: П.Чацверыковай (1854 г.н.), М.Гурко (1848 г.н.), Н.Ільічовай (1844 г.н.), Е.Калядой (1861 г.н.). Трое з іх — вясковыя, жылі ў замужніх дачок. Усе яны аказаліся выдатнымі ткачыхамі і вышывальшчыцамі, а яшчэ і добрымі апавядальніцамі. Размова зайшла пра святкаванне Купалля ў іх маладосці, г.зн. у другой палове XIX стагоддзя. Вось кароткі запіс гэтых успамінаў.

За дзень да Купалля моладзь дамаўлялася, што браць з сабою. Дзяўчаты і маладзіцы звычайна неслі закуску, хлопцы — пітво. Вечарам збіралі ламачча, распальвалі вогнішча, рассаджваліся навокал і наладжвалі баляванне ў гонар Купалінкі. Спявалі купальскія песні, весяліліся, танцавалі. Дзяўчаты плялі вянкі для гадання. Дзяўчына кідала свой вянок у агонь, а той з хлопцаў, хто яе кахаў і хацеў з ёю ажаніцца, стараўся выхапіць вянок з агню. Мог і добра апячыся пры гэтым, але ж выхопліваў, дэманструючы моц кахання. Варажылі і на вадзе возера ці рэчкі, кідаючы туды вянкі, а хлопцы даставалі. Калі паблізу не было вады, то кідалі ў траву ці ў кусты.

Бывала, кіне дзяўчына вянок, ды ніхто не спяшаецца яго даставаць. Можна ўявіць, што тая перажывала. Ужо і свята для яе не свята, бяжыць, бедная, дадому і сумуе там.

У купальскую ноч збіралі зёлкі, верачы ў іх магічную сілу, кляліся ў каханні да магілы, часам дамаўляліся пра вяселле. У поўнач самыя адважныя ішлі ў лясную гушчэчу шукаць папараць-кветку, пры гэтым марылі пра самае запаветнае. Адны — пра шчасце, добрага мужа, моцную сям'ю, другія — каб прываражыць хлопца, трэція — разбагацець.

Разыходзіліся дадому на досвітку. Ужо і спаць няма калі, на работу пара, але ўсе былі маладыя, здаровыя, вясёлыя — якія там сон!

На ручніках ткачых давялося бачыць усю атрыбутыку Купалля. Гэта купальская трава ў выглядзе галінкі з трыма кветкамі (іл. 248), паколькі яе збіралі на тры канкрэтныя мэты: на вянкі, для варажбы і як лекі. Купальскі вянок паказваўся з падвязанай знізу стужкай, чым адрозніваўся ад звычайнага (іл. 249).

Прыгожа выглядае матыў купальскага агню ў выглядзе раслінных парасткаў з кветкамі на канцах і з зоркай у цэнтры (іл. 250). Паводле павер'яў, купальскі агонь меў чароўную сілу. Так, калі на ім дзяўчына спальвала валас каханага, той адказваў ёй узаемнасцю. Купальскі агонь лічылі больш цудадзейным, чым агонь грамнічнай свечкі. Вугалёк з яго хавалі, лічылася, што ён лечыць, ахоўвае ад сурокаў.

Цэлую купальскую паэму вышыла на ручніку Н.Валькові з Лідскага раёна (іл. 251). Тут мы бачым усе атрыбуты свята, размешчаныя па пяць у радзе: Купалінка ў танцы, купальскі вянок, купальская трава з трыма кветкамі, галінка папараці, агонь-жыжа, карагод. На другім ручніку майстрыха паказала Купалінку з чароўнымі ўзорамі

**249.** Купальскі вянок.





**248.** Купальская трава.



**250.** Купальскі агонь.







252. Купалінка з чароўнымі ўзорамі.



251. Купалле.

(так казала яе бабуля) рамбічнага характару, што абазначаюць месяц (іл. 252).

Майстрыха расказала і пра святкаванне Купалля ў яе мясцінах. Рыхтаваліся да свята за 2—3 дні. Рабілі складчыну: каўбасы, сала, яйкі, посуд. Вечарам на Купалле ішлі на паляну ў лесе ці да рэчкі. Рыхтавалі дровы, прыбіралі елку. Распальвалі агонь, смажылі прынесенае, частаваліся, спявалі песні, танцавалі, ладзілі вакол агню карагод, выбіралі Купалінку. Славілі агонь за цяпло і святло. Дзяўчаты кідалі ў агонь вянкі, хлопцы кідаліся іх даставаць. Выхапіць хлопец вянок — дзяўчына яго навек. Кідалі вянкі і ў рэчку. Куды і як плылі вянкі, па гэтым дзяўчаты гадалі пра свой лёс.

Бывала, купальскае гулянне ішло ў суседнюю вёску. Наладжвалася сумеснае свята, агульны карагод, які меў сімвалічнае значэнне. Лічылася, калі хлопец ці дзяўчына пакладуць у карагодзе вянок ці хустачку на галаву, то гэта — зарука моцнага кахання. «А ў мяне было так, — успамінала Н.Валькавіч. — Я вельмі любіла Касціка, але саромелася яму сказаць пра гэта. І вось



253. Купалінка ў танцы. Фрагмент дэкору посцілкі. Орша.

254. В.Кіеня. Посцілка з купальскімі матывамі. Кіявічы Капыльскага р-на Мінскай вобл.









255. А.Кравец. Посцілка з купальскімі матывамі. Ліда Гродзенскай вобл.

на Купалле я аказалася ў карагодзе Купалінкай. Баялася, але ўсё ж палажыла свой вянок на галаву Косціку, узяла яго за руку. Ён мяне пацалаваў, і мы пад ручку прайшліся ў карагодзе, як гэта было заведзена. З таго часу мы і перасталі таіцца, а хутка і пажаніліся. Было ў нас 9 дзяцей. З таго часу Купалле для мяне — любімае свята. Таму і вышыла я ручнік з Купаллем, паказала на ім усё, што адносіцца да свята. На Купалле кожная дзяўчына гадае, хоча ведаць свой лёс, свайго нарачонага. Самыя смелыя ў поўнач ішлі шукаць кветку-папараць, скарб, сваё шчасце. Але гэта было рэдка: баяліся нячыстай сілы. Любілі мы рваць розныя зёлкі — на вянкі, для гадання, лячэння. Зёлкі сушылі, клалі за абразы, назапашвалі як лекі ад хвароб. А Купалінка — гэта як Лявоніха. Я і сама была Купалінкай у карагодзе». ·

У шматлікіх гутарках з жанчынамі склаўся зборны вобраз Купалінкі. Гэта галасістая пявуння, гарэзлівая танцорка, шчырая працаўніца. Любіць і ўмее шумна, бесклапотна святкаваць. Шчодрая на дабрыню, пачастунак, добрая гаспадыня, маці шматлікіх дзяцей. Як бачым, тыповая беларуска.

Такі багаты і шматгранны вобраз Купалінкі мы бачым і на мастацкіх вырабах. То яна стаіць «рукі ў бокі», нібы ў танцы (гл. іл. 252), то з гарэзліва павернутымі нагамі (гл. іл. 247), то ўзяўшыся за рукі, як у карагодзе (іл. 253). Тут жа прысутнічае і купальскі вянок — ці надзеты на галаву Купалінкі, ці прызначаны для варажбы і паказаны асобна (гл. іл. 251). Такі вянок адліты ў бронзе і ўключаны ў кампазіцыю фантана ў сталічным скверы імя Я.Купалы.

Вянок жа на галаве быў выяўленнем сімпатыі, павагі да чалавека. Яго надзявалі ў купальскім карагодзе на галаву Купалінкі ці Лады, адзначаючы гэтым лепшую дзяўчыну.

На тканых і вышываных вырабах купальскі вянок уяўляе сабой досыць складаную дэкаратыўную кампазіцыю. У цэнтры — васьміканцовая разетка, навокал — кветкавая гірлянда (іл. 256). Уверсе ці ўнізе змяшчаўся вазон, якім выказваецца пажаданне шчаслівай жаночай долі. Іншыя матывы таксама нясуць падобную сэнсавую нагрузку. Так, крыжык у цэнтры разеткі ці кветкі ахоўвае таго, хто носіць вянок,



256. М.Похлева. Посцілка з купальскімі матывамі. Гарадоцкі р-н Віцебскай вобл.

ад усялякай дрэні. Ромбікі, раскіданыя там і сям, на думку майстрых — хлеб, асвячоны на Вялікдзень, ці каравай, якім бацькі благаслаўляюць дачку на замужжа.

Вядома ж, матыў вянка на вырабах выглядае далёка не так, як на чорна-белых здымках. Ён зіхаціць усімі колерамі, як і сапраўдны купальскі вянок з жывых кветак.

Ужо неаднойчы згадваўся і матыў купальскай травы, зёлак, якія збіралі для варажбы, на вянкі і як лекі. Помніцца, збор зёлак на Купалле быў вясёлым, радасным заняткам, ніхто не смеў забараніць яго. Асаблівая ж роля купальскіх траў добра выказана ў песні:

Ой, на Купалле, на Яна
дзяўчаты зелле збіралі.
Яны збіралі, не знаді,
у старога дзеда пыталі:
што гэта, дзядулька, за зелле,
чорны галоўкі насенне?
Нашто вы яго збіралі,
калі вы яго не знаді?
Гэта дзявоцкая красата,
вашаму сэрцу сухата.

(Ширма Р. Двести белорусских народных песен. М., 1958. С. 36.)

Матыў купальскіх траў сустракаецца на многіх тканых, вышываных, вязаных вырабах. Звяртае ўвагу тое, што ён звычайна вырашаны ў выглядзе трох галінак, кожная з якіх заканчваецца кветкай — ці моцна стылізаванай, ці досыць пазнавальнай (гл. іл. 248).

Як вядома, найбольш паэтычным і чароўным сімвалам Купалля здаўна была таямнічая кветка-папараць. Не адно стагоддзе нашы продкі спрабавалі знайсці яе ў купальскую ноч, каб стаць шчаслівымі, здаровымі і багатымі, але і сёння гэта недасяжная мара.

А вось І.Зяновіч з Ваўкавыска казала, што шукаць ноччу папараць-кветку зусім не абавязкова. Жаданай мары можна дасягнуць і тады, калі вышыеш гэтую кветку на ручніку. Відаць, таму так часта трапляюцца ручнікі з гэтым матывам. Бывае ён моцна стылізаваны, амаль геаметрызаваны, але тым не менш лёгка пазнавальны, як на ручніку Н.Валуевіч з Чавускага раёна (іл. 258). А Е.Захарава з Шаркоўшчынскага раёна вырашыла казачную кветку амаль натуралістычна (іл. 259). Крыжык над ёю абазначае таемны скарб, певень сімвалізуе поўнач, калі гэтую кветку трэба сарваць. Адначасова певень — і абярэг ад нячыстай сілы, якая заўсёды суправаджае скарбы.

У майстрых бытавала павер'е, што магічная сіла папараці на вырабах узмоцніцца, калі яна паказана з кветкай,





**257.** А.Савянок. Ручнік. Козіна Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

**258.** Н.Вапуевіч. Ручнік з кветкаю папараці. Залессе Чавускага р-на Магілёўскай вобл.







**259.** Е.Захарава. Ручнік з папараць-кветкаю. Запруддзе Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.

што распусцілася ў купальскую ноч. Гэта мы і бачым на здымках.

Варта прывесці некалькі прыпевак, якія гучалі на Купалле (як і на ўсіх народных святах і гуляннях). Вызначаюцца яны весялосцю, гарэзлівасцю, дасціпнасцю, вастрынёю:

Лады, ладушкі, ладушкі,
добра спаці на падушцы,
на падушцы пухавой
ды з ладушкай маладой.

Дзеўкі по лесу гулялі,
дзеўкі шышачак нарвалі.
Зеляна, кудрава ель,
пацалуй мяне, мой Лель.

Не лажы мяне на землю,
бо яна халодная.
Пасцялі мне кажушок,
бо я благародная.

Як была я маладая,
дык была я рэзва,
цераз хату па канаце
сама на кол лезла.

Лада, ладушкі, ладушкі.
Пацалуй мяне, Ванюшка.
Прыгарні к сабе, кумок,
пацалуй яшчэ разок.

Мой ты міленькі дружок,
не жмі мяне на пупок.
Мой пупок дарагой,
стоіць рубель залатой.

Лада хаханькі дала,
прыполічак падняла.
На, мой міленькі дружок,
пацалуй мяне ў пупок.

Ель, ель, ты мой Лель,
а я твоя Лада.
Лезь на елку, нарві шышак,
другі мне не нада.

Мілы Лель Федасей,
цалуй мяне пасільней,
і у вусны, і у шчочку,
цалуй мяне усю ночку.

Тылі, тылі, тылі я,
мой ты Лель, гэта я,
мілы, мілы, гэта я,
а вось цыцанька мая.

Лада Аня, Янка Лель,
лезу, лезу я на ель.
Шышкі-цацачкі зрываю,
Ладу моцна прыціскаю.

У хараводзе я пяю,
Ладзе вянок аддаю.
Ладу крэпка я цалую,
прыласкаю, прыгартую.

Выкананне такіх прышевак было своеасаблівым спаборніцтвам паміж дзяўчатамі і хлопцамі або паміж асобнымі групамі моладзі. Спявалі іх з прытоптваннямі, прытанцоўваючы, паляпваючы рукамі, гарэзліва, так што ніхто не заставаўся раўнадушным. Тут і жарт, і папрок, і просьба, і лірызм, і грубаватасць, нярэдка на мяжы з прыстойнасцю. Як не раз мне казалі, на «Купалля ўсё можна», «на Купала ўсё прапала». Нездарма купальскія язычніцкія гульні хрысціянскія святары называлі д'ябальскімі, разбэшчанымі. Але ўсё ж на першым месцы было каханне, і недарэмна Купалле часта стымулявала стварэнне новых сем'яў.

Нельга не заўважыць, што ў купальскіх песнях часта згадваецца елка. Відаць, гэтае дрэва ў славянскай міфалогіі займала калісьці важнае месца. Елка — гэта сімвал Лесавіка, а Купалле ж і наладжвалася звычайна ў лесе, на паляне, часта каля елкі.

А якая, дарэчы, этымалогія слова Купалле? Ці не ад слова ку́па, г. зн. збор, група, натоўп? Ку́піцца — значыць збірацца ў адно месца, злучацца, ку́паю — разам. Разам, грамадою, ку́паю адзначалі і адзначаюць у народзе гэтае старажытнае, прыгожае, паэтычнае свята.

## КАЛЯДЫ

Як прырода пасля халоднай зімы радасна сустракае чаканую вясну, так і беларускі народ пасля шматгадовага перыяду забаронаў сустракае адроджаныя Каляды, якія сталі дзяржаўным святам.

Як і многія іншыя традыцыйныя славянскія святы, Каляды спалучаюць у сабе старажытныя язычніцкія звычаі і больш позція хрысціянскія. Прыпадалі яны на час зімовага сонцастаяння, калі сонца паварочвала на яшчэ далёкую, але непазбежную вясну з яе адвечнымі сялянскімі клопатамі. Гэта было свята ў гонар язычніцкай багіні зімы Каляды, у гонар сялянскай працы, што пазней спалучылася з хрысціянскім святам Раства Хрыстова. Усё гэта з часам сплялося ў адзінае вясёлае, напоўненае гумарам, жартамі, забавамі, песнямі, абрадамі, багатымі пачастункамі дзейства, відовішча, у якім усе былі і ўдзельнікамі, і гледачамі. Наладжвалі вясёлае катанне на санях, калядавалі — хадзілі з хаты ў хату з каляднай зоркай, казой, мядзведзем, пеўнем. Лялечны тэатр батлейка паказваў прадстаўленні на біблейскія сюжэты. І ўсё гэта суправаджалася багатымі пачастункамі — вынікам руплівай працы селяніна-хлебароба. Недарэмна і сёння можна пачуць, як многія традыцыйныя прадукты — сала, мяса, каўбасу, кумпякі — называюць калядой.

Галоўным матывам калядных святаў было праслаўленне сялянскай працы і забеспячэння будучага ўраджаю. Гэта і адлюстравана ў народных калядных песнях:

Блізкі Каляды, усе людзі рады.
Япручкі смаляць, Бога хваляць.
Радуйся, зямля, бо жыта родзіць.
Пастаўлю каляску, дастану кілбаску,
Пастаўлю драбінку, дастану сланінку.
Радуйся, зямля, бо жыта родзіць.

(Песні народных свят і абрадаў. Мн., 1974. С. 12.)

На маё пытанне, як і навошта святкуюць Каляды, Е.Пятко (Калінкавіцкі р-н) адказала ў вершаванай форме: «Калядкі спраўляюць для таго, каб было ў дастатку ўсяго. Свята Каляд — каб быў у сям'і лад. Апырскваюць хату грамнічнай вадою, каб не зналіся з бядою. Перш-наперш за стол сесці, добра паесці. Сала засмажыць, каўбаскі падсмажыць, гарэлкі на стол паставіць. Бога праславіць, спець вясёлую песню, паскакаць, Бога папрасіць, каб усё гэта было на лета. Дамавога пеўня ў хлеў заганяюць, з хлява ўсялякую нечысць выганяюць».

К.Гапоненка (1871 г.н.) з Кобрына адказала гэтаксама: «На Каляды ўсе людзі рады. Летам папрацавалі, а зімою пасвяткуем Каляды. На Каляды пяюць, танцуюць, дзядоў шануюць. На Каляды дамавога пеўня трэба карміць, каб багата жыць. На Каляды дамавога шанаваць ды ўсякую нечысць ад дома праганяць. На Каляды дамавому трэба гадзіць — будзе жыта на лета радзіць».

Спалучэнне гэтых калядных атрыбутаў у зашыфраваным ці досыць рэалістычным выглядзе можна бачыць і на вышываных ручніках. А.Крывіч (Бярэзінскі р-н) на калядным ручніку вышыла ў верхнім радзе саму Каляду ў выглядзе жаночай фігуры, ніжэй — пеўня як абаронцу жылля ад нячыстай сілы, яшчэ ніжэй — сонца, ад якога залежыць будучы ўраджай, і нарэшце ў чацвёртым радзе — калядкі як сімвал дастатку ў сям'і.

Вобраз Каляды ў народным мастацтве вырашаецца або ў выглядзе жаночай фігуры, або розных разетак, што сімвалізуюць дастатак і дабрабыт. Часта яны змяшчаюцца на вырабах разам, пры гэтым калядная тэматыка твора вызначаецца па наяўнасці фігуры пеўня. Так мне сказала А.Дабравольская (Забор'е Шаркоўшчынскага р-на): «Каляды не бываюць без пеўня, ён галоўны завадатар, яго носяць па вуліцы. Вось я і вышыла яго побач з Ка-





лядой. А паколькі на Каляды любяць добра пагуляць, паесці, то і гэта я паказала на ручніку».

М.Гарнак з Сянна свой ручнік таксама прысвяціла Калядам. У верхнім радзе яна змясціла 5 фігур Каляды, ніжэй — пеўняў, разеткі, якія сімвалізавалі каўбасы, сала, кумпякі, і нарэшце рад матываў у выглядзе галавы быка як сімвала дастатку. «За сваё жыццё, — казала яна, — я больш за 50 разоў святкавала Каляды. Гэта свята багатых пачастункаў, смеху, песень, жартаў. Ладзілася шмат вяселляў. Было багата і весела. Няма сёння таго...»

Майстрыха М.Кабакова з Чавусаў так тлумачыла ўзоры на ручніку: «Каб было ўсяго ў дастатку. Вось што значаць гэтыя ўзоры. Вышыла гэта для таго, каб усё збылося на будучы год. Вось маё жаданне». Яе суседка Е.Паўлоўская пра свой ручнік з падобнымі ўзорамі казала: «Гэта ўзор маіх калядак, майго сала, каўбас, кумпяка. Усё гэта я зарабіла летам на ніве і ў хляве. А цяпер я радуюся і ганаруся, што ў мяне ёсць свая Каляда».

В.Кулда (Жукоўні Астравецкага р-на) на ручніку адлюстравала саму Каляду ў выглядзе жаночай фігуры, рамбічны матыў, што абазначае калядкі, а таксама яшчэ адзін падобны матыў, які майстрыха назвала «рагаткай». Як яна сцвярджала, гэты ўзор вельмі важны, гэта своеасаблівая калядная замова, просьба добрага ўраджаю на будучы год, здаровай плоднай жывёлы ў хляве.

Некаторыя майстрыхі адны і тыя ж рамбічныя ўзоры называюць то калядкамі, то караваем. У жыцці, як вядома, розніца між імі ёсць. Каравай — гэта рытуальны хлеб, які спецыяльна пякуць на вяселле з захаваннем пэўных звычаяў, а калядкамі называюць розныя прысмакі і стравы на Каляды. Але, пэўна, і тое і другое ў народнай свядомасці звязвалася з дабрабытам, заможнасцю, таму і адлюстроўвалася падобнымі матывамі.

У 1936 г. майстрыха М.Снітка з Барысава запрасіла мяне ў госці на Каляды. Вось як іх тады святкавалі.

Першы за ўсё сабралі складчыну. Мужчыны прынеслі гарэлку-манапольку і мядуху-весялуху, жанчыны — сала, каўбасы, яйкі, хлеб. Сабраліся ў памяшканні школы, з жартамі, смехам, весялосцю накрылі стол і расселіся на ўрачыстую вечарыну. Затым парторг калёснага цэха дрэваапрацоўчага завода наладзіў вечар пытанняў і адказаў.

**260.** А.Дабравольская. Ручнік з Калядой. Забор'е Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.



**261.** Т.Паўлоўская. Ручнік з калядньімі матывамі. Чавусы Магілёўскай вобл.



Пытанні былі такога зместу: «Што раней наступіць — камунізм ці сацыялізм? Хто больш шкодзіць пабудове сацыялізму — памешчык-абшарнік ці эксплуататар-капіталіст? Што хутчэй наступіць — усеагульны дабрабыт ці ўсеагульная роўнасць?» З гэтага ўрока палітграматы толькі і запомніліся неахвотныя адказы ды агульная нудота.

Ды ўсё ж наступіў і час Каляды. Ёю выбралі настаўніцу, перавязалі яе ручніком з калядымі ўзорамі, сталі ў карагод, пабраліся за рукі. Каляда выбрала сабе ў пару мужчыну, і яны, узяўшыся пад руку, з песнямі, жартамі, прытанцоўваючы, ходзяць па крузе, спыняюцца насупраць каго-небудзь і звяртаюцца да яго з нейкім пажаданнем. Кожная жанчына ў карагодзе атрымае нейкае пажаданне, якое ёй найбольш падыходзіць, напрыклад: каб была эканомнай гаспадыняй, добрай кухаркай, любімай жонкай, ласкавай маці, добрай маладзіцай, любімай сястрыцай і інш. Затым пайшлі танцы, песні, музыка, жарты, розныя сцэнкі — кахання і здрады, жаніцьбы і разводу і інш. Чым больш выдумкі, смеху, розных выбрыкаў — тым лепш.

Карагодныя гульні вяліся ў адпаведнасці са своеасаблівым сцэнарыем, які быў «напісаны» на ручніку М.Сніткі з узорам Каляды. Яго ўпрыгожвалі пяць радоў сімвалаў — Каляды, Ярылы, пеўня, агню-жыжы і калядак. Таму першай славілі Каляду — выбраную жанчыну, якая стаяла ў цэнтры карагода. А ўсе, узяўшыся за рукі, спявалі, танцавалі, жадалі Калядзе быць добрай маці, клапатлівай гаспадыняй, любімай жонкай. Потым выбіралі другую жанчыну, што ўвасабляла Ярылу. Сэнс пажаданняў быў іншы: каб Ярыла быў шчодрым, забяспечыў добры ўраджай, багатую ніву. Чарговую жанчыну прыбіралі пеўнем, жадаючы яму: «Глядзі, певень, каб хата была багата, каб яна стаяла і бяды не знала, ні ад пажару, ні ад злодзея, ні ад благога вока ды сурокy». Нарэшце жанчыне, якая ўвасабляла агоньжыжу, жадалі, каб жыжа добра саграявала ды ярка асвятляла хату, ды каб варыла ў печы смачныя стравы, каб сытна елася ды добра спалася.

Шкада, што не атрымаліся здымкі ўсіх гэтых персанажаў каляднага вечара. Не ўдалося купіць і унікальны ручнік. Даводзіцца цяпер па памяці ўзнаўляць узоры на ім (іл. 263). Нагадаю, што кожны матыў паўтараецца ў радзе 5 разоў. А ручнік ахвяравалі ў царкву на абраз святога Уласа — абаронцы свойскай жывёлы.

Успамінаецца яшчэ, што бабуля Грыпіна наіўна прапанавала паказаць батлейку са сцэнкамі Раства Хрыстова, ды на яе так замахалі рукамі, што яна збянтэжана змоўкла.

Пазней М.Снітка расказала мне, што гэта было апошняе святкаванне Калядаў. Іх забаранілі як цемрашальства.

Сёння, на шчасце, Каляды зноў становяцца адным з самых любімых і папулярных святаў.



263. Калядныя сімвалы.



262. М.Дзявалава. Карункі з узорам на тэму Каляд. Бесава Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.



## МАСЛЕНІЦА

У народнай свядомасці Масленіца і Купалінка — родныя сёстры. Абедзве яны — весялухі, танцоркі, пявунні, рагатухі, жартаўніцы. Толькі яны гаспадыні розных святаў: Купалінка — вяршыні лета Купалля, якое святкавалі на лузе, ускрайку лесу ці каля рэчкі, Масленіца — праводзінаў зімы, якія ладзілі на заснежанай вясковай вуліцы.

Праводзіны зімы ператвараліся ў цэлае рытуальнае дзейства. Напачатку збіраліся ў каго-небудзь, частаваліся, гулялі, спявалі, успаміналі халодную зіму, заклікалі вясну. Затым збіраліся каля фігуры Зімы, злепленай са снегу, зноў спявалі, скакалі, прыбіраліся чортам, Бабай-Ягой, выстаўляючы іх злоснымі і дурнымі. Нацешыўшыся, закідвалі фігуру Зімы снежкамі, таптаілі яе. Гэтак выяўлялася ідэя пахавання зімы, каб яна больш не вярнулася.





Нарэшце наступаў этап сустрэчы вясны. Прыбіралі Масленіцу ў кажух, цёплую хустку, валёнкі, давалі ў рукі блін — старажытны сімвал сонца. Масленіца ўзначальвала вясёлае, шумнае шэсце па вясковай вуліцы, якое вітала хуткі прыход вясны: «Прыдзі, прыдзі да нас, вясна, з цёплым сонейкам, з масленымі блінамі, з жырным статкам, з прыплодам. Прагані злую зіму з сярдзітымі маразамі, з калючымі вятрамі» (Гомельскі р-н).

Варыянты святкавання ў розных рэгіёнах былі свае, але ўсе яднала агульная весялосць, песні, скокі, музыка, жарты, катанне на санях, сімвалічныя праводзіны зімы і сустрэча вясны. І вядома ж — бліны, гэткія ж круглыя і гарачыя, як і сонца, што нясе вясну.

Да Масленіцы нярэдка прымяркоўвалі вяселлі. Лічылася, што створаная ў гэты час сям'я будзе моцнай і шчаслівай.

Матывы Масленіцы сустракаюцца і на вышываных ці тканых вырабах. У адных выпадках гэта стылізаваная жаночая жігура з узнятымі рукамі: у адной — сімвал сонца, у другой — масленічны блін (іл. 264—265). Па гэтых сімвалах лёгка адрозніць Масленіцу ад іншых падобных фігур — Купалы, Каляды. Ёсць і моцна стылізаваныя, умоўныя сімвалы геаметрычнага характару, як на ручніку Р.Міхайлавай з

**264.** Масленіца.





**265.** Масленіца сустракае вясну.

**266.** Р.Міхайлава. Ручнік з матывамі Масленіцы. Запруддзе Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.



Запруддзя Шаркоўшчынскага раёна (іл. 266). Такімі ручнікамі аздаблялі на Масленіцу абразы, імі ж перавязвалі і саму Масленіцу.

Цікава, што падобны матыў у арнаментальнай аблямоўцы часам называюць масленічным блінам (іл. 267). Роля гэтага атрыбута ў свяце сустрэчы вясны добра выяўлена ў наступнай легендзе. Добрае светлае Сонца вырасціла на ніве зерне ячменю. І падарыла гэтае зерне беларусу-хлебаробу. І селянін быў удзячны Сонцу. Выпек ён з ячменнай мукі бліны, намачыў іх у масле і падарыў богу Сонцу. З таго часу беларусы шануюць бліны.

І сёння добра спечаны блін — ласунак не толькі на Масленіцу.



**267.** В.Даўгяла. Абрус з масленічнымі матывамі. Гродзенская вобл.



**268.** А.Чабатар. Вясельны ручнік. Нарач Вілейскага р-на Мінскай вобл.

## ВЯСЕЛЛЕ

Традыцыйнае вяселле — прыгожае, шматпланавае дзейства, якое складаецца з некалькіх этапаў, уключае самыя разнастайныя абрады, песні, жарты, пажаданні. Вось як расказвалі пра традыцыйнае вяселле Г.Шыліна, А.Астрэйка, Т.Маркава, Б.Аўдуля са Старога Сяла на Магілёўшчыне. Вяселле пачынаецца сватаннем, заручынамі, запоінамі, агледзінамі. Потым дамаўляюцца, якое будзе вяселле, колькі і каго запрасіць, што падрыхтаваць. Гуляюць у нявесты і жаніха асобна, потым жаніх са сваёю світай едзе да нявесты, дзе наладжваецца агульнае застолле з танцамі і песнямі. Рыхтуюцца да вянца. Нявеста плача. Бацька абсыпае жаніха і нявесту аўсом ці жытам, і яны едуць у царкву вянчацца (даводзілася і мне трымаць вянец над галавою нявесты). Пасля вянца — зноў застолле, песні, скокі. Часам узнікае жартоўная перапалка паміж сватамі, накшталт: «А вяселейка Бог нам даў, ажаніўся мех — торбу ўзяў», «Паелі коні салому, едзьце, сваточкі, дадому». Бываюць і не надта прыемныя здарэнні: ёсць і п'яныя. Затым вывозяць пасаг маладой. На віду ўсяго вяселля куфар з пасагам грузяць на сані ці калёсы (двойчы і я сядзеў на куфры з пасагам, які вёз у дом маладога). А што ўжо казаць пра шматлікія абрады і жарты, якія ўсё гэта суправаджалі! Ніякае опернае ці тэатральнае прадстаўленне не параўнаеш з вяселлем, заўсёды непаўторным і арыгінальным. Тут няма выканаўцаў і гледачоў, усе выступаюць у абедзвюх ролях. Зрэшты, такое параўнанне не зусім удалае. Тэатр — гэта відовішча, якое з большым ці меншым поспехам выконвае і выхаваўчыя задачы. Вяселле ж — гэта стварэнне новай сям'і, гэта частка жыцця народа. Шкада, што сённяшнія вяселлі такія аднастайныя і нецікавыя.

Абавязковымі атрыбутамі вясельнай абраднасці былі тканыя і вышываныя вырабы. Яны складалі асноўную частку пасагу, былі падарункамі, дапаўнялі і суправаджалі розныя рытуалы і абрады.

На Гродзеншчыне і Беласточчыне ткалі вельмі прыгожыя, так званыя двухасноўныя дываны на падарункі. На іх можна бачыць амаль усё вясельнае дзейства. Дэкор аднаго такога твора, вытканага паводле старадаўняга ўзору ў 1932 годзе для Гродзенскай Каложскай царквы (іл. 269), мне давялося расшыфроўваць з дапамогай Т.Мірчык (Гродзенскі р-н). Па яе словах, жанчына з коньмі ў правым кутку дывана — маці нявесты або Параскева-Пятніца. Дзве фігуры пасярэдзіне, якія







**269.** Старажытны вясельны дыван. Гродзеншчына.

**270.** Старажытны вясельны дыван. Гродзеншчына.



трымаюцца за рукі, — вядома ж, маладыя. Пеўні збоку, якія здаюцца несувымерна вялікімі, — ахвяра Богу, каб той даў маладым шчасце. Далей стаяць нявесціны дружкі і, нарэшце, козы як сімвал заможнасці, багацця, плоднасці. Па ўсіх чатырох кутках сіметрычна размешчаны стылізаваныя дрэвы — Святыя Дрэвы, якія павінны забяспечыць даўгалецце і шчасце. Амаль усё поле запоўнена разеткамі — гэта абярэгі. А вось сэнс кветкавай аблямоўкі ўстанавіць не ўдалося. Хутчэй за ўсё гэта ўжо чыста дэкаратыўная, кампазіцыйная дэталь. Як відаць, у гэтым арыгінальным творы арганічна спалучыліся старажытныя магічныя ўяўленні пра вяселле і яго атрыбутыку і больш позняя дэкаратыўнасць.

Падобны і дыван 1888 года з Гродна, здымак якога (іл. 270) я паказаў П.Ваньковіч (1872 г.н.) і К.Свірскай (1863 г.н.). Па іх словах, такія дываны на Гродзеншчыне ткалі бацькі для сваёй дачкі на вяселле. Унізе паказаны жаніх і нявеста паабапал Святога Дрэва (відаць, маецца на ўвазе дрэва жыцця). Яно нібыта мацуе сям'ю, выхоўвае шчырых працаўнікоў, забяспечвае добрых, здаровых дзяцей. Рамбічныя фігуры ў цэнтры — ужо знаёмыя нам сімвалы Маці-Зямлі і Бацькі-Сонца. Яны ўпамінаюцца і ў звароце бацькоў, якім суправаджаецца падарунак: «Цёплае, светлае Сонейка, добрая, літасцівая маці-Зямля, благаславі і дай рабам божым (імёны) моцную сям'ю, добрых дзетак, каханне ды згоду. Дай

ім спор у клеці і жырны статак у хляве». Бласлаўляюць таксама караваю, пеўнем і казою як сімваламі багацця і дабрабыту. Блаславенне абразом — гэта ўжо больш позняе, царкоўнае.

Разнастайная роля на вяселлях адводзіцца тканым і вышываным ручнікам: падарыць гасцям, павязаць сватам, пакласці на падлогу ў час вянчання, паднесці каравай, аздобіць хату і інш. Зразумела, што дэкор такіх ручнікоў мае сімвалічнае, сэнсавае значэнне. Але ў выніку вывучэння вясельных ручнікоў я прыйшоў да высновы, што нейкага канкрэтнага, спецыяльнага дэкору не было. Кожная майстрыха імправізавала, кампануючы дэкор з зорак, ромбікаў, крыжыкаў, раслінных матываў. У цэлым такая багатая кампазіцыя выяўляе сімпатыю, удзячнасць, добрыя пажаданні: здароўя, кахання, згоды ў сям'і, добрых дзяцей, сытай жывёлы ў хляве, багатага ўраджаю на ніве і інш. У залежнасці ад характару кампазіцыі падбіраецца і ўзор. Жадаюць маладым кахання — ручнік аздабляецца сілуэтамі галубкоў.



**271.** Вясельны ручнік. Капыльскі р-н Мінскай вобл.



**272.** Б.Буйніцкая. Вясельны ручнік. Астравецкі р-н Гродзенскай вобл.



**273.** В.Кудла. Вясельны ручнік. Астравецкі р-н Гродзенскай вобл.







**274.** Посцілка з сімвалам багацця і дастатку. Гродзенская вобл.



**276.** Старажытны ручнік з сімволікай першай шлюбнай ночы. Магілёўшчына.

Пажаданне добрага ўраджаю абазначаецца адпаведным сімвалам, шчасце — знакам жаночай долі і г.д.

Заўважаецца некаторая розніца ў дэкоры і ў адпаведнасці з тым, да якога этапу вяселля прызначаны ручнік. Для сватання вырабы звычайна аздабляюцца складанай, пышнай кампазіцыяй з разнастайных узораў (іл. 271). Каравайны абрад, благаславенне маладых маглі суправаджацца канкрэтным дэкорам, які адлюстроўваў урачысты момант стварэння новай сям'і, першую шлюбную ноч маладых.

Н.Пятрэнка (1858 г.н., Радунь Чарнігаўскай вобл.) выткала ручнік з узорам мужчыны і жанчыны (іл. 275). «Гэта ўзор, — казала яна, — як спяць мужык і жонка. Ну і што? Гэта ж праўда. Саромецца трэба не гэтага, саромецца трэба распусты. Ды няхай саромеецца, мучыцца тая баба, якая не нарадзіла ніводнага дзіцяці. А я вось семярых нарадзіла. Дзякуй Богу, здаровая, унукаў дачакалася».

«Тое, што мы тут тчэм ды вышы-



**275.** Узор мужчыны і жанчыны.

ваем, што пяем, — казала Г.Канальчук (1902 г.н., Канатоп Нараўлянскага р-на), — усё гэта старое, усё гэта вера ды забабоны. Кажуць, каму гэта патрэбна? Але гэтая вера, гэтыя забабоны вучаць нас дабру, вучаць добра працаваць і добра адпачываць. Добра тады жывецца, калі добра працуеш ды весела гуляеш. Вось чаму вучаць нас нашы посцілкі ды ўзоры, нашы песні ды казкі. Трэба ўваскрасіць нашы святы: Вялікдзень, Каляды, Купалле. Трэба ладзіць вяселлі, яны мацуюць сям'ю. А сёння што? Забылі вяселле, разбурылі сям'ю. Нейкая эпідэмія разводаў. Раджаць і выхоўваць дзяцей не хочуць. Хутка зусім вымра беларускі народ».

Амаль тое ж з душэўным болем казала мне і Х.Мацвеева з Ліды, якая тлумачыла сэнс старажытнага падвойнага дывана з Гродна: «Шкода да слёз, што мы рэдка наладжваем вяселлі. А яно ж мацуе сям'ю, гэта свята — памяць на ўсё жыццё. Мы вельмі шмат страцілі, што забыліся на вяселлі. Спадзяюся, што мы паразумнеем і зноў станем наладжваць вяселлі».

Хочацца дадаць: і розныя іншыя традыцыйныя святы.

**277.** Вясельная посцілка. Столінскі р-н Брэсцкай вобл.







**278.** Старажытны вясельны дыван. Гродзеншчына.

# Вобразы яднання песень і кветак, мелодыі і арнаменту



Так ужо склалася здавён, што мы звычайна ўспрымаем песні разам з кветкамі, музыку — з арнаментам. Такі своеасаблівы саюз нейкі надзвычай арганічны і натуральны. І ў мастацтве, і ў прыродзе.

У прыродзе: песня салаўя звычайна выклікае асацыяцыю з майскай квеценню, жаўранак залiваецца над каласуючым жытам ці лугавым рознаквеццем.

У мастацтве: дзяўчына спявае песню, адзетая ў нацыянальны арнаментаваны касцюм, а хлопец, таксама ў арнаментаваным адзенні, іграе на скрыпцы ці гармоніку.

Творчыя людзі неаднойчы апявалі такі саюз. Успомнім А.Фета: «Цветок и песня с давних пор в благоухающем союзе». А колькі такіх думак у творах С.Ясеніна!

Наўрад ці ведалі гэтыя радкі беларускія жанчыны-сялянкі, але ў размове пра сваю мастацкую творчасць яны гаварылі амаль тое ж. М.Сергіевіч з Ланцаўшчыны Маладзечанскага раёна: «Я выткала некалькі посцілак і ручнікоў з кветкамі. Я ткала — і спявала, вышывала — і спявала. Для мяне песні і кветкі — родныя сёстры». Х.Баброва з Ліды: «Ад сваіх бабуль мы навучыліся ткаць, спяваць і скакаць. Калі я тку ці вышываю — я пяю песні. Як жа без песні: жыццё будзе сумнае».

У храмах, каб умацаваць веру ў Бога, хрысціянскую любоў да бліжняга, служба суправаджаецца музыкай і спевамі ў атачэнні жывапісу, скульптуры, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

А ці не створаная прыродаю песня тая ж ружа ці рамонак? Толькі і розніцы, што кветку мы ўспрымаем вокам, а песню — вухам. Але і тая, і другая выклікаюць у нас аднолькавыя пачуцці — любоў, каханне, шчасце, надзею.

Кветка і песня яднаюцца ў саюз, каб умацаваць у нашых душах любоў, каб не даць месца варожасці, нянавісці, злу.

## КАХАННЕ І ПЕСНЯ

Дзе і калі нараджаецца каханне?

Часам — у танцы, у карагодзе. Гляне дзяўчына на хлопца — і закахаецца. А потым ужо дома свае пачуцці выяўляе ў вышываных ці тканых узорах. Вось так і з'яўляюцца на ручніку голуб і галубка.

Бывае, каханне да свайго Леля нараджаецца ў марах, уранку ці ўвечары. А ўжо потым, на гулянцы ці на вячорках, замацоўваецца ў танцах і песнях.

Вось некаторыя песні з нашага колішняга рэпертуару на гуляннях:

Лада косы распусціла,
Леля ў танок запрасіла.
Лада, роза ты мая,
Лель, галубчык, гэта я.
Русы косы распляту,
пацалую на ляту,
пацалую, прыласкаю,
аддам Лелю ўсё, што маю.
Лада, роза ты мая,
Лель, дружочак, я твая.

(Калінкавіцкі р-н)

Часта ў карагодзе спявалі і такую песню:

Падушачка, падушачка мая пухавая,
дзяўчыначка Анютачка мая залатая.
Каго люблю, каго люблю,
таго пацалую,
пуховую падушачку таму падарую.

(Калінкавіцкі р-н)

А вось так выглядае ўзор любоўнай песні на ручніку Е.Каўровай з Калінкавічаў (іл. 279). «Гэта і ўзор майго кахання да Міхася», — пацвярджала яна.



279. Узор любоўнай песні на ручніку.

Н.Шыркевіч (Мешкава Талачынскага р-на) казала: «Я вышываю і спяваю, спяваю і вышываю. А калі весела, танцую і пяю з дзеткамі — Колем і Соняю. Гэта маё каханне. А як была дзяўчынаю, спявала і вышывала сваю любоў да хлопцаў. Успамінаю сваю маладосць: дурная была, легкаверная. Але ўсё рабілася для таго, каб мы моцна кахаліся з Міхасём. Каб гэтае каханне было вечным. Каб была моцная сям'я, добрая, здаровыя дзеці. Так, дзякуй Богу, і аказалася. Я люблю сваіх дзетак, сваю сям'ю, люблю Міхася. Для гэтага я гадаю, для гэтага вышываю, для гэтага абпальваю валасы грамнічнаю свечкаю».

Трэба сказаць, што Н.Шыркевіч добра спявала і танцавала, а яшчэ была дэпутаткай і дэлегаткай і, вядома ж, шчырай працаўніцай. Тыповая сялянка-беларуска.



282. Н.Махоцкая. Абрус з узорам лірычнай песні. Коханавічы Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл.

## УЗОР І ПЕСНЯ

Былая настаўніца М.Гарнак з Сянна (1894 г.н.), якая добра ведала антычную і славянскую міфалогію, збірала матэрыялы па просьбе этнографа Е.Раманава, удзельнічала ў аматарскім гуртку песні, спявала ў царкоўным хоры, звязала некалькі сурвэтак з узорам, які, паводле яе словаў, абазначае песню (іл. 280). «Узоры на ручніку і песні, — казала яна, — гэта душа сялянкі. Яна сама для сябе і для сваёй сям'і, для аздаблення хаты стварае і песню, і ўзоры. Яна ўкладвае ў іх сваё сэрца, сваю душу. Калі хочаш пазнаць душу і розум сялянкі — слухай яе песні, любуйся створанымі ёю ўзорамі на посцілках».



280. М.Гарнак. Сурвэтка з узорам песні. Сянно Віцебскай вобл.

281. В.Слаўкоўская. Абрус з узорам песні. Блонь Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.



І песні, і ўзоры суправаджаюць беларускую сялянку ад калыскі і да магілы. Гэта яе самыя блізкія сябры, яе мары і спадзяванні.

Розныя па настроі песні, відаць, выклікаюць нараджэнне розных узораў. Лірычныя песні звязваюцца з узорам у выглядзе сіметрычнай разеткі з чатырох елачкападобных матываў з ромбікам унутры. І сапраўды, такі ўзор вельмі паэтычны, лірычны, хоць, аказваецца, ён выкліканы не толькі светлымі настроямі. Так, Н.Махоцкая (Каханавічы Верхнядзвінскага р-на) звязала абрус з узорам жалобнай, сумнай песні (іл. 282): «Калі я вязала, увесь час спявала сумныя, душэўныя песні». Характэрна, што яе ўзор дакла-





дна такі ж, як на абрусе Свентахоўскай з Талачына (іл. 283). Абедзве назвалі яго лірычным.

Большасць падобных узораў сустракаецца на карункавых вырабах. Магчыма, тлумачыцца гэта большай адпаведнасцю лірычных, задушэўных мелодый і лёгкага, паветранага малюнку карункаў.

Светлыя ўспаміны пра дні юнацтва, надзею на шчасце выклікае цудоўная мелодыя песні «Зорка Венера». Вельмі палюбілася яна нашым жанчынам. Па яе матывах створана некалькі ўзораў, пераважна ў выглядзе васьміканцовай кветкі-разеткі (іл. 284).

«Калі я ўпершыню пачула песню «Зорка Венера», — расказвала А.Сідарэнка (1889 г.н., Магілёўская вобл.), — у мяне пацяклі слёзы. Я і звязала карункі з гэтай песняй». Тое ж казала і М.Гарнак з Сянна: «Пачула я гэтую песню і адразу стала вышываць на ручніку».

Мы ўжо прыводзілі прыклады песень і прыпевак (пераважна купальскіх) грубавата-жартоўнага, як мы сён-



**284.** Н.Маркевіч. Абрус «Зорка Венера». Верхнядзвінск Віцебскай вобл.



**283.** А.Свентахоўская. Абрус. Талачын Аршанскага р-на Віцебскай вобл.



**285.** Е.Шалкевіч. Абрус. Поразава Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл.

ня сказалі б, эратычнага зместу. Даследчыкі народнай вуснапаэтычнай творчасці сарамліва абыходзяць падобныя творы ці падаюць іх сярод іншых у адпаведнасці з каляндарнай абраднасцю. Між тым гэта асобны пласт народнай творчасці — цікавы, жывы, вясёлы, іскрысты, нярэдка ён складае галоўны сэнс, аснову народнага свята.

Увасобленыя ў арнамент песні з эратычным налётам маюць выгляд рамбічнай фігуры з васьмю завіткамі па канцах (іл. 289—292). Падобных



**286.** Л.Гаварэнь. Абрус. Аляхновічы Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.



*Вобразы яднання песень і кветак, мелодыі і арнаменту*



**287.** М.Гарнак. Сурвэтка. Сянно Віцебскай вобл.



**288.** Н.Аланцьева. Сурвэтка. Прыдняпроўе Аршанскага р-на Магілёўскай вобл.

**289.** Фрагмент дэкору посцілкі з эратычнымі матывамі. Верасніца Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.



узораў на тканых і вышываных вырабах даводзілася бачыць шмат па ўсёй Беларусі, што лішні раз пацвярджае: такі своеасаблівы пласт народнай культуры мае глыбокія карані і значнае пашырэнне.

Асобны раздзел народнай мастацкай творчасці складаюць песні і адпаведныя ўзоры, звязаныя з тугою па радзіме. Гэта балючая для нас тэма: тысячы беларусаў, часта не па сваёй ахвоце, вымушаны жыць на чужыне. І як бы матэрыяльна добра ім там ні жылося, туга па радзіме не пакідае іх усё жыццё.

Е.Іванцова з Мінска, жонка афіцэра,

**290.** Посцілка з дэкорам эратычнага зместу. Брэсцкая вобл.



якой, відаць, давялося павандраваць па свеце, расказвала: «Калі я ўпершыню пачула мелодыю Агінскага «Развітанне з радзімаю», я заплакала. Мне было шкада сваёй радзімы, маёй роднай Беларусі. Тады я і звязала гэтую сурвэтку (іл. 293), навеяную мелодыяй развітання з маёй радзімаю».

Трагічны ў гэтым сэнсе лёс вядомага беларускага спевака М.Забэйды-Суміцкага. Яго песні слухалі ў Рыме і Варшаве, Празе і Харбіне, толькі на радзіме яму не знаходзілася месца. Але на Беларусі яго ведаюць і любяць. Вось і А.Варанко з Ліды звязала сурвэтку як сімвал песень М.Забэйды-Суміцкага (іл. 294).







**291.** Фрагмент дэкору посцілкі. Брэсцкая вобл.

**294.** А.Варанко. Сурвэтка-памяць пра М.Забэйду-Суміцкага.





**292.** Л.Хільмон. Посцілка. Грэбень Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.

## РУЧНІК І ПЕСНЯ

У беларусаў, як і ў цэлым у славян, ручнікі займалі асаблівае месца. Можна сказаць, ручнік суправаджаў беларуса ад нараджэння і да смерці. На ручнік прымалі нованароджанага, ручнікамі аздаблялі покуць у хаце, іх ахвяравалі ў храмы, на ручніку апускалі труну ў магілу і павязвалі яго на магільны крыж. Асабліва шмат прыгожа арнаментаваных ручнікоў уключалася ў вясельны абрад.

Спынімся тут на яшчэ адной, малавядомай ролі ручніка ў народным побыце. Многія майстрыхі «запісвалі» на ручніках свае любімыя песні, і тады ручнік сам ператвараўся ў песню, нібыта маўклівую, але для самой майстрыхі — заўсёды жывую. Вось пра гэтыя песні-ручнікі і пойдзе размова.

Падобных ручнікоў мне трапіўся не



**293.** Е.Іванцова. Сурвэтка «Развітанне з Радзімаю». Мінск.



*Вобразы яднання песень і кветак, мелодыі і арнаменту*

адзін дзесятак. На першы погляд яны асабліва не вылучаюцца сярод іншых. І ўсё ж гэта асаблівы від творчасці, ён спалучае ў сабе народную музыку і арнаментальную творчасць. Майстрыхі тут выступаюць і як спявачкі, і як мастачкі. У гэтых песнях-узорах увасоблены самыя глыбокія пачуцці і думкі, імкненне да шчасця, волі, праўды, прыгажосці.

Мне трапілася некалькі вырабаў на тэму песні-балады пра тое, як маці атруціла нявестку і сына. Гэтая песня вельмі папулярная на Беларусі. У томе «Балады» шматтомнага акадэмічнага выдання «Беларуская народная творчасць» змешчана 70 яе варыянтаў! А трэба ж думаць, што гэта далёка не ўсе. Змест песні такі. Неўзлюбіла маці нявестку, вырашыла яе атруціць. Ды разам з нявесткаю атруту выпіў і сын. На іх магілах пасадзілі дрэўцы. Выраслі яны, пахіліліся адно да аднаго, перапляліся галінкамі. «І ўсе людзі дзівіліся, што на тым свеце палюбіліся».

Ручнік з узорам на гэты сюжэт мне давялося бачыць у У.Скітовіч з Пагарэльцаў на Магілёўшчыне. Па характары ён блізкі да змешчанага тут ручніка з Лужкоў Шаркоўшчынскага раёна (іл. 295). «У нас у вёсцы многія спяваюць гэтую песню і любяць яе вышываць, — казала У.Скітовіч. — Вось і я вырашыла вышыць яе на ручніку. Калі вышывала — спявала песню, мне было так маркотна, так горка». Тое ж казала мне і В.Шастова з Гомельшчыны: і пра распаўсюджанасць гэтай песні, і пра свае перажыванні і слёзы, калі вышывала падобны ручнік.

Вязаная сурвэтка А.Воранавай са Шклова з першага ж погляду нагадвае заінелае акно з марознымі ўзорамі (іл. 296). Аказваецца, майстрыха, калі вязала свой выраб, спявала: «Ой, мароз, мароз, не змарозь мяне, дзетак маленькіх, дзетак кволенькіх».



**295.** Ручнік з дэкорам баладнага зместу. Лужкі Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.



**296.** А.Воранава. Сурвэтка. Шклоў Магілёўскай вобл.

Шмат песень прысвечана мацярынскай любові — самай моцнай у свеце. Вось досыць распаўсюджаны сюжэт. Пры дарозе ляжыць забіты воін. Тры зязюлі — маці, сястра і жонка — аплакваюць яго.

Жонка плача — дзень да вечара,
сястра плача — год да году,
маці плача — век да веку.

(Сураўня Гарадоцкага р-на)

Ручнік з узорам мацярынскай любові давялося бачыць у Д.Мальковай (1907 г.н., Абідавічы Быхаўскага р-на). «Гэтую песню, — казала яна, — любіла, часта спявала, а потым вышыла на ручніку мая маці. Па яе ўзоры вышыла гэтую песню і я. Галубкі ўверсе абазначаюць маю любоў да маці, унізе —



*Вобразы яднання песень і кветак, мелодыі і арнаменту*



любоў маці да мяне. Я з радасцю і ахвотаю вышывала гэтую песню».

Каб не памёр сын Віктар, А.Кацар з Клімавічаў Сенненскага раёна вышыла ручнік з калыханкаю (іл. 298). Ручнік яна ахвяравала на абраз Параскевы-Пятніцы ў мясцовую царкву.

Шырокавядомы сюжэт, як ажаніліся брат з сястрою. Нарадзіла ўдава двух сыноў, паклала іх у лодку і пусціла па Дунаі. Выраслі сыны на чужыне, разбагацелі і вярнуліся дадому. Заходзяць у карчму, просяць віна і хваляцца, колькі ў іх грошай. Удава і загарэлася аддаць за аднаго сваю дачку. Павянчаліся. І тут высветлілася, што яны — родныя брат і сястра.

Абярнемся мы травою, што жаніўся
брат з сястрою.
На браточку сіні цвет, на сястрыцы —
жоўты цвет.



299. А.Свішч. Ручнік з баладным сюжэтам. Арэхаўск Аршанскага р-на Віцебскай вобл.



297. М.Ермашэнка. Ручнік з баладным сюжэтам. Сураўня Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

298. А.Кацар. Ручнік. Клімавічы Сенненскага р-на Віцебскай вобл.







**300.** А.Чудакова. Фрагмент дэкору ручніка. Кузьмінічы Чавускага р-на Магілёўскай вобл.



**302.** К.Ракава. Ручнік па матывах песні. Узда Мінскай вобл.



**301.** Н.Ціхановіч. Ручнік з баладным сюжэтам. Расходна Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

На гэтую тэму вышыла ручнік А.Свішч з Арэхаўска Аршанскага раёна (іл. 299). Галубкі ўнізе абазначаюць імкненне да кахання, ды, на жаль, няшчаснага. Кветкі справа і злева — брат і сястра. Калі майстрыха вышывала свой ручнік, яна спявала згаданую песню.

Як бачым, каханне бывае рознае: узвышанае, незямное — і няшчаснае, трагічнае. Па-рознаму гэта паказана і ва ўзорах.

У згаданым акадэмічным шматтоміку апублікавана 60 варыянтаў песні пра тое, як муж засек сваю жонку-рабіну. Былі ў маці сын і нявестка. Вяртаецца аднойчы сын дадому, бачыць — расце каля хаты рабіна. Не ведаў ён, што гэта была заклятая свякроўкай яго жонка, а маці і падгаварыла ссекчы дрэва. Секануў сын раз — схілілася рабіна, секануў другі — заплакала, секануў трэці — прамовіла: «Ванечка, дружок мой. Не рабіну сячэш, а жонку сваю, не суччa цярэбіш, а дзяцей сваіх».

Гэта і адлюстравала А.Чудакова з Кузьмінічаў Чавускага раёна (іл. 300): «Вышывала ручнік і спявала песню, ды яшчэ і плакала. Спяваць і вышываць мне сяброўкі памагалі». Растлумачыла майстрыха і значэнне ўзораў. Ружы — сведчанне прыгажосці нявесткі, кахання мужа. Галінка рабіны — сімвал нявесткі. Крыжыкі — знак трагічнага ўчынку мужа, хоць ён і не падазраваў пра гэта. Разеткі выяўляюць спачуванне няшчаснай нявестцы.

На гэтую тэму аздобіла ручнік і А.Кароль з Іванаўскага раёна. «Мы збіраліся на вячоркі, — успамінала яна. — Усе дзяўчаты вышывалі гэты ўзор на ручніках, разам спявалі песню.





Потым вадзілі карагод, спявалі, танцавалі. Было вельмі весела. Няма таго сёння...»

Ёсць песні і з процілеглым сюжэтам — як жонка засекла мужа. Гэтай тэме прысвяцілі свае ручнікі А.Харошка і Н.Ціхановіч з Сенненскага раёна (іл. 301).

Жыццёвая драма падштурхнула на стварэнне багата арнаментаванага ручніка К.Ракаву з Узды (іл. 302). «Гэта`ручнік пра маю долю, — апавядала яна. — Мяне ж аддалі замуж у далёкую вёску, у багатую, суровую сям'ю. Мяне так цягнула дадому, ды свёкар са свякроўкаю не пускалі, лаялі. Я і вышыла ручнік пра сваю горкую долю. Ёсць песня, якую вельмі люблю. Там маладзіца ператварылася ў зязюлю, каб употай лятаць у родную хату. Прылясцела ў таткаў сад, кукуе, а малодшы брат цэліцца, каб яе застрэліць. Ды бацькі пашкадавалі бедную зязюлю. Вось і вышыла я гэта на ручніку, уклаўшы ў яго ўсё сваё гора, усе слёзы, якія праліла ў чужой сям'і».

У сваіх паездках па Беларусі ў 1934—1941 гадах я замаляваў некалькі ручнікоў з вышыўкай на тэмы песень пра дзяўчыну-бярозку, дзяўчынурабіну, дзяўчыну-каліну і хлопца-клёна (явара).

Я.Астапенка (1856 г.н., Волчык Чэрыкаўскага р-на) вышыла на ручніку песню пра дзяўчыну-бярозу. У песні ёсць такія словы: «Свеціць свечкаю, іскрай-молніяй, іскрай-молніяй, зарой яснаю». Гэта і вышыта на ручніку (іл. 303). У цэнтры — бярозка з паніклымі галінамі, па баках — узор жаночай долі.

На ручніку К.Яроменкі (1892 г.н., Арцюхоўка Магілёўскай вобл.) вышыты сюжэт, як гаротная, закаханая дзяўчына-рабіна марыць злучыцца з дубам-яварам (іл. 304). Яна паказана ў выглядзе рабінавага дрэўца з галінкамі і пладамі, справа і злева — зоркі, сімвал чалавека (дуба-явара). Па словах майстрыхі, яна адлюстравала ўласную долю-нядолю.

Некалькі ручнікоў на тэмы народных песень давялося бачыць у Г.Дудкевіч (1887 г.н., Татарка Магілёўскай вобл.). Сярод іх — сюжэт пра дзяўчыну-каліну, якая марыла пра шчаслівае каханне, ды перажыла здраду і горкае расчараванне. Вось схематычны малюнак вышыўкі (іл. 305): сімвал дзяўчыны ў выглядзе галінкі з трыма парасткамі, змешчаны ў рамбічную фігуру з кветкавай гірлянды.

Вобраз добрага малойца дуба-явара на ручніку М.Аляксейчык (1901 г.н., Татарка Магілёўскай вобл.) таксама паказаны ў выглядзе трохчасткавай кветкі. Зверху — крыжыкі, унізе — сімвал Зямлі-Карміцелькі (іл. 306).

Усе гэтыя ўзоры прасякнуты тонкай мелодыяй народнай паэтыкі, вобразнасцю мыслення вышывальшчыц, іх нязгаснай марай пра шчасце і каханне.



**303.** Узор дзяўчыны-бярозы.



**304.** Дзяўчына-рабіна марыць пра дуб-явар.

**305.** Узор дзяўчыны-каліны.



**306.** Вобраз дуба-явара.



Сучасная мастацкая культура Беларусі, асабліва народная творчасць, у большай ці меншай ступені прасякнута адгалоскамі язычніцтва. Асабліва трывала ўтрымліваецца ў народнай памяці старажытная міфалогія. Карані яе ўзыходзяць да першабытных часоў, пазней славянскія плямёны (крывічы, радзімічы, дрыгавічы) развілі і ўзбагацілі яе. У той язычніцкі перыяд пакланення прыродзе склалася цэласнае міфалагічнае светаўспрыняцце, галоўнымі аб'ектамі якога былі багіня маці-Зямля, бог Сонца, бог грому і маланкі Пярун, бог ветру Стрыбог, бог агню Жыжаль. Прыродныя з'явы і аб'екты ўвасаблялі Ярыла, Палявік, Дамавік, Вадзянік, Лесавік і інш. Змены ў прыродзе, важнейшыя падзеі абазначалі і адлюстроўвалі Вясна, Радаўніца, Купала, Каляда, Масленіца, Дзяды, персанажамі іх былі Лада, Лель, Купалінка, русалкі і інш. Ужо тады абагаўляўся вобраз маці як сімвал любові, міласэрнасці, прадаўжэння жыцця: Маці ўсіх людзей, Родапачынальніца, Параскева, Жытняя Баба і інш.

З прыняццем хрысціянства і распаўсюджаннем праваслаўя царква павяла рашучае змаганне за выкараненне з народнай памяці язычніцкіх вераванняў і звычаяў. Знішчаліся язычніцкія капішчы, стоды (ідалы) язычніцкіх багоў, абрадавая атрыбутыка. Але народная памяць трывала ўтрымлівала язычніцкія звычаі, вераванні, абрады, міфалогію. Урэшце царква вымушана была змірыцца з гэтым, і ў выніку язычніцтва арганічна пераплялося з праваслаўем, старажытныя звычаі і абрады спалучыліся з хрысціянскімі. Язычніцкае свята вясны Вялікдзень злілося з хрысціянскай Пасхаю (Уваскрашэннем Хрыстовым), Каляда — з Раством Хрыстовым, Сёмуха — з Тройцай Святога Духа; Ярыла стаў Юр'ем (Георгіем, Ягорыем), Пярун — пракрокам Іллёю. У такім арганічным спалучэнні яны і дайшлі да нашага часу.

## БОГ СОНЦА І БАГІНЯ МАЦІ-ЗЯМЛЯ

Былая дваранка, сястра міласэрнасці ў першую сусветную вайну А.Пажарыцкая з Нараўлянскага раёна расказвала, што ў 1918 годзе ў яе ўсю зіму жыў старац-пясняр Арсен. Хадзіў ён па вёсцы, збіраў міласціну, спяваў песні, у якіх праслаўляліся Сонца і маці-Зямля. Быў ён у секце сонцапаклоннікаў, каля Нароўлі было ў яго капішча з крыніцай, свяшчэнным дубам, алтаром. Прыходзілі хворыя, старац лячыў іх крынічнай святой вадою, агнём і замовамі. Ды яго шырокая папулярнасць і звязаны з гэтым дабрабыт не давалі спакою знахаркам і шаптунам, яны і падсыпалі ў крыніцу атруты. Некалькі хворых пасля лячэння атручанай крынічнай вадою памерлі, старца хацелі забіць, ды ён, на шчасце, паспеў уцячы. Толькі капішча яго зруйнавалі дашчэнту.

Дык вось што расказваў А.Пажарыцкай старац Арсен. Галоўнымі багамі на зямлі з'яўляюцца светлае Сонца і Маці-Зямля-Карміцелька. Ад іх пайшло ўсё жыццё на зямлі. Іх дзеці — Ярыла і Жытняя Баба — глядзяць за ўродам жыта, пшаніцы і ўсялякае пашніцы. У Ярылы і Жытняй Бабы былі свае дзеці — ураджай Жыцень, ураджай Спарыш, ураджай Рай, ураджай Багач. Яны глядзелі, каб на ніве быў урод, каб жытні колас быў цяжкі, каласісты, каб уся ніва была застаўлена снапамі ды бабкамі, каб былі поўныя асеці, каб сталы ламаліся ад хлеба-караваю. Галоўным богам сярод людзей і ў прыродзе з'яўляюцца светлае Сонейка і Маці-Зямля сырая. Яны нарадзілі ўсіх людзей і ўсю прыроду. Усе багі — татарскія, японскія, германскія, кітай-





307. Франтон з узорам сонца. Тураў Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.

скія — падпарадкоўваюцца богу Сонцу. Ва ўсіх людзей бог адзін — святое, светлае Сонейка. Яно саграває нас, асвятляе шлях да праўды і дабра. Таму грэшна ваяваць людзям між сабою. Бог Сонца і Маці-Зямля даюць людзям усё: хлеб і ваду, цяпло і святло, рэчкі і азеры, палі і лясы. А дурныя людзі, каб з толкам усё гэта скарыстаць, ваююць, праліваюць кроў.

Глебаўны Сенненскага раёна казаў, што на Беларусі была секта, якая пакланялася богу Сонцу, злучанаму з хрысціянскім Богам.

У старыя часы да Сонца як да бога звярталіся па дапамогу. Вось як гучыць замова ад начніц: «Цёмная ночка начніц нарадзіла, маломy дзіцяці мук нарабіла. Яснае сонейка дзень пачынаець, начніц праганяець, дзянніц пасы-





309. Франтон сучаснага жылля. Альманы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.



308. Франтон жылля. Калбы Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

Трэба зазначыць, што мудры старац не перабольшваў. Сонца шанавалі многія народы свету. Адны пакланяліся яму як богу (Старажытны Усход), другія ўзялі за сімвал дзяржаўнасці (Японія), трэція лічылі проста добрым геніем. Галоўным богам было яно і ў нашых продкаў-славян. Называлі яго то Сварогам, то Даджбогам, то Хорсам. Стары настаўнік А.Новікаў з

лаець, боль сунімаець. Шух у печ, шух у печ» (Богданович А. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 16).

80-гадовая А.Васільева з Сянна расказвала, як у яе захварэў сынок. Клікала яна многіх бабак, але ніводная не дала рады. Ды як толькі яна вышыла ўзор Сонца — сын ачуняў.

У вышыўцы Васільевай узор Сонца меў выгляд ромба з прамянямі. А ўвогуле гэты матыў, як аказалася, вызначаецца вялікай разнастайнасцю, што і зразумела: паходжанне яго звязана з рознымі рода-племяннымі саюзамі нашых далёкіх продкаў, якія і ўспрымалі сваціла па-рознаму. Пэўным адзінствам вызначаецца хіба што легенда пра збліжэнне сонца з зямлёю. У выніку мёртвая зімовая прырода ажывае і квітнее. Ну, а далей ужо ідуць шматлікія варыянты. Найбольш пашыраны сімвал гэтага саюза — ромб з прамянямі, якія ад яго адыходзяць (іл. 311). Могуць быць розныя мадыфікацыі гэтага матыву.

Ёсць яшчэ матыў Вялікага Сонца складанай кампазіцыі. Што ён





сімвалізуе, устанавіць сёння цяжка. Адны ткачыхі звязваюць яго з лячэннем хвароб, другія — з асаблівай роляй сонца ў прыродзе, трэція — з магіяй.

У маіх паездках па Беларусі ставілася задача высветліць, якія варыянты гэтага матыву сустракаюцца ў

**310.** Дзверы з узорам сонца. Сіцік Столінскага р-на Брэсцкай вобл.





**311.** Узор сонца.

народным ткацтве і вышыўцы і якое яны маюць значэнне. Аказалася, што аснова ўзору практычна адна і тая ж — ромб з прамянямі. Але запаўненне ромба мела варыянты. У адных выпадках у цэнтр ромба змяшчаецца крыжык, у другіх — маленькі ромбік. Ці ёсць у гэтым нейкая сэнсавая розніца?

А.Красічкава, кіраўнік курсаў вышыўкі ў Доме афіцэраў (Мінск) казала, што крыжык у цэнтры матыву сонца абазначае мары вышывальшчыцы пра сваё шчасце, думы пра душу, надзею на дапамогу сонца. Квадрацік (ромбік) сімвалізуе надзеі на добры ўраджай (іл. 313—315). У Сонца і Маці-Зямлі, казала А.Красічкава, былі



**312.** Ручнік. Красная Буда Добрушскага р-на Гомельскай вобл.



**313.** Матыў сонца з крыжыкам у цэнтры.

дзеці — Вясна, Ярыла і Купалінка. Вясна — для росквіту, кветак, Ярыла — для багатага ўраджаю жыта на ніве, Купалінка — для песень, танцаў, карагодаў.

Зімою зямля адгароджана ад сонца завеямі ды мяцеліцамі, лютымі марамі ды вятрамі. Цяжка людзям зімою, галадна і холадна. Ды вось настала вя-



314. Матыў сонца з крыжыкам у цэнтры.

Гэта і паказала на сваім ручніку М.Сыраватнікава (1897 г.н., Плітніца Старадарожскага р-на). На маё пытанне пра значэнне ўзору майстрыха і расказала міф пра сонца і зямлю. Знайшоўся ў яе таксама ручнік з Ладай і Купалінкай.

У народнай свядомасці саюз зямлі і сонца спрадвеку звязваўся з жыццём, цяплом, ураджаем. Жыватворнае значэнне такога паяднання асабліва ярка праяўляецца вясною, калі мёртвая зімовая прырода ажывае і квітнее. Гэты жыццёвы працэс вельмі выразна выяўлены ў тканых і вышываных узорах. Як ужо адзначалася, матыў сонца мае выгляд ромба з промнямі ўбакі, а матыў зямлі — такі ж ромб, але з промнямі ўнутр. Майстрыхі ўкампанавалі адзін матыў у другі — атрымаўся ўзор, які сімвалізуе яднанне зямлі і сонца (іл. 319). Такая дасканалая кампазіцыя вобразна адлюстроўвае новае жыццё, росквіт прыроды.



316. А.Серада. Матыў сонца з крыжам. Мінск.



317. А.Серада. Пояс з узорам сонца. Мінск.



315. Матыў сонца з крыжыкам у цэнтры.



318. Гарнак. Узор сонца. Сянно Віцебскай вобл.

сна. Зірнула сонца, распусціліся лясы, расквітнелі лугі і сенажаці, зазелянела траўка-мураўка.





Падобныя ўзоры пашыраны па ўсёй Беларусі (іл. 321—322), а магчыма, і ва ўсім славянскім свеце. Праўда, назвы іх бытуюць самыя розныя: Вясна, Жыццё, Ярыла, але ўсе яны, як відаць, маюць адзіны сэнс — вясновае абуджэнне прыроды ў выніку збліжэння зямлі і сонца.

У былой партызанскай кухаркі Е.Караткевіч (Война Сенненскага р-на) цудам захаваўся ручнік з падобным узорам. «Гэта злучэнне зямлі і сонца,— казала майстрыха. — Яно дае жыццё ўсёй прыродзе. Гэты ўзор абазначае жыццё. Вось якая ёсць легенда. Светлае Сонца глядзіць у ваконца. Устала рана, умылася бела. Клікнула, гукнула Зару-Зараніцу. Ты, Зара-Зараніца, красная дзявіца, ляці стралою, сізаю галубкаю. Скінься, пакланіся Зямлі-Зямліцы, Маці-Зямліцы, добрай маладзіцы паклон ад Сонца, што глядзіць у ваконца. Сагрэю Зямліцу, арашу расіцай, цёплаю вадзіцай. Расці, Зямліца, зялёную травіцу, жыта, ярыцу, белую пшаніцу. Хай статак сыцее, хай гавяда пасецца, хай дзеткі растуць ды праўду нясуць, каб радзіму любілі ды фашыстаў білі».



320. Н.Яніцкая. Узор сонца ў дэкоры ручніка. Дзяржынск Мінскай вобл.



319. Ручнік. Гомельская вобл.



321—322. Н.Ераш. Фрагмент дэкору посцілкі. Слонім Гродзенскай вобл.

Частку легенды пра каханне Сонца і Зямлі расказала М.Спірыдонава з Нясвіжа: «Устала светлае Сонца ранюсенька, умылася бялюсенька. Глянула на Зямлю, сагрэла яе. Ад гэтай любові радзілася прыгажуня Вясна. Расцвіла ўся прырода, распусціліся дрэвы». На жаль, другую частку легенды жанчына забыла.

Ф.Выдра (1860 г.н., Выдра Крупскага р-на), на ручніку якой давялося бачыць падобны ўзор, пракаменціравала: «Мне казаў адзін стары, што





калісьці самымі вялікімі багамі былі Сонца і Зямля. Яны жылі як муж і жонка. У іх было шмат дзяцей: Вясна, Ярыла, Купала».

А ўсё ж, хто мае больш рацыі ў даўняй зацятай спрэчцы хрысціянства і язычніцтва? Памяркуем так. Сонца дае жыццё ўсяму на зямлі. Людзі, жывелы, расліны — усе не могуць жыць без сонца. Што ж да хрысціянскага Бога, дык ён створаны ўяўленнем чалавека і на прыроду ўздзеяння не аказвае.

Нашы продкі падсвядома адчувалі гэта, і хоць ужо тысячу гадоў моляцца хрысціянскаму Богу, але ўсё іх жыццё прасякнута язычніцтвам Гэта праяўляецца ў побыце, паводзінах, звычаях, абрадах, песнях і, як мы ўжо пераканаліся, у народнай мастацкай творчасці Вядома, гэта датычыць не толькі ткацтва і вышыўкі. Звярніце ўвагу на дэкор палескага жылля. Як і ў старажытнасці, франтоны будынкаў і сення аздабляюцца сонечнымі знакамі (гл. іл. 307—310). Праўда, сення гэта хутчэй дэкаратыўныя матывы, чым абярэгі ад нячыстай сілы, але старажытная язычніцкая аснова прасочваецца ў іх вельмі выразна.



323. Д Арлова Фрагмент дэкору ручніка з узорам месяца. Паставы Віцебскай вобл



324. Н.Аляшкевіч. Посцілка з узорам сонца і месяца. Глыбокае Віцебскай вобл.

## МЕСЯЦ

У многіх народаў свету з месяцам звязаны розная варажба і прадказанні Вобраз месяца нязменна звязваецца з начнымі з'явамі і падзеямі. Калі сонца гаспадарыць днем, то месяц — ноччу. Вось як гучыць замова-зварот да сонца і месяца: «Юрый-Ягорый, старажы маю скацінку, ноччу пад месяцам, днем пад жаркім сонцам, ад гада паўзучага, ад звера бягучага, ад ліхія ведзьмы» (Романов Е. Белорусский сборник. Вильно, 1902. Вып. 5. С. 46).

Узор месяца ў народным мастацкім ткацтве перадаецца ў выглядзе ромба або некалькіх ромбаў, устаўленых адзін у адзін (іл. 323—324). Бакі яго гладкія ці зубчастыя, калі складаецца з дробных квадрацікаў, але не маюць ніякіх адросткаў, як узор сонца.

## ПЯРУН

Слова Пярун у народнай лексіцы вельмі пашыранае. Гэта памяць пра грознага язычніцкага бога грому і маланкі. Паводле народных паданняў, Пярун раз'язджае па небе на калясніцы, трымаючы ў руках каменныя молаты, вогненны лук і грамавыя стрэлы, якімі карае дэманаў, чарцей і ўсялякую нечысць. А яшчэ Пярун прыносіць дождж, дае ўраджай.

Вось як праслаўляе Перуна легенда, якую расказала мінчанка Г.Ступіна. Запанавалі на зямлі злосць, нянавісць, бруд ды пошасці. Па вёсках бадзяліся зладзеі, забойцы, гвалтаўнікі. Развялося шмат чарцей, ведзьмакоў, ваўкалакаў. І сталі людзі прасіць Бога, каб ён збавіў іх ад зладзеяў. Паклікаў Бог Перуна і даручыў яму ачысціць зямлю ад зла. Стаў Пярун страляць маланкай, біць камянямі нечысць. Так і ачысціў Пярун зямлю ад ліха.

У старажытнасці Перуна глыбока шанавалі. З летапісаў вядома, што ў Кіеве стаялі яго статуі. Вядома ж, безліч падобных скульптур стаяла па ўсім славянскім свеце.





З прыняццем хрысціянства памяць пра Перуна, як і іншых язычніцкіх багоў, бязлітасна выкаранялася. Скульптуры-ідалы былі спалены ці пасечаны. Але вобраз Перуна ў народнай памяці захаваўся, зліўшыся з вобразам хрысціянскага прарока Іллі. Ён таксама раз'язджае па небе ў вогненнай калясніцы і пускае стрэлы ў нячысцікаў і грэшнікаў.

Спалучэнне язычніцтва і хрысціянства выпрацавала ў народнай свядомасці шматлікія варыянты Перуна, асабліва ў спалучэнні з вобразам хрысціянскага прарока Іллі. Несумненную роднаснасць выяўляе і таямнічы бог грома і маланкі Грамавік. З Перуном звязаны і вобраз славянскага князя Грамабоя. Гэтая разнастайнасць выяўляецца і ва ўзорах ткацтва і вышыўкі.

Вобраз Перуна звычайна ўвасабляецца ў выглядзе ромба з гарызантальна накіраванымі промнямі-стрэламі (іл. 325—329). Гэты матыў і сапраўды выглядае досыць выразна.

Яшчэ больш выразны сімвал таямнічага Грамавіка (іл. 330, 332). С.Казакевіч (1882 г.н., Чавусы) так пракаменціравала ўзор на ручніку



325. Г.Ступіна. Узор для вышыўкі з матывам Перуна. Мінск.



326. А.Чаркес. Посцілка з узорам Перуна.



327. Е.Іваніха. Ручнік з узорам Перуна. Хойнікі Гомельскай вобл.





Н.Пятковай з Магілёўшчыны (іл. 331): «Мая бабуля Аўдоцця Гапееўна, якая помніла французаў 1812 года, казала, што вось гэтая фігура ў выглядзе ромба з гарызантальнымі адросткамі-прамянямі — гэта і ёсць сам Грамавік, Грамнічнік. Гэта такі святы ці бог. Ён асвячае, запальвае грамнічную свечку, дае ёй сілу. А ўзор у выглядзе крыжа ўнізе — гэта грамнічная свечка. Яе запаліў Грамавік».

Іншы характар мае сімвал напаўгістарычнага, напаўлегендарнага князя крывічоў Грамабоя. Яго згадвае



**328.** Грамавік.



**329.** Ручнік. Стараселле Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.



**330.** Ручнік з узорам Грамавіка. Гомельская вобл.



**331.** Н.Петкава. Ручнік. Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл.





рускі гісторык М.М.Карамзін. Паэт В.А.Жукоўскі напісаў пра яго паэму. Згадвае яго В.І.Дунін-Марцінкевіч у паэме «Стаўроўскія дзяды»: «Вот на Лагойскім замку Грамабой ледзь пачаў княжыць, а ўжо як свой, як родны бацька быў ён для чэлядзі, любілі яго ў цэлай грамадзе». А вось у В.Жукоўскага Грамабой паказаны злодзеем. Паэт, відаць, пайшоў за царквою, якая ачарняла ўсё, што было звязана з язычніцтвам.

Сімвал Грамабоя ў ткацтве нагадвае дзве васьмёркі, якія перасякаюцца пад прамым вуглом (іл. 334—335). Магчыма, тут ёсць нейкія асацыяцыі з хрысціянскім крыжам.

**332.** А.Двужыльная. Ручнік. Дужаўшчына Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

**333.** Ручнік. Веткаўскі р-н Гомельскай вобл.







**334.** П.Краўцова. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам Грамабоя. Лагойск Мінскай вобл.



**335.** Т.Тарган. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам Грамабоя. Серкуці Сенненскага р-на Віцебскай вобл.





## АГОНЬ-ЖЫЖАЛЬ

Яшчэ нядаўна на Беларусі быў пашыраны культ агню. Шанавалі яго ўсюды. «Згодна з поглядамі беларусаў, — пісаў у пачатку XX ст. этнограф П.Шэйн, — гэта адна з асноў сям'і» (Шейн П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб, 1902. Т. 3. С. 329). Ды і ўвогуле агонь, ачаг у нашай свядомасці звязваецца з домам, сям'ёю.

Вытокі гэтых вераванняў — у глыбокай старажытнасці, відаць, у тых часах, калі чалавек упершыню навучыўся карыстацца сілай агню. У славян агнём загадваў Жыжаль — блізкі сваяк антычнага грэчаскага бога агню і рамёстваў Гефеста. «Жыжаль добры дзядзька, — казаў А.Цяслюк з Барані Аршанскага раёна. — Ён усіх абдорыць: жанок — сярпамі, мужыкоў — лемяхамі, дзетак цяплом сагрэець. Выпаліць печы, каб старыя грэлі плечы».



336. М.Дзехцярэнка. Шкатулка з узорам Жыжаля. Жлобін Гомельскай вобл.



337. Ручнік з сімвалам Жыжаля. Ганцавічы Брэсцкай вобл.



339. А.Сянькевіч. Фрагмент дэкору посцілкі з сімвалам Стрыбога. Жываглодавічы Слуцкага р-на Мінскай вобл.



338. М.Філатава. Фрагмент дэкору ручніка. Брагін Гомельскай вобл.

У ткацтве і вышыўцы Жыжаль паказваецца багата распрацаваным матывам, у аснове якога — васьміканцовая разетка-зорка. Ад яе адыходзяць моцна стылізаваныя ці досыць рэалістычныя раслінныя ўзоры (іл. 336—338).

## ВЕЦЕР-СТРЫБОГ

Язычніцкі славянскі бог ветру Стрыбог згадваецца ў «Слове пра паход Ігаравы». Яраслаўна моліць Стрыбога памагчы Ігару перамагчы Канчака.







341. А.Вяршэня. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам Стрыбога. Танежыцы Лельчыцкага р-на Гомельскай вобл.



342. Фрагмент дэкору посцілкі з матывам Стрыбога. Мінская вобл.



340. Ручнік. Булавішкі Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.

343. А.Міхайлава. Ручнік. Шаркоўшчынскі р-н Віцебскай вобл.

У народнай мастацкай творчасці Стрыбог увасоблены ў выглядзе разеткі з адгалінаваннямі. Але варыянты гэтага матыву вельмі разнастайныя, што мы і бачым на здымках (іл. 339—342).

## СЛАВЯНСКІЯ ЯЗЫЧНІЦКІЯ ХРАМЫ-КАПІШЧЫ

З пачатку маёй вучобы ў Маскве (1934) сабраліся сотні здымкаў посцілак, ручнікоў, абрусоў і іншых тканых і вышываных вырабаў. Сярод іх трапіўся добры дзесятак здымкаў ручнікоў з нейкімі дзівоснымі, ні на што не падобнымі ўзорамі (іл. 343—348). Народныя майстры нічога канкрэтнага мне не сказалі, і я паказаў здымкі вядомым вучоным А.Някрасаву, М.Ільіну, У.Алпатаву, М.Нікольскаму. Усе

яны без ваганняў заявілі, што на ручніках адлюстраваны славянскія язычніцкія капішчы. Вось іх выказванні. А.Някрасаў: «Вы сабралі выдатны матэрыял па культуры старажытных славян. Яго трэба абавязкова апублікаваць». М.Ільін: «Вашы здымкі па язычніцкіх славянскіх капішчах — вельмі каштоўны матэрыял па культуры славян». Археолаг А.Гарадцоў: «Гэты матэрыял дапаможа раскрыць узаемаўплывы славянскай і скіфскай культур». М.Нікольскі: «Калі б я ведаў пра гэтыя здымкі, то некаторыя праблемы славянскай культуры трактаваў бы іначай».

Звернемся да некаторых ручнікоў з гэтай серыі. Адзін з іх — А.Міхайлавай з Шаркоўшчынскага раёна (іл. 343). На маё пытанне пра сэнс узору на ім майстрыха патлумачыла, што ручнік яна вышыла па падказцы старой бабулі, каб вылечыцца ад хваробы. А паказана тут Параскева-Пятніца, якая моліцца каля царквы. Загадкавыя матывы, што ідуць уверх — гэта свечкі, ахвяра Богу. Два прамавугольнікі па баках сімвалізуюць ручнікі, якія развешваюць жанчыны на крыжах і магілах памерлых продкаў.

Узор на ручніку М.Баравік з Шаркоўшчынскага раёна (іл. 345) я паказваў ткачыхам Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Е.Астапенка (1856 г.н., Чэрыкаўскі р-н) убачыла ў ім месца, «дзе маліліся старыя-прастарыя людзі. Яны яшчэ не верылі ў Хрыста-Бога. Гэта нам казаў бацюшка на пропаведзі». Е.Яроменка (1892 г.н.) палічыла, што

**345.** М.Баравік. Ручнік з выявай язычніцкага капішча. Запруддзе Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.

**346.** А.Тарарака. Ручнік. Рэчкі Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.





**344.** А.Кірсанава. Ручнік. Кушлева Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.







тут паказана старажытная царква. «Тады маліліся багам каля крыніц. Ім

347. Фрагмент дэкору ручніка. Ёды Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.





348. М.Баравік. Фрагмент дэкору ручніка. Запруддзе Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл.

прыносілі ахвяры: пеўняў, ручнікі. Ручнікі развешвалі на дрэвах і на слупах. А ў нас ручнікі вешаюць на крыжы, на магілах памерлых родзічаў. Каля такой малельні стаяў стары дуб, на яго вешалі ручнікі».

Звычай прыносіць на Дзяды і Радаўніцу ахвяры нябожчыкам у Беларусі шырока бытаваў яшчэ нядаўна, некаторыя яго адгалоскі дайшлі і да нашых дзён. На могілках закопвалі рэшткі ежы, асвячоныя курыныя яйкі, а на крыжы вешалі ручнікі. Гэта і ёсць водгук старажытнаславянскага язычніцкага абраду ахвярапрынашэння. На ручніку М.Баравік, як відаць, якраз і паказана язычніцкае капішча з ахвярнымі ручнікамі.

А вось узор на ручніку А.Тараракі з таго ж Шаркоўшчынскага раёна (іл. 346) так ніхто і не змог мне разгадаць. Што азначаюць гэтыя загадкавыя чарапахападобныя матывы? Таямнічыя сілы, духі прыроды? Магчыма, гэтага мы ўжо не ўведаем ніколі.

Такую ж загадку ўяўляе і дэкор ручніка, таксама работы М.Баравік (іл. 348). Відаць, і тут паказана язычніцкае капішча. А можа, нейкі язычніцкі абрад? Цяжка сказаць...

Дарэчы, цікава дакапацца да сэнсу слова капішча. Нагадвае яно слова ку́па — статак, а таксама ку́пна — разам. Мажліва, слова капішча абазначае збор людзей на малітву ці збор язычніцкіх багоў. А магчыма, слова ахоплівае абодва паняцці. Можа, ёсць тут і сувязь з Купалам.

Рэшткі язычніцкага капішча мне пашчасціла бачыць на свае вочы, ды не дзе-небудзь у глухім кутку, а ў самым цэнтры Мінска. Яшчэ ў час сваіх камандзіровак з Масквы на радзіму ў 30-я гады я звярнуў увагу на камень каля Свіслачы паблізу цяперашняй вуліцы Лодачнай. Апытаў мясцовых старажылаў: М.Шчарбенка (1848 г.н.), Х.Несцяровіч (1853 г.н.), І.Бялькевіч (1888 г.н.), Ф.Камоцкую (1863 г.н.), В.Камоцкага (1860 г.н.). Вось што яны мне расказалі. Здаўна на гэтым месцы было славянскае язычніцкае капішча. Да правядзення чыгункі праз Мінск тут шумеў глухі забалочаны лес, каля Свіслачы тулілася вёсачка. Пазней гэтае месца стала Лодачнай вуліцай.

У размовах са старажыламі вуліцы і быў складзены план капішча 70—80-х гадоў XIX стагоддзя. Тады яно яшчэ дзейнічала, гаспадарыў на ім чараўнік Севасцьян. Неслі сюды ахвяраванні язычніцкаму богу Перуну, з крыніцы чэрпалі святую ваду. Свяшчэнны дуб і камень былі ўвешаны ручнікамі і іншымі тканымі і вышыванымі вырабамі.







349 Ручнік з дрэвам жыцця Віцебшчына

## ДРЭВА ЖЫЦЦЯ

У многіх народаў старажытнага Усходу (Вавілон, Сірыя, Персія) бытаваў культ свяшчэннага дрэва жыцця. Сімвалізавала яно вечнасць, бясконцасць жыцця. Папулярным быў гэты сімвал і ў старажытных хрысціян. Найбольш вядомы іканаграфічны сюжэт — Адам і Ева ў райскім садзе, каля дрэва жыцця, [illegible] якога сарвалі забаронены плод, пазналі грэх і былі выгнаны [illegible] раю.

У славян, у тым ліку і ў беларусаў, многія дрэвы шанавалі здавен. Асаблівай пашанай быў акружаны дуб як сімвал магутнасці і няскоранасці. Свяшчэнныя дубы былі цэнтрам язычніцкіх капішчаў, ім прыносілі ахвяры, ствол і галіны аздаблялі ахвярнымі ручнікамі. Яшчэ нядаўна ў народзе бытавалі павер'і, што нельга секчы старадаўнія дубы, каб не наклікаць няшчасце.

Не дзіва, што матыў дрэва жыцця




350. Слуцкі пояс



351. Дрэва жыцця





(Святога Дрэва) нярэдкі ў дэкоры тканых і вышываных вырабаў. Бадай найбольш вобразнае яго ўвасабленне давялося бачыць на тканым падвойным дыване 1936 года з Гродзеншчыны, пра які ўжо ішла гаворка ва «Уводзінах» (гл. іл. 19). У 1940 годзе я паказваў яго здымак майстрыхам-беларускам з Беласточчыны. Паводле іх сцвярджэнняў, гэта падарункавы ці ахвярны дыван. Ткалі такія вырабы часцей за ўсё да вяселля дачкі ці сястры, часам — да хрэсьбінаў як заруку шчасця, добрай сям'і, моцнага роду. Гэта і сімвалізаваў стылізаваны малюнак магутнага дрэва.

Часам такія дываны ткалі калектыўна і ахвяравалі ў царкву. Гэта давала майстрыхам «права» звярнуцца да Бога з неабходнымі просьбамі.

Вельмі часты матыў дрэва жыцця ў дэкоры слуцкіх паясоў (іл. 350). Яно і зразумела: узорам для іх паслужылі вырабы з краін Блізкага Усходу, дзе гэты матыў, як ужо гаварылася, папулярны здаўна. І малюнак яго вызнача-



**352.** Дрэва жыцця.



**354.** Падузорнік. Шаркаўшчына Віцебскай вобл.



**355.** Ручнік. Кублішчына Мерскага р-на Віцебскай вобл.



**353.** Дрэва жыцця.





ецца ўсходнім характарам. Трапіўшы на беларускую глебу, ён быў інтэрпрэтаваны мясцовымі майстрамі, страціў усходнюю застыласць і сухаватасць, набыў нейкую жывасць і непасрэднасць.

У вандроўках па Беларусі мне трапіўся з дзесятак ручнікоў з матывам дрэва жыцця. Тлумачэнні такога сюжэта ткачыхамі не вызначаліся адзінствам. Адны казалі, што гэта матыў Святога Дрэва, дрэва жыцця, другія бачылі ў ім сімвал Маці-Радзіцельніцы. У тым, што майстрыхі не бачылі асаблівай розніцы ў гэтых матывах, ёсць пэўны сэнс: і той і другі з'яўляюцца сімвалам вечнасці жыцця.

Вобраз Маці-Радзіцельніцы ўзыходзіць, відаць, да часоў матрыярхату. У тыя суровыя часы міжусобіц і варожасці востра стаяла праблема выжывання роду. Таму і ўзвышаўся вобраз Маці-Радзіцельніцы, які ўвасабляў надзею на прадаўжэнне жыцця. Вынікі такога пакланення маці адчуваліся яшчэ нядаўна, калі моцная вялікая сям'я з 8—10 чалавек была звычайнай з'явай, бяздзетныя сем'і лічыліся пакаранымі Богам.

Ручнік з узорам Маці-Радзіцельніцы вышыла Г.Ступіна, кіраўнік гуртка вышыўкі Дома афіцэраў у Мінску. «У нас на Гомельшчыне любілі і шанавалі Маці-Радзіцельніцу, — казала яна. — Кожная жанчына хацела мець дзяцей — 5, 8, а то і болей. Вялікае гора, калі жанчына не магла мець дзяцей. Гэты ручнік я вышыла на вяселле маёй пляменніцы Каці. На ім — пажаданні мець моцную сям'ю, добрага мужа, шмат здаровых, паслухмяных дзетак».

Вобраз Маці-Радзіцельніцы на ручніку майстрыхі выграшаны ў выглядзе дрэва жыцця (іл. 357). Фігуркі птушак на ім — пажаданне шматлікіх здаровых дзетак, ручнікі — на моцную сям'ю, свечкі абазначаюць памяць пра памерлых дзяцей.

Падобны ручнік вышыла Г.Ступіна і другой сваёй пляменніцы. «Гэты ўзор, — расказвала майстрыха, — я ўзяла ў адной бабулі. Тут тыя ж самыя пажаданні. Нашы жанчыны не бачаць вялікай розніцы паміж матывамі Маці-Радзіцельніцы і дрэва жыцця. Калі на ўзоры ёсць свечкі і птушкі — гэта Маці-Радзіцельніца, а калі толькі галінкі — дрэва жыцця. Яго яшчэ называюць святым дрэвам. Свечкі, птушкі, ручнікі гэта ўсё ахвяры багам, просьба аб дапамозе і літасці. Кожны ўзор мае сваё значэнне, сваю назву. Ды нашы жанчыны забылі іх. Ведалі старыя бабулі, ды ўсе памерлі».

Я і сам неаднойчы чуў шкадаванні многіх майстрых, што яны ўжо не веда-

**356.** Ручнік. Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.



**357.** Вобраз Маці-Радзіцельніцы ў выглядзе дрэва жыцця.







юць сэнсу многіх узораў. А між тым гэтыя ўзоры захоўваюць шматлікія і пакуль што амаль не разгаданыя таямніцы з жыцця, побыту, вераванняў нашых далёкіх продкаў. І надзея разгадаць іх меншае з кожным годам, паколькі адыходзяць з жыцця цэлыя пакаленні носьбітаў старажытных традыцый.

Але ж, з другога боку, мы з'яўляемся сведкамі таго, як у нашы дні вучоныя многіх краін пасля шматгадовай крапатлівай работы змаглі разгадаць таямніцы пісьменнасці старажытных народаў Егіпта, Асірыі, Вавілона. Дык, можа, і для нас яшчэ не ўсё страчана?

## З ГЛЫБІНЬ ТЫСЯЧАГОДДЗЯЎ

Звычаі, вераванні, абрады нашых далёкіх продкаў-язычнікаў і сёння хвалююць нас сваім глыбокім, часта неразгаданым сэнсам. У іх увасобіліся погляды людзей на прыроду, грамадства, сям'ю, паэтычнае ўспрыняцце рэчаіснасці, мары пра дабрабыт і шчасце.

На жаль, амаль усё гэта сёння забыта. Захавалася ў людской памяці няшмат.

Мы ведаем некалькі язычніцкіх славянскіх багоў: Сонца, Маці-Зямлю, Перуна, Стрыбога, Даждбога, Жытнюю Бабу.

Адзначаем старажытныя, яшчэ язычніцкага паходжання святы: Вялікдзень, Купалле, Каляду, Масленіцу, Радаўніцу, Дзяды.

Памятаем некалькі ўвасабленняў прыроды: Дамавіка, Лесавіка, Вадзяніка, Палевіка.

Носім імёны і прозвішчы старажытнага паходжання: Каляда, Жыжаль, Трызна, Купала, Уладзімір, Святаслаў, Яраслаў.

Дзівуемся ў музейных зборах рэдкімі ўцалелымі ўзорамі язычніцкіх ідалаў, а таксама рознымі бытавымі і абрадавымі вырабамі з косці, рогу, каменю, металу, гліны, якія прыцягваюць увагу не толькі арыгінальнымі формамі, але і разнастайным, часта загадкавым арнаментам.

Спрабуем разгадаць арнаментыку народнага ткацтва і вышыўкі, якая да апошняга часу ўтрымлівала найбагацейшы матэрыял па старажытных вераваннях, звычаях, абрадах народа.

Збіраем легенды і паданні пра язычніцкія капішчы, святыя крыніцы, камяні, курганы.

Трэба адзначыць, што гэтыя сляды язычніцтва на Беларусі захаваліся больш, чым у іншых славянскіх краінах. Пра гэта неаднойчы казалі многія вядомыя вучоныя. Так, акадэмік М.Нікольскі адзначаў, што яшчэ і ў XVI стагоддзі беларусы святкавалі язычніцкія святы і спраўлялі абрады на Каляды, Купалле, Юр'я, пры хрышчэнні дзіцяці, на вяселлях і інш. Гэтыя святы і абрады шырока бытавалі і ў XIX стагоддзі, рэшткі іх захаваліся і да нашых дзён.

Водгукі язычніцтва захоўваюць шмат цікавага, таямнічага, неразгаданага. Возьмем хоць бы арыгінальныя словаспалучэнні, супастаўім паняцці і вобразы. Вось, напрыклад, такія ланцужкі:

— вол, волат, валатоўкі;
— буй, буйны (і памерамі, і характарам);
— купала, купа, купіна, куст;
— Лада, лад, ладна, ладзіцца;
— рада, радаўніца, радавацца, радзіцца;
— жыта, жыццё, жывот, жыць;
— Ярыла, яры, яравы, яркі;
— род, родны, радзіма, радзімічы;
— кроў, крэўны, крывіч, крыва.

А якія цікавыя спалучэнні ў імёнах: Свята-слаў, Свята-полк, Яра-слаў, Людміла!

Вельмі хочацца разгадаць сэнс і назвы адкапаных археолагамі язычніцкіх скульптурак з косці, каменю, дрэва, гліны, каменных ідалаў, старажытных камянёў і інш.

Як відаць, гэтая старажытная культура тоіць у сабе яшчэ шмат неразгаданага. Я зрабіў усё, што было ў маіх сілах і што дазволілі мне магчымасці. Няхай гэтую справу прадоўжыць маладое пакаленне даследчыкаў.

**358.** Ручнік з дрэвам жыцця. Віцебшчына.



У шырокім сэнсе слова любоў можа выяўляцца да любой рэчы, з'явы, працэсу. Тут жа размова пойдзе пра любоў да чалавека, але не ў хрысціянскім значэнні гэтага слова (любоў да бліжняга), а як любоў мужчыны і жанчыны, якая ў беларусаў атрымала асобнае паэтычнае вызначэнне — каханне.

Каханне, відаць, узнікла разам з чалавекам. Гэтае высокае духоўнае пачуццё здавён ставіла канчатковай мэтай стварэнне сям'і, выхаванне дзяцей, вядзенне сумеснай гаспадаркі.

У наш час каханне мужчыны і жанчыны, на жаль, траціць сваю паэтычнасць. Яно нярэдка падпарадкуецца асабістым задавальненням, ператвараецца ў тавар, які прадаецца і купляецца. Гэта спустошвае душы, не садзейнічае стварэнню здаровых, моцных сем'яў, а ў выніку — здаровага грамадства. Традыцыйная сям'я з дзесятка чалавек сёння ўспрымаецца як вялікае дзіва.

Між тым толькі ў XX стагоддзі беларусы панеслі шматмільённыя страты. Імперыялістычная вайна, рэвалюцыя, калектывізацыя, сталінскія рэпрэсіі, фашысцкае нашэсце, Чарнобыль пакінулі свой страшэнны след. Калі дадаць сённяшнія адносіны да сям'і, нізкую нараджальнасць, а то і зусім нежаданне мець дзяцей, то беларуская нацыя можа зусім вырадзіцца.

Вось што значыць дэвальвацыя кахання.

## ЖАНОЧАЯ ДОЛЯ

Цяжкай і бязрадаснай была калісьці доля жанчыны. Вечная нястача, цяжкая, непасільная праца, бяспраўнасць, суровыя адносіны з боку мужавай радні, а то і самога мужа былі пастаяннымі спадарожнікамі жанчыны.

Жаночы лёс атрымаў адлюстраванне ў шматлікіх мастацкіх творах. Глыбока хвалююць нас народныя песні на гэтую тэму. Узяць хоць бы гэтыя словы: «Дзяўчына да вянца выязджае, яе доля сустракае. Калі добрая доля — сядай разам са мною, са мною, маладою. Калі доля ліхая — аставайся на дарозе, пры зялёнай бярозе. Няхай цябе коні саб'-юць, няхай цябе колы сатруць».

Жаночая доля адлюстравана і ў народным мастацкім ткацтве. Звычайна яна ўвасабляецца ў выглядзе пышнага markupрознакаляровага букета ці вазона, падобнага на тыя, што стаяць на падаконніках.

Нярэдка гэты матыў дапаўняецца іншымі. Так, на посцілцы М.Секан (Гарбуны Сенненскага р-на) акрамя асноўнага матыва жаночай долі ў выглядзе букета выткааны галубкі як сімвал кахання, зоркі — сімвал чалавека і ромбы — знак нівы, Зямлі-Карміцелькі (іл. 359). Як відаць, гэтыя сімвалы мелі непасрэдныя адносіны да жаночай долі майстрыхі. Зрэшты, не толькі яе адной.

Увогуле сімвал жаночай долі больш правільна было б называць мараю пра лепшую жаночую долю. Такое цяжкае, бязрадаснае было жыццё сялянкі — і такі пышны, маляўнічы букет.

Посцілку з такім узорам давялося бачыць у Р.Малаш (1856 г.н., Лепель). Уся яна была ўкрыта пышнымі вазонамі, а па краях, паміж галінкамі вазонаў, размяшчаліся сімвалы чалавека ў выглядзе зоркі, кахання, выяўленага галубкамі, і Зямлі-Карміцелькі з ромбаў. Усім узорам майстрыха дала тлумачэнне: «Посцілку я выткала, калі выходзіла замуж. Было мне 19 гадоў. Старая баба Іваніха параіла мне: вытчы посцілку з доляю жанчыны. Якія ўзоры вытчаш, усё збудзецца. У майго будучага мужа было ўсяго 4 дзесяціны зямлі, а нам хацелася мець яе больш. Вось я і выткала на посцілцы ўзор







**359.** М.Секан. Посцілка з адлюстраваннем жаночай долі. Гарбуны Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

Зямлі, нашай Карміцелькі. Мне вельмі хацелася, каб мой будучы муж Ігнат кахаў мяне, і я выткала галубка і галубку. А каб Ігнат быў працаўніком, добрым сем'янінам, любіў дзяцей — выткала зоркі. Не хачу хваліцца, але амаль усё, што я прасіла ў гэтай посцілцы, збылося. Ну і дзякуй Богу».

Шкада, не захавалася здымка гэтай посцілкі. Але яе дэкор амаль такі ж, як і на вырабе М.Секан.

Сімвалы жаночай долі, якімі майстрыхі аздаблялі свае вырабы, не толькі просьбы ці мары. Гэта яшчэ і сведчанне паэтычнасці душы народа, высокага эстэтычнага густу, пачуцця прыгожага. Гледзячы на гэты шматфарбны рукатворны свет, можна забыцца на цяжкую долю, памарыць пра лепшае жыццё.



**360.** М.Кліменка. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам жаночай долі. Брынёва Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл.

**361.** А.Сільчанка. Посцілка. Магілёўшчына.



«Паправіць свае справы можна рознымі шляхамі, — раіла А.Прывалава з Сянна. — Калі захварэла — ідзі да доктара ці шаптухі. Калі хочаш, каб пайшоў дождж, быў добры ўраджай — прасі Бога. А можна гэта вырашыць і самой, па-хатняму. Мяне вучылі, трэба выткаць посцілку, а на ёй паказаць усё, што хочаш». Многія майстрыхі, як мы бачылі, так і рабілі. Адным словам, такія посцілкі — своеасаблівыя біяграфіі жанчын-сялянак, адлюстраванне іх жыцця, працы, мараў і надзей. А што іх хвалявала перш за ўсё, пра што яны марылі, дык гэта пра добрую сям'ю, хатні дабрабыт, дастатак, зямлю як сімвал заможнасці. Таму і паўтараюцца гэтыя матывы на многіх посцілках (іл. 360—365).





## ЛАДА — СІМВАЛ КАХАННЯ І ПРЫГАЖОСЦІ

Мы ўжо згадвалі Ладу і Купалінку, адзначалі іх вясёлы нораў, гарэзлівасць, уменне спяваць і скакаць. Абодва гэтыя вобразы дайшлі да нас з далёкага мінулага. Ды вось толькі лёс іх аказаўся розны. Купалінку мы ведаем і шануем, прысвячаем ёй песні і вершы, штогод адзначаем Купалле — і ў аддаленых вёсках, і ў цэнтры сталіцы.

А вось Ладу мы амаль забылі. Далёка не ўсе ведаюць, што гэта за вобраз. Хіба толькі даследчыкі народнай культуры, фалькларысты, этнографы могуць нешта сказаць пра яе. «Лада ў славян і літоўцаў шанавалася як апя-



**363.** Посцілка з матывамі жаночай долі. Камянецкі р-н Брэсцкай вобл.



**362.** Посцілка. Слуцкі р-н Мінскай вобл.

**365.** Посцілка. Аберцы Віцебскай вобл.



**364.** І.Ераш. Посцілка. Гродзенская вобл.







кунка кахання і шлюбаў, багіня юнацтва, прыгажосці і пладавітасці», — адзначаў рускі фальклярыст А.Афанасьеў (Афанасьев А. Поэтические воззрения славян на природу. Киев, 1865. Т. 1. С. 228). Успамінаюць гэты

366. Фрагмент дэкору ручніка з матывам Лады. Віцебскі р-н.





368. Лада з вянком на галаве.



367. Фрагмент дэкору залатой посцілкі.

вобраз і іншыя фальклярысты і этнографы. Належна адлюстравана Лада ў рускай паэзіі.

Былі спробы адрадзіць вобраз Лады і ў беларускай культуры. Пры падрыхтоўцы да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 годзе вырашылі сткаць посцілку з гэтым матывам (іл. 367). Работа была даручана брыгадзе лепшых майстрых, кансультавалі іх пісьменнік З.Бядуля і мастак М.Філіповіч. Твор экспанаваўся на выстаўцы ў Мінску ў 1938 годзе, потым у Маскве, на дэкаднай выстаўцы 1940 года.

Але яшчэ да пачатку работы над посцілкай, якую вырашылі назваць Залатой, разгарэлася ідэалагічная палеміка. Па ўспамінах З.Бядулі, на сходзе выступілі аўтарытэты ў галіне камуністычных ідэй пісьменнік І.Гурскі і мастак І.Ахрэмчык, якія зацята пярэчылі супраць уключэння ў кампазіцыю вобраза Лады — беларускай багіні кахання і прыгажосці. Маўляў, Лада і Купала — гэта феадальныя кулацкія ідалы, выдуманыя класава чужымі элементамі. А на Залатой посцілцы трэба паказаць сімвалы міжнароднага жаночага свята 8 Сакавіка, работніц у камбінезонах. Вось нашы вобразы прыгажосці і кахання, нашы пралетарскія вобразы, казаў І.Ахрэмчык.

Ды З.Бядуля і М.Філіповіч не збіліся на сцежку «класава чыстага мастацтва». Як Афрадыта і Венера для грэкаў і рымлян, так і Лада для беларусаў — багіня кахання і прыгажосці, гэты вобраз нам трэба шанаваць, казалі яны.

З гутаркі з мастаком М.Філіповічам: «Мяне і Бядулю прызначылі кансультантамі пры стварэнні Залатой посцілкі для Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве. Мяне выклікалі ў аддзел культуры ЦК КПБ і сказалі, што трэба стварыць такую посцілку, каб яна адлюстроўвала беларускую пралетарскую, камуністычную ідэалогію. Прапанавалі два варыянты — кастрычніцкая дэманстрацыя і святкаванне 8 Сакавіка. Я ж запярэчыў: трэба ўзяць тэму з жыцця беларускага сялянства, напрыклад, вобраз багіні кахання і прыгажосці Лады. На мяне накінуліся, маўляў, засмечваеш беларускую культуру д'ябальшчынай і рэакцыйнасцю. Ды мяне падтрымалі Бядуля, кіраўніца арцелі вышывальшчыц і ткачых Кучынская, самі майстрыхі-ткачыхі. Усё ж потым я атрымаў добрую прачуханку за адступленне ад пралетарскай ідэалогіі».

Мастак паказаў мне два свае жывапісныя творы, на якіх былі адлюстраваны хлопцы і дзяўчаты ў карагодзе і Лада з вянком у цэнтры. Адзін твор

суправаджаўся словамі песні:

Падушачка, падушачка мая пухавая,
Ладушачка, Ладушачка мая дарагая.
Каго люблю, Ладу люблю,
Ладу пацалую,
Пуховую падушачку Ладзе падарую.

Паказаў Філіповіч і два ручнікі з вобразам Лады, які ўтвараў верхні рад узору (іл. 368). Ніжэй размяшчаўся букет ружаў, яшчэ ніжэй — голуб і галубка.

Ручнік з Ладаю, куплены ў аршанскай бабулі, меў і З.Бядуля. На ім такі ж стылізаваны малюнак жаночай фігуры з узнятымі рукамі (іл. 369).

Шкада, што гэты паэтычны вобраз мы практычна забылі. Не да Лады было беларускай жанчыне. Ды ўсё ж тоесёе яшчэ захаваліся ў памяці старых людзей. Можа, недзе ў таемных сховах майстрых знойдзецца і ручнік з Ладаю.

Ручнікі з узорам Лады даводзілася бачыць на Віцебшчыне і Гомельшчыне. Часцей за ўсё Лада паказана ў выглядзе маладой дзяўчыны, нярэдка суправаджаецца ружамі і галубкамі, якія сімвалізуюць прыгажосць і каханне.

Падобны ручнік давялося бачыць у былой загадчыцы хаты-чытальні Я.Іванчук з Нароўлі. Была яна паэтэса, мастачка, сабрала цэлую калекцыю твораў мясцовага народнага мастацтва. Пасля вайны да мяне дайшлі чуткі, што за сувязь з партызанамі яе расстралялі фашысты, а ўся калекцыя згарэла. Дык вось на згаданым ручніку якраз і была паказана Лада з ружамі па баках і фігуркамі галубкоў (іл. 370—371).

В.Карпюк з Нароўлі расказвала: «Вышыла я на ручніку Ладу. Гэта мае шчасце і няшчасце. Была я прыгожаю, усе хлопцы за мною цугам хадзілі. У карагодзе мяне заўсёды выбіралі Ладаю ды царыцаю. Была я шчаслівая, пакуль замуж не выйшла. Мужык аказаўся шалахвостам, лодырам, бабнікам. Быў ён прыгожы ды лоўкі, вось я і пагналася за гэтым, а цяпер мучуся. А ручнік вышыла тады, калі была шчаслівая, маладая ды прыгожая. І вось што скажу: дзеўкі, не ганіцеся за прыгажосцю!»

Цэлую паэму пра нараджэнне Лады давялося пачуць ад В.Філатавай з Брагіна: «У час ранішняй зары ўпала алмаз-расінка на чырвоную ружу. Зазіхацела ружа іскрамі-брыльянтамі. А тут і прамень сонца залаты ўпаў на ўлонне ружы. І вылецела з пялёсткаў ружы юная, як раніца, прыгожая, як сама прыгажосць, свежая, як расінка, Лада — беларуская багіня кахання і прыгажосці. І паляцела Лада лёгкай ластаўкай па вёсках і сёлах Беларусі. Дзе гулянка, дзе вечарынка — там і Лада. Яна запальвае каханне ў сэрцах хлопцаў і дзяўчат, асвятляе ўсмешкамі шчасця іх твары, напаўняе душы надзеяй на шчасце, дабро».

На маё пытанне, як майстрыха ўяўляе вобраз Лады, тая адказала: «Гэта

**370.** Нараджэнне Лады.





**369.** Лада.

**371.** Лада — багіня кахання і прыгажосці.





звычайная беларуская дзяўчына, такіх шмат у беларускай вёсцы. Яна можа быць бландзінкай, шатэнкай, брунеткай, блакітнавокай ці каравокай. Гэта спявачка, танцорка, карагодніца. Прыгожая, як усе дзяўчаты, вясёлая і дабрадушная, прыветлівая і ласкавая. Лепшая жняя, цудоўная пралля, выдатная ткачыха. Яе мары — моцная сям'я, добры муж, здаровыя дзеці». Як відаць, тут пададзены зборны, ідэальны вобраз дзяўчыны, а нараджэнне Лады ад пацалунка сонечнага промня і ружы ўранку вельмі нагадвае нараджэнне з марской пены антычнай багіні Венеры.

Яшчэ адну легенду пра нараджэнне Лады расказаў мастак М.Філіповіч: «Ляцела па небе празрыстае, лёгкае воблачка. Пралятаючы над садам, упусціла алмаз-расінку на бутон чырвонай ружы. Доўга песціла ружа алмаз-расінку. Ды вось выйшла з-за лесу сонца, накіравала свой прамень на бутон чырвонай ружы, на алмаз-расінку. Выпырхнула з ружы юная Лада. Прыгожая, як сама ружа, маладая, як вясна. І паляцела Лада хуткай ластаўкай па сёлах і вёсках Беларусі. Як толькі ўбачыць дзяўчыну ладную, працавітую ды вясёлую — называе яе Ладаю».

Трэба сказаць, што вобраз Лады вызначаецца многімі рэгіянальнымі варыяцыямі. Так, трапляліся згадкі пра Лада і Ладу — мужа і жонку ці закаханых хлопца і дзяўчыну. У Сенненскім раёне ўспаміналі Лёлю і Леля. Ф.Жудро, паэтэса і вышывальшчыца, якая аздобіла ручнік сімвалам Лёлі, казала, што гэта самая прыгожая, самая лепшая з дзяўчат. Яе тварык як ранішняя зара, вочкі як зоркі на небе, вусны — цвет ружы, валасы — траўкамураўка, голас як званочак. Ручкі яе шаўковыя, калі прыгалубіць — ніколі не забудзеш. А Лель — гэта добры, лагодны хлопец. Часам Лель і Лёля ўспрымаюцца як добрыя, прыгожыя дзеці.

Некаторыя жанчыны казалі, што не трэба вобраз Лады абмяжоўваць фізічнай прыгажосцю. Яна працалюбівая, ласкавая, умее пагаварыць, добрая спявачка і танцорка.

«Было гэта даўно, гадоў 50 назад, — расказвала П.Кручок з Старога Сяла Віцебскага раёна. — Мне было 16 гадоў. Я моцна пакахала пекнага хлопца Мірона. Ды наша сям'я была бедная, а яго багатая. Замуж мяне ён не возьме. Вось я і вырашыла рабіць усё прыгожа, каб Мірон мяне палюбіў. Хоць і была бедная, але старалася як мага прыгажэй адзявацца, прыгожа хадзіць, прыгожа гаварыць. Тайком вышыла Мірону кашулю: спераду — чырвонай ружай, каўнер — сінім галубком, прыпол — блакітнай незабудкай. Калі падарыла гэтую кашулю Мірону, ён мяне пакахаў, мы пажаніліся».

Як бачым, сімвал Лады звычайна суправаджаецца ружамі — сімвалам прыгажосці. У народзе каханне і прыгажосць заўсёды былі спадарожнікамі. Пра гэта казала мне і А.Кучынская з Сянна — кіраўніца брыгады майстрых, якія выткалі ўжо згаданую Залатую посцілку: «Была посцілка вельмі прыгожая, у залацістым тоне, таму і атрымала такую назву. Па ўсім полі — букеты кветак, а між імі — фігурка дзяўчыны, Лады. Кветкі, сярод якіх паказана Лада, гавораць, што яна — багіня прыгажосці. Галубкі на абляможоўцы абазначаюць Ладу як багіню кахання».

Выткала А.Кучынская і яшчэ адну посцілку, дзе была паказана Лада сярод ружаў. «Гэта таму, што Лада — сімвал прыгажосці, і ружа — таксама».

Ручнік з матывам Лады вышыла 70-гадовая М.Пётух з Навабеліцы. У верхнім радзе — 5 сілуэтаў Лады, ніжэй — 5 кветкавых матываў у выглядзе ружы з чатырох бутонаў, яшчэ ніжэй — голуб і галубка, паўтораныя 5 разоў (іл. 372). Знізу чырвонымі ніткамі вышыта «Люблю цябе. Любі мяне». «Мне было 18 гадоў, — расказвала М.Пётух. — Я моцна любіла Міхася, і ён мяне таксама. Але яго забралі ў салдаты, на германскую вайну, дзе ён і загінуў. Але яшчэ да гэтага я вышыла ручнік — спадзявалася, што Міхась вернецца дадому і мы пажэнімся».



372. Матыў Лады.

На ручніку Е.Пятровай з Лукомля — падарунку ўнуку Пятру на вяселле — Лада трымае ў адной руцэ жытні колас, у другой — ружу (іл. 373). Знізу ідзе вышыты надпіс «Гэта Лада — такая табе жонка нада». Сімвалічны падарунак майстрыха дапоўніла павучаннем унуку: «Выбірай сабе жонку не ў золаце і шоўку. Выбірай тую, якая разумная. Не на ігрышчы, а на іржышчы. Не тую, якая добра танцуе, а тую, якая добра працуе». Лада на яе ручніку-падарунку якраз і сімвалізуе такое спалучэнне працавітасці і вернага кахання.



373. Лада з коласам і ружаю ў руках.

Ладу часта суправаджае Лад — такі ж шчыры працаўнік, прыгожы, вясёлы хлопец. Нібы дзеці гэтай гарманічнай пары, жывуць у нашай мове словы «ладзіць», «ладны», «зладзіць», «ладна жыць» і г.д. Усе яны абазначаюць дабро, згоду, прыгажосць.

Але часцей Лада згадваецца ў пары з Лелем. Мы ўжо прыводзілі прыклады прыпевак, дзе Лель і Лада з'яўляюцца галоўнымі персанажамі. Гэтыя прыпеўкі спявала моладзь на сваіх гулянках. Успамінаецца, як звычайна



выстройваліся ў рад хлопцы, насупраць — дзяўчаты. Узяўшыся за рукі, яны прытанцоўваюць і спяваюць: «Лада-ружа, ты мая, Лель-галубчык, я твая». Потым абедзве шарэнгі вылучаюць Ладу і Леля, якія выходзяць на сярэдзіну, узяўшыся за рукі, танцуюць і спяваюць. Потым пад агульны смех і жарты схіляюцца адно да аднаго і цалуюцца. Выходзіць іншая пара і г.д.

У маладосці я неаднойчы прымаў удзел у гэтых любоўных гульнях. Праходзілі яны заўсёды ўрачыста, з сардэчным трапятаннем. Моладзь перастрэльвалася вачыма. Хлопец глядзіць на дзяўчыну і ўсміхаецца, яна адказвае тым самым. Значыць, узнікла ўзаемная сімпатыя. А бывае, глядзіць хлопец на дзяўчыну, а яна ўсміхаецца іншаму. Што ж зробіш...

Ёсць і іншыя праявы ўзаемнасці. Так, пашыраны былі абяцанкі і заляцанкі. Абяцанка — абяцанне хлопца і дзяўчыны кахаць адно аднаго ўсё жыццё. Заляцанка — любоўныя гульні, песні, танцы з мэтаю выклікаць узаемнае каханне.

Успамінаю сваю маладосць, вёску Клімавічы Сенненскага раёна, дзе я нарадзіўся, згадваю пагулянкі, вячоркі, Купалле, Каляду, Масленіцу. Перакананы, што ні опера, ні канцэрт, ні тэатральная пастаноўка не даюць той радасці, шчасця, прыгажосці, як традыцыйныя народныя святы і абрады. Знішчыўшы працаўніка-селяніна, знішчылі і гэтую прыгажосць...

Як ужо згадвалася, часам вобраз Леля суправаджае не Лада, а Лёля. У народнай свядомасці гэта таксама маладая пара, сімвал кахання. У 1937 годзе ў Магілёўскім музеі мне давялося бачыць ручнік з вобразамі Леля і Лёлі ў суправаджэнні галубка і галубкі. Па-свойму ўвасобіла гэтыя вобразы Е.Кавалёва, настаўніца музыкі ў заможных людзей Віцебска: купцоў, памешчыкаў, служачых. У гэтым асяроддзі было пашырана шыццё бісерам і шоўкам розных сумачак, кашалькоў, кісетаў і інш. Сумачку, шытую бісерам і шоўкам, Е.Кавалёва аздобіла вобразамі Леля і Лёлі. Лёля ў яе нагадвае пашыраны ў вышыўцы сімвал Лады, падобны на яе і Лель, але паказаны ў выглядзе хлопца (іл. 374).

Часцей жа Лель і Лёля сімвалізавалі любоў да малых дзяцей. Вобраз дзіцяці як сімвал прадаўжэння жыцця здаўна пашыраны ў многіх народаў. Дастаткова згадаць мастацтва Адраджэння з крылатымі анёлкамі (пуцці) на карцінах тагачасных мастакоў. Гэта гарэзлівыя, румяныя, няўрымслівыя дзеці. Тое ж — і на старажытных абразах Беларусі, асабліва ў сюжэтах з Маці Божай.

У.Ульяновіч (1880 г.н., Круляўшчызна Ваўкавыскага р-на) свае адносіны да дзяцей выказала сімваламі Леля і Лёлі на ручніку: «Мая мара, маё шчасце, мая любоў — гэта мае дзеці. Я хачу, каб яны былі здаровыя, прыгожыя, паслухмяныя. Калі я выйшла замуж, а было гэта пасля каранацыі цара Мікалая, мы з мужам дамовіліся мець харошых дзяцей. Я ахвяравала ў царкву два пуды жыта на памін усіх нябожчыкаў, нашых родзічаў, каб яны маліліся на тым свеце за здароўе нашых дзяцей. Тады ж я і вышыла гэты ручнік. У верхнім радзе тры Лёлі і тры Лелі, унізе — узоры дзяцей» (іл. 375). Такую вышыўку я бачыла ў старой настаўніцы Матроны Міцкевіч з Ваўкавыска».



**374.** Лёля і Лель.



**375.** Лёля, Лель і ўзоры дзяцей.

Вось я пішу пра адносіны нашых продкаў да дзяцей і думаю, якія яны былі мудрыя, чаго не скажаш пра сённяшняе пакаленне бацькоў.

## ЗЯЗЮЛЯ

У народнай свядомасці вобраз зязюлі — гэта сімвал жанчыны ў горы, смутку, жальбе. Звычайна ўдава, якая аплаквае роднага чалавека. Трэба думаць, што гэты вобраз вельмі даўні. Згадаем хоць бы славутае «Слова пра паход Ігаравы», дзе Яраслаўна бядуе па мужу і збіраецца паляцець зязюляю па Дунаі. А колькі старадаўніх народных



**376.** Н.Якімовіч. Фрагмент дэкору посцілкі з матывам зязюлі.



**378.** Е.Пагалушка. Фрагмент дэкору посцілкі. Лідскі р-н Гродзенскай вобл.




**377.** В.Кулда. Фрагмент посцілкі. Жукойні Астравецкага р-на Гродзенскай вобл.

песень пра зязюлю, а значыць — няшчаснае каханне, разлуку, гора. Узяць хоць бы папулярную, у дзесятках варыянтаў песню пра дзяўчыну, якую бацька аддаў у далёкую сям'ю і забараніў наведвацца дадому.

А я з таго жалю-плачу ў лугі палячу,
ды як стану кукаваці, татку засмучу.

(Закор'е Браслаўскага р-на)

Не дзіўна, што зязюлю можна бачыць на тканых і вышываных посцілках і ручніках. Калі яна паказана ў спалучэнні з зоркамі — сімваламі дзяцей, значыць, твор прысвечаны мацярынскаму гору: ці сын загінуў на вайне, ці нехта з дзяцей памёр (іл. 376). Зязюля разам з букетам абазначае, пэўна, горкую ўдовіну долю ці няшчаснае каханне, разлуку закаханых (іл. 378).

Характэрна, што на ўсіх бачаных мною ўзорах зязюля паказана досыць рэалістычна, часам даходзіць да яўнага натуралізму, што ўвогуле для традыцыйнай народнай мастацкай творчасці не характэрна. Магчыма, на вочы трапіліся толькі познія ўзоры, а старажытныя, сімвалічнага характару, ці не захаваліся, ці пра іх майстрыхі забыліся.

## РУСАЛКА

Трагічнае, неразздзеленае каханне дзяўчыны апета ў мастацкай творчасці

**379.** Прывалава. Ручнік з сімвалам русалкі. Сенненскі р-н Віцебскай вобл.







многіх народаў Еўропы і звязваецца звычайна з вобразам русалкі. У старажытнай Грэцыі русалак, або німфаў, было некалькі: дрыяды — лясныя, наяды — рачныя, нерэіды — марскія русалкі.

У павер'ях старажытных славян русалкамі рабіліся няхрышчаныя дзяўчынкі, калі яны паміралі. Але часцей — падманутыя, кінутыя, няшчасныя дзяўчаты, якія тапіліся з гора.

Вось адна з легенд пра паходжанне русалак. Жыла ў Нясвіжы прыгожая дзяўчына. Убачыў яе паніч і неўзабаве спакусіў, а затым з'ехаў у Варшаву на вучобу. Пайшла дзяўчына на рэчку і ўтапілася. Потым яе часта бачылі русалкаю з распушчанымі валасамі. А праз год вярнуўся дадому паніч. Пайшоў аднойчы ноччу на рэчку. Завабіла яго дзяўчына ў рэчку, доўга лашчыла і потым зусім заказытала.

З глыбокай старажытнасці ў славян вядомы абрадавыя ігрышчы — Русаллі. Калісьці яны былі звязаны з аграрнай магіяй, вераю ў русалак, якія распараджаліся воднай стыхіяй і забяспечвалі ўраджай. Было гэта і свята дзяўчат, у якім спалучаліся энергія маладосці і трагізм няшчаснага кахання, радасць і смутак, абрадавая магія і звычайная весялосць.

Вось як апісвае Русаллі беларускі этнограф А.Сержпутоўскі: «Перад Тройцаю, у русальны тыдзень дзяўчаты ўбіраюцца ў кветкі і галінкі. Выбіраюць з свайго асяроддзя прыгожую дзяўчыну, кладуць ёй на галаву вянок, называюць яе русалкаю. Утвараюць карагод, ходзяць у карагодзе, танцуюць, спяваюць песні пра каханне, шчасце, няшчасці русалачкі. З кветак і галінак робяць ляльку-русалачку, носяць яе з песнямі і пад канец ідуць да рэчкі і топяць ляльку, як бы нагадваючы гэтым трагічны лёс русалкі» (А.Сержпутоўскі. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930. С. 101).

Русалка ў народнай мастацкай творчасці выяўляецца па-рознаму, але звычайна досыць умоўна, у выглядзе букета кветак, які сваім сілуэтам нагадвае дзявочую фігуру на кусце (іл. 379). На ўвазе маецца куст каліны, якую



380. Н.Петухова. Фрагмент дэкору посцілкі з сімвалам русалкі. Мсціслаў Магілёўскай вобл.





382. М.Палітыка. Сімвал русалкі ў дэкоры ручніка. Беліца Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

381. Н.Васільева. Матыў русалкі ў дэкоры ручніка. Васкіна Гродзенскага р-на.



звычайна звязваюць з вобразам дзяўчыны, што пакутуе ад няшчаснага кахання. У такім выглядзе паказаў русалку і тонкі знаўца народнай творчасці мастак М.Філіповіч.

«Я вышыла на ручніку русалку, — казала М.Палітыка з Беліцы Сенненскага раёна. — З выгляду гэта куст каліны, на ім сядзіць русалка. Бо яна, як вылезе з вады, садзіцца на калінавы куст, адтуль вабіць хлопцаў да сябе».

Сустракаецца і іншая трактоўка вобраза русалкі. А.Снапко з Шклова лічыла, што русалка на яе ручніку — добрая і літасцівая, яна дапамагае ўсім бедным і пакрыўджаным, асабліва дзяўчатам, якія перажылі трагічнае каханне.

Акрамя сімвалічнага куста каліны русалка часам паказвалася і больш рэалістычна, як на ручніках Н.Корань з Шклова і А.Маркавай з Навагрудка (іл. 383—384). Праўда, рэалізм тут даволі адносны. Фігуры моцна стылізаваныя, сілуэтам нагадваюць Ладу, Лёлю і іншыя жаночыя вобразы язычніцкага пантэона. Але характэрна, што гэта тыпова беларуская трактоўка вобраза. У рускім мастацтве русалка ўяўляецца ў выглядзе дзяўчыны ў доўгай кашулі, з доўгімі распушчанымі валасамі, як на вядомай ілюстрацыі І.Крамскога да «Майскай ночы» М.Гогаля. У народаў Заходняй Еўропы русалка — міфічная істота ў выглядзе жанчыны з рыбіным хвастом. У беларусаў характэрны вобраз русалкі ці не выпрацаваўся, ці забыўся.



383. Русалка.

384. Русалка.





385. М.Ермашэнка. Ручнік. Сураўня Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

Нельга не заўважыць, што вобраз русалкі пераклікаецца з вобразам зязюлі: абедзве ўвасабляюць сабой трагічнае каханне. Гэта пацвярджае і легенда пра русалку і лесавіка, запісаная ў Калінкавічах. Убачыў лесавік русалачку і пакахаў яе. Пабудаваў ён палац з жэмчугу, сшыў ёй кашулю з рачных хваляў, надзеў на галаву вянок з лілеяў, пашыў туфелькі з ракавінак, зрабіў карону з водарасцяў. І пачалі яны жыць, адзін аднаго любіць, карагод вадзіць, дзяцей гадаваць. Лесавік пасвіў у лесе звяроў і птушак, а русалачка стала зязюляю, кукавала, маладых дзяўчат перасцерагала.

## ГОЛУБ І ГАЛУБКА

Мы ўжо неаднойчы згадвалі гэтыя папулярныя сімвалы кахання ў размове пра звычаі, вераванні, абрады, працоўную дзейнасць, мастацкую творчасць нашых продкаў. Яно і не дзіва: любоўнай тэматыкай, матывамі кахання прасякнута практычна ўся матэрыяльная і духоўная дзейнасць чалавека. Спынімся на гэтай тэме больш падрабязна.

Увогуле голуб сімвалізуе многія паняцці. Ён выступае як сімвал міру, у хрысціянстве абазначае Святога духа. Але часцей за ўсё ён сімвалізуе каханне. Вобразы голуба і галубкі сустракаюцца ў многіх народных песнях («Пад калінаю, пад малінаю сядзеў голуб з галубінаю. Цалаваліся, мілаваліся, правым крыллем накрываліся»). Як лічыцца ў народзе, «голуб азначае дзецюка, а галубка — дзяўчыну. А разам яны азначаюць любоў дзяўчыны і хлопца» (Барысаўскі р-н).

Каханне, гэтае ўсёабдымнае пачуццё, звычайна называюць светлым, радасным, узнёслым. Але каханне каханню розніца. Яно можа толькі зараджацца або ісці на спад, быць узаемным ці трагічным. Усе гэтыя асаблівасці ў народнай мастацкай творчасці набылі адпаведную інтэрпрэтацыю.

Возьмем самы пачатак кахання, яго зараджэнне. Н.Кароткая (1845 г.н., Слуцк) на гэты конт выказалася вельмі канкрэтна: «Калі галубок ды галубка ідуць у адзін бок, то гэта значыць, што паміж дзяўчынай і хлопцам пачынаецца любоў».

Шчаслівае каханне — пэўна, найбольшае шчасце. Пра яго мараць усе, яму прысвечаны сотні мастацкіх твораў. Адлюстравана яно і ў арнаментыцы народнага ткацтва, прычым досыць

вобразна і недвухсэнсоўна, як на ручніку Ф.Падымакі (1893 г.н., Шклоў). «Мы крэпка любілі адзін аднаго, — расказвала яна. — Таму я вышыла голуба і галубку галоўка да галоўкі. Маё шчасце збылося. Я вышла замуж за Косціка, мелі 8 дзяцей». В.Юрко з Езярышча Гарадоцкага раёна ўдакладніла: «Калі голуб і галубка вытканы галоўка да галоўкі, то гэта значыць, што хлопец і дзяўчына любяць адзін аднаго. Ну, а калі паміж голубам і галубкаю паказаны букет ці вазон, то гэтак жанчына выказвае пажаданне вечнай шчаслівай любові». Блізкі варыянт тлумачэння падае Н.Петрашкевіч з Лепеля: «Калі два галубкі вышыты галоўка да галоўкі, а пасярэдзіне кветка, то гэта значыць: любі мяне, як я цябе, і мы будзем шчаслівыя». Па словах В.Юрко з Езярышча, «голуб і галубка — гэта каб любіў ды не біў мяне муж, каб мы былі з мужам як голуб з галубкаю». Такія ўзоры-сімвалы шчаслівага кахання мы бачым на многіх вырабах майстрых з розных куткоў Беларусі (іл. 386—391).

На жаль, каханне не заўсёды бывае шчаслівым, яно можа прыносіць і гора. Калісьці такія найбольш пашыраныя выпадкі — каханне хлопца з багатай сям'і і дачкі беднякоў. Багатыя бацькі звычайна працівіліся такому, па іх меркаваннях, няроўнаму саюзу, выступалі супраць шлюбу закаханых. Былі нават выпадкі трагічнай смерці мала-

**386.** М.Сачыўкіна. Ручнік. Буда-Кашалёўскі р-н Гомельскай вобл.

**387.** І.Краўцова. Голуб і галубка ў дэкоры ручніка. Чашнікі Віцебскай вобл.





**388.** М.Грынь. Фрагмент дэкору посцілкі. Зарэчча Валожынскага р-на Мінскай вобл.





**389.** А.Кот. Ручнік. Дарасіно Любанскага р-на Мінскай вобл.





**390.** Н.Шаплыка. Фрагмент посцілкі. Сарачы Любанскага р-на Мінскай вобл.



**391.** Шчаслівае каханне. Фрагмент дэкору ручніка. Мінская вобл.



**392.** Т.Шлык. Фрагмент дэкору ручніка. Касцюковічы Магілёўскай вобл.



**393.** А.Стражнева. Фрагмент дэкору посцілкі з адлюстраваннем няшчаснага кахання. Галавачы Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**395.** Н.Зубок. Фрагмент дэкору ручніка. Крычаў Магілёўскай вобл.



**394.** Н.Брыль. Фрагмент дэкору ручніка. Новае Сяло Талачынскага р-на Віцебскай вобл.

дых. Вобразна і паэтычна гэты трагізм увасоблены ў народных песнях:

> Ой, там на гары, ой, там на крутой,
> сядзела на ёй пара галубоў.
> Сядзелі яны, любаваліся,
> сізымі крыламі абнімаліся.
> Ды ўзяўся стралец, добры маладзец,
> разбіў-разлучыў пару галубоў,
> голуба забіў, галубку падбіў.
>
> (Віцебская вобл.)

На першы погляд трагічнае каханне ў народнай мастацкай творчасці адлюстроўваецца гэтак жа, як і шчаслівае: голуб і галубка павернуты галоўка да галоўкі, між імі букет ці вазон. Але паглядзім больш уважліва і ўбачым розніцу: сілуэты птушак нейкія неспакойныя, яны нібы імкнуцца адно да аднаго ў моцным парыве, нават







**396.** К.Якімовіч. Посцілка. Магілёўская вобл.



**397.** Е.Доваль. Фрагмент посцілкі з сімвалам вянка. Асіповіцкі р-н Магілёўскай вобл.



**398.** Н.Пярова. Карункі з матывам вянка. Скрыгалава Мазырскага р-на Гомельскай вобл.

**399.** Матыў вянка ў дэкоры посцілкі. Нясвіж Мінскай вобл.



крылцы ўзняты (іл. 392—393). Гэта і ёсць сімвал трагічнага кахання.

Лішне, відаць, казаць пра тое, што практычна ўсе тканыя і вышываныя вырабы з сімваламі кахання носяць аўтабіяграфічны характар. Майстрыхі ўвасаблялі ў іх свае сардэчныя таямніцы, дзяліліся радасцю шчаслівага кахання або аблягчалі душэўны боль, калі яно не ўдавалася. А было, што ад кахання, калісьці быццам шчаслівага, заставаўся адзін успамін, па розных прычынах яно ішло на спад. Вось і пакідалі майстрыхі памяць пра яго ў выглядзе голуба і галубкі, накіраваных у розныя бакі (іл. 394). На адных вырабах птушкі сядзяць спакойна, відаць, каханне было роўнае і спакойнае (іл. 395), на другіх — з узнятымі крылцамі, сімвалізуючы колішнія гарачыя пачуцці.

Што ні каханне — то розныя яго варыянты. Бывае яно нераздзеленае, адвергнутае хлопцам ці дзяўчынаю. Бывае, што даўно і доўга кахаюць адно аднаго, ды прызнацца не могуць. Так і згасае пачуццёназаўсёды. І толькі ручніку даверыцца дзяўчына, выкажа





сваю таямніцу. Шкада, не ўдалося ўстанавіць, чым жа розняцца такія ўзоры ад ужо разгледжаных.

## ВЯНОК

На многіх тканых і вышываных вырабах мы бачым кругавыя замкнёныя матывы з раслінных парасткаў, лісця, кветак, якія звычайна абляможваюць нейкі іншы матыў ці сімвал (іл. 397). Гэта — вянок, пастаянны і амаль абавязковы атрыбут многіх народных святаў, абрадаў, урачыстасцей, пагулянак. На вянках варажылі пра сваё шчасце на Купалле, вянок з каласоў быў абавязковым атрыбутам дажынак, вянок надзявалі нявесце ў першы дзень вяселля. Дзе весяліліся, спявалі, танцавалі — там прысутнічаў і вянок. Урэшце, карагод — той жа вянок.



**400.** С.Крук. Фрагмент дэкору посцілкі. Чэрвень Мінскай вобл.





**401.** Н.Мурашкевіч. Фрагмент дэкору посцілкі. Беліца Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**402.** І.Пятрова. Посцілка. Ліда Гродзенскай вобл.

**403.** Н.Сердзюкевіч. Посцілка. Слуцкі р-н Мінскай вобл.

Калі ж абагульніць усю разнастайную сімволіку вянка, то атрымліваецца, што найчасцей ён абазначаў дзявочае шчасце. Ён нават быў пашыраным галаўным уборам дзяўчыны да замужжа.

Матыў вянка, які мы бачым на вырабах ткачых і вышывальшчыц, у большасці выпадкаў якраз і з'яўляецца сімвалам дзявочага шчасця. Ён можа быць моцна стылізаваны, амаль геаметрызаваны, а можа выглядаць і досыць рэалістычна, асабліва на сучасных паліхромных вырабах (іл. 397—400). У цэнтры звычайна змяшчаецца разетка-зорка. Відаць, сімвал чалавека.







404. М.Хахлун. Ручнік. Ламачын Шаркаўшчынскага р-на Віцебскай вобл.

## ЗАРА-ЗАРАНІЦА

Яна згадваецца ў многіх народных песнях: любоўных, жніўных, вясельных. Вось як у гэтай:

Вячэрняя зоранька,
ці табе не цяжанька
з сонейкам разлучацца,
з месяцам спатыкацца.

(Жніўныя песні. Мн., 1974. С. 308)

«Усходнія славяне, — пісаў А.Афанасьеў, — адрознівалі дзве зары: зара ранішняя і зара вячэрняя. Абедзве яны суправаджаюць сонца» (Афанасьев А. Поэтические воззрения славян на природу. С. 86).

А вось легенда пра зару-заранішу, запісаная ў Талачыне:

Устала сонца з зарою,
умылася крынічнай вадою,
усміхнулася светлымі вачамі,
асвяціла зямлю яркімі лучамі.
Вось і нарадзілася зара-заранiца,
зара-заранiца, красна маладзіца.
Яе лічка — як неба яснае,
яе вочкі — як зоркі частыя.
Ад гэтага расцвіла ўся прырода,
расце жыта і ярыца,
расце зялёная траўка-мураўка,
сыцее гавяда, усе стануць багаты.

Зара-заранiца лічылася святой, яна памагала ад немачы. Вось якую замову гаварылі пры суроках: «Памолімся, паклонімся святой зорачцы ранняй, святой зорачцы паўдзённай, святой зорачцы вячэрняй». Далей ідуць просьбы пра дапамогу (Романов Е. Белорусский сборник. Вып. 5. С. 26).

Зара як вястун узыходу сонца здаўна

405. М.Стома. Дыван «Ружы». Аўцюкі Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл.







Зара як вястун узыходу сонца здаўна атаясамліваецца з пачаткам новага дня, а ў высокім сэнсе — з рэвалюцыйнымі пераўтварэннямі, свабодай, светлай будучыняй. Але ў народнай свядомасці зара перш за ўсё звязвалася з радаснымі, салодкімі, шчымлівымі сардэчнымі перажываннямі і марамі, пераважна з каханнем. Таму і любяць майстрыхі ўзоры, якія абазначаюць зару-зараніцу. А як яны выглядаюць, расказала і паказала на сваім ручніку А.Доўбыш з Талачына. Зара-зараніца мае выгляд здвоеных васьміканцовых разетак, акружаных кветкавай гірляндай (іл. 401—404). «Гэта таму, што зара-зараніца — прыгожая маладзіца, яна заўсёды мае друга».



**406.** Т.Ярашэня. Фрагмент дэкору посцілкі. Вялікі Рожан Салігорскага р-на Мінскай вобл.



**408.** П.Арлоўская. Фрагмент дэкору посцілкі. Смаленская вобл.



**407.** Т.Троіцкая. Фрагмент дэкору посцілкі. Магілёўская вобл.





## РУЖА — СІМВАЛ ПРЫГАЖОСЦІ І КАХАННЯ

Кожная кветка па-свойму прыгожая і адметная. Але нездарма царыцай кветак называюць ружу. Гэта сама дасканаласць і прыгажосць.

Ружа як сімвал прыгажосці і кахання адлюстравана ў шматлікіх мастацкіх творах народаў амаль усяго свету. Не былі раўнадушнымі да яе і беларускія майстрыхі. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца гэтая прыгожая кветка ў сучаснай народнай мастацкай творчасці з яе павышанай дэкаратыўнасцю, яркасцю і насычанасцю колераў, імкненнем да адлюстравання рэальных вобразаў. Сакавітыя буйныя кветкі і бутоны ружаў мы бачым на тканых посцілках з розных куткоў Беларусі (іл. 405—408), трапляюцца яны і на ручніках, часам даволі старых. Відаць, майстрыхі ў такіх творах выказвалі сваў захапленне дасканаласцю і прыгажосцю прыродных форм, а магчыма, што падобныя творы адначасова былі і своеасаблівым выказваннем сімпатыі да каханага.

Як відаць, у народзе прыгажосць і каханне заўсёды спалучаліся ў адзінае ўсёабдымнае пачуццё.



Арнаментальныя ўзоры беларускага народнага ткацтва і вышыўкі ўражваюць надзвычайнай разнастайнасцю матываў, у чым няцяжка пераканацца, пагартаўшы хоць бы і гэтую кніжку. Але чым больш іх трапляецца на вочы, тым прыкметней становіцца перавага нейкіх найбольш характэрных, пашыраных і ўстойлівых матываў, якім ткачыхі і вышывальшчыцы па розных прычынах аддавалі яўную перавагу. Сярод іх, несумненна, вядучае месца займае прыгожы васьміканцовы матыў, які называецца зоркаю (іл. 409). Як мы ўжо ведаем, у народнай свядомасці зорка — гэта сімвал чалавека. Адсюль, відаць, і асаблівая папулярнасць такога матыву, паколькі чалавек — аснова жыцця на зямлі, аснова сям'і, прадаўжэння роду, моцы дзяржавы і г.д.

Зорка звязваецца з чалавекам у многіх народаў, сувязь гэтая здаўна бытуе ў свядомасці чалавека, у тым ліку і беларусаў. Этнограф А.Сержпутоўскі коратка і змястоўна перадаў гэтыя народныя павер'і ў сваёй кнізе «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў»: «Нарадзіўся чалавек, на небе з'явілася яго зорка. Добры чалавек, яго зорка гарыць ярка. Дрэнны — цьмяна. Памёр чалавек, яго зорка ўпала з неба на зямлю».

Незалежна ад таго, верым мы ў гэта ці не, але шырока выкарыстоўваем яшчэ адно паняцце, якое мае больш пераноснае, умоўнае значэнне: зорка як сімвал славы, росквіту творчых сіл чалавека. Кажуць: зорка першай велічыні ў мастацтве, закацілася яго зорка і г.д. Відаць, у аснове гэтага вобразнага паняцця ляжаць старажытныя народныя павер'і, якія звязваюць чалавека на зямлі і адпаведную зорку на небе.

Адсюль, відаць, і такая папулярнасць у народнай мастацкай творчасці матыву ў выглядзе васьміканцовай зоркі — сімвалу чалавека. Як правіла, зорку аблямоўваюць кветкавай гірляндай ці падобным арнаментальным матывам геаметрычнага характару, што, пэўна, падкрэслівае веліч і прыгажосць чалавека (іл. 409—415).



**409.** Н.Захарэвіч. Ручнік. Клімавічы Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**410.** Фрагмент дэкору посцілкі з матывам зорак. Лідскі р-н Гродзенскай вобл.







**411.** Дыван. Дзятлавічы Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.



**412.** В.Заяц. Посцілка. Пінскі р-н Брэсцкай вобл.





**413.** Н.Магер. Фрагмент дэкору посцілкі. Кобрын Брэсцкай вобл.

**414.** Г.Піскуновіч. Фрагмент дэкору посцілкі. Слабада Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.





## ДЗЯЎЧЫНА-БЯРОЗКА, ДЗЯЎЧЫНА-РАБІНА

Абагульнены вобраз чалавека ў народнай мастацкай творчасці нярэдка атрымліваў больш канкрэтнае ўвасабленне — дзяўчыны, жанчыны, хлопца, мужчыны, дзіцяці.

Вось, скажам, дзяўчына (жанчына). З кім толькі не параўноўваецца яе вобраз у народных песнях! Бярозка, рабіна, каліна, зязюля, птушка... Мы ўжо ведаем пра некаторыя вобразы і канкрэтны змест, закладзены ў іх: зязюля-ўдава, каліна-русалка. Такою ж канкрэтнасцю вызначаюцца і іншыя сімвалы. Напрыклад, бярозка. Прыгожае, стройнае, белае дрэва звязваецца ў нашай свядомасці з лірычным, пяшчотным, абаяльным вобразам дзяўчыны. Часам на вышываных вырабах мы бачым досыць рэалістычнае адлюстраванне такой дзяўчыны-бярозкі.

З рабінаю звязваюцца жаночыя вобразы, лёс якіх пазначаны адценнем трагізму. Рабіна прыгожая заўсёды — і вясною ў белай квецені, як нявеста ў вясельным уборы, і восенню ў чырвані гронак, што выклікае вобраз сталай



**416.** Дзяўчына-рабіна.



**417.** Узор рабіны.



**415.** А.Санько. Фрагмент дэкору посцілкі. Валожынскі р-н Мінскай вобл.



**418.** Т.Кудлач. Узор дзяўчыны-каліны ў дэкоры жаночай кофты.





жанчыны, не пакрыўджанай прыродай, але пакрыўджанай лёсам. Яна прыгожая фізічна і духоўна, ды жыццё абышлося з ёю няласкава.

Куст каліны найчасцей увасабляе гаротны вобраз русалкі, але нярэдка гэта абагульнены сімвал мараў пра каханне і шчасце або трагічнага, гаротнага лёсу. «Гэта мой партрэт», — пракаменціравала Т.Кудлач з Камянца ўзор на жаночай кофце (іл. 418), дзе ён у выглядзе прыгожа стылізаванага ні то кусціка, ні то дрэўца яўна ўвасабляў нейкія старонкі з біяграфіі майстрыхі.





**419.** Н.Каралёва. Узор дзяўчыны-каліны ў дэкоры жаночай кофты.

## КЛЁН

Прыгажун, весялун, шчыры працаўнік, добры майстар — хлопец таксама не абойдзены ўвагай як у вуснай народнай творчасці, так і ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Знойдзены яму і адпаведнік у прыродзе — клён або явар, магутныя, прыгожыя дрэвы.

Вось якую легенду расказалі мне ў Пухавіцкім раёне. Жыў у вёсцы хлопец, статны ды рослы, як клён. А па суседству — дзяўчына, стройная і доўгавалосая. Нездарма яе звалі бярозкаю. Пакахалі яны адно аднаго, вадою не разліць. Ды багатыя бацькі Міхася не захацелі мець нявесткаю батрачку Маню. Жыццё для закаханых страціла сэнс. Пайшлі яны да рачнога абрыву, моцна абняліся і кінуліся ў глыбокі вір. Пахавалі іх разам, а неўзабаве на магіле выраслі клён і бярозка. Пахіліліся адно да аднаго, спляліся

**420.** В.Вараксіч. Дыван. Мышанка Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл.

галінкамі. Хто ні пройдзе міма — уздыхне, пазайздросціць такому моцнаму і чыстаму каханню да магілы.

Калі мы бачым на тканых і вышываных вырабах матыў, падобны на кляновы лісток, можна не сумнявацца, што тут увасоблены вобраз такога хлопца-малойца (іл. 420). Падобнымі ўзорамі майстрыхі выказвалі сваю асаблівую сімпатыю, як, напрыклад, Н.Павалоцкая з Маладзечаншчыны, якая вышыла кашулю свайму каханаму: «Мне сказала варажбітка: кляновы ліст — гэта ўсё роўна, што твой Валодзя. Калі вышыеш кляновы ліст, Валодзя палюбіць цябе да магілы. Падарыла я Валодзю кашулю, ён і сказаў, што любіць мяне. Мы і пажаніліся».

## МУЖЧЫНА І ЖАНЧЫНА

Толькі людзей прырода надзяліла найвялікшым пачуццём кахання. І гэты прыродны дар нашы продкі заўсёды шанавалі, ставіліся да яго зусім не так, як многія сёння. Адносіны мужчыны і жанчыны заўсёды акружаліся арэолам святасці, лічыліся асноваю трывалай, здаровай сям'і.

Возьмем традыцыйныя вясельныя абрады, якія ўслаўлялі і змацоўвалі стварэнне новай сям'і. Выпечка караваю ператваралася ў сапраўднае рытуальнае дзеянне, у якім ухваляліся цнатлівасць нявесты, яе прыгажосць, працавітасць, гаспадарлівасць. Сэнс песень, што суправаджалі выпечку каравая, і фігурныя аздобы на ім нярэдка мелі, як мы б сёння сказалі, эратычную афарбоўку, але ўсё гэта мела здаровы, разумны сэнс — захаванне чысціні роду, стварэнне здаровай сям'і. Гэты ж сэнс укладваўся і ў абрад першай шлюбнай ночы. Сёння мы ў большасці выпадкаў успамінаем яго з паблажлівай усмешкаю як нейкі архаізм, а то і сведчанне ніскай свядомасці і адсталасці нашых продкаў. На самой справе ўсё якраз наадварот. Гэта мы адносімся да кахання, святасці шлюбу занадта легкадумна, а нашы продкі тут якраз былі вельмі патрабавальныя. Відаць, толькі дзякуючы гэтаму мы і захаваліся як нацыя.

Такой жа святасцю і маральнай чысцінёй прасякнуты ўзоры, якія абазначаюць адносіны мужчыны і жанчыны. Выгляд і кампазіцыя гэтых узораў розныя, і ўсе яны, як сведчылі майстрыхі, маюць розныя значэнні. Але складваецца ўражанне, што пра гэта ведаюць толькі самі майстрыхі.

«Я ўхваляю нашых дзядуль і бабуль, — казала М.Манькові з Мазыршчыны, якая аздобіла ручнік узорам першай ночы (іл. 422). — Дзяўчына да самага замужжа павінна берагчы свой гонар. Я за першую ноч. Можа, гэта і грубавата гучыць, але справядліва і карысна для сям'і. Я сама перажыла першую ноч».

Некалькі ручнікоў на гэтую тэму давялося бачыць у вядомай майстрыхі В.Кулды з Жукойняў Астравецкага раёна. Як і на ручніку М.Манькові, аснову ўзору на яе вырабах складае матыў у выглядзе ромба з кручкападобнымі адросткамі. Увогуле вучоныя лічаць яго сімвалам урадлівасці, зямной плоднасці, але няма ніякай



**422.** Узор першай ночы.



**421.** М.Карчавая. Ручнік з сімваламі мужчыны і жанчыны. Раманава Гомельскай вобл.

супярэчнасці ў тым, што ў народзе гэта сімвал пладнасці ўвогуле.

Узор на адным з ручнікоў В.Кулды абазначае першую шлюбную ноч. «Многія саромеюцца пра гэта казаць, — зазначала яна. — А чаго саромецца? Справа жыццёвая. Адкуль жа тады дзеці з'яўляюцца? Нічога тут кепскага няма». Другі яе ручнік, аказваецца, адыграў важную ролю ў жыцці майстрыхі: «Калі я яго вышывала, то заказала на хлопчыка. Вышывала з радасцю і песнямі. Таму і збыліся мае жаданні, нарадзіўся хлопчык».

## СЯМ'Я ЯК ЗАРУКА МОЦНАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Кожная цывілізаваная краіна заклапочана ўмацаваннем сям'і. Гэта той падмурак, на якім трымаецца дзяржава. Моцная сям'я — моцная дзяржава, заможная сям'я — багатая дзяржава.

Магчыма, сярод простага люду такія высокія паняцці не былі пашыраныя. Але моцная сям'я заўсёды лічылася асноваю дабрабыту і шчасця. Атрымала гэта сваё адлюстраванне і ў мастацкай творчасці.

**423.** Е.Кульчыцкая. Фрагмент дэкору адзення з матывамі мужчыны і жанчыны. Дзівін Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл.

**424.** Ручнік з матывамі мужчыны і жанчыны. Магілёўская вобл.

**425.** Фрагмент дэкору вышыўкі з матывам сям'і.

У час адной са сваіх вандровак па Беларусі я, тады маскоўскі студэнт, захапіў з сабою здымкі ручнікоў, на якіх, як казалі майстрыхі, быў узор, што





абазначаў сям'ю. Мне было цікава высветліць адносіны беларускіх сялянак да сям'і, расшыфраваць узоры на ручніках.

Спыніўся я ў Навабеліцы каля Гомеля. Жыло тут шмат старых сялянак, што перасяліліся сюды пасля рэвалюцыі. Яны апрацоўвалі зямлю, трымалі жывёлу, а зімою пралі і ткалі. Сабраліся мы ў А.Жыткевіч (1881 г.н.), прыйшлі Н.Кавалёва (1872 г.н.), Н.Цвяткова (1863 г.н.), В.Панамарова (1869 г.н.), кожная прынесла ручнік з узорам сям'і.

ментальнай аблямоўцы (іл. 425—427). Пра гэтыя ўзоры, а таксама пра адносіны да сям'і і зайшла размова. Усе жанчыны ў адзін голас казалі, што сям'я — аснова ўсяго, аснова жыцця кожнага чалавека. Без сям'і няма ні жыцця, ні мужчыны, ні жанчыны. А ў наш час сям'я разбураецца, шмат разводаў, сямейных скандалаў. У вёсцы сям'ю моцна падарвала калектывізацыя.

Узор моцнай, дружнай сям'і на сваім ручніку (іл. 428) Н.Цвяткова змясціла з канкрэтнай мэтай: «Мне хацелася,



**427.** І.Макавецкая. Фрагмент дэкору посцілкі. Брадніца Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.



**426.** В.Корчык. Фрагмент дэкору посцілкі. Кіеўская вобл.

Малюнкі на ручніках былі досыць разнастайныя, але блізкай кампазіцыі. Звычайна гэта чатыры крыжападобна спалучаныя разеткі, нярэдка ў арна-



**428.** Узор моцнай сям'і.







**429**. Узор моцнай, дружнай сям'і.



**430**. Сімвалы сям'і.

каб была ў мяне моцная сям'я. Вось я і вышыла гэты ўзор». Н.Кавалёва растлумачыла сэнс падобнага матыву (іл. 429): «Узор сям'і заўсёды складаецца з чатырох частак: мужа, жонкі і дзяцей». Можна з гэтым пагадзіцца, калі зыходзіць з тагачаснай рэальнасці. А калі ў сем'ях было па 5—10 дзяцей? Пэўна, гэты ўзор мае ўсё ж іншае паходжанне.

Ручнікі на гэтую тэму часта вызначаюцца вельмі багатай кампазіцыяй, якая складаецца не толькі з ужо згаданага канкрэтнага матыву, але дапаўняецца і іншымі, блізкімі па сэнсе сімваламі маці, зоркі, дзіцяці і інш. Звычайна такія ручнікі ахвяраваліся ў царкву, на абраз Маці Божай. Гэта быў своеасаблівы даверлівы расказ майстрыхі сваёй заступніцы, вера ў яе дапамогу.

Такі, напрыклад, ручнік М.Ставец з Навагрудка (іл. 430). Як растлумачыла сама жанчына, у верхнім радзе вышыты Параскева-Пятніца, абаронца сям'і, дзяцей і маці. Паабапал яе галавы — вянчальныя кароны. Ніжэй — сімвал маці і мацярынства ў цэлым, яшчэ ніжэй — зорка, сімвал чалавека, тут — бацькі, главы сям'і. Нарэшце, ніжні рад займаюць сімвалы дзіцяці, шчасця і надзеі. Па словах майстрыхі, яна вельмі верыла, што гэтыя вышыўкі на ручніку дапамогуць ёй стварыць моцную, працавітую сям'ю, выхаваць здаровых, прыгожых, разумных дзяцей.

К.Юрэвіч з таго ж Навагрудка кампазіцыю ручніка склала з сімвалаў язычніцкіх багоў. «Замуж я выйшла ў той год, — успаміная яна, — калі цар вызваліў сялян ад паншчыны. Я вельмі хацела, каб сям'я была моцнай, працавітай, каб раслі здаровыя дзеці. Бабка Параска параіла вышыць ручнік з узорамі ўсіх багоў і святых. Я і вышыла». Яна ж растлумачыла кожны матыў ручніка (іл. 431). У першым радзе — Параскева-Пятніца з вянчальнымі каронамі па баках, апякунка жанчын, мацярок. Яна дае моцную сям'ю, здаровых, паслухмяных дзяцей, забяспечвае згоду і каханне ў сям'і. У другім радзе — узор Сонца, якое саграваае і асвятляе Зямлю і ўсё жывое на ёй. Сімвал Маці Зямлі-Карміцелькі — абарона ад нячыстай сілы, хваробаў, благога вока. Узор Перуна ахоўвае ад нячысціка, чарцей. Нарэшце, Жыжаль павінен забяспечыць цяпло ў доме, зберагчы ад благога вока. Усе матывы паўтараюцца па пяць разоў у радзе. Як на вядомых Барысавых камянях XII стагоддзя, на ручніку мог бы быць надпіс: «Божа, памажы сваёй рабе Кацярыне стварыць моцную, здаровую сям'ю». Зрэшты, майстрыха і







**431.** Сімвалы абаронцаў-заступнікаў сям'і.



**432.** Сям'я — ключ ад шчасця. Ручнік. Капыльскі р-н Мінскай вобл.



**433.** А.Пушкоўская. Ручнік. Мігупіна Сенненскага р-на Віцебскай вобл.







**434.** Д.Фяско. Фрагмент дэкору ручніка. Камянец Брэсцкай вобл.

**435.** К.Дубадзел. Фрагмент дэкору ручніка. Гомель.



**436.** Н.Грыцэнка. Фрагмент дэкору ручніка. Багуцічы Ельскага р-на Гомельскай вобл.





**437.** М.Сацункевіч. Ручнік. Слуцкі р-н Мінскай вобл.

сама зрабіла ўсё магчымае, каб забяспечыць гэта. З глыбокай пашанай успрыняла блаславенне бацькоў абразом Маці Божай на вяселлі. Са страхам, хваляваннем і чаканнем шчасця вянчалася ў царкве. Вышыла ўжо згаданы ручнік і ахвяравала яго ў царкву. Занесла варажбітцы сувой палатна, каб тая наваражыла ёй моцную сям'ю, здаровых дзяцей. Ахвяравала сувой тканіны царкве, каб бацюшка маліўся за яе сям'ю. Не дзіва, што такая руплівасць аказалася належна ўзнагароджанай.

«Ёсць усялякія сем'і, — казала Н.Акуліч (1869 г.н., Краснае Смаленскай вобл.). — У адных сем'ях муж і жонка абібокі, такія ж і дзеці. Гэтыя сем'і вечна гаруюць. Ёсць сем'і, дзе муж і жонка не любяць адно аднаго, лаюцца, б'юцца. А дзеці ўсе ўразброд, так і глядзяць, каб у суседа што сцягнуць. Ну, а я хачу, каб у мяне была моцная, працавітая сям'я, каб у нас з Маркам усё было ладна, каб дзеці паважалі адно аднаго. Для гэтага я і вышыла ручнік. Тут усё на сваім месцы. Квадрат з чатырох меншых квадратаў — сама сям'я. Вяночкі з кветак — паказаць, што мы любім сям'ю, радуемся яе трываласці. Кубікі з промнямі — Маці Зямля-Карміцелька. Зямля — галоўнае для сям'і. А вось гэтыя закавыркі — ключыкі, каб паказаць, што сям'я — ключ да шчасця».

Д.Фяско (1881 г.н., Камянец) пра будучую сям'ю думала ўжо з шасці гадоў: «Я гуляла з лялькамі ў сям'ю. У мяне былі лялька-маці, лялька-тата і чатыры лялькі-дзеці: два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Я любіла з імі гуляць, адзявала іх, карміла, клала спаць. А пазней ужо і сама стала думаць пра хлопцаў як будучых мужоў. Я вельмі хацела, каб у мяне былі добрыя дзеці, хацела мець шмат прыгожанькіх хлопчыкаў і дзяўчатак. Гэта я і вышыла на ручніку (іл. 434). Цяпер у мяне 8 унукаў. Усе маюць сем'і, у іх я бываю».

Як відаць, для кожнай жанчыны добрая сям'я — гэта своеасаблівыя ключы да шчасця. Характэрна, што ў свядомасці майстрых гэтае вобразнае азначэнне набыло канкрэтнае вырашэнне ў выглядзе ўжо згаданых «закавырак». Увесь жа ўзор, што сімвалізуе ключы ад шчасця, досыць адмысловы. Аснову яго складае рамбічная фігура з чатырох меншых ромбаў, раздзеленая гірляндай. Канцы гірлянды закручва-





юцца пад прамымі вуглaмі. Такі ўзор на ручніку М.Грыцэнка з Багушчаў Ельскага раёна (іл. 436): «Вышыла я гэты ўзор, калі мне было 17 гадоў. Я хацела, каб палюбіў мяне хлопец Коля. І вось калі я вышыла ўзор, мы пажаніліся. Так што мара мая збылася. Вось гэтая фігурка з чатырох частак абазначае сям'ю, а загнутыя лініі — самі ключы».

Кіраўніца гуртка вышыўкі Г.Ступіна казала: «Праца і сям'я — аснова нашага грамадства. З дзяцінства мы выхоўваем у дзяўчынак любоў да сям'і, яны любяць гуляць з лялькамі ў сям'ю, вышываюць узоры сям'і на ручніках».

«У чым шчасце сялянкі, пра што яна марыць? — запытала А.Чацвярэнка (1909 г.н., Сакалянка Талачынскага р-на) і сама ж адказала: — Сталая жанчына клапоціцца перш за ўсё пра сям'ю, дзяцей, дастатак у гаспадарцы. Мужа яна выбірала такога, каб ён быў дбайным гаспадаром, добрым бацькам. Яна хоча мець здаровых, працавітых, паслухмяных дзяцей. Для гэтага яна робіць усё, што можа: працуе з ранку да вечара, спявае песні, гуляе ў танцах, варожыць, просіць самога Бога, тчэ і вышывае ўзоры на посцілках і ручніках. Усё жыццё для сям'і, для дзяцей».

Трапілася ў гэтым зладжаным жаночым хоры і адна «салістка», якая прасіла не называць свайго прозвішча. «Нашто мне дзеці? Іх трэба карміць, адзяваць, а для гэтага я не маю часу. Не хачу я раджаць, гэта балюча. Мне прыкра быць цяжарнай, пузатай бабаю: ходзіш, як жаба. Усе хлопцы адварочваюцца. Не буду псаваць сваю фігуру. Нашто мне мужык? Я вольная, усе хлопцы мае, толькі міргні. Яны частуюць мяне цукеркамі, кажушок падносяць. Вось маё шчасце». Але, відаць, яна сама была не надта пераканаая ў гэтым, калі не захацела назвацца. Шкада, што сёння ў яе ўсё больш паслядоўніц. Сем'і невялікія, ды і то часта нетрывалыя, шмат разводаў. А калі нетрывалая сям'я — такая ж і дзяржава.

А ў часы маёй маладосці яшчэ захоўваліся традыцыйныя адносіны да сям'і. У маіх даваенных падарожжах неаднойчы даводзілася гаварыць на гэтую тэму з нашымі жанчынамі. Адна з такіх сустрэч была ў 1937 годзе ў Калінкавічах. У 98-гадовай, але яшчэ досыць бадзёрай М.Стрыжнявой сабраліся суседкі, разглядалі і абмяркоўвалі яе работы. Адзін з ручнікоў быў аздоблены ўзорам хрэсьбінаў (іл. 440). У цэнтры — зорка, гэта сама прырода, навокал — маленькія зоркі, што абазначаюць дзяцей. На маё пытанне, чаму майстрыха вышыла столькі зорак, яна адказала: «Хай будзе многа дзетак.



438. Ручнік. Барок Слуцкага р-на Мінскай вобл.

439. Узор сям'і. Карункі.

440. Узор радзінаў-хрэсьбінаў.









Будуць сям'і памочнікі. Гэты ручнік — пра маю долю. Мне хацелася, каб у нашай сям'і было шмат дзяцей. Я і вышыла шмат зорак — на кожнае дзіця па адной».



Усе прысутныя пажылыя суседкі ківалі галовамі. Праўда, адна дзяўчына, Каця, запярэчыла: «Нашто мне дзеці? Лішні клопат. Мне і адной весела. Усе хлопцы мае. Мне не патрэбны хлопчыкі, якіх трэба на руках насіць, мне трэба хлопцы, якія будуць мяне насіць на руках». Усе з абурэннем на яе накінуліся.

Добрая сям'я, як справядліва лічылі нашы продкі, трымалася на працалюбстве. Гэта наглядна адлюстравана на ручніку Е.Іскавец з Навагрудка (іл. 445). Радок узору на ім утвараюць фігуркі жаніха і нявесты з кусцікам ружаў між імі, вышэй — радок з пчолак, сімвалу працавітасці. На думку майстрыхі, «цяпер моладзь не хоча працаваць, хоча жыць як-небудзь, на шарманку. Вось я і вышыла такі ручнік, каб падарыць на вяселле сваёй унучцы Аксюце. Хай ведае, што без працы не пражывеш». А падмацавала свае думкі майстрыха прымаўкай: «Не шукай жонку на гульбішчы, а шукай на іржышчы».

**441.** Н.Марчанка. Узор сям'і ў вышыўцы. Дзяржынск Мінскай вобл.

**442.** Ф.Балабан. Посціпка. Грабяні Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.



**443.** Узор сям'і. Фрагмент дэкору посцілкі.



Ручнік з падобным узорам з Вострава Пінскага раёна ёсць у фондах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Вядомая майстрыха, галоўны мастак Белмастпрамсавета Г.Ступіна пракаменціравала сэнс узору амаль гэтак жа: «Не шукай жонку, якая добра танцуе, а шукай, якая добра працуе».

Варта прывесці яшчэ некалькі прыкладаў народнай мудрасці: «Добрая сям'я накорміць, адзене і напоіць», «Сям'я добрая — клець поўная», «Вялікая сям'я — вялікае шчасце». Гэ-







**444.** В.Цягака. Узор сям'і ў дэкоры ручніка. Бялевічы Слуцкага р-на Мінскай вобл.

за шчасце мець шматдзетную сям'ю. І ўсіх сваіх дзяцей яны горача і аддана любілі, затое пад старасць былі акружаны клопатам і ўвагай. Таму і жыла нацыя, нязменна адраджалася пасля войнаў, варожых нашэсцяў, эпідэмій.

К.Шаптун (1885 г.н., Шклоўскі р-н), якая мела 8 здаровых, паслухмяных дзяцей, казала: «Я шчаслівая і ганаруся гэтым. І ў падзяку за гэта Богу я вышыла ручнік з узорамі дзяцей».

Сімвал дзяцей у ткацтве і вышыўцы мае выгляд васьміканцовай разеткі, якая, напэўна, з'яўляецца вынікам трансфармацыі старажытнага матыву з чатырох каласкоў, што адыходзяць пад прамым вуглом ад квадрата (іл. 446—447). У цэнтры звычайна змяшчаецца крыжык — абярэг ад няшчасцяў, пажаданне дабра, шчасця, здароўя. Як відаць, матыў вельмі падобны на

**445.** Е.Іскавец. Ручнік. Востраў Пінскага р-на Брэсцкай вобл.





**446.** Матыў дзяцей у дэкоры ручніка. Ганцавіцкі р-н Брэсцкай вобл.

тыя мудрыя правілы нашых продкаў мы, на жаль, сталі забываць.

## ДЗЕЦІ — НАША РАДАСЦЬ І ШЧАСЦЕ

«У каго дзетак многа — той не забыты Богам». Гэтай мудрасцю кіраваліся нашы продкі, маючы па 5—7 дзяцей у сям'і. Беднасць, цяжкая праца не былі перашкодаю для жанчын, якія лічылі



**447.** А.Салаўёва. Ручнік. Скітава Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.







**448.** М.Стрэльская. Посцілка з матывам дзяцей. Талька Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.

**449.** З.Рамашка. Фрагмент дэкору ручніка. Старына Капыльскага р-на Мінскай вобл.

**450.** А.Белайчук. Посцілка з хрэсьбіннымі матывамі. Вербавічы Нараўлянскага р-на Гомельскай вобл.





зорку — сімвал чалавека, і гэта, вядома, невыпадкова: дзіця і ёсць будучы чалавек.

Складаны малюнак жыццёвай эстафеты зашыфраваны ў дэкоры посцілкі Н.Ляўкоўскай з Забярэжыцаў Лельчыцкага раёна. У кожнай з васьмівугольных фігур цэнтральнае месца займае зорка — сімвал чалавека. З яе вырастаюць чатыры раслінныя матывы дрэва жыцця, што сімвалізуюць з'яўленне новага жыцця — дзіцяці. Каля зорак змяшчаюцца крыжападобныя ўзоры — сімвал зерня, зноў жа, новае жыццё. Два бардзюры з зорак ілюструюць асноўную ідэю — з'яўленне на свет новага жыцця, а яшчэ адзін бардзюр з ружаў абазначае пачуццё павагі да маці, што дала новае жыццё. А ў цэлым дэкор посцілкі ўслаўляе маці, якая нарадзіла і выхавала дзіця.

Больш простая кампазіцыя, але з тым жа сэнсам і ў дэкоры посцілкі М.Стрэльскай з Талькі Пухавіцкага раёна (іл. 448). Абодва творы, як і іншыя вырабы на падобную тэму, вызначаюцца звонкім, жыццярадасным каларытам, сакавітай паліхроміяй. Гэта нібы своеасаблівы гімн у гонар нараджэння новага чалавека і прадаўжэння жыцця.

## РАДЗІНЫ (ХРЭСЬБІНЫ)

Нараджэнне дзіцяці як свята для сям'і адзначалася шэрагам магічных







**451.** М.Рагінь. Дыван з хрэсьбінными матывамі. Пеляса Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл.

дзеянняў і ўрачыстасцей, якія складваліся ў старажытны абрад радзінаў (хрысцінаў). Яны далучалі дзіця да сям'і, забяспечвалі яму здароўе, ахову ад ліха і магчымых нягодаў, услаўлялі маці, якая дала новае жыццё.

«О, вы не ведаеце, што такое радзіны? — піша Б.Сачанка ў кнізе «Вечны кругазварот». — Гэта цэлы абрад. Чаго толькі не было на радзінах, калі збіраліся мужчыны і жанчыны ў хату, дзе нарадзілася дзіця. Была там і скварка, і чарка. І вядома ж, жарты, песні — у іх славілася і маці, якая, хоць і ў пакутах, нарадзіла чалавека».

Гэтая тэма атрымала сваё ўвасабленне і ў творах народнага мастацтва. Майстрыхі іх так і называюць: «Гэта дыван пра хрэсьбіны». Адзін з іх выткала А.Белайчук з Вербавічаў Нараўлянскага раёна (іл. 450). Цэнтральнае месца ў ім займае зорка — сімвал чалавека, у гэтым жа выпадку — сімвал маладой маці, пра што сведчаць чатыры крыжыкі каля кожнай зоркі. А каб падкрэсліць асаблівую ўрачыстасць падзеі, кожная зорка акаймавана квяцістай стужкай і вянком з раслінных матываў. Ствараецца вельмі дэкаратыўны жыццярадасны матыў, які вобразна ўслаўляе сямейную ўрачыстасць.

Дыван на такую ж тэму выткала і падарыла маладой маці на хрэсьбіны М.Рагінь з Пелясы Воранаўскага раёна (іл. 451). Аснову дэкору складае багата



**452.** М.Баравік. Ручнік з матывамі дабрабыту і заможнасці. Запруддзе Шаркаўшчынскага р-на Віцебскай вобл.





распрацаваны матыў, які нагадвае ўжо вядомы нам узор ураджаю, дажыначны вянок. Але гэта іншы ўраджай — папаўненне сям'і. І не дажынкі тут адзначаны, а радзіны, што па сэнсе вельмі блізкае. Дык вось, складаны матыў у цэнтры з чатырох разетак і ёсць хрэсьбіны — свята і ўрачыстасць у сям'і. А падкрэсліваецца гэта пышным вянком з раслінных галінак.

## СІМВАЛ БАГАЦЦЯ І ДАБРАБЫТУ

**453.** Н.Макарчук. Ручнік. Капыльскі р-н Мінскай вобл.



Вялікая сям'я, шчодра адораная дзецьмі, толькі тады магла быць пасапраўднаму шчаслівай, калі мела дастатак і дабрабыт. Многія народы свету ў змаганні за жыццё, стварэнне неабходнага дабрабыту ў сваёй мастацкай творчасці выпрацавалі адпаведныя яго сімвалы. Так, у народаў Старажытнага Усходу багацце ўвасабляла буйная рагатая жывёла, яе адлюстраванні з гіпертрафіраванымі рагамі мы бачым на старажытных фрэсках, рэльефах, у творах скульптуры і прыкладнога мастацтва. Свойская жывёла была сімвалам багацця і ў славян. Напрыклад, палешукі і сёння называюць рагатую скаціну таварам. Гэта водгук тых далёкіх часоў, калі хатняя жывёла была асноўным таварам, своеасаблівай «валютай».

Асновай дабрабыту беларусаў было таксама земляробства. Мы ўжо разглядалі сімвал заможнасці, якая грунтавалася на земляробчай працы. Гэта жытні колас. А вось жывёлагадоўля і заснаваны на ёй дабрабыт увасобіліся ў вельмі простым, але досыць усёахопным і вобразным сімвале ў выглядзе двух рагоў, якія абазначаюць асноўных хатніх жывёл: кароў, быкоў, козаў, бараноў. Успомнім вільчакі ў выглядзе каровіных рагоў, што яшчэ нядаўна ўпрыгожвалі традыцыйнае беларускае жыллё (гл. 489—490). У старажытнасці яны выконвалі ролю абярэга, «забяспечвалі» дастатак і дабрабыт у сям'і.

**454.** М.Круглікава. Посцілка. Чэрыкаўскі р-н Магілёўскай вобл.



Матыў рагоў сустракаецца ў ткацтве і вышыўцы. Праўда, спецыфіка гэтага віду рамяства асаблівага натуралізму не дапускае, ды майстрыхі, пэўна, і не імкнуліся да яго, надаючы рагам досыць арнаментальны выгляд накшталт двух завіткоў, часта даволі мудрагелістых абрысаў (іл. 452—454).

Акрамя такога абагульненага вобраза буйной рагатай жывёлы трапляецца яшчэ і адлюстраванне казы ці казла як увасабленне плоднасці. У многіх народаў свету, у тым ліку і ў славян, каза здаўна была сімвалам дастатку і пладавітасці. Гэтая жывёліна спрадвеку акружана рознымі вераваннямі і забабонамі, водгулле якіх заўважалася яшчэ і ў пачатку XX стагоддзя. Сярод іх — звычай хадзіць на Каляды «з казой». Вусная народная творчасць засведчыла ролю казы ў земляробчай магіі:

Дзе каза ходзіць,
там жыта родзіць.
Дзе пабягае,
там вылягае.
Дзе каза рогам,
там жыта стогам.
Дзе каза нагою,
там жыта капою.
Дзе каза хвастом,
там жыта кустом.

Такую казу мы і бачым на старых гродзенскіх дыванах, пра якія ўжо ішла гаворка. Яна паказана разам з жаніхом і нявестаю як пажаданне багацця і дабрабыту ў маладой сям'і.

## ПЧАЛА ЯК СІМВАЛ ПРАЦАВІТАСЦІ

Дабрабыт і шчасце кожнай сям'і трымаліся на працы. Працавітасць была асноўнай рысай, за якую цанілі чалавека. Гэтым жа правілам кіраваліся і пры выбары нявесты, таму што ў сям'ю бралі працаўніцу, памочніцу, гаспадыню. А калі гаспадар не гультай, не п'яніца, не абібок — самая вялікая сям'я жыла ў адносным дастатку (вядома, калі была зямля). Падрасталі дзеці — таксама ўключаліся ў працу. Так і не перарывалася эстафета працавітасці на працягу стагоддзяў. І толькі ў часы сталіншчыны і калектывізацыі праца была прыніжана і зняважана.





Руплівыя працаўнікі згінулі ў лагерах, у высылцы, праслаўляліся «пралетары», г.зн. абібокі і гультаі. Яны не маглі ці не хацелі наладзіць уласную гаспадарку, а іх ставілі на чале калгасаў. Стымулу да добрай працы не было, людзі гнулі спіну на калгасных палетках за нішто. Вынікі такой «гаспадарлівасці» мы пераадолеем яшчэ не хутка.

Услаўляючы працавітасць і руплівасць, нашы продкі знайшлі іх вельмі дакладны сімвал у прыродзе. Гэта — пчала, вечная і нястомная працаўніца. Не дзіва, што сілуэт пчалы так часта ўплятаецца ў дэкор посцілкі ці ручніка.

Вырашэнне гэтага сімвалу бывае розным. На сучасных посцілках з іх паліхромнымі яркімі раслыннымі матывамі пчолы паказваюцца досыць натуралістычна і пазнавальна (іл. 455). На старадаўніх вырабах з іх умоўным геаметрызаваным дэкорам матыў пчалы набывае вельмі вобразнае, абагульненае, сімвалічнае вырашэнне, нагадваючы арнаментальны матыў (іл. 456).



**456.** В.Мурзіч. Посцілка з матывамі пчалы.

Часамі ступень стылізацыі настолькі значная, што назву матыву ведае толькі сама ткачыха (іл. 458).

Сімвалам працы называлі ткачыхі і



**455.** Посцілка. Моталь Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.



**458.** Е.Доваль. Посцілка. Асіповіцкі р-н Магілёўскай вобл.



**457.** Н.Абушкевіч. Сімвал пчалы ў дэкоры ручніка. Беліца Сенненскага р-на Віцебскай вобл.







**459.** Матыў пчалы ў дэкоры посцілкі. Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл.



**460.** М.Аляксейчык. Матыў пчалы ў вышыўцы. Татарка Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл.



**461.** Сілуэты пчолаў на ручніку.



**462.** Сімвал працы.

матыў у выглядзе ромба з ёлачкападобным узорам унутры (іл. 460). Сёння цяжка ўстанавіць, ці гэта старажытны, моцна стылізаваны сімвал пчалы, ці ў яго нейкае іншае паходжанне.

Радком пчаліных сілуэтаў аздобіла свой ручнік А.Краўчэня (1861 г.н., Любча Чарнігаўскай вобл.; іл. 461). На маё пытанне, чым кіравалася майстрыха, яна адказала: «Каб усе людзі так працавалі, як пчолкі, на зямлі быў бы рай. Усім хапала б і ежы, і адзежы, грошай былі б цэлыя дзежы. Ды яшчэ б на гарэлку хапала. А вышыла я гэты ручнік для таго, каб заахвоціць да працы маіх дзетак. У мяне двайняты — Коля і Пецця. Адбіліся ад працы, вучыцца не хочуць: нудна і сумна. Працаваць не хочуць — цяжка. Я заказвала малебен у царкве, хадзіла да шаптухі — нічога не памагае. Як былі лодыры, абібокі, такімі і засталіся. Вось я і вышыла гэтую пчолку: можа, навучацца працаваць».

А.Тарашкевіч з Быхаўчыны сімвал працы на ручніку паказала ромбападобным матывам (іл. 462). Відаць, не вельмі спадзеючыся на зразумеласць гэтага старажытнага, вельмі ўмоўнага сімвалу, майстрыха дапоўніла яго подпісам «Праца корміць, поіць і адзяець». «У меня пяць сыноў, — нагадала яна. — Я вельмі хачу, каб яны знайшлі сабе добрых жонак. Я ім кажу: не шукай жонку на ігрышчы, а шукай на іржышчы. І яшчэ я ім кажу:

**463.** Узор працы.







праца робіць чалавека добрым, разумным і шчаслівым».

Н.Белавусава (1862 г.н., Камарын) вышыла ручнік з узорам працы досыць умоўнага выгляду (іл. 463), перанятым у сваёй бабкі. Дэкор дапоўніла павучальнымі словамі «Праца корміць, вучыць і мучыць».

## ДАБРО І ЗЛО

Тэма барацьбы дабра і зла вельмі пашырана ў сусветным мастацтве. Папулярная яна і ў народнай творчасці беларусаў. Праўда, у нас яна атрымала характэрную нацыянальную адметнасць: услаўляюць толькі станоўчыя якасці — дабро, любоў, прыгажосць. Узвышэннем і сцвярджэннем гэтых якасцей спадзяваліся перамагчы, выкараніць з нашага жыцця зло. У народнай мастацкай творчасці мы не сустрэнем вобразаў д'ябла ці сатаны.

У колішнім народным побыце мастацкае ўвасабленне добра можна было бачыць у кожнай сялянскай хаце. Гэта быў нібыта своеасаблівы абярэг ад зла.

М.Карповіч з Беласточчыны ўзорам дабра аздобіла ўсю посцілку (іл. 464). «Я люблю добрых людзей, люблю рабіць дабро, — казала жанчына. — Ды і людзі не заўсёды бываюць удзячныя. Калі б усе рабілі іншым дабро, то ўсе былі б шчаслівыя. Я выткала гэтую посцілку, каб прывучыць людзей да



**465.** А.Купрэева. Посцілка. Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл.



**466.** В.Таляронак. Ручнік. Малажаны Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

**464.** М.Карповіч. Посцілка з узорам дабра. Беласточчына.





**467.** Г.Навумава. Посцілка з узорам праўды. Дарасіно Любанскага р-на Мінскай вобл.







**468.** Узор дабра ў дэкоры абруса. Лоеўскі р-н Гомельскай вобл.



**469.** Н.Шылько. Посцілка. Пярэспа Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**470.** Н.Кухарава. Посцілка з уславленнем справядлівага чалавека. Сенненскі р-н Віцебскай вобл.

дабра, каб усе былі шчаслівыя».

Нельга не пагадзіцца з такімі мудрымі словамі. Магчыма, зло калі-небудзь знікне. Але сёння яшчэ трэба прымаць і іншыя меры па сцвярджэнні дабра, напрыклад, рэпрэсіі да носьбітаў зла, злачынцаў. Праўда, тут зноў жа чыніцца зло, а яно нараджае новае зло. Можна з ім змагацца дабром, гэта шлях хрысціянскі, вядомы ўсяму чалавецтву, але пакуль яшчэ не зусім эфектыўны.

Мяркуючы па характары ўзору, якім абазначаецца дабро ў тканых вырабах, гэта адзін з найстаражытных матываў. Нашы продкі, відаць, даўно кіраваліся гэтым прынцыпам, не забыты ён і сёння, асабліва ў людзей старэйшага пакалення. Не варта ігнараваць яго і нам.

## ПРАЎДА І СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

«На праўдзе свет трымаецца». «Хлеб-соль еш і праўду рэж». Гэтыя і іншыя ўзоры народнай мудрасці сведчаць, што ў народзе заўсёды жыло пачуццё праўды, гонару, сумлення, справядлівасці. Гэтыя прынцыпы былі асноўнымі ў жыцці нашых продкаў, за праўду аддавалі сваё жыццё лепшыя прадстаўнікі нацыі, як Кастусь Каліноўскі, газета якога так і называлася — «Мужыцкая праўда».

Імкнучыся жыць па праўдзе, нашы продкі самі яе не заўсёды адчувалі. Прыгнёт і няпраўду яны цярпелі і ад польскага памешчыка, і ад рускага чыноўніка. Яны шукалі праўду ў Бога, ды і той нярэдка быў бяссільны. Зусім скампраметавалі паняцце праўды ў савецкі час, калі за яе цярпелі лепшыя людзі, а баль правілі хлусня і няспраўядлівасць.

У пошуках праўды майстрыхі аздаблялі свае вырабы адпаведнымі ўзорамі, у сілу якіх вельмі верылі. Матыў, што абазначаў гэтае паняцце, меў досыць вобразнае вырашэнне — гэта чатыры сабраныя ў адно квадраты (іл. 469). М.Карповіч з Беласточчыны так характарызавала яго: чатыры квадраты — гэта чатыры бакі свету, чатыры вуглы ў хаце, чатыры пары года, чатыры пары сутак. Некаторыя майстрыхі лічыл, што магічная сіла заключаецца ў колькасці квадратаў, якія можна бясконца множыць, і тады адкрыецца сама праўда. Калі ўлічыць, што ў традыцыйным народным ткацтве геаметрычная арнаментыка з квадратамі пераважала, можна меркаваць, што паняцці праўды, сумлення, справядлівасці ў народнай свядомасці займалі дамінуючае становішча.

Нярэдка гэты матыў спалучаецца з іншымі, што, па-першае, надае кам-





пазіцыі разнастайнасць, па-другое — пашырае сэнс, закладзены ў аснову дэкору. Паказальна, напрыклад, што часцей за ўсё сімвал праўды спалучаецца з зоркаю — сімвалам чалавека (іл. 470). Ды і хто ж іншы можа быць носьбітам праўды, як не чалавек? У адказ на пытанне, як коратка можна выказаць сэнс такога дэкору з квадратаў і зорак, майстрыхі гаварылі: гонар і слава праўдзіваму, справядліваму чалавеку.

## МІЛАСЭРНАСЦЬ

Сямідзесяцігадовая Е.Козел з Лідчыны казала: «Раніцаю ў царкве поп казаў пра міласэрнасць. Ён казаў, што кожны чалавек павінен сам нешта зрабіць міласэрнае. Вось я і вышыла ўзор міласэрнасці на ручніку і падарыла яго і крыху грошай на рамонт царквы».



**471.** Е.Козел. Посцілка. Гродзенская вобл.

З першага позірку відаць, што ўзор на ручніку Е.Козел нам ужо знаёмы (іл. 471). У цэнтры — зорка, сімвал чалавека, навокал — гірлянды з кветак. Як мы ведаем, гэта сімвал маці. А гэты вобраз, несумненна, найлепшым чынам увасабляе міласэрнасць, любоў да бліжняга.

Ёсць і іншыя вырашэнні сімвала міласэрнасці. Гадоў дзесяць я патраціў, каб расшыфраваць досыць складаны малюнак сонца з альбома А.Астрэйкі (іл. 472). І вось дзевяностагадовая Е.Гарбатка з Клімавіцкага раёна раскрыла яго сэнс: «Мяне навучыла бабка-евангелістка. Гэта ўзор міласэрнасці, добрага Сонца. Гэты ручнік як замова ад сурокаў, ад благога вока».



**472.** Узор складанага Сонца. Магілёўская вобл.



**473.** Узор міласэрнасці. Абрус. Калінкавічы Гомельскай вобл.



**474.** А.Мяшэчак. Абрус. Гулевічы Слуцкага р-на Мінскай вобл.

*Вобразы чалавека, сям'і, дзяржавы*

Часам сімвал міласэрнасці нагадвае ўжо вядомы нам сімвал ураджаю. Багач (дажыначны сноп). Зноў жа, тут няма ніякай супярэчнасці. Міласэрнасць да чалавека праяўляла прырода, даючы яму добры ўраджай.

У савецкія часы пачуццё міласэрнасці аб'яўлялася састарэлым, несучасным, гэтае слова стараліся нават не згадваць. Вядомы разьбяр-скульптар А.Пупко з Івянца Валожынскага раёна расказваў такую гісторыю. Па просьбе прыхаджан ён выразаў скульптуру, якая сімвалізавала міласэрнасць. Калі пра гэта пачулі ў райкоме, да майстра завітаў інструктар і заявіў, што нам міласэрнасць чужая, нам патрэбна жорсткая класавая барацьба з ворагамі. Тады разьбяр, каб адчапіліся, назваў гэтую скульптуру «Маці».

Сёння мы зноў спрабуем адрадзіць чалавечыя каштоўнасці, аднавіць нармальныя, святыя пачуцці. Сярод іх не апошняе месца павінна заняць і міласэрнасць.

## ПАМЯЦЬ ПРА ЗАГІНУЎШЫХ

З усіх пачуццяў, уласцівых чалавеку, адным з найболыш высакародных і светлых лічыцца пачуццё памяці, ушанавання тых, хто загінуў за народнае шчасце, за радзіму. Гэтае пачуццё не ведае ні геаграфічных межаў, ні нацыянальных адрозненняў. Яно ўласціва ўсім людзям на зямлі.

Памяць пра загінуўшых заўсёды ўшаноўвалася і нашымі продкамі. Але асаблівае значэнне гэтае пачуццё набыло ў пасляваенныя часы, калі народ аплакваў і ўшаноўваў шматмільённыя ахвяры фашысцкага нашэсця.

Не абышлі гэтую тэму сваёй увагай ткачыхі і вышывальшчыцы, асабліва тыя, каго нейкім чынам закранула вайна, у каго загінулі родныя і блізкія. З'явіліся посцілкі, ручнікі і іншыя вырабы, прысвечаныя памяці герояў і ахвяр вайны. Праўда, мы не знойдзем твора з нейкім «лабавым» вырашэннем тэмы. Часцей за ўсё нам пакажуць вырабы з ужо знаёмымі нам зоркамі і васьміканцовымі разеткамі (іл. 475). А тлумачыцца ўсё проста. Зорка, як мы ведаем — сімвал чалавека, разетка — сімвал яго душы. Вось так і выказана памяць пра чалавека.

Звычайна гэтыя арнаментальныя матывы ўкрываюць усю паверхню вырабу, часта аблямоўваюцца гірлян-



475. Посцілка з матывамі памяці. Стадолічы Лельчыцкага р-на Гомельскай вобл.



477. А.Пупко. Маці. Івянец Валожынскага р-на Мінскай вобл.



476. Д.Мільчанка. Посцілка. Кіеўская вобл.

дамі, якія сімвалізуюць асаблівую пашану да памяці загінуўшых. Такая, напрыклад, посцілка Д.Мільчанкі з Новашапелічаў на Украіне, зусім побач з Беларуссю (іл. 377). «У мяне самой, — казала яна, — у гэтую вайну загінула некалькі родзічаў. Вось я і вырашыла выказаць ім сваю пашану — выткала посцілку з узорам душ загінуўшых на вайне. Васьміканцовая разетка — гэта і ёсць душа чалавека».

Усеагульнае ўшанаванне памяці герояў і ахвяр вайны спалучалася з заклікамі да міру, шчаслівага жыцця. Папулярным быў лозунг «Свету — мір!». І вось вядомая майстрыха В.Кулда з Астравеччыны адгукаецца на гэты заклік посцілкай (іл. 477). Яе цэнтральнае поле заткана зоркамі — сімвалам чалавека, у гэтым выпадку чалавека, што загінуў за радзіму. «У посцілцы я выказала сваю пашану да памяці пра дарагіх мне людзей, што загінулі на вайне, — патлумачыла майстрыха. — Зорка — гэта сімвал загінуўшых. А зязюля — бедная ўдава. Яна бядуе пра дарагіх людзей».



**479.** Н.Юрцэвіч. Абрус. Лагойск Мінскай вобл.



**480.** Е.Дробыш. Ручнік. Мотча Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.



**478.** Ручнік. Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл.

## ДВОР, СЯДЗІБА, ХАТА

Вялікую, дружную, працавітую сям'ю аб'ядноўваў сялянскі двор, сядзіба, дзе канцэнтравалася ўсё сялянскае жыццё, гаспадарчая дзейнасць, мастацкая творчасць. Тут чалавек нараджаўся, пазнаваў свет, пераймаў ад продкаў жыццёвую мудрасць, працоў-







**481.** Е.Антанюк. Фрагмент дэкору ручніка. Сnітава Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.



**482.** Н.Пушкоўская. Узор двара на мужчынскай кашулі. Мігуліна Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**483.** К.Русаковіч. Матыў роднай хаты ў дэкоры посцілкі. Рухава Старадарожскага р-на Мінскай вобл.

ныя і творчыя навыкі. Адсюль жа ён выпраўляўся і ў апошнюю дарогу.

Калісьці сялянскі двор уяўляў сабой складаны шматфункцыянальны комплекс, дзе ўсё было прадумана, займала сваё месца, выконвала неабходныя задачы па забеспячэнню зручнасці для працы і адпачынку. У пагонным двары, характэрным для захаду Беларусі, хата, сенцы, камора, хлявы ўтваралі суцэльную пабудову пад адной страхой, цалкам адпавядаючы вузкаму зямельнаму надзелу. На ўсходзе Беларусі пабудовы ўтваралі замкнёную кампазіцыю, так званы вяночны двор, нешта накшталт невялікай крэпасці. Зімою, у завіруху, гаспадарам можна было днямі не выходзіць на вуліцу. Усе жыццёвыя патрэбы былі сканцэнтраваны ў гэтым невялікім, але прадуманым сямейным комплексе.

Родны двор, сядзіба былі дарагія кожнаму. Гэта быў той куточак, які ўсіх трымаў, звязваў з роднаю зямлёй. Меў

**484.** Карункі ручніка з узорам роднай хаты. Любанічы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.





**485.** Е.Русаковіч. Посцілка. Рухава Старадарожскага р-на Мінскай вобл.

ён яшчэ і назву дзядзінец або дзяцінец. Атрыманы ў спадчыну ад дзядоў. Тут гадаваліся дзеці.

Ёсць паняцце малой радзімы. Думаецца, што найбольш поўна яго ўвасабляе родны двор, сядзіба, хата. Тут у чалавека зараджаецца і выспявае любоў да роднага кутка, якая перарастае ў любоў да радзімы. «Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка» — ёміста вызначае гэтае паняцце народная прымаўка. Ёсць родны куток — ёсць пачуццё стабільнасці, жыццёвасці, трываласці. Яго разбурэнне, парушэнне — сімвал крушэння надзей, дабрабыту, трываласці.

У народным мастацкім ткацтве сімвал двара, хаты ўвасоблены ў выглядзе ромба з адросткамі. Сімволіка гэтага матыву досыць умоўная, але ўвогуле лагічная: чатырохвугольнік, замкнёная прастора, як і традыцыйны сялянскі двор. Вельмі часта гэты матыў спалучаецца з сімваламі зямлі, хлеба, чалавека, ураджаю. Думаецца, такое спалучэнне асаблівых тлумачэнняў не патрабуе.

Характэрна, што сімвал двара, сядзібы часцей за ўсё сустракаецца ў дэкоры мужчынскіх кашуль (іл. 482). Мужчына, гаспадар увасабляў сабой надзейнасць, трываласць традыцыйнага ўкладу жыцця, яму і прызначаліся адпаведна дэкараваныя вырабы. «Каб муж меў добрую гаспадарку» — пракаменціравала вышываны ўзор на кашулі Н.Пушкоўская з Мігуліна Сенненскага раёна.

Пра сваю родную хату М.Таўлай з Маладзечна склала цэлую паэму: «Мая хатка — гэта ўсё маё жыццё. Тут я нарадзілася, вырасла, нарадзіла дзяцей, тут і памру. Ну, а ўзор хаты вы ж бачыце на маім ручніку. Гэта крыжычак у вяночку. Крыж таму, што хата — святое. Яна асвячона Богам. А вяночак вакол крыжыка — гэта мая любоў, слава маёй хаце. Чатыры ўзоры па кутках — наш хлеб надзённы. Не красна хата вугламі, а красна пірагамі. Хай кожны заходзіць у маю хату, я яго накармлю і абагрэю. Вось што абазначае гэты ўзор» (іл. 487).

## ПЕЧ, АЧАГ

Сімвалам жыцця на сядзібе, у хаце заўсёды лічыўся ачаг. Ёсць ачаг — ёсць жыццё, патух ачаг — спынілася жыццё, знікла сям'я.

У першабытныя часы ачагом было вогнішча пасярод зямлянкі. Пазней яго сталі абкладваць каменнем, абмазваць глінай. З'явіліся прымітыўныя печы — курныя, без коміна, але ўсё ж гэта быў рукатворны сімвал абжытасці. У канцы XIX стагоддзя курныя печы адышлі ў нябыт, іх месца занялі печы з комінам. У хаце адразу пачысцела. Такія печы бытуюць і сёння.

У традыцыйнай сялянскай хаце печ займала ледзь не палову інтэр'еру. Гэта было цэлае шматфункцыянальнае збудаванне. На прыпечку стаяў посуд, чакаючы сваёй чаргі ў жарале. Побач, у пячурцы, ляжалі крэсіва, крэмень, цэра і іншая патрэбная драбяза. На версе можна было грэцца, сушыць розныя прадукты і рэчы. У падпечку зімавалі куры. У чалесніку стаялі вілкі, качарга, чапяла, тут жа стаяў услончык з дзяжой. У запечку сушылі абутак. Ад печы адыходзілі палок і палаці, пад столлю мацавалася жэрдка







**486.** Л.Грыб. Фрагмент дэкору абруса. Клачкова Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.



**487.** М.Таўлай. Фрагмент дэкору посцілкі. Маладзечна Мінскай вобл.

для адзення. Здарожанага, змерзлага чалавека перш за ўсё запрашалі пагрэцца на печы, гэта лічылася ледзь не святою справаю.

Магчыма, у гэтай рабоце і не было б патрэбы пісаць пра печ, калі б на мае вочы не трапіўся ручнік з вельмі загадкавым дэкорам, які, аказваецца, абазначаў гэтае абавязковае ў кожнай хаце збудаванне (іл. 488). Майстрыха казала, што кожны элемент гэтага матыву меў канкрэтнае значэнне і назву, ёю, на жаль, ужо забытыя. Відаць, так яно і было. Дэкор вельмі арыгінальны, ён ніякім чынам не нагадвае вядомае нам збудаванне, гэта нейкі загадкавы, сімвалічны вобраз, які, відаць, выконваў у старажытнасці нейкую абрадавую ролю.



**488.** В.Марозава. Ручнік. Дубраўка Добрушскага р-на Гомельскай вобл.

## ПОКУЦЬ

Па дыяганалі ад печы знаходзілася покуць — святое месца ў кожнай хаце. У самым кутку віселі абразы Маці Божай, Збавіцеля, Параскевы-Пятніцы, Міколы. Перад імі запальвалі лампадку ці свечкі. Куток афармляўся самымі прыгожымі ручнікамі, папяровымі выцінанкамі, штучнымі кветкамі і інш. Да покуці сыходзіліся лавы, тут стаяў накрыты абрусам стол, на ім — сальніца, бохан хлеба.

Такая покуць помніцца мне і ў роднай хаце, у Клімавічах на Сенненшчыне. У кутку вісеў абраз Маці Божай, паабапал па сценах — яшчэ 14 абразоў. Увесь гэты іканастас быў завешаны арнаментаванымі ручнікамі. За яго аздабленнем сачыла маці ці старэйшая дачка. У мяне было 5 сясцёр: Фядора, Матрона, Хрысціна, Ульяна, Наста. І кожная з іх старалася павесіць у покуці ручнік сваёй работы. Гэта было гонарам.

У калектывізацыю (1928—1929 гады) усё гэта парушылася, абразы закінулі на гарышча.

Тым не менш традыцыя афармляць покуць жывая і сёння. У старых пабудовах покуць захоўваецца традыцыйна, часам налічваючы дзесяткі абразоў і ручнікоў. Якраз на покуці можна адшукаць старасвецкія тканыя і вышываныя вырабы з дэкорам сімвалічнага характару.

## ЖЫВЁЛЫ І ПТУШКІ ЯК АБЯРЭГІ І ЗАСТУПНІКІ

Шчасце сям'і, сядзібы, хаты ахоўвалі абярэгі — сімвалы свяшчэнных жывёл і птушак. З іх вобразамі ў нашых далёкіх продкаў звязвалася складаная сістэма ўяўленняў і вераванняў, у аснове якіх ляжала пакланенне сілам прыроды. Пад яе ўладай першабытныя людзі знаходзіліся амаль цалкам. Асаблівую небяспеку для іх уяўлялі дзікія звяры. Аднак чалавек лічыў, што гэтая магутнасць і сіла звера, нават яго знешні выгляд могуць дапамагчы яму бараніцца ад нячыстай сілы і злых духаў. Для гэтага часта бралі проста частку жывёлы: галаву, зубы, кіпцюры. Зубы і кіпцюры людзі насілі з сабою ў якасці абярэгаў, а чэрап мацавалі на варотах, над жыллём, на гаспадарчых пабудовах. З часам гэтую ролю сталі выконваць галовы коней, каровіныя рогі, сілуэты птушак, выразаныя з дрэва і прымацаваныя ў самым высокім месцы хаты або гаспадарчай пабудовы.

Водгукі гэтых старажытных павер'яў захаваліся да нашых дзён у архітэ-





ктурным дэкоры. Гэта вільчакі, ліштвы і іншыя дэталі традыцыйнага жылля, вырашаныя ў выглядзе конскіх галоў, каровіных рагоў, сілуэтаў птушак і інш. (іл. 489—490). Вядома, сёння іх магічная роля забылася, яны выконваюць чыста дэкаратыўныя функцыі.

Як мы ўжо бачылі, вобразы птушак і жывёл часта сустракаюцца ў народным ткацтве і вышыўцы. Усе яны ў старажытнасці мелі сімвалічную ролю.

Сярод такіх вобразаў-абярэгаў несумненна вядучае месца займае певень. У вуснай народнай творчасці многіх народаў, у тым ліку і беларусаў, крык пеўня асацыіруецца з наступленнем дня, узыходам сонца, знікненнем нячыстай сілы. «Як запяе певень, то ўсе чэрці бягуць дадому, у пекла ці ў балота, — казала С.Курнацкая з Оршы. — Певень — як дамавік. Ён аберагае селяніна, сцеражэ жаночае шчасце. Певень — гэта пасыльны сонца. Ён нясе святло, шчасце, наступленне дня».

Нездарма гэты вобраз такі любімы і ў народнай мастацкай творчасці. Яго мы бачым на ручніках, посцілках, падузорніках, фіранках (іл. 491—492), дзе ён заўсёды меў нейкі магічны сэнс, пажаданне шчасця, багацця, здароўя. Найбольш пашыраная кампазіцыя —

**489.** Вільчак заанорфнага характару. Радунь Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.





**490.** Вільчак заанорфнага характару. Ёдчыцы Капыльскага р-на Мінскай вобл.



**491.** Дэкор ручніка з сімвалам пеўня. Мінская вобл.



**492.** Ручнік. Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.

**493.** Ручнік. Карма Добрушскага р-на Гомельскай вобл.







два пеўні, сіметрычна размешчаныя па-абапал дрэва жыцця, букета, вазона (іл. 492). Як мы ведаем, букет ці вазон — гэта сімвал жаночай долі. Значыць, певень тут выступае як абаронца, апякун жаночай долі.

А.Харошка з Клімавічаў Сенненскага раёна як падарунак пляменніцы вышыла ручнік з пажаданнямі замо-жнасці і шчасця. «Певень з левага боку — на багацце ў гаспадарцы, з правага, над караваем — на шчаслівую любоў, згоду і мір у сям'і».

Вобраз пеўня часта звязвалі з вобразам добрага ахоўніка жылля — дамавіка. Пеўнік — нібы своеасаблівы гадзіннік дамавіка, які будзіць сялян на працу. Як сцвярджала Е.Падбярэзская з Дужаўшчыны Чавускага раёна, пеўнік сцеражэ дом ад пажару: «Успамінаюцца гаданні, звязаныя з пеўнем. Мае сёстры Матрона і Хрысціна гадалі так. Пісалі на паперках імёны жаніхоў, раскідвалі іх па хаце разам з яркімі крошкамі ці зернем па розных кутках і запускалі пеўня. Да якой паперкі певень накіруецца дзяўбці, там і жаніх напісаны».

Певень апекаваўся дзяўчынаю і да замужжа. Як казала Н.Лясная (1882 г.н., Камянец), певень ахоўвае дзявочы сон, аберагае дзявоцтва ад злых духаў, сурокy, нячысціка. На ручніку К.Казакевіч з Чавускага раёна певень прымае актыўны ўдзел у купальскіх абрадах. Жанчына расказвала: «Трэба накарміць пеўня зернем з дажынкавага снапа, напаіць грамнічнай вадою. Як толькі ён заспявае, бегчы ў лес, дзе расце папараць, і шукаць там скарб. Так мяне вучыла бабуля-варажбітка. Але я баялася гэта рабіць. Мне казалі, што лепш вышыць на ручніку пеўня і папараць з кветкаю і тады твае мары збудуцца. Я так і зрабіла. Ведаю, што певень — птушка мудрая, яна прадказвае будучыню, памагае ад нячысціка. Усё, што я задумала, збылося, я выйшла замуж за Міхася».

Важную ролю ў духоўным жыцці нашых далёкіх продкаў-язычнікаў выконвалі і іншыя жывёлы і птушкі. Вось якую легенду давялося пачуць у Пац-



**494.** Набоечная дошка. Гродзеншчына.



**495.** Алені паабапал дрэва жыцця. Фрагмент дэкору посцілкі.



**496.** А.Валкавец. Посцілка «Алені». Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл.





каве Сенненскага раёна. Заблудзілася баба ў лесе. Злавіў яе мядзведзь, зацягнуў у бярлогу і ажаніўся з ёю. А мядзведзь быў старшым у лесе сярод звяр'я, падпарадкаваўся толькі лесавіку, быў яго галоўным памочнікам. Прайшоў час. У мядзведзя і бабы нарадзілася шмат дзяцей. Усе яны з выгляду былі як людзі, толькі валасатыя ды з вялікімі раздвоенымі барадамі. Як выраслі дзеці, прызначыў іх мядзведзь начальнікамі над ляснымі звярамі. Старшы стаў камандаваць ласямі і атрымаў прозвішча Лосеў, другі — ваўкамі і стаў Воўкавым, трэці — Лісіцыным, чацвёрты — Воранавым, пяты — Зайцавым. Вось адкуль пайшлі нашы прозвішчы.

Папулярны ў народнай мастацкай творчасці вобраз аленя. Гэтую зграбную прыгожую жывёліну любяць разьбяры па дрэве, майстры размалёўкі, аплікацыі саломай і інш. Нярэдкая яна і ў ткацтве (іл. 494—496). Звычайна два алені размяшчаюцца паабапал дрэва жыцця — сімвалу вечнасці і жыццёвасці, часта каля іх размяшчаюцца дзве зоркі — сімвал чалавека. Відаць, у старажытнасці алені былі татэмам, абярэгам. У сучаснай жа мастацкай творчасці гэта проста прыгожы дэкаратыўны матыў.

Вельмі характэрная посцілка А.Васкавец з Ваўкавыскага раёна (іл. 496). Алені з аленянятамі стаяць паабапал вельмі ўмоўнага дрэва жыцця. Іх рогі ўтвараюць вельмі дэкаратыўную авальную кампазіцыю, запоўненую крыжыкамі і нейкімі загадкавымі рамбічнымі фігурамі з промнямі. Чамусьці тут прысутнічаюць і досыць рэалістычна адлюстраваныя пальмы. Як бачым, старажытны сімвалізм тут спалучаецца з яўным рэалізмам і адкрытай дэкаратыўнасцю. Праўда, майстрыха выткала посцілку з канкрэтнымі магічнымі мэтамі: каб займець дзяцей. А калі яны нарэшце з'явіліся, каб былі здаровыя.

Тое, што ў народнай мастацкай творчасці беларусаў пашыраны вобразы пеўня, каня, аленя, голуба, зязюлі, зайца, ката, цалкам зразумела. Адны з іх былі татэмамі, абярэгамі ў старажытных славян, другія сімвалізавалі дабрабыт, дастатак у сям'і, трэція былі сімваламі кахання ці смутку. А вось вобраз ільва, таксама нярэдкі ў народнай мастацкай творчасці (іл. 497—498), стаіць неяк убаку. Хутчэй за ўсё ён мае позняе паходжанне, калі гэтая экзатычная жывёліна стала вядомай майстрыхам з нейкіх крыніц інфармацыі. Магчыма, яна імпанавала сваім прыгожым знешнім выглядам, магчыма, у народнай свядомасці звязвалася з уяўленнямі пра нейкае іншае, шчаслівае, райскае жыццё.

Сустракаюцца творы з вобразамі птушак і жывёл адкрыта павучальнага ці іранічнага зместу. Найбольш «дасталося» паўлінам і індыкам, якія звязваюцца з вонкавай кідкасцю, паказной напышлівасцю. На старым ручніку з Гарадка натуралістычна адлюстравана



**497.** Н.Ваньковіч. Фрагмент дэкору посцілкі. Мінская вобл.




**498.** Посцілка. Моталь Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.



**499.** Т.Бубала. Фрагмент дэкору ручніка Сенненскі р-н Віцебскай вобл.

фігура паўліна ў суправаджэнні недвухсэнсоўнага надпісу «Не ўсё золата, што блішчыць» (іл. 500). Магчыма, гэта быў падарунак з тонкім намёкам.

## ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ

Сярод тканых і вышываных вырабаў апошніх дзесяцігоддзяў трапляецца шмат твораў, прысвечаных розным урачыстасцям, памятным датам, юбілеям. Як мы ведаем, знамянальныя падзеі ў жыцці нашых продкаў адзначаліся здавён, да іх прымяркоўвалі ў якасці падарункаў адпаведныя вырабы, але дэкор іх меў зашыфраваны, магічна-арнаментальны характар. У савецкі час такая адасобленая сімволіка не прызнавалася, патрабавалася канкрэтнасць, яснасць і недвухсэнсоўнасць. Майстрых заклікалі ткаць і вышываць посцілкі, ручнікі, абрусы, паясы да канкрэтных датаў у жыцці дзяржавы, КПСС, грамадства. Вось і сталі з'яўляцца творы, у традыцыйную арнаментыку якіх уключаліся розныя даты, надпісы, савецкая сімволіка і нават партрэты канкрэтных асоб. Вядома, што ў большасці выпадкаў спалучэнне было чыста механічнае і нават эклектычнае, новаўвядзенні глядзеліся чужароднымі сярод выпрацаванай стагоддзямі арнаментыкі. Вядома, майстрых вінаваціць у гэтым нельга: арганічнасць выпрацоўваецца паступова, на працягу доўгага часу, а не на заказ. Аднак і ў такія вырабы майстрыхі ўкладвалі ўсю сваю душу, тым болып што шчыра верылі ў тагачасныя заклікі і лозунгі.

Характэрны прыклад — ручнік, вытканы ў 50-я гады брыгадай ткачых арцелі «8-е Сакавіка» ў Віцебску для ВДНГ у Маскве. Прысвечаны ён увогуле святой для чалавецтва тэме міру. Для беларусаў жа, якія нядаўна перажылі страшэнную вайну, гэтая тэма была блізкай як ніколі, і адгукаліся на яе майстрыхі найбольш часта і ахвотна.

Кіраўніца арцелі П.Пакроўская расказвала: «У эскіз і саму работу над гэтым ручніком мы ўклалі ўсю душу, свае сэрцы, сваю працу. Ромбікі з адросткамі — узор сонца, якое дае святло, цяпло, жыццё. Ніжэй размяшчаюцца ромбы, якія абазначаюць тых, хто загінуў на вайне. Гэта памяць пра іх. Нарэшце, самыя буйныя, галоўныя матывы — гэта сям'я. Толькі ў мірны




**500.** Фрагмент дэкору ручніка. Гарадок Віцебскай вобл.








час захоўваецца сям'я, у ёй пануе шчасце і радасць».

Н.Пакроўская — папоўская дачка, у свой час скончыла гімназію, вучылася ў настаўніцкай семінарыі. Перажыла рэпрэсіі, праследаванні. Але гэта не пахіснула яе любові да Беларусі, якая заўсёды жывіла творчасць майстрыхі. Добра дасведчаная ў славянскай язычніцкай міфалогіі, яна стварыла нямала выдатных, традыцыйнага плану посцілак, ручнікоў, абрусоў. Вызначаецца гэтым і згаданы ручнік, а што надпіс тут глядзіцца як крыху чужародны, дык гэта проста даніна тагачасным накірункам у мастацкай творчасці (іл. 501).

**501**. Брыгада ткачых пад кіраўніцтвам П.Пакроўскай. Ручнік. Віцебск.



Кожны чалавек жыве з вераю ў што-небудзь. Гэта дае яму жыццёвую энергію, стымул у працы, а калі трэба, то і гераізм. Вера асобных людзей складваецца ў веру сям'і, грамадскасці, народа, нацыі. Вера была, ёсць і будзе заўсёды, мяняюцца толькі яе змест і напрамкі.

У нас, беларусаў, можна вызначыць тры асноўныя этапы ў адносінах да веры. Першы — язычніцкі. Нашы далёкія продкі пакланяліся прыродзе, верылі ў магічную жыццёвую сілу зямлі, сонца, вады, ветру. Гэтая вера, такі жыццёвы рэалізм дазвалялі ім жыць у згодзе, суладнасці з прыродай.

Другі этап звязаны з прыняццем хрысціянства. Пануючай стала вера ў сілу Усявышняга, у існаванне пекла і раю, жыцця на тым свеце. Гэта давала чалавеку надзею на кампенсацыю за зямныя пакуты, за жыццё па прынцыпах міласэрнасці, дабра, любові да бліжняга.

Трэці этап наступіў у савецкі час, калі стала прапагандавацца вера ў камунізм. Нараджалася яна ў жорсткай класавай барацьбе, насаджалася сілаю дыктатуры пралетарыяту. Хрыстовы запаветы саступілі месца марксізму-ленінізму. Ды вось толькі заклікі да светлай будучыні спалучаліся з цынічным рабаваннем народа, імкненнем пажыць пры камунізме ўжо цяпер. У выніку — развал эканомікі, заняпад культуры, духоўная дэградацыя.

Дык у што ж верыць цяпер?

Думаецца, што трэба верыць у сябе, у свае здольнасці, у сваю працу. Хочаш стаць вучоным, мастаком, канструктарам — працуй. Хочаш жыць прыстойна, мець неабходныя жыццёвыя даброты — працуй. І толькі тады, калі ў нас запануе дыктатура працы, калі яе неабходнасць стане арганічнай для кожнага чалавека, у нас настане дабрабыт, знікнуць нянавісць, зладзейства, лянота, кіраваць будуць розум, дабрыня, справядлівасць.

Вядома, усё гэта прыдумана не цяпер і не мною. Такімі прынцыпамі, вераю ў працу жыло не адно пакаленне нашых продкаў, у чым мы ўжо не раз пераконваліся на прыкладзе розных узораў, у якіх гэтыя прынцыпы ўвасоблены. Звернемся яшчэ раз да вобразаў і сімвалаў, якія адлюстроўваюць веру нашых продкаў.

## СІМВАЛЫ ПРОДКАЎ

Народ, які шануе сваіх продкаў, вызначаецца асаблівай жыццёвай устойлівасцю ў віхурах гісторыі. Ні войны, ні эпідэміі яго не адолеюць. Уласціва гэта і славянам, у тым ліку і беларусам, у якіх пашана да продкаў здаўна была святым пачуццём. Адно са сведчанняў гэтага — традыцыйнае свята ўшанавання продкаў Дзяды, якое цяпер набыло дзяржаўны статус. Праводзілі яго некалькі разоў на год: вясновыя, летнія, асеннія, зімовыя Дзяды. Як і іншыя народныя святы, праводзіліся яны ўрачыста, з мноствам абрадаў і рытуалаў, хіба што было тут менш весялосці, а больш засяроджанасці і велічы.

Успамінаецца, як праводзілі Дзяды ў часы маёй маладосці. Напярэдадні маці Фядосся рыхтавала кашу-куццю з ячменных круп, груцу — крупяны суп з бульбай і мясам, яечню з каўбасою ці смажаным салам. Перад пачаткам урачыстай вячэры дзед Маркіян (а пазней — бацька) станавіўся перад абразамі, чэрпаў лыжку куцці, клаў яе ў міску і ставіў на покуці пад абразамі. Затым укленчваў перад сталом, хрысціўся і, гледзячы на абразы,







**502.** А.Міхайлава. Ручнік з вобразам Вялікай багіні Маці-Зямлі. Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.



**503.** А.Шылько. Ручнік з узорам продка. Пярэспа Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**504.** Узоры продкаў.

звяртаўся да продкаў: «Дзяды, дзяды. Благаславі вас госпад Бог. Дзяды, дзяды, хадзіце куццю есці. Дзяды, дзяды, не забывайце нас. Дайце нам урод жыта на ніве, спор на таку, сыць на стале». Затым бацька садзіўся за стол, услед — усе сямейнікі і паважна браліся за вячэру. Успаміналі нядаўна памерлых сваякоў, з асаблівай пашанай згадвалі тых, хто меў вялікі аўтарытэт.

На іншыя Дзяды часам ішлі на могілкі, закопвалі на магілах яйкі, кавалак хлеба ці цукерку. На крыж вешалі ручнік, звычайна гэта быў твор нявесты перад замужжам.

Зразумела, што такая пашана да памяці продкаў атрымала сваё адлюстраванне не толькі ў вуснапаэтычнай мастацкай творчасці. Увасобілася гэтая тэма і ў народным мастацтве, у тым ліку ткацтве і вышыўцы, якія з глыбокай старажытнасці захавалі вобразы-сімвалы продкаў. Прычым гэта быў не адзін абагульнены сімвал, а некалькі. Так, узор-сімвал роднага дзеда мае выгляд крыжа з чатырох квадратаў (іл. 504). Сімвал агульнага продка (дзеда, прадзеда, шчура, прашчура) выяўляўся двума перакрыжаванымі прамавугольнікамі ці чатырма лініямі (іл. 505). Унутры змяшчаўся крыжык. Часам матыў суправаджаўся сімваламі Маці-Зямлі ці Ураджаю, асабліва ў тым выпадку, калі звярталіся да дзядоў з просьбаю памагчы атрымаць добры ўраджай.

К.Свіршчэўская з Коханава Аршанскага раёна выткала андарак з узорам роднага дзеда (іл. 506), пазней — ручнік з такім жа ўзорам. «Мой дзед, — расказвала яна, — быў вельмі рэлігійным, рэгулярна хадзіў у касцёл.





І ўсё прасіў мяне, каб не забывала, калі памрэ. Я заказала ў касцёле памінкі, штогод наладжвала Дзяды. А ручнік я павесіла на крыж на дзедавай магіле».

«Калі хочаш па-сапраўднаму ўшанаваць сваіх любімых бацькоў, — дзялілася жыццёвай мудрасцю А.Іспянкова з Хвастава Рагачоўскага раёна, — трэба зрабіць так: на Дзяды паставіць у покуці пад абразамі грамнічную свечку і стравы ў місцы. Але лепш — вышыць узор Радаўніцы і душ продкаў, якія прылятаюць на Радаўніцу. Вось гэта і будзе самая вялікая пашана да дзядоў».

Кожны чалавек з узростам назапашвае вопыт, становіцца разумным і дасведчаным. Але яшчэ больш вопытным і разумным ён будзе, калі засвоіць мудрасць сваіх продкаў. Пра гэта гаварыла Г.Баклан з Лукомля, паказваючы мне ручнікі з узорамі дзеда (іл. 514): «Вось гэты ўзор вытканы не толькі для прыгажосці. Ён яшчэ і вучыць маладых хлопцаў і дзяўчат, каб яны слухалі старых людзей, вучыліся ў іх розуму. А завецца гэты ўзор дзедам, ці старцам. Калі гарадскія людзі глядзяць на нашы ручнікі, яны кажуць: вось гэты ручнік прыгожы, а гэты непрыгожы. Нам гэта крыўдна. Калі мы ткалі ўзоры, мы думалі не толькі аб прыгажосці, але і пра тое, каб гэтымі ўзорамі вучыць маладых, перадаць ім свой вопыт».

Да гэтага ж шэрагу адносіцца і яшчэ адзін узор, якім абазначалі волатаў (асілкаў) — моцных, добрых продкаў. Яны абаранялі народ ад злой сілы,



**506.** К.Свіршчэўская. Андарак з дэкорам продка. Коханава Аршанскага р-на Віцебскай вобл.



**505.** В.Таляронак. Фрагмент дэкору посціпкі. Гарадоцкі р-н Віцебскай вобл.



**507.** М.Шаршнёва. Ручнік-набожнік з матывам продкаў. Рэкта Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.







**508.** В.Гуліна. Фрагмент дэкору ручніка. Пратасевічы Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл.

нячысціка. Яны пракапалі рэкі, насыпалі горы, курганы. Усё гэта продкі-волаты зрабілі для народа, каб жыццё яго было больш шчаслівым.

На маё пытанне, навошта на ручніку вытканы ўзоры, што абазначаюць волатаў, Г.Крывец з Лоева адказала пытаннем: «А што галоўнае для селяніна? Выгадаваць дзяцей, ды каб яны былі здаровыя, разумныя, працавітыя. Вось гэта мая мара, мая мэта. А ўзор волата — мая варажба на такіх дзяцей».

Сімвал-узор волатаў у народным ма-



**510.** Н.Громава. Матыў продка ў дэкоры посцілкі. Ветка Гомельскай вобл.



**509.** М.Шаршнёва. Фрагмент дэкору ручніка. Рэкта Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.



**511.** Паясы з матывамі сонца і продкаў. Гродзенская вобл.





стацкім ткацтве ў схематызаваным выглядзе ўяўляе сабой ромб з П-падобнымі адросткамі (іл. 515). На саміх жа вырабах ён вылучаецца дэкаратыўнай распрацаванасцю, увядзеннем розных дадатковых дэталяў (іл. 516).

Паміж Клімавічамі і Нямойтай у Сенненскім раёне ёсць урочышча Валатоўка, дзе калісьці было з паўсотні курганоў, а цяпер засталося пяць. Цякла тут і аднайменная рэчка, была крыніца Валатаўская. У народзе хадзілі апавяданні, што ў старыя часы тут жылі волаты, якія разраўнялі зямлю



**514.** Дзед.



**512.** К.Упасік. Узор Дзядоў на ручніку. Магілёўская вобл.





**515.** Волат.

для ворыва, пракапалі рэкі, насыпалі курганы, аберагалі народ ад зладзейства. Не дзіва, што ўзоры волатаў былі пашыраны ў мясцовым ткацтве. Такую посцілку выткала М.Васілеўская з

**513.** А.Іспянкова. Посцілка з узорам Дзядоў. Хвастова Магілёўскай вобл.





Мігуліна (гл. іл. 517). У цэнтры асноўнага матыву яна змясціла ключ ад шчасця з узорам Зямлі. Посцілку з падобнай кампазіцыяй давялося бачыць і ў М.Харошка з Клімавічаў. Майстрыхі шчыра верылі, што за такую работу волаты паспрыяюць ім у жыцці.



## РАДАЎНІЦА

Пашана да продкаў выяўлялася і на старажытнае народнае свята Радаўніцу — дзень памінання памерлых. У яго вельмі глыбокія, яшчэ язычніцкія карані, шырока святкуюць яго і сёння, хоць, безумоўна, многія звязаныя з ім звычаі і абрады забыліся.

Мне неаднойчы даводзілася браць удзел у святкаванні Радаўніцы, калі яна яшчэ захоўвала традыцыйны парадак правядзення. Напярэдадні маці з сёстрамі варылі ячменную кашу, адварвалі ў цыбульніку яйкі, пяклі каравай, аздоблены фігуркамі пеўніка і коніка — як мы ведаем, у старажытнасці свяшчэнных жывёл. І вось пасля абеду ўся сям'я ўрачыста ішла на могілкі, дзе папраўляла крыжы, абкладвала магілы дзёрнам, наводзіла парадак і чысціню. Затым бацька ўкленчваў перад магілай самага старэйшага сваяка і прамаўляў «Памажы, Божа». Пачыналася вячэра.

А.Шыліна (1869 г.н.) са Старога Сяла на Магілёўшчыне, дзе па некалькі разоў на год адзначаюць Дзяды, урачыста праводзяць Радаўніцу, лічыла гэта святой справаю: «Усе нашы вяскоўцы стараюцца ўшаноўваць памяць памёршых. Спраўляюць Дзяды, святкуюць Радаўніцу. Заказваюць папу памінкі,

**516.** Г.Ступіна. Фрагмент дэкору ручніка з узорам вопата. Мінск.



**517.** М.Васілеўская. Фрагмент дэкору посцілкі. Мігуліна Сенненскага р-на Віцебскай вобл.



**518.** Н.Краўцова. Фрагмент дэкору посцілкі. Барысаў Мінскай вобл.





сочаць за парадкам на магілах, кладуць на іх яйкі, хлеб, сала. Памінкі спраўляюць дома і на могілках, вышываюць ручнікі і вешаюць іх на крыжы ці ахвяруюць у царкву».

Калі для гэтых абрадаў спецыяльна вытыкаліся ці вышываліся ручнікі і іншыя вырабы, зразумела, што яны адпаведна дэкараваліся. Сапраўды, удалося адшукаць вырабы з досыць арыгінальным дэкорам, які і называўся Радаўніцай. Гэта кампазіцыя з моцна стылізаванай жаночай фігуркай і рамбічным матывам па баках. Часам фігурка выяўлена досыць выразна (іл. 520), але часцей яна настолькі ўмоўная, што больш нагадвае дрэўца ў выглядзе ялінкі (іл. 521). Такое падабенства несумненна мае нейкі старажытны сімвалічны сэнс. Рамбічная ж фігура з адросткамі нам ужо знаёмая, яна нагадвае ўзор Сонца, а яшчэ больш — сімвал продка-волата (гл. іл. 519), якому месца якраз на падобным выразе з яго канкрэтным прызначэннем.

Крыху іншая кампазіцыя ў дэкоры ручніка І.Бабковай 1856 г.н., Брагінскі р-н, (іл. 522—523), які яна вышыла як памяць пра сваю маці, што памерла якраз на Радаўніцу. Жаночая фігурка з узнятымі рукамі — гэта і ёсць Радаўніца, яна трымае свечкі — ахвяру багам, малітву, каб тыя далі яе маці вечны спакой і райскае жыццё. Побач з Радаўніцай — Святое Дрэва, дрэва жыцця з зоркамі па баках — сімваламі блізкіх сваякоў майстрыхі. Гэта зноў жа зварот да багоў з просьбаю аберагчы ад сурокаў, зладзеяў, нячыстай сілы.



**519.** Матыў асілка ў дэкоры посцілкі. Віцебская вобл.



**521.** А.Шыліна. Фрагмент дэкору посцілкі з узорам Радаўніцы. Старое Сяло Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.



**520.** А.Шыліна. Посцілка з узорам Радаўніцы. Старое Сяло Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.







**522.** Радаўніца са свечкамі.



**523.** Святое Дрэва.



**524.** Узор Святога Дрэва і Радаўніцы.

У беларусаў здаўна бытуе перакананне, быццам здароўе чалавека, абаронenасць яго ад нячыстай сілы залежыць ад продкаў. Шануй памяць пра сваіх продкаў, адзначай Дзяды, Радаўніцу — і яны адплоцяць тым жа ўсёй тваёй сям'і.

Д.Барсукова (1878 г.н., Брагін) узоры Святога Дрэва і Радаўніцы сумясціла ў адным матыве (іл. 524). У рамбічнай фігуры — Радаўніца ў выглядзе дзвюх елачак. Паабапал — сімвалы душ нябожчыкаў-сваякоў. Гэта пашана да іх памяці, адначасова і надзея, што продкі паспрыяюць сям'і ў здароўі і дабрабыце.

Ф.Пракапцова з Чавусаў расказвала, што ў яе моцна забалела галава: «Я не магла ні працаваць, ні спаць. Мне параілі вышыць ручнік з узорам Радаўніцы і павесіць яго на крыж на магіле маці. Гэта я і зрабіла. Мая галава перастала балець. Вось я і лічу: шануй сваіх продкаў, маці, бацьку, бабулю, дзядулю, і ты будзеш здаровы. У цябе будзе добрая сям'я, здаровыя дзеці, шчасце і дастатак. Усё гэта табе забяспечаць твае продкі».

Мастацкія вырабы з матывамі Радаўніцы мяне цікавілі даўно. Яшчэ ў даваенны час я перазняў з альбома Анатоля Астрэйкі «Беларускі ткацкі арнамент перабіранай і закладной тэхнікі» некалькі ўзораў посцілак і паказваў іх у экспедыцыях (гл. іл. 520—521). Але нават старыя жанчыны ўжо не ведалі сэнсу дэкору. І толькі ў пасляваенныя часы мне пашчасціла: у Старым Сяле на Магілёўшчыне майстрыхі яшчэ тое-сёе памяталі. Сабраўся цэлы «кансіліум»: Н.Шыліна (1889 г.н.), А.Пакрывалава (1881 г.н.), Н.Іванова (1882 г.н.) і яшчэ некалькі старых жанчын. Агульнымі намаганнямі мы і расшыфравалі змест дэкору посцілак. Размова, вядома, ішла і пра адносіны да памяці продкаў і звязаных з гэтым народных святаў.

«Радаўніца — добрае свята, — казала Н.Шыліна. — Яно трэба і жывым, і мёртвым. Радуюцца памерлыя дзед і баба, што іх частуюць і памінаюць. Радуюцца і жывыя іх дзеці і ўнукі, што продкі клапоцяцца пра іх здароўе і дабрабыт».

«Мёртвых трэба шанаваць ды памінаць, — дапоўніла А.Пакрывалава. — Бачыла я сон: прыйшла ў хату да мяне мая памерлая бабуся Арына. Худая, слабая, з распушчанымі валасамі. І просіць мяне, каб я заўсёды на Дзяды і Радаўніцу памінала нябожчыкаў, давала ім хлеба, ставіла свечкі, згадвала іх добрым словам. Тады ім будзе добра ў магіле, зямля будзе пухам».

Яе падтрымала Н.Іванова: «Бачыла я ў сне маю матульку. Яна прасіла, каб я





заўсёды ставіла памінальную свечку, памінала яе ў царкве. А яшчэ прасіла, каб я глядзела за яе магілкай, абкладвала дзёрнам, папраўляла крыжы, каб пасадзіла на магілцы і пад вокнамі хаты бярозку на радасць бабулі і дубок — дзядулі».

Затым пачалі разбірацца з узорамі на посцілках з альбома, параўноўваць іх з работамі А.Шылінай — цёткі маёй субяседніцы Н.Шылінай. Дэкор іх аказаўся вельмі блізкім, і расшыфроўка ішла досыць паспяхова. Але абмяркоўваўся кожны матыў доўга, прыдзірліва: сабраліся ж сапраўдныя майстрыхі, якія за кроснамі прасядзелі ўсё жыццё.

У выніку агульнымі намаганнямі зрабілі наступныя высновы. Елачкападобны матыў — гэта Святое Дрэва, грамнічнае дрэва (іл. 526). Азначае яно пажаданне нябожчыкаў жывым, іх дзецям і ўнукам быць здаровымі, заможнымі, мець каласістае жыта на ніве, пладавітую і сытую жывёлу ў хляве. А яшчэ гэты матыў абазначае і свечку, ахвяру царкве за памінанне нябожчыкаў.



**526.** Святое Дрэва.



**525.** К.Самажнова. Посцілка. Старое Сяло Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

Рамбічная фігура з П-падобнымі адросткамі — сімвал нябожчыка, продкаў (іл. 527). Гэта своеасаблівая малітва, просьба да Бога, каб памерлыя апынуліся ў раі, каб зямля ім была пухам і вечна грэла цёплае сонейка.

Схематычнае адлюстраванне жаночай фігуркі — гэта сама Радаўніца, самі



**527.** Сімвал продкаў.



памінкі па нябожчыках, галоўныя Дзяды (іл. 528). Гэта нібы напамінак жывым: заўсёды штогод спраўляць Радаўніцу, сачыць за могілкамі, папраўляць крыжы, аздабляць іх ручнікамі, праводзіць на могілках памінкі з куццёй, яйкамі, хлебам.

Устаўленыя адзін у адзін ромбы абазначаюць просьбу да Бога і продкаў забяспечыць ураджай на ніве тоўстымі снапамі, у гумне — высокімі сціртамі, у клеці — поўныя засекі. Гэта ўзор хлеба (іл. 529).

Ромб з адросткамі — узор Сонца, якое саграваe жывых і мёртвых (іл. 530).

Х-падобны матыў — свяшчэнны знак, своеасаблівы абярэг ад хвароб і нячысцікаў. Гэта нібы святы крыж (іл. 531).

Як бачым, кожны матыў на пасцілках мае свой глыбокі сэнс, у іх заключана шматвяковая народная мудрасць, пашана да памяці продкаў.

## АДНАДЗЁННАЯ АХВЯРА

Ахоўная роля тканых і вышываных вырабаў асабліва ярка выяўлялася ў часы ўсенароднага бедства: вайны, эпідэміі, засухі, неўраджаю. Наладжваліся калектыўныя малебны, хрэсныя хады з просьбаю да Бога аб дапамозе і літасці. З гэтай жа мэтаю стваралася і аднадзённая ахвяра — тканы ці вышываны ручнік або арнаментаваны кавалак тканіны (абыдзённік). Выбрабляла яго не больш чым за суткі група жанчын, выказваючы канкрэтным узорам тую ці іншую просьбу да Бога.

Гэты старажытны, яшчэ язычніцкі звычай, калі нашы продкі звярталіся да прыроды, пазней арганічна спалучыўся з хрысціянствам і зваротамі да Бога. Ён яшчэ нядаўна бытаваў у розных кутках Беларусі, дастаткова падрабязна апісаны ў этнаграфічнай літаратуры. Прывяду яшчэ адзін характэрны прыклад.

Нашчадак параненага французскага салдата вайны 1812 года А.Мярло са Случчыны расказваў, як пасля напалеонаўскага нашэсця на Беларусі лютавалі голад і эпідэміі. Спрабуючы пазбавіцца ад гэтага ліха, сяляне наладжвалі малебны, хрэсныя хады, прыносілі ў



**529.** Узор хлеба.



**530.** Узор Сонца.



**531.** Абярэг ад хвароб нячыстай сілы.



**528.** Дзяды.



**532.** Старажытны ахвярны ручнік. Случчына.





царкву ахвяравалі, прасілі святароў часцей звяртацца з просьбамі да Бога. Аднак нічога не дапамагала. У адчаі сяляне скарысталі апошні сродак: звярнуліся да «сваіх» язычніцкіх багоў. Сабраліся яны з дзвюх вёсак і за суткі выткалі два ручнікі-абыдзённікі з зашыфраваным зваротам да багоў. Праўда, далей мы зноў бачым спалучэнне язычніцтва з хрысціянствам: ручнікі былі ахвяраваны ў Траецкую царкву Слуцка. У пачатку 1920-х гадоў А.Мярло перадаў іх экспедыцыі беларускіх мастакоў, у складзе якой былі В.Волкаў, Д.Полазаў і М.Філіповіч. Так гэтыя старажытныя унікальныя вырабы былі выратаваны ад знішчэння.

**533.** Старажытны ахвярны ручнік. Спуччына.



Разгледзім арнаментальныя матывы твораў. Іх характар, разнастайнасць, шматварыянтнасць даюць падставы сцвярджаць, што працай было занята некалькі дзесяткаў майстрых. Сэнс большасці ўзораў сёння ўжо немагчыма разгадаць, але сустракаюцца і знаёмыя: Маці-Зямля, Бацька-Сонца, бог агню Жыжаль, узоры продкаў — дзеда, прашчура. Асабліва выразна яны відаць на першым вырабе (іл. 532). Маленькія белыя ромбікі з адросткамі — сімвал Бацькі-Сонца, крышку большыя з адросткамі ўнутр — Маці-Зямлі, чатыры перакрыжаваныя лініі — продка, дзеда, прашчура. На другім абыдзённіку ромбы з гарызантальнымі адросткамі абазначаюць бога агню Жыжаля (іл. 533). На жаль, асноўная частка матываў загадкавых, арыгінальных абрысаў невытлумачальная, хоць несумненна, што ў іх заключаны глыбокі сімвалічны сэнс.

Кідаецца ў вочы тое, што кампазіцыя твораў, асабліва першага, досыць адвольная, не заўсёды строга ўраўнаважаная. Справа тут не толькі ў тым, што іх ствapала цэлая група майстрых у досыць абмежаваны час, і гэта наклала свой адбітак на мастацкі ўзровень вырабаў. Відаць, галоўная прычына — імправізатарскі характар творчасці. Кожная жанчына звярталася са сваёй канкрэтнай просьбай да пэўнага бога, верачы, што толькі ён ёй дапаможа. Так, 18 майстрых звярталіся да бога Сонца (столькі яго сімвалаў на абыдзённіку), 7 — да Маці-Зямлі, 8 — да Жыценя, 5 — да Перуна, 10 — да продкаў. І ўсё гэта склалася ў калектыўную просьбу-маленне.

Звяртаюць на сябе ўвагу загадкавыя матывы, якія дамінуюць у кампазіцыі першага вырабу. Яны нагадваюць нейкі ці то ахвярнік, ці то алтар. Гэтую таямніцу, магчыма, разгадаюць будучыя даследчыкі.

## ДУША

Ці ёсць у чалавека душа? Гэтае пытанне даўно не дае спакою жрацам, чараўнікам, багасловам, вучоным усіх часоў і народаў. Не спыняюцца спрэчкі па гэтым пытанні і сёння.

Народныя ж павер'і адказвалі на яго адназначна: душа ёсць у кожнага чалавека і яна бессмяротная. Чалавек памірае, а душа пакідае цела і сорак дзён лятае каля жылля. Пасля анёлы нясуць яе на божы суд. Жыў чалавек па праўдзе — душа трапляе ў рай, моцна награшыў — душу кідаюць у пекла, на вечныя пакуты. Так коратка апісаў







**534.** А.Горбач. Фрагмент дэкору посцілкі з матывам душы. Бялыніцкі р-н Магілёўскай вобл.



**536.** Ручнік. Паросцы Пінскага р-на Брэсцкай вобл.



**535.** А.Багдан. Фрагмент дэкору посцілкі. Відзеўшчына Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.

легенду пра душу А.Сержпутоўскі ў кнізе «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў». Трэба дадаць, што такія вераванні бадай што агульнаславянскія.

Лічылася, што чалавечая душа мае выгляд матылька ці птушкі. Што на святы, перш за ўсё на Дзяды, яна прылятае дадому, наведвае сваякоў. Вось як піша В.Дунін-Марцінкевіч у паэме «Вечарніцы»:



**537.** Фрагмент дэкору посцілкі з узорам душы. Пінскі р-н Брэсцкай вобл.



**538.** М.Сіўко. Фрагмент дэкору посцілкі. Навагрудскі р-н Мінскай вобл.





Вось на лыжку Касі прысеў матылёк,
дробненькія слёзкі брызнулі з вачок,
то матачкі душа снятая,
так думала Кася, міла паглядая.

У народнай мастацкай творчасці чалавечая душа ўвасоблена ў выглядзе васьміканцовай разеткі (іл. 534—540). Яна нагадвае зорку — сімвал чалавека, што зусім зразумела. Але яе канцы скруглены, нярэдка аздоблены характэрнымі арнаментальнымі «вочкамі», як на крылцах матылька (іл. 534—536). Нярэдка на вырабах гэтыя два блізкія і па паходжанні, і па характары матывы спалучаюцца ў адзінай кампазіцыі (іл. 538). Як мы ўжо бачылі, гэткі ж характар мае і матыў памяці пра загінуўшых (іл. 475—477), што зноў жа не выклікае пытанняў: у абодвух выпадках адлюстроўваецца душа чалавека, якога ўжо няма.



**539.** К.Юркова. Ручнік. Скоклева Чавускага р-на Магілёўскай вобл.



**540.** Л.Хільман. Фрагмент дэкору посцілкі. Грэбень Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.



**542.** Узор Дзеда Мароза.

## ДЗЕД МАРОЗ

Ёсць меркаванне, што вобраз Дзеда Мароза прыйшоў да нас з Захаду. Калі і так, то адбылося гэта даволі даўно. Магчыма, што заходнееўрапейскі Дзед Мароз спалучыўся з нейкім славянскім язычніцкім вобразам.

Старая настаўніца з Жыткавічаў М.Сідаровіч (1869 г.н.) расказвала, што выткала посцілку з Дзедам Марозам гадоў сорак таму: «Помню, Дзеда Мароза тады святкавалі ў зімовыя маразы, калі было Вадохрышча: прабівалі ў лёдзе палонку і так хрысцілі ваду. Тады і быў Дзед Мароз. Гэта стары з вялікай барадой, адзеты ў кажух, з мяшком у руках».

На ручніку Х.Івановай (1863 г.н.) з



**541.** В.Кукрыш. Посцілка з узорам Дзеда Мароза. Рачэнь Любанскага р-на Мінскай вобл.







**543.** Н.Гуткова. Дэкор ручніка з матывам крыжа. Барань Аршанскага р-на Віцебскай вобл.

**544.** А.Свірская. Фрагмент дэкору ручніка. Чашнікі Віцебскай вобл.

Калінкавічаў вобраз Дзеда Мароза адлюстраваны ў выглядзе крыжападобнай разеткі ў аблямоўцы (іл. 542). На маё пытанне, якая мэта кіравала майстрыхай, тая адказала: «А як жа? Каб мароз не змарозіў мяне, старую, маіх унучак, маю жывёлу. Каб не выдратаваў маю ніўку, маё жыта».

Падобным чынам вырашыла вобраз Дзеда Мароза Е.Сідарэнка (1882 г.н.) з Калінкавічаў: «Гэты ўзор я ўзяла ў сваёй сваццi з Новай Беліцы. Яна казала, што такая посцілка як цёплая коўдра будзе саграваць ад марозу маіх дзетак, мой статак і маю ніўку».

## КРЫЖ

Крыжападобныя фігуры ў ткацтве і вышыўцы, як мы ўжо не раз бачылі, сустракаюцца вельмі часта. Перш за ўсё, відаць, таму, што яны вельмі тэхналагічныя: чатыры састыкаваныя квадрацікі ці дзве перакрыжаваныя лініі — вось і крыж (іл. 543), які можна кампанаваць у прыгожыя бардзюры любой шырыні і даўжыні. Вядома ж, гэта і хрысціянскі сімвал, шырока адлюстраваны амаль ва ўсіх відах мастацкай творчасці многіх народаў. А яшчэ раней крыж у крузе быў старажытным язычніцкім сімвалам сонца. Яго мы бачым у дэкоры ганчарных, кавальскіх, разьбяных вырабаў і, вядома ж, у ткацтве і вышыўцы, дзе ён можа быць ці вельмі простым, ярка выяўленым, ці арнаментальна распрацаваным (іл. 544).

## НАРОДНАЯ АСТРАЛОГІЯ

Апошнім часам заўважаецца масавая цікавасць да астралогіі — прадказання будучыні паводле размяшчэння планет і знакаў Задыяка. Ледзь не кожнае перыядычнае выданне друкуе астрала-



**545.** Варажбітныя ўзоры.





гічныя прагнозы, выходзяць шматлікія дапаможнікі і даведнікі па астралогіі.

Між тым астралогія ўзнікла не сёння. Сотні гадоў яна вядома многім народам свету. Гаданнямі па зорках здаўна займаліся і нашы бабкі-варажбіткі. Д.Стрыжнёва (1881 г.н.) з Камарына расказвала: «Ноччу і днём варажбіткі глядзелі на неба — на сонца, месяц, зоркі. Потым раілі нам, што вышываць на ручніках. Я вось па парадзе варажбіткі Купрэіхі вышыла такія ўзоры (іл. 545). Купрэіха расказала мне значэнне кожнага ўзору: зорка чалавека на небе; сонца, якое дае чалавеку сілу і ўраджай; месяц ратуе дзяцей ад начніц; агонь вылечвае ад прастуды, немачы; Пярун аберагае ад урокаў, благога вока, сваімі стрэламі карае нячысціка і чарцей; дзед на тым свеце моліцца за здароўе, шчасце жывых родзічаў; Казярог вылечвае і аберагае гавяду і ўсю жывёлу ад хваробаў і нячысціка. Я варажбітцы моцна верыла, сама ад яе навучылася гадаць і лячыць. Праўда, за навуку знесла ёй парасё і курыцу. Затое стала варажыць-гадаць і лячыць ад хваробаў, аберагаць жанчын ад злыдняў. Лячыла рознымі спосабамі. На кожную хваробу ў мяне ёсць траўка. Акурваю. Пырскаю ці даю піць святую грамнічную ваду. Ведаю шмат замоваў, на кожнае лячэнне травой, вадою ці агнём у мяне ёсць замова. Я шмат людзей вылечыла, выратавала ад смерці або немачы. Цыганка вучыла мяне гараскопу, але гэта я не зразумела».

Гараскопам карысталася старая настаўніца Е.Зямковіч (1872 г.н.) з Петрыкава. Супастаўляючы нябесныя свяцілы і знакі Задыяка, яна вызначала лёс чалавека, варажыла і лячыла — травамі, вадой, агнём, з дапамогай ручніка з адпаведнымі ўзорамі. «Верыць гэтаму ці не верыць, — казала яна, — сама не ведаю. Але ж мне трэба было жыць, каб не памерці з голаду. Вось я і гадала, і лячыла».

Як вядома, астралогія мела значнае пашырэнне ў краінах Старажытнага Усходу, Егіпта, Вавілона, Індыі, Кітая. Існавала цэлая навука аб уздзеянні нябесных свяцілаў на чалавека. Свой варыянт астралогіі бачым мы і ў беларусаў, якія прадказвалі лёс чалавека з дапамогай адпаведна дэкараваных ручнікоў.

Вось адзін з варыянтаў варажбы. Ноччу, пры занавешаных вокнах, рассцілалі на падлозе ручнік, бралі ў правую руку зярняты бобу і з аршыннай вышыні кідалі іх на ручнік. Размяшчэнне зярнят адпаведна ўзору на ручніку прадказвала жаночы лёс. Так, напрыклад, гадала шаптуха А.Каляда (1851 г.н.) з Калінкавічаў, карыстаючыся ручніком з ужо знаёмымі нам узорамі (іл. 546).



**546.** Варажбітныя ўзоры на ручніку.



**547.** Варажбітныя ўзоры: месяц, агонь, сонца, зорка, Пярун.

Крыху іншае размяшчэнне дэкору было на ручніку Н.Акуліч з Горак (іл. 547). Яна гадала на ім разам з сяброўкамі, якія шчыра верылі, што, загадаўшы на месяц, у сне спазнаеш таямніцу будучыні, што агонь і сонца лечаць ад усіх хвароб і даюць шчасце, што зоркі вызначаюць жыццё ад самага нараджэння, а Пярун аберагае ад нячысціка. Пры варажбе на ручніку гаварыліся і адпаведныя замовы, звернутыя да таго ці іншага свяціла.

## ГАДАННІ, ВАРАЖБА

Варажылі і гадалі не толькі па нябесных свяцілах і не толькі з дапамо-







**548.** Ручнік. Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл.







**549.** Н.Белая. Фрагмент дэкору ручніка з узорам-абярэгам. Васілевічы Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.



**550.** Н.Маркава. Фрагмент дэкору посцілкі. Магілёўская вобл.

гаю тканых ці вышываных вырабаў. Так, пашыраным было гаданне на картах. Праўда, гэта быў занятак пераважна цыганак, мяшчан ды «прафесійных» варажбітак. Добра ведаем мы і гаданне на кветках рамонку (любіць — не любіць). Гадалі на зярнятах бобу, жыта, аўса, гароху. Праз пярсцёнак лілі ў ваду расплаўлены воск ці волава і па форме зліткаў вы-



**551.** Фрагмент дэкору ручніка. Магілёўская вобл.





значалі задуманае. Ці вось яшчэ: ішла дзяўчына на скрыжаванне дарог ці вуліц і пыталася ў першага сустрэчнага яго імя: яно і будзе імем яе суджанага. Кідалі праз вароты чаравік: у які бок пакажа насок, адтуль і жаніх будзе. У калядную ноч глядзелі на неба: куды ўпадзе зорка, адтуль і сваты з'явяцца. Завязвалі кату вочы і ставілі пасярод двара: куды кот пойдзе, з таго боку і жаніха чакай. І яшчэ шмат цікавых, арыгінальных прыкладаў.

Гэткай жа шматварыянтнасцю вызначаецца і дэкор ручнікоў, якія выкарыстоўваліся для варажбы. У маіх даваенных паездках па Беларусі неаднойчы трапляліся вырабы з таямнічым арнаментам. Самі майстрыхі ўжо не ведалі, што гэтыя матывы абазначалі, але не сумняваліся, што мелі яны нейкае магічнае значэнне. А старыя бабкі, ад якіх яны пераняслі гэты дэкор, панеслі таямніцу з сабою.

Адзін з такіх ручнікоў давялося бачыць у Віленскім этнаграфічным музеі (іл. 548). Яго здымак я паказваў многім вядомым майстрыхам, якія ўжо неаднойчы згадваліся ў гэтай кнізе. На жаль, нічога канкрэтнага пра сэнс дэкору ручніка яны сказаць не маглі, хоць усе былі перакананыя, што ў ім заключаны нейкі глыбокі магічны сэнс.

Як, напрыклад, назваць крыжападобны матыў на ручніку Н.Белай з Васілевічаў Рэчыцкага раёна (іл. 549)? Просьба да Бога? Малітва? Вотыўны знак? Проста крыж? Амулет, абярэг? Як бачым, загадак шмат. Адно несумненна: вышывалі такія знакі як просьбу да вышэйшых сіл у нечым дапамагчы, ад нечага засцерагчы. Вось, напрыклад, на посцілцы Н.Маркавай з Магілёўшчыны такі матыў укладзены ў сімвал Сонца (іл. 550). Як відаць, майстрыха звярталася з нейкай просьбаю да свяціла.

Многім ткачыхам паказваў я арыгінальны вышываны ўзор на вырабе з Магілёўскага музея (іл. 551). Усе яны былі перакананыя, што гэта старажытны ўзор з нейкім магічным сэнсам. Але што ён абазначае, ніводная не ведала.

Вельмі часта на тканых і вышываных вырабах мы бачым дробненькія ўзоры, якія то запаўняюць прамежкі паміж асноўнымі матывамі, то размяшчаюцца побач з імі, то кампануюцца ў радочкі (іл. 553). Магчыма, яны выконваюць чыста арнаментальную, кампазіцыйную задачу, але ўсё ж, думаецца, у старажытнасці таксама мелі нейкі сімвалічны сэнс: пажаданні дабра, шчасця, дабрабыту, замова, зварот да вышэйшых сілаў і інш. Часам майстрыхі



**552.** Н.Хадасевіч. Фрагмент дэкору посцілкі. Бобр Крупскага р-на Мінскай вобл.



**553.** М.Каўтунова. Фрагмент дэкору ручніка. Неглюбка Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.



**554.** Узор абярэга.





**555.** А.Конева. Дэкор посцілкі з выказваннем сваёй мары. Навабеліца Гомельскай вобл.

казалі, што яны абазначаюць такія штодзённыя і добра вядомыя пажаданні, як «добры дзень», «добрай ночы», «усяго добрага» і інш. Народнай свядомасці былі блізкія і зразумелыя пажаданні дабра, шчасця, здароўя, зашыфраваныя ў традыцыйных сімвалічных дэкаратыўных матывах.

М.Добыш (1881 г.н., Расходня Сенненскага р-на) аздобіла фартух знакамі-абярэгамі (іл. 554). Так ёй параіла суседка. Нібыта гэты ўзор аберагае ад усіх няшчасцяў, ад сурокаў, ад нячыстай сілы. Майстрыха так і не сказала, ад чаго канкрэтна. Увогуле, як пацвердзілі і многія іншыя вырабы падобнага тыпу, якія давялося бачыць у розных кутках Беларусі, часта майстрыхі не канкрэтызуюць свае пажаданні і просьбы. Пры гэтым у адзін і той жа матыў можа ўкладвацца розны сэнс — у залежнасці ад пажаданняў майстрыхі. Але ў адным гэтыя матывы яднаюцца: ва ўсіх выпадках выказваюцца пажаданні дабрыні, шчасця, любові, дабрабыту, здароўя і інш.



**556.** Н.Раманюк. Фрагмент дэкору посцілкі. Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл.



**557.** Н.Захарэвіч. Дэкор ручніка з матывам Дамавіка. Ціміразева Сенненскага р-на Віцебскай вобл.

## МАРА

Пра што марыла ткачыха ці вышывальшчыца, седзячы за работаю? Дзяўчына — пра каханне, добрага суджанага. Замужняя жанчына, пэўна ж, пра дастатак у хаце, добрую сям'ю, здароўе, дзяцей. Вось і нараджаліся пад іх рукамі адпаведныя ўзоры, якія мы ўжо ведаем.

Але мне неаднойчы трапляліся вырабы, дэкор якіх складаўся з дзівоснага спалучэння самых розных матываў: зорачак, ромбікаў, разетак,

крыжыкаў і іншых знаёмых і незнаёмых фігур (іл. 555—556). Пры гэтым майстрыхі не выказвалі нейкага канкрэтнага пажадання ці просьбы, а гаварылі абагульнена: «Гэта мае мары». Так і ўяўляецца майстрыха за працай, уся ў нейкіх салодкіх мроях, а рука машынальна выводзіць нейкі адмысловы ўзор, нібы занатоўвае яе патаемныя думкі.

## ДАМАВІК (ХАТНІК)

Калі рэчка ці лес мелі сваіх гаспадароў, то як жа без гаспадара ў хаце? Уяўленні беларусаў стварылі вобраз апекуна хаты — Дамавіка (Хатніка). Гэта стары дзед з сівай барадою і доўгімі валасамі, адзеты ў падперазаную рэменем ці лыкам світку. Спіць ён на печы ці пад печчу.



558. Узор Дамавіка ў арнаментыцы ручніка. Магілёўская вобл.

Калі ёсць такі гаспадар-апякун, то і адносіцца да яго трэба як належыць. Вось замова-просьба, запісаная на Беласточчыне: «Хазяін-хатнік, дамавік, прымі хлеб-соль, прымі куццю і яешню. Зберажы скацінку ад пошасці, хату ахавай ад злога чалавека, ад агню. Амін».

«Дамавік добры дзядулька, — характарызавала яго, нібы блізкага сваяка, адна мая субяседніца. — Ён любіць парадак, любіць спраўных, працавітых гаспадароў. Калі мужык добра працуе, рана ўстае, яму і Дамавік дае: добры ўраджай жыта, укормленую скацінку. А калі хто лодыр ды абібок, п'яніца, таго Дамавік не любіць і яму не спрыяе. У Дамавіка зоркія вочы, ён усё бачыць днём і ноччу. Дамавік любіць, калі ў доме згода, тады і гаспадарка будзе спраўнай».

Гэтыя «зоркія вочы» мы і бачым у арнаментальным матыве, які лічыцца сімвалам Дамавіка (іл. 557—558). Увогуле ён мае шматлікія варыянты, але заўсёды звяртае ўвагу нейкім досыць старажытным, суровым выглядам. Нярэдка гэты матыў нагадвае ўжо знаёмы нам сімвал Грамавіка, што пацвярджалі і майстрыхі. Так, здымак ручніка з Лешні Капыльскага раёна (іл. 559) не выклікаў асаблівых сумненняў у Е.Корынай, якая ўбачыла тут Грамабоя: «Ён робіць вяселле сваім шасці дочкам. 6 птушак — 6 дачок. Ён блаславіяе на шчасце, на любоў». Е.Казакевіч, якая таксама вышыла падобны ўзор, пацвердзіла, што тут паказаны Грамабой ці Грамавік. А вось вядомая майстрыха Г.Ступіна была іншай думкі: «На ручніку паказаны певень. А гэта двайнік Дамавіка. Дамавік заўсёды



559. К.Гарашчэня. Ручнік. Лешня Капыльскага р-на Мінскай вобл.





560. Ручнік. Старaселле Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

з пеўнем». Ф.Чыркова сцвярджала, што тут паказаны расійскі герб. Малюнкі з такім гербам бясплатна распаўсюджваліся падчас каранацыі цара Мікалая II.

Хто ж мае рацыю?

Як ні дзіўна, але, думаецца, усе. Дамавік і Грамавік, як старажытныя сялянскія заступнікі і апекуны, адлюстраваліся падобнымі матывамі, іх не дзіва пераблытаць. У канцы ж XIX стагоддзя ў паўднёвай частцы Беларусі на вочы майстрых сталі трапляцца вядомыя кралявецкія ручнікі з Украіны, на якіх цэнтральным матывам звычайна быў стылізаваны расійскі герб. Яго адмысловыя абрысы пры некаторай фантазіі майстрых лёгка спалучаліся з папулярнымі тут матывамі Грамавіка ці Дамавіка. Вось і бачым мы на ручніках з Капыльшчыны ўсе фармальныя адзнакі герба (растапыраныя лапы, дзюбатыя каранаваныя галовы), хоць на самой справе ад яго мала што засталося.



561. А.Лепартуева. Ручнік. Займішча Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.



562. А.Кот. Посцілка з узорам Хлеўніка. Дарасіно Любанскага р-на Мінскай вобл.





## ХЛЕЎНІК

Старая бабуля Хрысціна Петрачыха з Іванаўскага раёна, якая памятала яшчэ прыгоннае права, расказвала: «У лесе на багатым хутары жыў стары. Звалі яго Харытон-Хлеўнік. Казалі, што ён меў на галаве рогі, як у вала, а на нагах капыты. Другія казалі, што гэта проста стары дзед, які ўмеў лячыць жывёлу, загаворваць ад нячыстай сілы. Вось і звалі яго Хлеўнікам. Жыў ён у Мажэйкаве каля лесу. Але да яго я не патрапіла. Вось і выткала посцілку з узорам Хлеўніка. Гэты ўзор мне паказала жонка Харытона».

Разглядаючы прадстаўленыя тут узоры вырабаў, на якіх, паводле сцвярджэння ткачых, адлюстраваны Хлеўнік, няцяжка заўважыць, што гэты матыў практычна не адрозніваецца ад ужо вядомага нам сімвала дастатку — рагоў. Думаецца, гэта цалкам вытлумачальна. Што ў хляве перш за ўсё сведчыць пра заможнасць? Вядома ж, рагатая жывёла. Гэта асноўны клопат селяніна і яго ж гонар, сімвал дабрабыту. Вось і адлюстроўваліся на вырабах майстрых стылізаваныя рогі, якія абазначалі дастатак у хляве і яго дбайнага гаспадара — Хлеўніка.



**564.** Т.Трубчык. Посцілка з узорам Хлеўніка. Калінаўка Любанскага р-на Мінскай вобл.

**563.** К.Русаковіч. Посцілка. Рухава Старадарожскага р-на Мінскай вобл.







**565.** К.Кунцэвіч. Фрагмент дэкору посцілкі з матывамі куцці. Віцебская вобл.

**566.** Т.Паўлоўская. Фрагмент дэкору ручніка. Чавусы Магілёўскай вобл.

**567.** Н.Чыжэўская. Ручнік з сімвалам грамнічнай свечкі.





## КУЦЦЯ

У традыцыйных вераваннях, звычаях і абрадах беларусаў ёсць некалькі ўстойлівых атрыбутаў, сімвалаў, асвячоных і старажытнымі язычніцкімі вераваннямі, і больш позняй хрысціянскай вераю.

Хлеб. Гэта сімвал жыцця і дабрабыту.

Куцця. Старажытная ежа народа — і жывых, і мёртвых. Куцця — сімвал ураджаю, урадлівасці.

Яйка. Сімвал адраджэння жыцця, абуджэння прыроды пасля зімовага сну, наступлення вясны, пазней — уваскрашэння Хрыста.

Каравай. Тое ж, што і хлеб. Але ён яшчэ абазначаў і плоднасць, прадаўжэнне роду, таму прымяркоўваўся да вяселляў.

Грамнічная свечка. Выяўленне таямнічай цудадзейнай сілы, што ўзнікае ад сувязі чалавека з язычніцкімі багамі.

Грамнічная вада. Святая вада з крыніцы ці язычніцкага капішча, асвячоная на Вадохрышча. Мае вялікую лекавую, чарадзейную сілу, вылечвае ад сурокаў, благога вока, нячысціка.

Крыж. Спалучае ў сабе язычніцкі абярэг і хрысціянскі сімвал міласэрнасці, ахвярнасці.

Некаторыя з гэтых сімвалаў народнай веры нам ужо добра знаёмыя па ўзорах у народнай мастацкай творчасці. Спынімся на іншых.

Куцця як сімвал заможнасці, ураджаю, урадлівасці ў народных звычаях і абрадах сустракаецца, відаць, з тых далёкіх часоў, калі нашы першабытныя продкі асвоілі земляробства. Без куцці не абыходзілася практычна ніводнае народнае земляробчае свята. Куццёю пачыналі трызну па нябожчыках на Дзяды. Куццю і яйкі пакідалі на магілах.

А.Гулевіч з Беласточчыны лічыла, што не мае асаблівага значэння — несці на могілкі куццю ці вышыць яе сімвал на ручніку і павесіць яго на магільны крыж. Відаць, так лічыла не толькі яна, таму што посцілкі і ручнікі з узорам куцці траплялся неаднойчы (іл. 565—566). Арнаментальны матыў з дробных квадрацікаў-зярнятак, відаць, і сімвалізуе гэтую старажытную абрадавую страву.

## ГРАМНІЧНАЯ СВЕЧКА

Павер'і пра цудадзейную сілу грамнічнай свечкі жывыя яшчэ і сёння. Калі грамнічнай свечкай акурыць ніву перад сяўбой, жывёлу пры першым выгане ў поле, то будзе добры ўраджай







**568.** Узор грамнічнай свечкі.



**569.** А.Міхайлава. Ручнік. Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.

і сытая здаровая скаціна. Грамнічная свечка аберагае чалавека ад хвароб, жыллё — ад пажараў.

Зберагалася грамнічная свечка за абразамі, без пільнай патрэбы яе адтуль не вымалі. Помніцца, малым я аднойчы асмеліўся выкарыстаць грамнічную свечку замест лучыны, дык зарабіў добрую прачуханку.

В.Кулда (Жукойні Астравецкага р-на) расказвала, як робяць грамнічную свечку: «Льюць яе з добрага воску. Калі будзе моцны гром, вялікі дождж ды пярун з маланкаю, выносяць свечку на дождж, каб ён хоць трохі яе замачыў. Тады кажуць: Пярун-бацька, Зямля-матка, прыміце нашу ахвяру. Хай будуць усе здаровыя. Хай згіне нячыстая сіла. Хай расце добрае жыта. Ну і далей, што каму баліць. Тады ставяць свечку пад іконамі і моляцца. Добра, каб гэта было на Грамніцы. Трэба ж яшчэ і ў царкве асвяціць, у бутэльку паставіць галінку вярбы, зрэзаную ў Вербную нядзелю».

Паказала майстрыха і ручнік з сімвалам грамнічнай свечкі (іл. 568). Ніякага рэалізму: квадрат, да якога прымыкаюць 8 квадратаў, ромбікаў, авальных фігур.

Ф.Маркава (1875 г.н., Чавускі р-н), якая таксама вышыла на ручніку падобны ўзор, расказвала, як у суседняй вёсцы ад перуна загарэлася хата: «Мы пабеглі тушыць, там я запаліла свечку ад агню. Пасля гэтага і вышыла такі ўзор».

Ёсць і іншыя варыянты гэтага матыву. Адзін з іх мы бачылі,калі вялі размову пра адлюстраванні на ручніках язычніцкіх капішчаў (іл. 569). Характэрныя матывы ў выглядзе слупка з ромбікам-полымем хутчэй за ўсё і абазначаюць грамнічную свечку.



**570.** Ручнік. Акідомы Пастаўскага р-на Віцебскай вобл.

Як бачым, вера нашых продкаў арганічна і натуральна спалучала старажытныя язычніцкія праявы з больш познімі хрысціянскімі. У іх аснове — вера ў шчырую працу, руплівасць сваіх рук, дабро, справядлівасць, любоў. Будзе ўсё гэта — тады і багі дапамогуць. І язычніцкія, і хрысціянскія.



# ВОБРАЗЫ ЖЫЦЦЯ







571. Сімвалы ўраджаю: Ярыла, Жыцень, Спарыш.

Кожны від мастацтва вызначаецца ўласцівымі толькі яму мастацкімі сродкамі, спосабамі адлюстравання рэчаіснасці, асаблівасцямі ўвасаблення рэальных ці ўяўных вобразаў.

Архітэктура аперыруе прасторавымі, аб'ёмнымі, манументальнымі катэгорыямі. Яна адлюстроўвае разуменне чалавекам свайго месца ў прасторы, светабудове, сусвеце.

Жывапіс нараджае пачуцці далучэння да шматфарбнасці свету, абуджае тонкія душэўныя перажыванні, звязаныя з паліхромнасцю нашага асяроддзя і жыцця.

Графіка здольная перадаваць і раскрываць вытанчаныя вобразы і пачуцці больш абмежаванымі сродкамі: супрацьпастаўленнем святла і цемры, белага і чорнага, яркага і цьмянага.

Скульптура карыстаецца сродкамі пластыкі. Яна адлюстроўвае пачуцці, якія ўзнікаюць ад успрыняцця аб'ёмных пластычных форм, цвёрдасці і мяккасці, гладкасці ці шурпатасці фактуры.

А вось у арнаменце тканых і вышываных вырабаў, без перабольшання, увасоблены практычна ўсе асноўныя якасці названых відаў мастацтва. Кампазіцыя, малюнак, колер, кантраст, фактура, рытміка, стылізацыя ствараюць абагульненыя мастацкія вобразы, здольныя тым не менш выяўляць самыя складаныя пачуцці, увасабляць разнастайныя праявы жыцця, узаемаадносіны чалавека, прыроды, сусвету.

За многія стагоддзі традыцыйная арнаментыка ўвабрала жыццёвую мудрасць народа, яго надзеі і мары, гора і радасць. Яе кампазіцыя ясная і дакладная, малюнак лаканічны і выразны, каларыстыка стрыманая і высакародная. Тым не менш такая на першы погляд выяўленчая скупаватасць здольная раскрываць самыя складаныя пачуцці, увасабляць любыя жыццёвыя праявы ва ўсёй іх складанасці і шматграннасці.

Кожны ўзор нясе ў сабе той ці іншы сэнс, выяўляе пэўную ідэю. Адны ўзоры сімвалізуюць памяць аб продках, другія выказваюць зварот да багоў-заступнікаў, трэція ўвасабляюць прыродныя з'явы, чацвёртыя адлюстроўваюць пачуцці і надзеі чалавека. І ўсё гэта перадаецца мінімумам выяўленчых сродкаў згодна з вышэйшымі законамі прыгажосці. Як бачым, у народнай арнаментыцы класічна ўвасоблена адзінства формы і зместу.

Трэба зазначыць, што гэта падсвядома адчуваюць і самі майстрыхі. Яны нават крыўдзяцца, калі іх творы ацэньваеш толькі з пазіцыі прыгажосці, і звычайна цярпліва і настойліва пачынаюць тлумачыць змест, закладзены ў той ці іншы выраб. Для іх тканыя і вышываныя рэчы — як малітва, варажба, гаданне, слова ці нейкае дзеянне. Арнамент на вырабе — як свечка, ахвяра ў храм ці зварот да багоў. Пры гэтым майстрыхі не абцяжарваюць сябе залішняй дыферэнцыяцыяй, звяртаючца і да язычніцкіх, і да хрысціянскіх багоў як да сваіх непасрэдных заступнікаў і абаронцаў.

Мы ўжо не раз пераконваліся, які глыбокі сэнс закладзены ў быццам бы простыя ўзоры, якія можна чытаць, як кнігу, глядзець, як спектакль ці кіно. Але, вядома, трэба дасканала ведаць жыццё народа, яго звычаі, традыцыі, характар. Толькі тады адкрыюцца ўсе сакрэты, зашыфраваныя ў арнаментыцы мастацкіх вырабаў.

Вось яшчэ некалькі характэрных прыкладаў народнай мудрасці і майстэрства.

573. Зорка — сімвал чалавека.



572. Узор русалкі.





У.Ульяновіч (1880 г.н., Круляўшчызна Ваўкавыскага р-на) выткала посцілку, якая вобразна ўвасабляе мары і надзеі майстрыхі, яе жыццёвыя прынцыпы і перакананні (іл. 571—573). Тут мы бачым ужо добра знаёмыя нам матывы, кожнаму з якіх майстрыха дала канкрэтнае тлумачэнне: «Ярыла, Жыцень і Спарыш — нашы клопаты пра ўраджай. Пасля рэвалюцыі нам далі 10 дзесяцін зямлі. Гэта была вялікая радасць. Мы добра ўгнойвалі, ураблялі сваю зямліцу. Мелі багаты ўраджай, сталі добра жыць. Але як аказаліся пад Польшчай, пан забраў у нас зямлю, і мы зноў сталі беднымі. Вось пра што расказваюць гэтыя ўзоры.

Русалка — ужо другая гісторыя. Было гэта яшчэ за прыгонам. У нашага дваюраднага дзядулі была прыгожая дачка Ганулька. Ды паніч яе згвалтаваў. Яна зацяжарала і ўтапілася, стала русалкаю. Жыла русалка Ганулька ў лесе каля возера.

Узор сям'і вышыла таму, што замужам вельмі хацела мець добрую сям'ю. Каб муж быў добры і працавіты, каб любіў мяне і дзяцей. Мне і здавалася, што як толькі я вышыю гэты ўзор на радзюжцы, то ўсё збудзецца, як я хачу.

У старыя часы перад усім, што рабілі, мы гадалі, ішлі да варажбітак. Хацелі ведаць, што з намі будзе. Вось і ўзор варажбы на радзюжцы.

Зорка — гэта вось што: наш дзед Міхалка ваяваў на турэцкай вайне, там і загінуў. Гэты ўзор — памяць пра дзеда, гэта ўзор чалавека.

Я не ведаю гарадской граматы, не ўмею ні чытаць, ні пісаць. Але я ўмею касіць, жаць, араць, малаціць. Умею ткаць і вышываць узоры. Гэта мая грамата, яна мяне поіць, корміць і адзявае. Мае радзюжкі — што кнігі, яны расказваюць пра маё жыццё, жыццё людзей. Вось якая мая грамата».

Такую ж «аўтабіяграфічную» посцілку давялося бачыць у П.Казакевіч (1845 г.н., Поразава Свіслацкага р-на). У яе цэнтры было схематычна адлюстраванае вяселле: маладыя, маці з пасагам — двума коньмі, і Параскева-Пятніца, апякунка сям'і, з каронамі паабапал, якімі яна блаславўляе маладых (іл. 574—575). Зверху — узоры Жыценя і Спарыша, знізу — зорка, якая абазначае мужа, узятага на японскую вайну. Справа кампазіцыя аблямавана ўзорам сям'і, злева — сілуэтамі голуба і галубкі, што, на думку майстрыхі, павінна быць зарукаю моцнага ўзаемнага кахання.

Як мы ўжо ведаем, на сваіх вырабах майстрыхі не толькі адлюстроўвалі сваё жыццё, свае надзеі. Нярэдка гэта былі і своеасаблівыя маўклівыя просьбы-звароты да багоў, ахвяра з мэтаю іх задобрыць. Захварэла дзіця — у апошняй надзеі маці садзіцца за ручнік, нясе яго ў царкву, ахвяруе на абраз з вобразам заступніка, моліць аб дапамозе. Не родзіць ніва — можа, хоць Бог паможа. Ці Хрыстос, ці Ярыла. А то і абодва разам.

«У нас кепска радзіла ніва, — расказвала М.Аляксейчык (1901 г.н., Татарка Асіповіцкага р-на). — Што толькі мы не рабілі: ураблялі зямлю, угнойвалі, малебны наладжвалі, да шаптух хадзілі. Нічога не памагала. Мне і параілі вышыць ручнік з узорам Жытняй Бабы і ахвяраваць яго ў царкву. Гэта я і зрабіла. Вышыла ручнік з узорамі Жытняй Бабы і Багача і падарыла ў царкву (іл. 576). І стала наша ніва даваць добры ўраджай. А Жытняя Баба — гэта вялікая чараўніца. Святая. Але не праваслаўная, а, як казаў мне поп, паганская. Яна два разы на год прыходзіць на зямлю да селяніна: калі сеюць жыта і



**574.** Маладыя вянчаюцца.



**575.** Параскева-Пятніца блаславўляе маладых.



**577.** Узор Маці-Радзіцельніцы.





**576.** Жытняя Баба і Багач.





жнуць яго. Яна любіць пашану і павагу, калі ідзе, трэба падмесці вуліцу, пасыпаць пясочкам. А яшчэ і хлебам-соллю сустрэць, пасадзіць за стол на покуці, пачаставаць. Поп мне казаў, што гэтую легенду трэба разумець так: урабляй зямлю, клапаціся пра ніву, тады і Жытняя Баба паможа».

У сям'і Я.Сацункевіч (1872 г.н.) з Беласточчыны нарадзілася 14 дзяцей. Жывымі засталіся толькі двое. Што толькі не рабілі няшчасныя бацькі: хадзілі да шаптух, урачоў, ксяндза. Вырашыла Яніна звярнуцца па дапамогу да Маці-Радзіцельніцы. Вышыла, як ёй параілі, ручнік з яе сімвалам, занесла ў касцёл і павесіла на абраз Маці Божай (іл. 577). Тады і перасталі дзеці паміраць.

Ёсць творы і з павучальным зместам як своеасаблівы наказ маладым. Звычайна іх ткалі і вышывалі ў якасці падарунка, галоўным чынам на вяселле.

Я.Сацункевіч вышыла ручнік з узорамі маці, вазона і Ярылы (іл. 578) і ў дзень вяселля сваёй унучкі Марылі паднесла ёй як падарунак. А ўзорамі яна выказала тое, што лічыла патрэбным сказаць маладым: любі і шануй маці, беражы сям'ю — асноўнае шчасце жанчыны, працуй як след на сваёй зямельцы — будзеш заможным.

На ручніку, які падарыла сваёй унучцы Каці У.Шынкевіч (1859 г.н., Брагін), вышыты сімвал ураджаю Спарыш і ўзор хлеба (іл. 579). «Любіла я сваю ўнучку, — казала майстрыха. — У дзень вяселля падарыла ёй як пасаг кароўку, свінню, 3 авечкі, 10 курачак і куфар з адзеннем і пасцеллю. Блаславіла іконаю Маці Божай. А таксама і гэты ручнік падарыла. Узоры на ім абазначаюць: любі зямельку, працуй на ёй, і яна аддзячыць багаццем. Я яшчэ і напісала на ручніку: любі Маці-Зямлю».

З пашанай ставіліся ў нас да памяці продкаў. Радаўніца, Дзяды — адны з самых урачыстых народных святаў, успаміналі продкаў і на Каляды, і на Вялікдзень.

І.Ярашэвіч (1898 г.н., Ліда) расказвала, як яе бабуля А.Галенчык, што яшчэ помніла французаў, падарыла ёй ручнік з узорамі і подпісам: любі бацькоў, дзядоў. На ручніку — тры розныя матывы: з чатырох квадратаў, перакрыжаваных ліній і ромба з адросткамі (іл. 580). Усё гэта — сімвалы продкаў, а што розныя, то, пэўна, таму, што адзін узор абазначае непасрэдна продкаў, тых, хто памёр, а другія — памінкі па продках, Дзяды.

Падобных ручнікоў павучальнага зместу ў маіх вандроўках траплялася шмат. Гэта нібы своеасаблівая эстафета ад старэйшых да малодшых, зашыфраваны наказ любіць бацькоў і зямлю, шанаваць продкаў, не цурацца працы. Гэта — зарука жыццёвасці народа і нацыі.

Н.Ярашэвіч з Ліды з гонарам хвалілася мне, што яна не толькі ткачыха і вышывальшчыца, але і паэтэса, яе вершы друкавалі ў газе-

**578.** Узоры Маці, вазона і Ярылы.







**579.** Сімвал ураджаю Спарыш і ўзор хлеба.





**580.** Сімвалы продкаў.







тах. Паэтычная душа майстрыхі выявілася і ў яе посцілцы пад назваю «Мары пра шчасце», у дэкоры якой мы налічылі 17 матываў (іл. 581—586). Назву і сэнс сямі з іх майстрыха ведала, пра астатнія ж нічога сказаць не магла.

«Узор песні, — тлумачыла яна, — вышыты як памяць пра тое, як мы з Ванем спявалі на супрадках. А Жыцень — сімвал ураджаю. Калі я выйшла замуж, мы з мужам марылі набыць зямліцы — добрай, уробленай, каб мець ураджай і заможна жыць. Вось што азначае гэты ўзор. Але жылі мы беднавата, вясною хлеба не хапала, дзеці вечна яго прасілі. Вось і з'явіўся на посцілцы ўзор хлеба. А гэты букет — жаночая доля. Тут мае мары пра любімага, сям'ю, багацце, шчасце. А каб збылося тое, што я задумала, вышыла ўзор варажбы. А што я задумала — сакрэт, вам не скажу. Як памяць пра маю любоў з Іванам — голуб і галубка. А што другія ўзоры абазначаюць, я і забылася, даўно гэта было. Я іх у суседак пераняла. На гэтай радзюжцы — усё маё жыццё».

А жыццё колішняй жанчыны-сялянкі перш за ўсё было прысвечана дзецям. Нарадзіць, выгадаваць і выхаваць дзяцей яна лічыла сваім святым абавязкам. Адсутнасць дзяцей была вялікім горам для сям'і, божаю караю. Звярталіся да шаптух і чараўнікоў, лячыліся агнём, вадою і замовамі, ткалі ці вышывалі адпаведныя ўзоры.

У майго стрыечнага брата Рыгора Кацара і яго жонкі Аксінні нарадзілася трое дзяцей, але ўсе неўзабаве памерлі. Бедныя бацькі і да шаптух хадзілі, і травамі лячыліся, і вадой, і замовамі, і дарункі ў царкву насілі, і свечкі перад абразом Маці Боскай ставілі. Вышыла Аксіння і ручнік. У верхнім радзе — 5 фігур Параскевы-Пятніцы, унізе — столькі ж сімвалаў дзіцяці. Гэта была своеасаблівая просьба да сваёй заступніцы дапамагчы ў такім горы. «Вышэйшае шчасце для мяне — сям'я, здаровыя дзеці. Так думаю не толькі я, — гаварыла Аксіння, — але і ўсе жанчыны Сенненшчыны, а можа, і ўсёй Беларусі».

На другім ручніку Аксіння вышыла дзве фігуркі — хлопчыка і дзяўчынкі. Гэта ўжо вядомыя нам Лель і Лёля. А для майстрыхі яны — сімвал дзіцяці, яе асноўнай радасці.

Звычайныя майстрыхі-сялянкі сімваламі маглі адлюстраваць ці выказаць усё, што іх хвалявала: любоў да сям'і і дзяцей, да радзімы і яе прыроды, да працы і творчасці. Складаныя законы прыроды яны раскрывалі проста і зразумела: ромбы з адросткамі — сімвал Зямлі і Сонца, устаўленыя адзін у адзін — пачатак вясны, наступленне цяпла. Яны стварылі ўласную астралогію, свой гараскоп, якім карысталіся для вызначэння лёсу, будучыні.

Цікава, што сярод шматлікіх узораў народнай мастацкай творчасці мне не трапілася ніводнага з адлюстраваннем злых сіл, нячысціка, д'ябла, чарцей. Аказваецца, гэта старажытная народная традыцыя, якую дакладна раскрыла старая настаўніца М.Кравец з Навагрудка: «Посцілкі, ручнікі, андаракі мы аздабляем арнаментам, каб было прыгожа, ды пекна, ды ляпей. Мы вышываем сонца, Каляды, Купалу таму, што яны прыносяць шчасце, дабро, каб была любоў, міласэрнасць. Усё, што кепска, што ад зла, ад нянавісці, ад нячысціка ды чарцей, у нашы ручнікі мы не пускаем. Д'ябал, чорт, ведзьма — гэта зло, звада, варожасць. Мы вышываем толькі добрае, карыснае для чалавека. А што на іконах разам са святымі паказваюцца чэрці і д'яблы, дык жа не ўсе папы ды ксяндзы — добрыя людзі. Ёсць сярод іх і кепскія. Вось таму і малююць яны на іконах святых і чарцей разам. Чэсны чалавек не будзе пакланяцца нячыстай сіле».

Прыкладна так адказвалі многія майстрыхі. Тканыя ды вышываныя вырабы — гэта і прыгажосць, і зварот да багоў. А навошта з дрэнным лезці да багоў? Толькі з дабром, любоўю, з адвечнымі клопатамі.

> У чым шчасце селяніна-хлебароба?
> Каб была свая зямелька ды каб яна добра радзіла.
> Каб была добрая сям'я, дружная, моцная, працавітая.
> Каб раслі здаровыя, паслухмяныя дзеці.
> Каб вадзіўся дастатак у хаце, каб на свята была і чарка, і скварка.

З гэтым і звярталіся да сваіх багоў-заступнікаў, але і самі шчыра, аддана працавалі. Праца заўсёды была асноваю жыцця селяніна. А

**581.** Узор песні.



**582.** Жыцень — сімвал ураджаю.



**583.** Узор хлеба.







плён гэтай працы быў асноваю для мастацкай творчасці.

На жаль, правадыры пралетарыяту палічылі гэтыя адвечныя рысы чалавека-працаўніка кансерватыўнымі і паспрабавалі сілаю загнаць яго ў прывідную «светлую будучыню». Так быў знішчаны сапраўдны селянін-гаспадар. Так яго адвучылі і ад мастацкай творчасці.

Але, на шчасце, захаваліся шматлікія ўзоры гэтай творчасці, і сёння яны для нас — невычэрпная крыніца народнай мудрасці і жыццёвага вопыту нашых продкаў. За стагоддзі развіцця традыцыйная арнаментыка сканцэнтравала багаты вопыт назірання людзей за прыродаю, жыццём, рознымі зразумелымі і незразумелымі для іх з'явамі. І гэты вопыт мы спрабуем сёння расшыфраваць, а па магчымасці і скарыстаць у нашым сённяшнім жыцці.

Тое-сёе ў гэтай справе расшыфроўкі шматвяковай жыццёвай мудрасці нашых продкаў мне, спадзяюся, удалося зрабіць гэтай кніжкаю.

Хацелася б, каб да гэтага далучылася маладое пакаленне даследчыкаў традыцыйнай мастацкай культуры Беларусі.



**584.** Узор жаночай долі.



**585.** Узор варажбы.



**586.** Памяць пра каханне.

Навукова-папулярнае выданне

М.С.Кацар

**Беларускі арнамент**

**Ткацтва. Вышыўка**

Мастацкі рэдактар *Н.В.Барай*

Малюнкі арнаментаў выканалі мастакі: *Н.В.Барай, І.В.Каранкевіч, Е.У.Круглой, А.П.Макаўцоў, А.А.Макаўцова, В.У.Мінько, Н.А.Свірыдовіч, В.І.Сенчанка, Л.А.Стрыжак, Г.С.Цацук, Т.В.Шабунька, А.І.Шальманава*

Аўтары фотаздымкаў: *М.С.Кацар, Я.М.Сахута, В.У.Харчанка*

Рэдактар *І.У.Саламевіч*

Тэхнічны рэдактар *М.І.Грыневіч*

Карэктары: *В.І.Багдановіч, А.М.Барысава, Л.С.Зіза, Н.Б.Кучмель, А.В.Семенчукова, Л.В.Суцягіна, Т.П.Шыпінская*

Кніга набрана і завярстана на рэдакцыйна-выдавецкім комплексе БелЭн (заг. *С.А.Макаёнак*)

Аператары НДС: *С.А.Быткоўская, І.У.Грыцэль, А.У.Гурыновіч, Н.М.Зубкевіч*

Вёрстка *І.М.Кузьмянковай*

Падпісана да друку 20.10.96. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Гарнітура Школьная. Папера афсетная. Ум.друк.арк 21,84. Ум. фарб.-адб. 87,86. Ул.выд.арк. 23,73. Тыраж 5000 экз. Заказ 24.

Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ №10. Рэспубліка Беларусь, 220072, Мінск, вул. Ф.Скарыны, 15а.

Надрукавана з арыгінал-макета на Мінскай фабрыцы каляровага друку. Рэспубліка Беларусь, 220115, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

